

На Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа дзяўчат з брыгад камуністычнай працы адразу пазнаеш не толькі па іх узорных паводзінах, але і па чырвоных касынках. На гэтым здымку група перадавых работніц пераплётнага цэха — брыгадзір Клара Трушкевіч, член брыгады Тацяна Коўзан і Святлана Лобач у заводскай бібліятэцы.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



5 (87)

Май.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

Вокладка мастака В. Ткачука.

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.265 экз. Цана 4 руб.
АТ 07269. Здадзена ў набор 1.IV.60. Падпісана да друку 3.V.60 г. Зак. 266.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна 79.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.



**Ніл ГІЛЕВІЧ**

## ГЭТА ЗРОБЯЦЬ ІЛЫЧОВЫ ЎНУКІ



Хутка, хутка ў далі запаветныя
Касманаўты смела паімчацца.
Да насельнікаў планет нязведаных
Землячане выйдуць павітацца

І — па звычаю зямному нашаму —
Пададуць на мір і дружбу рукі...
Гэта зробяць мужныя, бясстрашныя
Ільіча няўрымслівыя ўнукі.

## СВЯТА ЗЯМЛІ



Першы гром быў сёння ўночы.
Дождж да дня шумеў вясёла.
Ранак вытарашчыў вочы,
Як дзіця, глядзіць наўкола.

Што за ноч магло зрабіцца?
Перайначана ўсё чыста:
Поле дыша і дыміцца
Парай лёгкаю, празрыстай.

Набрынялыя пупышкі,
Што яшчэ драмалі ўчора,
Ахінаюць голле пышнай
Яркай зеленню убораў.

У праменнях сонца росы
Зіхацяць на лісцях клейкіх
І дрыжаць, як шчасця слёзы,
На густых дзявочых вейках.

Траўка вылезла ў канаўцы,
А ў бары — чуваць за мілі—
Музыканты-выканаўцы
Конкурс майскі аб'явілі.

О, зямля! Ты ўся ў абновах!
Ты ў мільён званочкаў звоніш,
Ты на ста пявучых мовах
Весняй радасцю гамоніш.

Ты смяешся так шчасліва,
Што адразу ясна стала,
Як ты доўга, як цярпліва
Свята гэтага чакала!

* * *



Я на поплаў выйшаў —
Клічу цябе ў сведкі:
— Паглядзі, як вышыў
Май даліну ў кветкі!
Як вясна бушуе
І як цешыць вока!
Толькі ты не чуеш,
Ты — яшчэ далёка.

Я спыніўся ў лесе
І заву:
— Паслухай,
Сосны з паднябесся
Больш не сыпяць скрухай!
Радасць, ласку ў шуме
Распазнаў я лёгка...
Толькі ты не чуеш,
Ты — яшчэ далёка.

Сеўшы ў човен хісткі,
Я ізноў гукаю:
— Дзе ты? Адзавіся!
Я даўно шукаю.
Здэцца, так крычу я,
Аж трымціць затока.
Толькі ты не чуеш,
Ты — яшчэ далёка.

Дзень у дзень я ў полі
Працаваў сяўбою.
І не сніў ніколі
Стрэцца тут з табою.
Не зрабіў і спробы
Клікнуць, як бывала.
Ты ж прыйшла і побач
Мне падмогай стала!

## ЛЕСАМ ПЕСНЯ ІШЛА...



Сосен зябкія плечы
Дымка ўжо спавіла.
Мне насустрач здалечы
Лесам песня ішла.

Вечаровай часінай
Зазвінела ў цішы
Нерастрачанай сілай
Чыстай юнай душы.

І было зразумела:
Тут не сорамна ёй
Нечаканай, нясмелай
Першай тайны сваёй.

Тут баяцца не трэба,
Што пачуюць цябе.
Тут ёй кожнае дрэва
Спагадае цяпер.

Вось яна ўжо і блізка,
Вось мінае мяне...
Ярка-белая блузка,
Дзве касы на спіне.

А ў руках — басаножкі:
Назнарок іх зняла,
Каб адчуць, як патрошкі
Сцежка стыць пачала.

Крочыць просекай-сценкай,
Як тунелем, адна.
Маладой-маладзенькай
Мне здалася яна.

І — на подступах ночы —
Добра бачна было,
Што спяшацца не хоча
Гэта песня ў сяло.



Мал. А. Кашкурэвіча.





Мікола ЛУПСЯКОЎ

# ЛЮДЗІ ПРАГНУЦЬ

Аповесць

Чырвонаармейцу Хвёдару Пятровічу Кручкову — удзельніку гераічнай абароны адной з заходніх крэпасцей.

## Няскораная крэпасць

Двое сутак крэпасць маўчала, але гітлераўцы не адважваліся зайсці ў яе. Амаль два месяцы днём і ноччу няспынна грукаталі тут стрэлы, ірваліся міны і снарады, цяжкія бомбы скаланалі зямлю. І раптам усё заціхла. Адно чадзіла крэпасць. Пыл памалу асядаў, агаляючы пакалечаныя і абпаленыя даўніх часоў сцены, груды цэглы і вылізаную агнём вакол зямлю. Мясцовы жыхар, пазіраючы на ўсё гэта, толькі ўспамінаў, што нядаўна тут цвіло, дыхала прыгожае, зайздроснае жыццё; што ля сцен крэпасці, пад зялёнымі каштанамі і ліпамі, зачыналася каханне; вечарамі сюды, як бы незнарок, прыходзілі дзяўчаты. Як бы незнарок таксама сядзелі пад дрэвамі на лавах вайскоўцы. Гучала гітара, рыпеў гармонік, чуўся дзявочы смех. Шумелі маладым лісцем дрэвы, пахлі ліпы. Ад гарнізоннага клуба з рэпрадуктара ліліся песні. І колькі пар можна было сустрэць тут нават пад раніцу!



Мясцовы жыхар, успамінаючы усё гэта, міжвольна пачынаў адчуваць, што гэта не крэпасць дыміць, а нешта жывое, дарагое і блізкае канае на яго вачах.

На трэція суткі заціхлі адзінокія стрэлы, і апоўдні аднекуль з руін крэпасці выпаўз увесь скрываўлены, абдзёрты чалавек. Дапоўз да рэчкі, прыпаў да вады і прагна пачаў піць. Напіўшыся, адпоўз і заціх. Калі нямецкі палкоўнік і група афіцэраў падбеглі да яго — чалавек ужо быў мёртвы. Тады ўсе зразумелі, што гэта быў бадай апошні абаронца крэпасці. Нямецкі палкоўнік, бледны, як смерць, падняў угору руку і аддаў загад займаць крэпасць. Салдаты ў мышыным адзенні атрад за атрадам пачалі знікаць у воблаках пылу і дыму, сярод руін зачасцілі аўтаматныя стрэлы, але крэпасць на іх ужо не адказвала.

Праз паўгадзіны з падвала крэпаснога збудавання, у двор, гітлераўцы пачалі выганяць параненых. Тыя выходзілі і жмурыліся ад дзённага святла. Ішлі, хістаючыся, павязкі на руках і на тварах былі скрываўлены, кроў цякла на зямлю. Наперадзе ўсіх ішоў высокі чалавек, на пятліцах камандзірскай гімнасцёркі ў яго было па чатыры «шпалы», а на рукаве гарэла пяціканцовая зорка палітработніка.

Нямецкі палкоўнік, убачыўшы яго, адразу ўздрыгнуў і пабляднеў яшчэ больш, быццам гэты палкавы камісар быў яму некалі знаёмы. У вачах гітлераўца ўспыхнулі радасна-жорсткія агеньчыкі. Усё больш прыглядаючыся да палкавога камісара, гітлеравец неспакойна пачаў перабіраць пальцамі, а выраз яго твару рабіўся ўсё больш грозным — пэўна ад нястачы нейкай патрэбнай у такую хвіліну сілы.

Забінтаваныя рукі палкавога камісара былі ў крыві. Бялёсы твар з запалымі шчокамі быў спакойны, а вочы быццам усё яшчэ не ўсведамлялі ўсяго таго, што адбывалася. Калі з падвала вывалаклі цяжка параненых, ён абвёў вачыма рэшткі свайго гарнізона і хрыпата сказаў:

— У вялікім няшчасці ніколі не забывайцеся на таварыша!..

Тыя, што чулі, успрынялі яго словы, як загад.

На твары гітлераўскага палкоўніка ўсё больш пачала прасвечвацца радасць, урачыстасць пераможцы. Усё прыкметней рабілася, што палкавы камісар яму знаёмы. Нарэшце, калі обер-лейтэнант войск СС, нізкі і тоўсты, як шуляк, далажыў, што параненыя ўсе вынесены з падвала, ён пракрычаў даўно падрыхтаваны загад:

— Параненых эвакуіраваць, а палкавога камісара — у штаб!

Адразу з'явіўся канвой.

Варожыя тэлефаністы цягнулі ўжо дрот да касцёла, які стаяў на цэнтральнай плошчы крэпасці. Палкавы камісар ішоў пахістваючыся. Праз бінт на руках усё больш прабівалася крыві. І гітлераўскі палкоўнік, і ён, і канвой хутка зніклі ў сутарэннях крэпасці. Гадзіны прыкладна праз дзве, калі ўсе параненыя былі ўжо вывезены з крэпасці, палкавога камісара зноў вывелі, яшчэ больш акрываўленага і збялелага.

Няшчадна пякло сонца, асядаў пыл, агаляючы далёкае неба ў смузе.

Палкавы камісар пазіраў у той бок, дзе налітае сінню неба абяцала блізкую навальніцу. Там, за гэтай сінню быў бясконцы свет і — ён адчуваў — заставалася часцінка яго змардаванай душы. Ён успомніў, што ў жыцці кахаў, любіў зямлю, спеў птушак, шум жыта і лесу. Цяпер, успомніўшы ўсё гэта і прыглядаючыся да смугі на небасхіле, ён успрыймаў смерць таксама па-свойму. Ён успрыймаў яе так, што ён не памірае, а ўсяго толькі растварaецца ў наваколлі, якое любіў, пакінуўшы свае адчуванні і разуменні тысячам людзей. Цяпер, пасля яго смерці, яго адчуванні і разуменні будуць жыць (а значыць, будзе жыць і ён) у гэтай смузе, у паласе жыта, у прыгажосці кветак і во ў гэтым адчуванні навальніцы, якая збіраецца і ўсё яшчэ не можа сабрацца, хоць даўно і просяць яе палі і людзі, і ў любові да родных мясцін і да свайго самага лепшага горада ў свеце, якая раптам і яшчэ з большай сілай успыхнула ў ім. Хіба ж не вечнае ўсё гэта? Ён жа ўсяго толькі адыдзе ў іншы матэрыяльны свет, дый — ці адыдзе яшчэ?

Яго паставілі ля крэпаснай сцяны, і тоўсты обер-лейтэнант узняў угору руку. Канвой па гэтай камандзе падняў вінтоўкі, кляцнуў затворамі.

Обер-лейтэнант нарыхтаваўся падаць наступную каманду. Канвой застыў у чаканні. Твар нямецкага палкоўніка перасмыкнуўся, вочы заззялі помслівай урачыстасцю. Запанаваў той момант, калі «плі» не было яшчэ сказана і ўказальны палец ворага лёг на курок. Чуць-чуць націснуць — і прагучыць стрэл.

Палкавы камісар вельмі добра адчуў гэта. Ён падцягнуўся і, пазіраючы гітлераўцу ў вочы, сказаў.

— Няхай жыве Камуністычная партыя!..

Суха трэснуў залп.

Палкавы камісар быў з беднай сям'і і паступіў на службу ў армію адразу пасля грамадзянскай вайны. Там ён уступіў у партыю, там выхоўваўся. Яму даводзілася ваяваць з басмачамі і іншымі бандамі. Палкавы камісар за доўгі час службы ў арміі, — у паходах, на прывалах, дома ў кабінеце, — як і ўсякі іншы чалавек, любіў памарыць. Мары былі ўсякія. Але найбольш думалася пра тое, што, калі давядзецца памерці пад кулямі, дык ён прыме смерць стоячы, пазіраючы ёй у вочы, з адкрытымі грудзямі. Тады ўся постаць яго выпроствалася, грудзі ўздымаліся і ён пачынаў пазіраць горда і строга. За доўгі час службы ў арміі ён і не падазраваў, наколькі ўвабраў усё гэта ў сябе.

Увесь зрашэчаны кулямі, увесь акрываўлены, мёртвы, ён не пахіснуўся, не ўпаў. Ён стаяў пры сцяне, шырока расставіўшы ногі, як жывы, кроў лілася з яго ран і бледнасць усё больш пакрывала яго шчокі. Гітлераўскі палкоўнік, тоўсты обер-лейтэнант і салдаты пашарэлі з твару, пазіраючы,



як мёртвы стаіць перад імі, не вельмі каб абапёршыся на крэпасную сцяну.

— Майн гот! — спалохана ўскрыкнуў набожны обер-лейтэнант, шпарка падбег і піхнуў палкавога камісара ў плячо. Палкавы камісар пахіснуўся і марудна лёг пад сцяною на правы бок.

Тоўсты обер-лейтэнант шпарка нагнуўся над ім, намагаючыся нешта зрабіць, але ў гэты час ля паўднёвых варот крэпасці, сярод руін, пылу і дыму, суха трэснуў адзінокі стрэл. Обер-лейтэнант шпарка перагнуўся, ляпнуў сябе правай рукой па паясніцы, паспрабаваў ухапіць ротам паветра і бразнуўся вобзем. Зноў і зноў зачасцілі адзінокія стрэлы, і некалькі гітлераўскіх салдат закурчыліся, размазваючы па зямлі кроў.

Зноў замітусіліся па руінах атрады. Зноў затрашчалі стрэлы і нават дзе-нідзе пачалі рвацца гранаты. Праз паўгадзіны гітлераўскаму палкоўніку далажылі, што ў крэпасці нікога не знайшлі, а калі толькі і быў яшчэ хто, дык ён — забіты.

Але ў той час, як усё гэта гаварылася, прыбег яфрэйтар і далажыў, што толькі што трапным стрэлам забіты салдат. Стралялі з аднаго боку — з боку паўднёвых варот, дзе найбольш руін і рознага жалезнага ламачча.

Наплываў вечар, грузавікі вывозілі з крэпасці трупы.

Ноччу пры святле ракет гітлераўцы яшчэ раз прачасалі ўчастак паўднёвых варот, але, як і ў першы раз, нікога не выявілі.

Назаўтра ўжо з раніцы зноў трэснуў стрэл і зноў гітлеравец упаў на крэпасной плошчы. Тады рашылі пайсці на хітрасць. Адшукалі старога паляка, які ўсё яшчэ верыў у пана Езуса, пачапілі на яго плячо аб'ёмістую торбу, нагрузілі яе хлебам, каўбасамі, флягамі з вадой. Паляк, з тонкімі вусамі, з бародкай клінам, у шэрым фрэнчы з самаробнага сукна, у галіфэ і бліскучых ботах, з канфедэраткай часоў Пілсудскага на галаве, угодліва пакланіўся палкоўніку. На плошчу ў сектар абстрэлу выпхнулі макет салдата. Адразу ж прагучаў стрэл. Макет упаў. Паляк скінуў канфедэратку і самаахвярна перахрысціўся на касцёл.

— Езус-Марыя!

— Ідзі, — загадаў палкоўнік. — У яго няма ні ежы, ні вады, — гэтаму ён паддасца. Скажы, што нямецкае камандаванне даруе яму жыццё, калі толькі ён складзе зброю і выйдзе да нас.

Паляк яшчэ раз перахрысціўся і таропка пайшоў наперад, часта азіраючыся і ўвесь час размахваючы канфедэраткай. Левай рукой ён выстаўляў наперад ад сябе торбу, з якой тырчэлі флягі, каўбасы і хлеб. Нямецкія салдаты нейкі час праводзілі яго, хаваючыся за руінамі, потым адсталі.

Паляк знік сярод грудаў цэглы і металічнага лому.

Ён вярнуўся няхутка — увесь збялелы і ўтрапёны. Яго вочы ліхаманкава блукалі, як у чалавека, які толькі што перажыў небяспеку, губы ўздрыгвалі.

— Ну, што? — строга запытаўся палкоўнік.

— Я сказаў усё, як пан загадаў, — адказаў паляк. — Ён адабраў торбу і толькі пасмяяўся. Сказаў, што выйдзе, калі вернецца Чырвоная Армія. Ён увесь скрываўлены і абдзёрты... з вінтоўкаю, пся маць! А адкуль выйшаў — не ведаю, не бачыў...

Аказваецца, крэпасць жыла, працягвала змагацца.



**Справы чырвонаармейца Чыжыка**

Гэты перадвыхадны дзень, як і ўсякі іншы, заканчваўся праверкай. На захадзе яшчэ барвавела неба, калі перад адным з будынкаў паўднёвых казармаў выстраіўся першы ўзвод трэцяй роты лейтэнанта Галавіка. Левафланговы ва ўзводзе быў чырвонаармеец Чыжык. Невысокага росту, але моцна складзены, кірпаносы, з удумлівымі вачыма, ён сёння быў асабліва сумны. Удзень камандзір узвода правяраў зброю і, знайшоўшы, што вінтоўка не зусім вычышчана, сурова сказаў:

— Пазбаўлю вас звальнення заўтра ў горад.

А на гэты заўтрашні дзень у Чыжыка была ўся надзея. Месяц назад у гарадскім парку ён пазнаёміўся з прыгожай, маладой дзяўчынай Зосяй і закахаўся. Здарылася гэта так. Чыжык ішоў алеяй парку і любаваўся прыгажосцю каштанаў, калі на завароце ля ларка з марожаным убачыў дзяўчыну з тугімі чорнымі косамі, акуратна ўкладзенымі на патыліцы. На дзяўчыне было белае шаўковае плацце, жоўтыя дарагія туфлі на высокіх абцасах, трошкі танкаваты стан быў перацягнуты бліскучым поясам. Чыжык як не самлеў, калі яна павярнулася да яго. Перахапіла нават дыханне, і ён міжвольна спыніўся: на яго пазіралі вясёлыя вочы. Твар у дзяўчыны быў круглы, ружовы, з ямачкамі на шчоках. Бровы, доўгія вейкі здаваліся падведзенымі чорнай фарбай.

Чыжык яшчэ раз перадыхнуў і парашыў паспрабаваць шчасця. Ён падправіў рэмень, кашлянуў і нясмела запытаўся:

— Вы, пэўна, на танцы спяшаецеся?

Дзяўчына засмяялася.

— На таньцы... — сказала яна з прыкметным польскім акцэнтам.

Чыжык разгубіўся і пачырванеў. Ён не ўмеў заляцацца да дзяўчат і таму сказаў першае, што трапілася на язык:

— А я во назад вяртаюся. У часць. Каб вы згадзіліся, то пайшлі б на танцы разам.

Дзяўчына зноў засмяялася. Чыжык пачакаў, пакуль яна возьме марожанае, і пайшоў поплеч. Яны апынуліся ў кіно, бо на танцы ісці дзяўчына раптам перадумала. Яе звалі Зося. У кіназале Чыжык усё даказваў Зосі, што яго бацька, які жыве ў Гомельскай вобласці, вельмі жадае, каб сын хутчэй жаніўся, бо сам ён стары. Зося рабіла выгляд, бы верыла ўсяму гэтаму. Ужо к канцу кінасеанса Чыжык успомніў пра вячэрнюю паверку. Урэшце махнуў рукой, бо бачыў перад сабою толькі Зосю, яе косы, прыгожы твар з ямачкамі. Калі выйшлі з кіно, Чыжык прапанаваў Зосі праводзіць яе дадому. Яны пайшлі па соннай вуліцы горада, абапал якой шумелі маладым лісцем дрэвы. Было цёпла, нават горача, ад агародаў пахла укропам, вішнёвай смалой, кветкамі чаромхі і бэзу. Заліваліся салаўі. Здавалася, што яны спяваюць нават на дахах дамоў і старых каталіцкіх капліцах. Крокі глухлі ў гэтым вясновым тлуме — у пахах і спевах, якія п'янілі абаіх. Зося пацішэла, да яе вярнулася сур'ёзнасць. Яна расказвала, што бацька яе пры панскай Польшчы быў чыноўнікам у нейкай багатай канторы, а цяпер яны жывуць з таго, што маюць агарод, пасеку, сваіх кароў. І гора ў яе было. Сама б вучыцца, ды не па гадах. А яна вельмі хацела б яшчэ падвучыцца. Дый наогул, з бацькам яны жывуць нядружна. Чыжык успомніў гутаркі палітрукоў і асабліва палкавога камісара, як трэба адносіцца да мясцовага насельніцтва і пачаў запэўніваць Зосю, што з бацькам не трэба асабліва сварыцца, бо ён стары і многага, вядома, не разумее. Тады яна паведаміла, што ў яе ўжо ёсць жаніх — сын багатага

шляхціца Бронік. Праўда, ён яшчэ не рабіў належнай прапановы, але ўсе ведаюць, што яна будзе яго жонкай, хоць гэты Бронік ёй і не асабліва падабаецца.

Чыжыку зрабілася трохі прыкра ад гэтых яе слоў, ён пачаў упрошваць яе не выходзіць пакуль што замуж.

Зосін двор быў у ціхай вулачцы, скрозь абнесены частаколавай агарожай, акружаны вялікім садам так, што за кронамі дрэў не відаць было нават даху пабудоў. Толькі недзе ў глыбіні саду бразгатаў ланцугом сабака.

Яны спыніліся тады ля невялікай брамкі, што вяла ў глыбіню двара, і пачалі дамаўляцца аб наступнай сустрэчы.

За месяц іхнія адносіны зайшлі так далёка, што калі б Зосін бацька дазнаўся пра іх, ён напэўна выгнаў бы дачку з дому. Чыжык скарыстоўваў для сустрэчы ўсякі зручны момант, а разы са два з'яўляўся ў ціхай вулачцы на ўскраіне горада нават сярод ночы. Якім чынам выходзіць ён з крэпасці цішком — не расказваў нават Зосі. Абыходзіўся жартамі.

У апошнія часы іхнія адносіны пагоршыліся. Да Зосінага бацькі раптам зачасціў Бронік. Чыжык аднойчы бачыў, як той прахаджваўся з Зосяй па вулачцы. Бронік быў у фрэнчы і галіфэ з самаробнага шэрага сукна, у канфедэратцы, высокі і шыракаплечы. Халявы наглянцаваных ботаў шчыльна атулялі яго тоўстыя ікры, а пахмуры твар з даўгім носам быў нейкі азызлы і, як здавалася Чыжыку, сіняваты. Між тым, хоць прапановы на жаніцьбу яшчэ не было, у доме ўжо рыхтавалі пасаг.

Вось пасля гэтага і перайначылася Зося: у яе кожны раз быў на языку Бронік. У апошні раз яна, як бы між іншым, сказала:

— Ты вельмі рэдка прыходзіш, Ваня. Вунь Бронік — ён наведваецца кожны дзень.

— Я ж у арміі, Зося, — цярпліва адказаў на гэта Чыжык. — У арміі свой закон, прыйсці не заўсёды можна.

Ён развітаўся, дамовіўшыся, што будзе ў гэтую нядзелю. Зося згадзілася прыйсці да крэпасці. Але ён бачыў, што яна не надае ўжо гэтай сустрэчы і яго словам амаль ніякага значэння. Не адчувалася ў голасе і ранейшай Зосінай радасці.

І нечакана новае няшчасце: заняты сваімі неспакойнымі думкамі, ён не пачысціў як след зброю і камандзір узвода загадаў не адпускаць у горад.

Аб усім гэтым думаў і ўспамінаў Чыжык, стоячы канцавым у шарэнзе.

Невясёлыя, прыкрыя думкі!

Захад між тым усё больш прыкметна змрачнеў. Прайшоўся, дыхнуў цёплы вецер на двары, патрывожыўшы лісце таполяў, электрычную лямпачку на слупе і занёсшы сюды гаркаваты пах палыну. Прагучала каманда падрыхтавацца да «адбою». Чыжык яшчэ патаптаўся ля ўваходных дзвярэй, дзе група чырвонаармейцаў дакурвала апошнія папяросы перад сном, і падаўся ў казарму.

Заснуць ён не мог. Зноў успомнілася апошняя размова з Зосяй і тоўсты Бронік. Рэўнасць не давала Чыжыку спакою. Яму здавалася, што цяпер, калі ён ляжыць у ложку, тоўсты Бронік абдымае яго Зосю. Не здарма ж ён завітвае туды кожны дзень. Не здарма ж Зося стала такой безуважлівай і халодна-кплівай. Нешта як бы змянілася ў ёй самой. Канешне ж, яны сустракаюцца цішком ад яго. Гэта — сёння. А што будзе заўтра, калі ён не прыйдзе на сустрэчу?

Чыжык неспакойна варочаўся, не забываючыся аднак прыкідвацца, што спіць. Нарэшце не вытрымаў. Падцягнуў да сябе нагавіцы, падапхнуў іх пад споднюю кашулю, уважліва паглядаючы ў бок дзвярэй, дзе цікалі ходзікі і быў днявальны. Падняўся, насунуў на ногі боты і падаўся да выхаду. Ходзікі паказвалі без чвэрткі дванаццаць. Днявальны драмаў, седзячы на стуле. Ён амаль безуважліва акінуў Чыжыка памутнелым позіркам і зноў схіліў галаву. Чыжык прагрукатаў ботамі па калідоры і завярнуў налева. У прыхожай ля сцяны стаяў вялікі аркуш фанеры, заўважаны ім яшчэ з вечара. Чыжык шпарка сунуў за яго свае нагавіцы, нахадзіў, разважаючы, ці не забраць нагавіцы назад, але ўрэшце махнуў рукой і зноў падаўся ў казарму.

Пацягнуліся напружаныя, даўно зведаныя хвіліны. Зося і Бронік так і стаялі ў вачах. Чыжык схаваў пад споднюю кашулю гімнасцёрку, накінуў на галаву шапку і зноў патупаў да выхаду. І зноў днявальны акінуў яго абыякавым позіркам.

Апынуўшыся ля аркуша фанеры, Чыжык пастаяў, прыслухаўся. У казарме панавала цішыня, яе зрэдку перарываў гучны ўсхрап. Нікому не было аніякай справы да Чыжыка.

Чыжык яшчэ счакаў, потым шпарка дастаў свае нагавіцы і нырнуў у двор. Тут быў цёмны куток між крэпасной сцяной і збудаваннямі, увесь зарослы палыном, конскім шчаўем і дзядоўнікам.

Пры самай сцяне чарнелася не вельмі каб шырокая яміна. Чыжык шпарка апрануў нагавіцы і гімнасцёрку, боты насунуў на ногі без ануч і, схапіўшы шапку, знік у яміне.

Стары склеп, выкладзены цэглай і змацаваны каменем, на першы погляд, не меў выхаду. Толькі з-за цікаўнасці Чыжык аднойчы забраўся сюды... Пахла сырасцю, патыхала холадам. Чыжык, сагнуўшыся, прабіраўся вузкім праходам, папярэдне адваліўшы важкі валун. Часта налятаў на груды бітага ламачча, паліў запалкі. Так ішоў ён даволі доўга, увесь час баючыся дакрануцца да мокрых, зацягнутых плесенню сцен. Наперад уяўляў сабе, як захопіць іх — Зосю і Броніка — і што з гэтага атрымаецца. Калі толькі Бронік пачне кідацца, дык Чыжык хутка прымусіць яго сціхнуць. А наогул лепш было б кпліва пажадаць ім шчасця і багатага жыцця і адразу пайсці — адзін раз і назаўсёды...

Чаго толькі не робіць першае каханне! Ён не ўпершыню прабіраецца во так гэтым старым, нікому невядомым ходам.

Нарэшце наперадзе вызначылася як бы прасветліна, дыхнула свежым паветрам. Выхад быў у старым запушчаным скверы. Ён заканчваўся напаўразбураным і напаўзаваленым цэглаю скляпеннем. Чыжык, апынуўшыся зноў на паверхні, абабіў з вопраткі гразь і пясок, азірнуўся. На тым баку вуліцы ля цэнтральных варот ён убачыў вартавых, асветленых зверху электрычнай лямпачкай. Выйшаў нарад пагранічнікаў, прыпыніўся і, пад каманду старшага, з вінтоўкамі на плячы пашыбаваў па берагу абводнага канала крэпасці, гулка адбіваючы крок.

Спеў салаўёў, аднастайнае крумканне жаб у блізкай крыніцы, пах чаромхі і бэзу расчулілі Чыжыка. Спакойная летняя ноч, цёплая і парная, туман над гэтым забытым усімі скверам, мігценне далёкіх зор, — усё гэта дыхала на яго ласкай і як бы нейкай спагадаю. Чыжык ішоў аднаму яму вядомай сцежкаю, узбоч агародаў і садоў. Ля крыніцы, цераз якую была пракладзена кладка, прыпыніўся. Лёг на зямлю, пачаў піць ваду. Потым трапіў у вуліцу і шпарка перабег яе, радуючыся, што не натрапіў на патрулёў.

Вуліца была на самай ускраіне горада. Усё тут больш паходзіла на вёску, чымся на горад. Такія ж драўляныя дамы, хлявы, у якіх жыхары трымалі кароў і коней, гэтак жа па раніцах будзілі тут начную цішу санлівыя пеўні. Тратуараў у вулачцы не было, і Чыжык нячутна пакро-

чыў па пясчанай мяккай дарожцы. За час хадзьбы ён добра ўзмакрэў і раз-поразу выціраў разгарачаны твар насоўкаю, якую не так даўно падаравала яму Зося.

Нарэшце ён дайшоў да двара, спыніўся ля знаёмай брамкі. Недзе наперадзе за густым вішаннікам і слівавымі дрэвамі быў Зосін дом. Чыжык прыслухаўся: галасоў у двары не было чутно. Тады, адышоўшыся, ён адшукаў у частаколе знаёмую шчыліну і праціснуўся праз яе. Наперадзе, сярод кустоў парэчак, забразгатаў ланцугом сабака. Чыжык паціху паклікаў яго. Сабака вынырнуў з-за дрэва. Чыжык кінуў яму кавалак хлеба і пашыбаваў да дому, што віднеўся наперадзе. Дом быў высокі, з дзвюма зашклёнымі верандамі, якія выходзілі ў двор. Пры верандах, чапляючыся за папярэчыны, густа раслі вінаградныя лозы. У сад выходзілі чатыры высокія акны. Чыжык падышоў пад апошняе, перадыхнуў. Яму ўявілася, як там, за гэтым акном, ва ўтульным асобным пакойчыку, устаўленым фікусамі і пальмамі, спіць цяпер яго Зося. Пракляты бацька! Каб не ён, Чыжык зараз пайшоў бы да яе проста ў дом. А мо' паспрабаваць? А што, калі там Бронік? Мускулы напружваліся пад гімнасцёркай.

Чыжык пастаяў, раздумваючы, і ўрэшце пачаў стукаць пальцамі ў шыбіну акна. За акном затупацелі, і зараз жа знаёмы Зосін тварык прынік да шыбы. Правай рукой яна прытрымлівала кашулю, што атуляла грудзі. Зося зжахнулася ад нечаканасці і ў наступны ж момант знікла ў цемені. Чыжык яшчэ больш насцярожыўся. Ляснулі дзверы, пратупацелі ногі, абутыя ў тапачкі. Але тых, чужых крокаў не чутно было. Чыжык уздыхнуў з палёгкаю. Дзяўчына спынілася па той бок калiткі, пазіраючы на яго.

— Зноў? — толькі і знайшлася што прашаптаць яна. — Зноў збег? Ой, глядзі, Ваня, як бы не ўляцела табе ад начальства! — а рукі ўжо адкідвалі зашчапку, як заўсёды, паспешліва. Потым Чыжык сядзеў з ёю на знаёмай лавачцы сярод бэзавых кустоў, пасля піў квас, якім яна частавала яго, прынёсшы са склепа. Ён піў, а яна дакарала:

— Дурны ты! Ну, навошта мне той Бронік! Гэта ж я хітравала, бо баялася — забудзешся яшчэ на мяне, — і гладзіла яго твар, валасы невялікай сваёй далоняй.

Салаўі не сціхалі. У блізкіх палях перагукваліся ў жыце перапёлкі, а недзе далей на пожні крычалі дзеркачы.

— Я сама заўтра да крэпасці падыйду, — шаптала Зося. — Роўна ў дванаццаць. І ты падыйдзі тады да варот. А служыць трэба сумленна, я табе не здраджу. Чуеш?

Цяпер Чыжыку сорамна было свае рэўнасці, і тыя думкі, што не давалі спакою ў казарме, здаваліся смешнымі. А яна не сунімалася:

— Ці ж добра так? Ці ж доўга так да знявагі? Хіба лёгка мне будзе, бо гэта ж з-за мяне, я вінаватая...

Няшчадна пяклі камары ў рукі, у твар.

Заспявалі другія пеўні.

— Чвэртка трэцяй гадзіны, — сказаў узнепакоена Чыжык і падняўся. — Больш ніколі не буду так рабіць, але і ты не крыўдзі мяне, гавары толькі праўду. Ведаеш, як цяжка... А заўтра ў дванаццаць я буду ля цэнтральных варот. Так што прыходзь.

Яна правяла яго да частакола, і яны развіталіся, яшчэ раз дамовіўшыся напаследак — пабачыцца ўдзень.

Займалася раніца. На ўсходзе ўсё больш бялела неба, спявалі пеўні, хацелася спаць. Чыжык прабіраўся праз агароды, увесь час думаючы пра Зосю. Скончыцца тэрмін службы — і яны пажэняцца. Адно дрэнна — Зося каталічка і не хоча выходзіць замуж без касцёла, ён жа не прызнае ні бога, ні чорта. Але і гэта як-небудзь уладзіцца. Затое як прывязе ён яе ў сваю вёску — усе здзівяцца: самым лепшым вясковым прыгажуням далёка да Зосі... Ну і Чыжык, скажуць...

Аднак чым бліжэй падыходзіў ён да крэпасці, тым большы непакой авалодваў ім. Турбаваў днявальны. А што, як угледзеў? Як тады быць?

Наперадзе над травой узвышалася знаёмае скляпенне. Займалася зарава, птушкі галасней перагукваліся ў кустах. На тым баку абводнага канала ля крэпасных варот гэтак жа гарэла электрычная лямпачка, але вартавых не было. У небе спакойна прагулі самалёты, яшчэ больш наганяючы дрымоту і сон. Чыжык узняў галаву і здзівіўся: самалётаў было шмат. Раптам над самай крэпасцю ляснула, загарэлася і павісла ракета. Нешта тонка і напорыста заскавытала ў паветры. Усё мацней і мацней, наганяючы тугу. Чыжык успомніў нейкі кінафільм, у якім ён чуў свіст бомбаў, і міжвольна ўпаў на зямлю. Яшчэ праз момант бліснуў агонь, і паветра скалануў нязвыкла-страшэнны выбух. Вакол сыпалася зямля, лісці з дрэў, ад старога скляпення пырснулі ва ўсе бакі кавалкі цэглы.

Калі, аглушаны, абдзёрты, ён падхапіўся, самалётаў ужо не было. На месцы цэнтральных варот у пыле і дыме значылася вялізная шчыліна, над горадам дагаралі ракеты, а ў крэпасці ўсё грукатала і гуло — там ірваліся снарады.

Чыжык раптам зразумеў усё. Стала жудасна. Не помнячы сябе, размазваючы гразь і кроў на твары, ён што сілы кінуўся бегчы да крэпасці.

## Жыццё пад руінамі

Крэпасных варот быццам і зусім не існавала. Будка вартавых была разбіта. Атрутны дым уздымаўся ад абпаленай цэглы. Чыжык перабраўся цераз гурбу руін і ўбачыў, што і ў касцёл, у якім быў у апошні час гарнізонны клуб, таксама папалі бомбы. Лопаліся шыбы вокнаў, і з іх вырываліся клубы дыму і языкі полымя. На плошчы раз-поразу ўзрываліся снарады, уздымаючы чорныя слупы зямлі: з таго боку Буга, дзе была граніца, увесь час біла варожая артылерыя. Тут, ля заходніх варот, Чыжык убачыў першыя акрываўленыя трупы чырвонаармейцаў. У злосці і роспачы ён кінуўся да сваёй казармы, але яе будынак быў паўразбураны, некалькі параненых чырвонаармейцаў выглядвалі з-пад развалін. Чыжык таропка пачаў ім памагаць. Раскідаўшы цэглу і вывернуўшы нейкую бэльку, ён убачыў скрываўленую руку чалавека, пачаў раскідваць цэглу далей і асцярожна вывалак з-пад руін чырвонаармейца з пасінелым тварам, з супрацьгазам цераз плячо. Чыжык адразу пазнаў яго. Гэта быў той самы днявальны, які мінулай ноччу акінуў яго безуважлівым, памутнелым позіркам і нават як быццам бы ўсміхнуўся. Чыжык расшпіліў яму гімнасцёрку, прыпаў вухам да грудзей, паслухаў. Днявальны быў мёртвы. На нейкі момант Чыжык адчуў сябе так, быццам ён сам вінаваты ў гэтай смерці.

Але многа думаць не было калі. Вайна не прывучае да доўгіх разваг, і Чыжык адчуў гэта адразу. У небе зноў паплылі дзесяткі бамбардыроўшчыкаў, і крэпасць ахуталася агнём і дымам. Чыжык прыціснуў-

ся да зямлі, поплеч з мёртвым днявальным. Налёт быў, здавалася, бясконцы. Асколкі, цэгла і камень — усё свістала і стукалася зусім побач. Калі ж бамбардыроўка крыху заціхла і ён падняў галаву, дык убачыў, што атрады чырвонаармейцаў з крыкам бягуць да заходніх варот. Чыжык адшукаў сярод руін вінтоўку і таксама пабег разам з дзесяткам байцоў свайго ўзвода.

З-за ракі наступалі гітлераўцы. Танк з чорнымі крыжамі на баках уварваўся на мост і памчаўся ў гэты бок. На дарозе стаяў станковы кулямёт. Чыжык бачыў, як завіхаецца кулямётчык, паварочваючы лапаткамі. Кулямёт уздрыгваў, выпускаючы насустрач танку струмень агню. Танк раптам наляцеў на кулямёт, падабраў яго пад сябе, разам з кулямётчыкам...

Беглі салдаты ў чужым, мышастым адзенні. Іх было многа. Яны перабягалі па мосце, перабіраліся па вадзе. Амаль ва ўсіх рукавы былі закасаныя да локцяў. Няшчадна пякло сонца. У спякотным, як бы расплаўленым, паветры глухлі бясконцыя п'яныя крыкі. Чыжык збіў на бок супрацьгазавую сумку, паўнюткую патронаў, якую падхапіў, калі бег сюды, і пачаў страляць. Пярэднія гітлераўцы заляглі, але не надоўга. З-за рэчкі вырываліся ўсё новыя і новыя атрады фашыстаў. Немцы зноў пабеглі, але цяпер разам з вінтовачнымі залпамі іх дружна сустрэў агонь станковых і ручных кулямётаў.

Горы варожых трупаў валяліся к вечару перад крэпасцю.

Вечарам непадалёку ад крэпасці хадзіў бранявік з рэпрадуктарам, і дыктар на ламанай рускай мове прапаноўваў здацца, абяцаючы жыццё. Крэпасць адказала на гэта новым залпам — па браневіку.

Усю наступную ноч Чыжык прасядзеў на сцяне, ля паўднёвых варот, а раніцаю, як толькі пачаўся новы налёт авіяцыі, раптам успомніў яміну ля крэпасной сцяны, падземны ход і нырнуў туды. Падземнага ходу больш не існавала. Крэпасная сцяна асела ў тым месцы ад бамбёжак, назаўсёды закрыўшы выхад у забыты ўсімі сквер. Чыжык не вельмі н'ат і сумаваў аб гэтым. Разам з сабою ён прывалок у яміну нямецкі карабін і патроны, знойдзеныя сярод забітых гітлераўцаў, Падумаў і схаваў гэта ў дальнім кутку пад цэглаю. К канцу дня ў сховішчы былі нямецкія галеты, дзве бляшанкі кансерваў і тэрмас са шнапсам. Для чаго ўсё гэта рабіў, ён бадай пакуль што і сам не ведаў, але ў наступную ноч запхнуў туды яшчэ і тры гранаты з драўлянымі рукаяткамі, хоць у боепрыпасах асаблівай нястачы яшчэ і не было.

Далей усё адбывалася, як у сне. Чыжык разам з усімі поўзаў да ракі па ваду для раненых, рабіў перавязкі, пасля таго, як шпіталь разбамбілі немцы, збіраў патроны сярод забітых, двойчы ўдзельнічаў у штурме касцёла, калі немцы былі занялі яго. Звыкшыся з думкаю, што яму ўжо не выйсці адсюль жывым, ён пакінуў звяртаць увагу на бомбы, снарады, а тым больш на кулі.

Ён не памятаў ужо, калі гэта, узняўшы белы сцяг, жанчыны выходзілі з крэпасці. Такое стала сівой даўнасцю. Ён не мог таксама сказаць, колькі дзён прайшло з пачатку вайны. А адтуль, з-за Буга, кожны дзень крычалі праз рэпрадуктар фашысты, што іхнія войскі рухаюцца наперад, што яны перайшлі Дняпро, што ўзяты Смаленск.

Нарэшце, з браневіка пачалі крычаць, што Чырвоная Армія разгромлена, рэшткі яе здаюцца ў палон і гітлераўцы знаходзяцца на подступах да Масквы.

Чыжык, як і ўсе, мане гэтай не верыў. Як і ўсе, ён вырашыў, што ўсё роўна будзе змагацца і дасца ў рукі ворагу толькі мёртвы.

Было пад вечар. Абкружаная грудамі варожых трупаў, уся ў руінах,



у абпалінах, у крыві ляжала перад ворагам крэпасць — невялікі астравок савецкай зямлі. Быў момант кароткага зацішша, калі абодва бакі натужваліся да яшчэ адной рашучай бойкі. І раптам тонка і настойліва ў небе над крэпасцю заспяваў матор.

Чыжык узняў угору скрываўленую галаву і як не ўскрыкнуў ад радасці. Над крэпасцю ляцеў самалёт з чырвонымі зоркамі на крылах. Чыжык пачапіў на штык вінтоўкі сваю прабітую кулямі, пакамечаную і абсмаленую пехацінскую шапку і пачаў махаць ёю ў паветры. Ён бачыў, што і з амбразур крэпасці, з руін узняліся дзесяткі вінтовак з пачэпленымі на штыкі шапкамі. Сотні галасоў крычалі «ўра». Некаторыя чырвонаармейцы нават падхапіліся, не звяртаючы ўвагі на варожыя кулі...

Гэта была найбольш радасная падзея ў жыцці абаронцаў, у жыцці Чыжыка...

Жыла, змагалася Чырвоная Армія!

### Апошнія дні

Не ставала вады, не было ежы. Усё гэта здабывалася ў забітых гітлераўцаў. Кожную ноч пры святле ракет групы чырвонаармейцаў паўзлі ў бок ворага па тэрмасы і заплечныя мяшкі. Амаль усё, што прыносілася, аддавалася параненым. Чыжык таксама рабіў разам з усімі начныя вылазкі, зусім забыўшыся на тую яміну і свой склад. Таялі рады абаронцаў крэпасці. Бязлітасна набліжалася тая хвіліна, калі вораг непазбежна павінен завалодаць усім тым, што адстойвалі абаронцы. Ужо заняты былі заходнія вароты, касцёл, гітлераўцы поўзалі між руін, кідалі гранаты.

... Чыжык рос цікаўным хлопчыкам. У пахіленай хаціне на беразе Дняпра на Гомельшчыне ён, малы, неаднойчы прыставаў да дарослых з пытаннем — адкуль ён з'явіўся на белы свет. Дарослыя гладзілі яго па галаве, хітра пасмейваліся, а маці заўсёды запэўнівала, што яго знайшлі ў агародзе, куды занеслі яго тыя самыя буслы, якія кожнае лета гняздзяцца на іхняй ліпе. Такі ён быў маленькі і нікчэмны. Пазней, калі ён паспеў некалькі разоў ледзь не захлынуцца, купаючыся ў Дняпры, маці ўсім казала, што ён у шчаслівай сарочцы нарадзіўся. І сапраўды, у жыцці яму заўсёды шанцавала.

Тысячы людзей загінулі на вачах Чыжыка, а яго смерць мінала. Шапка, гімнасцёрка, нагавіцы, боты, з якіх цяпер вытыркаліся голыя пальцы — усё было пашарпана кулямі і асколкамі. Усё цела яго было ў крыві, на грудзях і спіне надакучліва балелі крывавыя рубцы, распух твар, увесь у сіняках і кровападцёках, але ж Чыжык, як і тысячы іншых у падобных выпадках, на немалое здзіўленне самому сабе, хадзіў, страляў, памагаў іншым.

Лета пайшло на схіл. Раніца ўжо была халаднаватая. Па руінах амаль у адкрытую хадзілі немцы. Абаронцы не стралялі па іх. У памяшканні шпіталя раздаваліся апошнія патроны — па два на чалавека. Нарэшце надышла тая хвіліна, калі спатрэбіўся Чыжыкаў склад.

Чыжык выскачыў праз акно шпіталя і, прыгнуўшыся, шпарка пабег між руін. Адразу сотні куль засвісталі над ім. Чыжык не звяртаў ужо на гэта амаль ніякай увагі, не хваляваўся. Але прага помсты заставалася, і ён спяшаўся. Уяўляў, як во зараз высыпле перад паранеными не адну сотню патронаў і некалькі нямецкіх гранат — [illegible] багацце.

У паветры зноў загулі самалёты. Чыжык ускочыў у знаёмую яміну, разгроб цэглу, начапіў на сябе супрацьгазавую сумку з патронамі, схапіў гранаты — вінтоўкі не браў: іх і без таго хапала — і спыніўся, цяжка дыхаючы і прыслухоўваючыся. Зусім блізка пачалі рвацца бомбы. Ён прысеў. Раптам яго моцна ўдарыла ў грудзі, неба закрылася, пасыпалася цэгла з пяском. Чыжык ляжаў на спіне, яшчэ не разумеючы, што здарылася. У яміне цяпер было цёмна, не ставала паветра. Маланкай пранеслася здагадка: яго завалiла. Відаць, ад узрываў абвалілася крэпасная сцяна, накрыўшы яміну.

Перад вачыма Чыжыка праплылі шпітальнае сутарэнне, палкавы камісар і параненыя, у якіх амаль не было патронаў.

— Браткі, таварышы! — закрычаў Чыжык. — Прыдушыла! Ратуйце!

Нервы, нарэшце, не вытрымалі ў яго. Хваляванні, напружанасць усіх гэтых дзён раптам далі сябе адчуць, і Чыжык заплакаў. Рукі і губы яго ўздрыгвалі, галава трэслася.

— Прыдушыла... — і ён бездапаможна абмацваў супрацьгазавыя сумкі, напакаваныя патронамі.

Успомніўшы, што яшчэ на трэці дзень асады ён з некалькімі байцамі беспаспяхова спрабаваў разабраць падземны ўваход, Чыжык скінуў з сябе груз і таропка пачаў разбіраць завал над сабой, скідваючы цэглу сабе пад ногі. Сілы ў яго зусім не было, але ён ведаў, што цяпер ужо яму ніхто не паможа, і настойліва выцягваў цагліну за цаглінай. Аднекуль у гэтую яміну ўсё ж паступала паветра, марудна і неахвотна, і Чыжык дыхаў. Ён не ведаў, колькі часу во так працаваў, але гэта было пэўна вельмі доўга, бо Чыжык некалькі разоў падмацоўваўся трафейнымі галетамі, шнапсам і некалькі разоў засынаў у вузкай нары, якую капаў. Увесь час у галаве стаяла неспакойная думка аб тым, што там, у раненых, засталося ўсяго па два патроны.

Ён не ведаў, што працуе так ужо трэція суткі. Зусім нечакана свежае паветра балюча ўдарыла яго па скронях. Дзённае святло як не асляпіла. Дыхнула згарэлай травой, пустэчай, пахам трупаў. Сцiснуўшы зубы, Чыжык застагнаў і страціў прытомнасць.

Не надоўга. Апрытомнеў адразу. Быў дзень. Усюды ляжалі руіны, цягнуўся дым. Чыжык зірнуў у той бок, дзе быў шпіталь. І супраць крэпаснай сцяны Чыжык убачыў эсэсаўцаў, што стаялі ў рад з нацэленымі вінтоўкамі, і двух афіцэраў — адзін тоўсты і нізкі стаяў з узнятай рукою. Чыжык убачыў і палкавога камісара і шпарка папоўз назад у яміну. Тут ён ухапіў вінтоўку, дрыжачымі рукамі набіў яе патронамі, насыпаў патронаў у кішэню і зноў папоўз у нару. Залпа ён не пачуў. Убачыў толькі, што тоўсты фашыст нагнуўся над палкавым камісарам, які ляжаў пры сцяне. Чыжык прыцэліўся, але рукі дрыжалі і ўвесь час неспакойна скакала мушка. Тады ён перадыхнуў, паклаў вінтоўку на цагліну і стрэліў. Тоўсты эсэсавец упаў, і Чыжык пачаў страляць па іншых. Калі ўсе разбегліся, Чыжык шпарка заваліў уваход цэглаю, запоўз у яміну і нарыхтаваў гранаты. Наверсе трашчалі аўтаматы, ірваліся гранаты. Потым усё сціхла. Выйсця цяпер ужо не было: наперадзе быў вораг, тут, у яміне — смерць. Заставалася сумка з патронамі, якія ён рашыў скарыстаць. К таму часу, быць можа, падыдуць і свае. Рана ці позна, а такое будзе — ён верыў у гэта.

Пацягнуліся доўгія дні. І справа і злева ад Чыжыкавай нары ляжалі груды руін, і ён мог страляць толькі ў пэўным сектары. Разам з тым ён цяпер учапіўся за той завал у падземным ходзе. У дні абароны гэты ход усё роўна нічога не значыў, бо кожны, хто выбраўся б з яго, трапіў бы ў рукі ворага. Цяпер войск вакол крэпасці павінна было паменшаць.



Чыжык цягаў цагліну за цаглінай, выграбаў рукамі зямлю, увесь час задыхаючыся ад нястачы паветра. Па начах ён нават спрабаваў пакідаць незакрытай нару, якую прарабіў уверсе. Урэшце пачала мутнець памяць. Дні блыталіся з начамі, яму здавалася, што нехта ў цывільным быў сярод гэтых руін і ён нават выйшаў да яго. Гэты цывільны аддаў яму торбу з харчамі, угаворваючы здацца. Цяпер Чыжык даядаў рэштки хлеба. Выйшлі патроны. Ён расстраляў іх усе. Трымаў пад рукою толькі гранаты. Распухлы, увесь аброслы, ён усё працаваў ля заваленага ходу. Потым зацiснуўся ў гэтым ходзе, павіс на нейкіх выступах і страціў прытомнасць.

Свядомасць вярталася да яго марудна. Ён неяк здолеў разабрацца, дзе ён і што з ім. Пачаў працiскацца далей і раптам упаў у тым самым ходзе, да якога так настырна прабіваўся. Сырое, свежае паветра дыхнула на яго.

## Ціхая вулачка

Працiснуўшыся паўз цэглу і абадраўшыся да крыві, Чыжык застагнаў ад болю і зноў у беспрытомнасці ўпаў. Потым яму пачало здавацца, што нехта нешта шэпча яму на вуха. Чыжык напружыў памяць і зразумеў, што гэта шэпча палкавы камісар. Чыжык ніколі амаль не сустракаўся з ім во так блізка і нават і не марыў аб такіх во адносінах. Палкавы камісар шаптаў яму нешта надзвычай даверальнае. І Чыжык адчуваў, што ён нешта недарабіў. Ён зноў апрытомнеў і зноў папоўз, зусім не дзівячыся той акалічнасці, што больш не натыкаецца ні на цэглу, ні на завалы. Ноччу Чыжык выбраўся праз знаёмы, напалову засыпаны выхад. Выхад гэты быў усяго на якую паўсотню крокаў ад крэпаснай сцяны, у старым скверы. Але цяпер сквера не існавала. Уся зямля была ўзрыта бомбамі і снарадамі.

Адсюль гітлераўцы найбольш штурмавалі крэпасць, і цяпер уся гэтая мясціна была вытаптана, усеяна пустымі гільзамі, кансервавымі бляшанкамі, ацынкаванымі скрынкамі ад боепрыпасаў. Усюды віднеліся крывавыя плямы, шматкі вопраткі, нават гімнасцёркі. Гэта было месца штодзённых рукапашных схватак.

З таго боку былі заходнія вароты і цякла рака. Чыжык ляжаў, прыцiснуўшыся да зямлі і яшчэ не верачы, што ён жывы. На яго ніхто не накідваўся, і ніхто ў яго не страляў. Ворагаў, якіх ён бачыў і дзень і ноч, тут не было. Чыжык не мог ведаць, што атрады, якія штурмавалі крэпасць, даўно пакаціліся далей на ўсход, пакінуўшы ў крэпасці толькі невялікі гарнізон. У горадзе гулі маторы, чуліся стрэлы. У бездань неба ляцелі рознакаляровыя трасіры.



Махнуўшы на ўсё рукою, Чыжык папоўз між варонак далей ад крэпасці, пакуль не наткнуўся на цудам уцалелы куст. Тут ён пачаў прагна злізваць з травы і з кустоў буйную расу. Падумалася, што Зосі і саду з яго вішнёвым пахам даўно няма. Таксама не паверылася, каб у горадзе быў

хто-небудзь жывы — яны зніклі ў вечнасці, як зніклі многія сотні жывых і знаёмых Чыжыку людзей. Чыжык уступаў у новую паласу разумення, якая яшчэ нядаўна здалася б яму немагчымай і неверагоднай. Цяпер гэта была рэчаіснасць. Ён сустрэў яе тым, што падняўся на ўвесь рост і марудна пайшоў знаёмай сцежкай, якая надзейна хавала яго не так даўно ад каменданцкіх патрулёў. За агародамі, у спадзе пад вербамі, ён напаткаў знаёмы ручай, упаў і пачаў прагна піць. Піў, сцiснуўшы зубы, а блізка ў траве ў гэты час квакала жаба. Чыжык зазначыў сам сабе, што ўжо не заходзяцца ў спевах, як нядаўна, салаўі. У ручаі міргалі зоры, і зморанаму чырвонаармейцу не хацелася думаць. Падняўшыся, ён зноў пайшоў, цяпер часта спыняючыся і ўслухоўваючыся. У той жа час ён вельмі баяўся зваліцца з ног. Невыносна балела ў скронях.

У горадзе стралялі, і, пакуль цёмна, трэба было хутчэй з яго выходзіць. Але ён адчуваў, што не зможа пайсці так.

Мінуўшы бэзавы кустарнік і вішнёвую алею, Чыжык нечакана для самога сябе апынуўся перад густым садам, які па-ранейшаму пацiху драмаў у летнім змроку. У святле зорак блішчэў шклом знаёмы дом. Чыжык вельмі здзівіўся, што ёсць яшчэ во такія сады і дамы, значыць, і людзі. Нічога тут не перамянілася.

Чыжык нырнуў у шчыліну паркана і спыніўся. Нечага не ставала. Ён напружыў памяць і зразумеў: не ставала звону сабачага ланцуга. Сабакі не было. Ланцуг вісеў на дроце. Чыжык дайшоў да знаёмага акна і адразу ж пацiху стукнуў у шыбу. Ён не хаваўся, як некалі, а стаяў перад акном у рост. Дзіўна. Мо' трэба было схавацца, але ён стаяў, як укапаны. Чуў за акном крокі. Бялявы тварык раптам прынік да акна. Чыжык адчуў, што гэта не сон. Затым ён пачуў спалоханае: «О-о!» — і тварык знік. Мільганула дзявочая кашуля, голыя плечы. Потым па верандзе пратупацелі крокі. Нешта роднае і дарагое стаяла за каліткаю і задыхалася, прыглядаючыся да яго. Зноў ён пачуў цяжкое, як стогн, «О!», потым ціхі шэпт «Ваня!», якія чамусьці прывёў яго ў жудасць. Зося, як гарачы вецер, кінулася да яго.

— А божа ж мой... Ты? Жывы? — і, не верачы, яна абмацвала і цалавала яго, а Чыжык хістаўся.

Яе рукі адразу сталі ліпкія. Ён быў увесь у крыві. Адзенне звісала з яго, відаць былі голыя рубцаватыя лапаткі.

Яна амаль панесла яго на знаёмую лаўку. Блізка ў цэнтры час ад часу стралялі, і яе бровы ўздрыгвалі. Чыжык жа не звяртаў на стрэлы ніякай увагі.

— Не цалуй, — сказаў ён чужым голасам, — баляць губы. Што новага?

— Усё новае, — сказала яна.

— А Бронік што?

— Я іх баюся. О, як баюся! І яго, і бацькі. Бацька знюхаўся з Бронікам — жах! Мне ж цябе і схаваць нельга! Адсюль уцякаць хутчэй трэба, пакуль не развіднела. Няўжо ты пойдзеш ад мяне? Няўжо болей я цябе не ўбачу? Як жа я буду жыць без цябе? Няўжо яны думаюць, што мы павінны расстацца?

Ён маўчаў. Новае пачуццё загаварыла ў ім.

— У мяне цяпер слабая памяць, — сказаў ён. — Я даўно еў і піў. Вось ніяк не магу прыпомніць. Мне ўсё здаецца, што твой бацька быў у крэпасці. Чакай, чакай. Няўжо ўсё гэта снілася? Яго як быццам бы прысылалі немцы, і ён упрошваў мяне здацца. А я адабраў у яго торбу з хлебам і каўбасамі і паслаў к чорту. Стой, Зося, дзе мы? Гэта ты, га?..



На ўсю гэтую размову было патрачана вельмі мала часу. Яшчэ праз момант Чыжык прагна піў малако. І само сабой напрасілася рашэнне, разбітыя вусны самі сказалі:

— Табе тут не месца.

Яна адразу кіўнула галавою. У апошні час яна гэтак жа думала. Давала сама сабе слова ўцячы. Цяпер прыглядалася да яго ран. Дрыжала. Раптам спахапілася, пабегла. Прынесла вопратку і шпарка пачала пераапранаць Чыжыка ў цывільнае. Прыгадалася, як прыбягаў ён да яе з крэпасці і толькі міжвольны гонар, радасць і захапленне ім адчувала яна ў гэты час.

Яны хутка апынуліся за горадам. Вузкай сцяжынкай пайшлі па нізіне на ўсход. Моцна пахла аерам. Цёплы туман, як сырадой, плаваў усюды. У тумане крычалі дзеркачы і іншыя начныя птушкі. Аднак зямля, калі перабіраліся цераз канавы і даводзілася хапацца за яе, абодвум здавалася халоднай.

Ззаду ж, за туманам і цеменню, заставалася крэпасць. Хацелася крычаць і плакаць. Можа з-за таго, што зямля жыла і ўсё жыло на ёй.

**Адпачынак**

Лясы і лясы. Бежанцы на дарогах і незнаёмыя, падазроныя асобы ў цывільным.

Старанна паголены малады прысадзісты хлопец і прыгожая дзяўчына з юным тварам сыходзіліся з такімі ж, як і самі, знаёміліся і непрыкметна разыходзіліся больш усяго назаўсёды.

Хлопец і дзяўчына прабіраліся на ўсход.

У Чыжыка цяпер была адна думка: найхутчэй давесці Зосю да свайго дому. У іх добрая сям'я; Зося шмат чаму навучыцца, шмат што зразумее. Старэйшая яго сястра выкладала гісторыю і геаграфію ў сярэдняй школе, камсамолка. Бацька і маці вось ужо колькі год, як працуюць у калгасе. Папоўскія забабоны — выбар дзяўчыны па пасагу, вянчанне ў царкве — усё гэта адышло, ніхто нават не ўспамінаў пра такое. Зося зразумее і адчуе сапраўднае жыццё, за якое на смерць змагаліся ў крэпасці людзі. Хіба ж у гэтым, як быццам бы асабістым абавязку, не бачыў вялікай мэты чырвонаармеец Чыжык? Хіба даравў бы яму палкавы камісар, калі б ён збаяўся неверагодных цяжкасцей і не павёў Зосю за сабой, далей у жыццё, за якое палкавы камісар загінуў?

Чым больш вяртаўся Чыжык да жыцця пасля перажытага, тым выразней бачыў перад сабой Зосінага бацьку, там, у крэпасці, з напакаванай торбай. Прывід гэта ці сапраўднасць? Канешне, сапраўднасць! Еў жа пасля таго чырвонаармеец Чыжык той хлеб і тыя каўбасы. Чаму ён там не застрэліў яго? Каб не сказалі, што чырвонаармейцы пачынаюць страляць у палякаў. Чыжык не націснуў на курок, а борздзенька схаваўся тады ў сваёй яміне, якую называў у думках не іначай, як каменнай магілай.

— Ладна, мы яшчэ з ім расквітаемся, — сказаў ён на вялікае здзіўленне Зосі, якая ў гэты час маўчала.

Ён яшчэ раз пачаў расказваць ёй аб сустрэчы ўжо больш упэўненым голасам.

Неяк у поўдзень перайшлі старую граніцу. Больш не траплялiся нязвыклыя воку канфедэраткі, панурыя позіркі з-пад ілба магчыма

былых асаднікаў. Дыхнула нечым родным, дарагім — прасторам калгасных палёў, звыклымі настроямі. Пад вечар нечакана выйшлі да вялікай вёскі, акружанай з усіх бакоў густым змешаным лесам. Зося ўпершыню была ў гэтых краях. Заспакоенасць Чыжыка як бы перадавалася ёй. Яна ўвачавідкі падабрэла і пахарашэла.

Вайна пакуль што абмінула гэтыя мясціны. З пашы ішлі і мычэлі каровы, узнімаючы на вуліцы клубы пылу. Лёталі ў паветры ластаўкі. Пелі маладыя шпакі ў садах. Блізка ля лесу лёталі паласатыя ўдоды і сарокі. Рыпелі жураўлі ля студняў, перагукваліся маладзіцы, з каміноў хат плыў угору дым. То тут то там на агародах палыхалі вогнішчы — людзі смалілі свіней.

Першы ж сустрэчны жыхар гэтай вёскі, сівабароды дзядок, запытаўся:

— Адкуль будзеце?

— З Заходняй, — неахвотна адказаў Чыжык. — Бежанцы. Дзе б у вас тут пераначаваць ды адаспацца?

— А заходзьце да любога. Кожны прыме, — сказаў дзядок. — Хто ж адмовіцца памагчы ў няшчасці. Колькі дзён ідзяцё?

— Парадкам, — адказаў Чыжык.

— Значыць, здалёк, — зазначыў дзед і крытычна агледзеў цывільнае адзенне чырвонаармейца. — У нас, брат, ёсць такія дзеўкі — дай божа, — і падмігнуў пачырванелай Зосі. — Ідзіце да Сільверставых. Вунь, бачыце, за магазінам першы двор направа. Калі што, дык скажыце — дзед Купрыян праслаў. Гэта там мая дачка жыве. А я тымчасам вечарком падыйду, пагамонім. У нас тут лясны край. Немцам дабрацца сюды будзе цяжка.

— Дык, кажаш, Сільверставы ваша радня?

— Ага. Ідзіце, ідзіце, не бойцеся...

Чыжык падабрэў, падхапіў Зосю пад руку, і яны пайшлі па вуліцы пад цікаўныя позіркі жанчын з двароў.

Двор у Сільверставых быў абгароджаны шалёўкай, са шчыльнымі, абабітымі жалезам цяжкімі варотамі і такою ж каліткаю. Дом быў прасторны, у тры вялікія акны на вуліцу, з летнім жылым памяшканнем на гары.

Сярэдніх год гаспадыня ў карычневым плацці даіла сярод двара карову, двое мурзатых хлапчукоў сядзелі на прызбе, адганяючы рукамі камароў.

— Добры вечар, — прывітаўся Чыжык.

— Добры вечар, — адказала жанчына, адвярнуўшыся.

— Нас дзед Купрыян прыслаў, — адразу паведаміў Чыжык. — Вечарам абяцаў наведацца.

— А вы яму ці не знаёмыя? — як не войкнула жанчына.

— А як жа, знаёмыя, — згадзіўся Чыжык, так што нават Зося здзівілася. — Вось ён і кажа: ідзіце да маёй дачкі, у яе, кажа, хата прасторная.

— То заходзьце, счакайце, пакуль я карову падаю, — сказала жанчына. — Мішка, чаго сядзіш? Праводзь гасцей!

Старэйшы хлапчук падхапіўся з прызбы, узбег на ганак. Моўчкі адчыніў дзверы.

У хаце гулі мухі, мурлыкаў кот. Было спакойна, сцішна. Аднак вайна зазірнула ўжо і ў гэты лясны край. Ложкі былі прыкрытыя самаробнымі посцілкамі, больш каштоўнае даўно, відаць, было надзейна схавана. «Тут і танкі можна хаваць — у гэтых лясах», — міжвольна падумаў Чыжык.



Ляснула калітка, і ў двары загаварылі. Пра што гаварылі — разабраць нельга было. Чыжык здолеў толькі пачуць, што называлі Купрыяна. Першым назваў яго мужчынскі голас, а тады ўжо адгукнулася гаспадыня.

— Тата ідзе, — падхапіліся з услону абодва хлапчукі.

Зайшоў мужчына, з выгляду вясковы інтэлігент — у шэрым адпрасаваным касцюме, у бліскучых гамашах і белай саламянай кепцы. У хаце было ўжо змрочна, і твару яго нельга было разгледзець.

— Добры вечар, — сказаў ён, спыніўшыся ў парозе. — Цесця толькі што бачыў, той сказаў, што вы да нас пайшлі. Адкуль жа вы ідзяцё?

— З-пад Баранавіч, — адказаў Чыжык.

— А куды?

— Пад Гомель, — зноў сказаў Чыжык. — Да сваіх бацькоў. Мы ўжо даўно дайшлі б, ды тыя дарогі ўвесь час абстрэльваюць. Завярнуліся, ды па лясах... Было, што і блудзілі.

— Да немцаў не траплялі?

— Не, пашанцавала. Абыходзілі ўвесь час.

— Та-ак!.. А яна табе — хто? Радня?

— Жонка, — адрэзаў Чыжык. Зося ўздрыгнула і паклала на яго плячо галаву.

Гаспадар прайшоў да стала, зняў з лямпы шкло, падкруціў кнот. Дастаў з кішэні запалкі, чыркнуў. У яго быў даволі маладжавы твар з прыплюшчанымі бялёсымі вачыма. Трохі выпіраў наперад круглы падбародак з ледзь прыкметным нейкім юнацкім шчаціннем. Паставіў шкло, яшчэ больш выкруціў агню, прыязна і як бы разгублена ўсміхнуўся.

— Слухалі сёння радыё. Ужо гаварылі пра Добрушскі напрамак.

Чыжык не зварухнуўся. У апошні час ён прызвычаіўся не выказваць сваіх адносін да людзей і навін. У дарозе вучыў гэтаму і Зосю. Ён толькі сказаў:

— Цяжкавата будзе нам цяпер дабірацца.

— А вы кіруйцеся на Петрыкаў, і так во лясамі, — сказаў гаспадар. — Як трэба будзе, я вам усё растлумачу. У мяне і карты ёсць — дойдзеце.

— За карту немцы, калі знойдуць, галаву знясуць, — сказаў Чыжык. — Так дойдзем.

Зайшла гаспадыня, паставіла вядро на ўслон, пачала цадзіць у гліняныя збаны малако. Адразу за ёй увайшоў дзед Купрыян. Спыніўся ў парозе, гукнуў:

— Вечар добры чэснай кампаніі!

— Добры вечар, — адказала дачка. — Што ж, бацька, не знаёміш з людзьмі?

— А вы самі пазнаёмцеся, — сказаў Купрыян і падмігнуў Чыжыку. — Бач якая — пазнаёмце! А калі я і сам яшчэ не ведаю, хто яны такія? Во пасядзім, пагамонім — пазнаёмімся. Як жа цябе хоць клічуць?

— Ваня, — адказаў чырвонаармеец. — Ваня Чыжык. А гэта мая жонка. Завуць яе Зося. Ідзём на Гомельшчыну — там бацькі мае, дзед. А працаваў я ў Нясвіжы, у прамгасе, і жылі мы ў Нясвіжы.

Зося пасля гэтых слоў толькі мігнула вейкамі. Упершыню такое гаварыў Ваня Чыжык, але яму віднец. Так, відаць, трэба было. І ў яе вачах свяцілася толькі ранейшая даверлівасць да яго.

— Дакументы ж у вас хоць якія засталіся? — запытаўся малады гаспадар, прыглядаючыся да пабітага, у сіняках твара чырвонаармейца.

— Няма, — адказаў Чыжык.

— А навошта яны цяпер, тыя дакументы, — сказаў дзед. — Добрага чалавека і без дакументаў пазнаеш, а дрэннага нам не трэба.

— Ого, без дакументаў! — мнагазначна сказаў малады, пільна разглядаючы пакрытыя рубцамі з яшчэ незагоенымі ранамі рукі прышэльца. — Без старых дакументаў у дарозе прападзеш. Немцы правяраюць.

Малады ўпотай як бы насміхаўся. Чыжык змаўчаў. Зося пацíху, як дзіця, сапла, даверліва схіліўшы галаву на яго плячо. Прыемны спакой расплываўся па ўсім целе. Нідзе не грукалі стрэлы, не рваліся бомбы. Пад печчу дамавіта спяваў цвыркун. Цурчэла малако на цадзілку. Гаспадар выцягнуў аднекуль бутэльку, паставіў на стол.

— Во, за гэтым як след і пазнаёмімся, — пажвавеў Купрыян.

— А гэта ў цябе што? — кіўнуў малады на Чыжыкавы рукі.

— Ды так, драбяза, — адказаў Чыжык. — Ноччу прабіраліся праз лес, зваліўся ў нейкую яміну, рукі ледзь не паламаў.

Малады згодна заківаў галавой. І зноў нечага ўсміхнуўся.

Гаспадыня тым часам паставіла на стол халаднік, гуркі, нарэзала сала.

— Мыйцеся, госцейкі, ды частуйцеся.

Чыжык скінуў пінжак, стаяў, як чалавек, які даўно не трымаў у руках мыла. Гаспадыня пашапталася з мужам, падалася ў пярэдні пакой, вынесла скрутак бялізны.

— На, — звярнулася яна да Зосі, — пераапранецеся пасля. Тут табе і яму. Ноччу, тата, прапаліце лазню.

— Мы самі прапалім, — адгукнуліся малыя.

— Ну, дык ідзіце, цягайце дровы ды запальвайце. Вады там у бочках назапашана да чорта. Хвёдар, падай ручнік.

Малыя выбеглі.

Дзед Купрыян, гаспадар і гаспадыня пасадзілі Чыжыка з Зосяй у кут, у якім не ставала звыклых Зосінаму воку абразоў. Выпілі па чарцы. Стары пасля гэтага збегаў некуды на вуліцу, прывёў маладога хлопца з гармонікам.

Чыжык расказваў пра сваю работу ў Нясвіжы, пра дарогу, пра сваіх бацькоў. Гаспадар кіўнуў у бок Зосі, прашаптаў запытальна:

— Яна — палячка?

— Не. Гэта яна жыла там доўга, дык у яе як бы акцэнт.

— Ага, — здагадліва кіўнуў гаспадар і прыязна-спачувальна паглядзеў на Зосю. Чыжыку спадабаўся гэты яго погляд, і ён ласкава ўсміхнуўся Зосі. Зося ўсміхнулася ў адказ. Купрыян схіліў лысую галаву, загаварыў:

— Наш край лясны. Да нас немцу не дабрацца, хай ён там хоць са скуры вылезе. Дудкі, фрыц чортаў. А калі што, дык у нас лес пад бокам — туды не вельмі каб пасунешся. Не ведаючы, і ног не вынесеш. Сюды ім няма ніякага ходу.

... Ноччу выйшлі на ганак. Зусім побач спакойна шумелі, перагукваліся птушынымі галасамі блізкія лясы. Нават не відаць было абрыдлых трасіраў. Ціша і спакой. Толькі конікі вызвоньвалі адным ім вядомыя песні. Ад зямлі пахла палыном, спелым агародам. Але цішыня была насцярожаная, трывожная.

Падыходзячы да лазні, малады гаспадар сказаў:

— Стары няпраўду кажа. І сюды дабярэцца фашыст. Толькі пакуль дабярэцца, мы ў лясах чорт ведае дзе будзем. Шукай — не знойдзеш.



Зброя? Зброю дастанем! Чаго вам цягнуцца на Гомельшчыну? Яшчэ якая тая дарога будзе. Загінуць можна за будзь здароў. Людзі вы, бачу, добрыя — заставайцеся. Месца знойдзецца, а спатрэбіцца, я ж кажу, дык і зброю знойдзем.

Чыжык і Зося былі ўзнепакоены зусім іншым. Яны амаль прапусцілі ўсе яго словы паўз вушы.

— Там на акне свечка, — зусім і не падазраючы аб іх настроях, сказаў гаспадар. — А вада ў бочках.

У лазні і сапраўды гарэла свечка. Плавала пара. Зося стаяла збялелая.

— Як жа цяпер быць? — запыталася. Падумала, сказала здагадліва. — Будзеш тут сядзець, пакуль я памыюся. Потым ты.

Ён незадаволена хмыкнуў.

Што можа быць больш прыемнага, як лазня ды чыстая бялізна ў такі во час. А пасля мяккая пасцель на гары, на шырокім ложку. Спевы конікаў, поўная ціша, спакой.

— Зося, мілая, — сказаў Чыжык, упершыню вось так абняўшы яе і яшчэ як след нават не верачы ў гэта.

Ад яе пахла лазняй, бярозавым венікам, яшчэ нечым няўлоўным, чыста жаночым і... жаночымі слязьмі.

Шумеў лес, крычалі дзеркачы на блізкіх паплавах. Вось здалёк данесліся няўлоўныя як бы грымоты і заціхлі. І ўслухоўваючыся ва ўсё гэта, падарожнікі выразней адчулі трывогу.

Праз акно ў памяшканне пад дахам шчодра лілося сонечнае святло. Па дварах на розныя галасы заліваліся пеўні, чырыкалі канаплянкі ў падстрэшшы. Блізка шумеў лес — надзейны абаронца вялікай вёскі, можа быць заснаванай шмат стагоддзяў назад хітрымі вандроўнікамі. На вуліцы чуліся дзіцячыя галасы, смех—зусім мірнае жыццё, як і няма вайны. Міжвольна прыгадваліся словы гаспадара: чаго цягнуцца ў небяспечны шлях на Гомельшчыну, і тут не дастануць, а калі што, дык і зброя знойдзецца. І цела прасіла жаданага адпачынку, слабелі мускулы. Да таго ж у асабістым жыцці адбывалася падзея, у якую нават цяпер не верылася.

Чыжык ляжаў на ложку і з цікаўнасцю пазіраў, як Зося апранаецца. Гаспадынiна кашуля не такая, як Зосіна. На грудзях не было прыгожай выбаркі, акантаванай крыжыкамі і дробнымі кветкамі. Гэта была звычайная сялянская кашуля, і Зосі яна была вялікаватая. З-пад кашулі вызначаліся грудзі, увішны, як бы перашчыкнуты ў таліі стан. Тое, што губы былі як бы засмяглыя, а на шчоках выступала здаровая чырвань — яшчэ больш ухарошвала Зосю. Не, няма і не было ў іхняй вёсцы такой прыгожай дзяўчыны, як Зося.

Белы Зосін тварык ад загару пачарнеў, вялікія блакітныя вочы наліліся як бы цёмнай сінню і блішчэлі затоенай, адной ёй вядомай, думкай. Капа чорных, зблытаных пасля лазні валасоў рассыпалася па ўсёй спіне.

— Зося... — не вытрымаў ён.

Яна зноў падышла да яго. Сказала:

— Паказвай спіну!

Уся спіна яго была пакрыта крывавымі рубцамі, на правым баку — загноеная рана. Зося паклала сваю галаву, ад якой яшчэ пахла даўнімі духамі, яму на грудзі і пацíху заплакала. Плакала яна па-дзіцячаму,

прыкусіўшы ніжнюю губу, неяк дзіўна ўсхліпваючы. І была яшчэ ў гэтым плачы як бы нядаўняя злосць на самую сябе.

— Ты ляжы, я зараз, — падхапілася яна і затупацела па лесвіцы ўніз.

Чыжыку ляжаць не хацелася. Ён споўз з ложка, і ногі яго адразу падкасіліся ад болю. Чыжык загарнуў кашулю і пачаў разглядаць сябе ў люстэрка. Усё цела было ў крывавых ранах і сіняках. Твар быў падрапаны, сіні. Дзіўна, што ён амаль зусім не адчуваў болю.

Зося падымалася па лесвіцы, і ён сеў на ложак, сарамліва прыкрываючы ногі коўдраю.

Зося трымала на плячы драўляны куфэрак з чырвоным крыжам на дзверцах, з надпісам «Хатняя аптэчка». Сэрца ў Чыжыка ўпала.

— Ты... Ты сказала ім? — спалохана запытаўся ён.

— Я нічога не сказала, — прагаварыла Зося, ставячы куфэрак на стол. — Я сказала, што ў цябе рукі, пальцы баляць і табе трэба дапамагчы. Ты ж сам гаварыў учора, што зваліўся ў яму. Я толькі пра рукі ім сказала.

— Ну, ну... — буркнуў Чыжык.

— У лякарствах я нічога не разумею, Ваня, — прызналася яна. — Бацька вучыў толькі малітвам ды як сябе трымаць на людзях. Выбірай сам, — і яна раскрыла куфэрак.

— А гаспадары не прыйдуць?

— Не. Самога няма дома, а гаспадыня пайшла ў агарод.

Пасля гэтага Чыжык выбраў марганцоўку, ёд, іхціёлавую мазь. Потым скінуў кашулю. Сам гаварыў, чым мазаць. Уедліва і пякуча забалелі раны. Чыжык моўчкі зносіў боль.

Апранаючыся, ён агледзеў свае гамашы, здзіўлена прыцмокнуў языком.

— Добры ў вас абутак робяць, — сказаў. — Прайшлі такую дарогу і зусім яшчэ цэлыя.

Унізе, за абедам, Чыжык паспрабаваў нават жартаваць, нязграбна варочаючыся ва ўсе бакі, бо балела.

Перш чым падступіцца да баршчу, выпілі з гаспадаром па чарцы.

— Эх, гаспадар! Патап Дзяменцевіч! — сказаў Чыжык. — Вайна — чаго не бывае. Можа быць выжывем — пасля вайны сустрэнемся, разлічымся. Пратрымай ты нас дзён пяць, трэба адпачыць пасля гэтай праклятай дарогі...

Ён запытальна ўставіўся вачыма на гаспадара.

— Дзівак-чалавек! — адказаў той. — Я ж сказаў учора; назусім заставайцеся. Не прападзём. Вунь жывіце на гары — чаго вам? Збажыны — усё поле непрыбранае, бульбы ўвосень колькі хочаш. Жні хто хочаш, капай хто хочаш, — і цяжка ўздыхнуў. — Ці багата вам на дваіх трэба? А давядзецца, я ж кажу, дык і за зброю возьмемся — чаго там? Не прападзём. Бач, жыццё якое! Нам яшчэ нішто, а іншым, як табе, прапашчае. То чаму цябе не ўзяць да сябе? Га? Мне трэба было б у арміі быць, а мяне, як сельсавецкага сакратара, напаследак райваенкамат пакінуў. Ну, так і застаўся, на сорам...

Ён памаўчаў, пасля загаварыў:

— Чорт!.. А я цяпер жыта кашу. Асыпаецца, прападае — шкада. У вёсцы ж пуста. Былі наведваліся спачатку бежанцы, ды рэдка. Ведама — нялёгка да нас дабрацца. Тут табе амаль ніякіх шляхоў.

Гэтыя словы не здаліся ўжо такімі дзіўнымі, як учора. І не здалося такім ужо неверагодным, пасля ўсяго пережытага, вось такое жыццё. Так заўсёды здаралася з Чыжыкам, калі ён вяртаўся адкуль-небудзь



дадому. Спачатку многае не падабалася, выводзіла нават з цярплівасці, а потым ён сам з сябе ж з-за гэтага смяяўся.

За акном шчабяталі ластаўкі. Поплеч сядзела Зося — цяпер ужо назаўсёды яго. Фронт быў далёка — недзе пад Добрушам. «А калі што, дык і зброя знойдзецца»... Чаго ж турбавацца?

Да яго неадчэпна падступаўся санлівы спакой, падобны на ўсю гэтую вёску з лясамі. Змазанае лякарствамі цела неадольна прасіла адпачынку. Чыжык забраўся на гару, лёг на ложак, нейкі час слухаў, як у агародзе перамаўляюцца Зося з гаспадыняй, усміхнуўся, сам не ведаючы чаму, і заснуў мёртвым сном.

Вечарам прыйшоў дзед Купрыян. Супакойвалі яго расказы пра лясы.

Але Чыжык потым запытаўся нечакана:

— А як прыйдуць? Прыйдуць ды калатнуць так, што і лес не паможа?

І здзівіўся ўпартаму бляску вачэй і дзеда Купрыяна, і самога гаспадара.

Ноччу сніўся палкавы камісар, і чырвонаармеец, сагнуўшыся, ляжаў, адчуваючы тугу і ніякаватасць. Хутчэй бы, хутчэй усё загаілася ды адсюль вырвацца!

Не спала і Зося.

Міналі дні. Аднойчы ў поўнач Чыжык прахапіўся з адчайным крыкам, увесь у поце. Зося падала кружку халоднай вады, і ён прагна піў, разліваючы яе па грудзях і прасціне. Потым ляжаў з шырока расплюшчанымі вачыма, цяжка дыхаў. Адкінуў коўдру, глуха сказаў:

— Навошта марудзіць? Для чаго гэта? — і рашуча заявіў: — Сёння раніцою пойдзем. Хопіць — адлежаліся! Як-небудзь дабярэмся. У гэтага Патапа Дзяменцевіча, аказваецца, сельсавецкая пячатка. Мы напісалі даведку, што я і ты былі тут у гасцях, жывём у непаспартызаванай мясцовасці і вяртаемся да свайго дому. Ён кажа, што немцы вераць такім даведкам. Ты слухай, я цябе навучу, што пры выпадку гаварыць...

Праводзілі іх многія. Жадалі шчаслівага шляху. Чыжык спяшаўся. Яго неадольна цягнула наперад, кожная хвіліна надакучлівага чакання прыносіла толькі боль, горыч і незадаволенасць самім сабой. Не, ён прызвычаіўся ўжо да баявога жыцця — да атак і кулямётнага агню.

«Зброя знойдзецца», — успомніліся словы, і ён усміхнуўся. Аднак прагаварыў таропка:

— Пайшлі, пайшлі, Зося!

## Сустрэча

Як бы цень самога палкавога камісара ішла ўслед за Чыжыкам. Яна саромела, падганяла, асуджала яго. Гэтулькі дзён! Гэтулькі дзён, як у цяжкім сне. За гэты час яны ўжо былі б дома, а там вызначылася б і што рабіць далей. Ён супакойваў сябе толькі тым, што трэба ж было падлячыцца і адпачыць. Ды і Зосі інačай не вытрымаць бы такога шляху. А гэта — не жартачкі! На гэта нельга забывацца. І прадукты ж на дарогу — хіба без іх дабярэшся?

Вёскі пачалі трапляцца неспакойныя. Іншым разам правяралі нават Патапаву даведку. Падазрона, прыдзірліва. Бурчэлі.

— Каб не такія, як вы во, злыдні, немцы трасцу прайшлі б.

Зноў усюды грымелі стрэлы, і па начах відаць былі трасіры.

А ў адным лесе іх аклікнулі. Некалькі чырвонаармейцаў з вінтоўкамі наперавес бегла наўздагон. Гэта былі рэшткі нейкай часці, якая трапіла ў акружэнне. Патапава даведка не памагла.

— Відаць, што добры «чыжык», — кпліва сказаў адзін з чырвонаармейцаў, пагражальна размахваючы прыкладам.

Тады Чыжык скінуў пінжак, скінуў кашулю і паўстаў перад імі голы да пояса, увесь у рубцах і нядаўна загоеных ранах.

— Ого-го! — сказалі чырвонаармейцы. — Аднак здорава гэта цябе! — і прапанавалі: — Заставайся з намі.

— Не, — цвёрда сказаў Чыжык. — Трэба ісці!

Яго не распытвалі і не затрымлівалі. Чалавек ідзе да арміі — гэта зразумела было само сабой. Выкурылі толькі па цыгарцы разам на развітанне, моўчкі седзячы пад дрэвамі.

Чыжык быў бадзёры, жартаваў, нават рабіўся весялейшы, бо з кожным днём набліжалася ягоная Гомельшчына.

Зося вельмі хутка стамлялася. Яе туфлі даўно парваліся, і ішла яна босая, усё такая ж прыгожая і ласкавая. Пра дом, пра бацьку, пра Броніка зусім не ўспамінала.

Адчувалася блізкая восень. Яшчэ і бярозы не гублялі лісця, і сонца пякло няшчадна, аднак ноччу над паплавамі ўжо стаялі туманы, дыхала амаль няўлоўным пахам халадоў. Дзікія качкі, патрывожаныя грукатам вайны, увесь час насіліся над аерамі.

У адзін з такіх дзён Чыжык лёг на ўзмежку ля вытаптанай паласы жыта, пасярэдзіне якой тырчэў абгарэлы нямецкі танк, і сказаў:

— Во, гэта ўжо наша Гомельшчына... Хутка наш дом.

Зося прайшлася па мяжы, абышла з усіх бакоў танк. Вежа яго была звернута набок, наперадзе чарнелася вялікая дзірка, праз якую вытыркаліся замасленыя анучы, на баках відаць былі чорныя крыжы. Танк гарэў зверху, і яго тушылі, бо ўвесь ён быў абсыпаны зямлёю. Зося ўпершыню бачыла такое...

Чыжык перажываў іншае. Ці ўсё добра дома ў сям'і? Вёскі вакол былі не разбітыя, іхняя таксама павінна б уцалець. Вось толькі старэйшая сястра! Актывістка, настаўніца, завуч. Але ў іх няма такіх, як Бронік або Зосяў бацька. Павінна было б усё быць добра. Ён наперад ведаў, што Зося ўсім спадабаецца. Ды і хіба гэта лёгка дзяўчыне — назаўсёды пакінуць бацькоў?

Зося раптам спынілася, пачала парадкаваць на патыліцы валасы, трымаючы шпільку ў зубах. Ён зразумеў яе: ёй хацелася спадабацца свёкру і свякрусе. На ўзлеску, што пачынаўся за былым Грабскім хутарам, яна апранула сваё моднае салатавае плацце, якое несла ў вузельчыку, бо да гэтага ішла ў старым, падараваным гаспадыняй з лясной вёскі. Давалі лепшае, але Зося ўзяла самае горшае — баялася, што сустрэнуцца немцы. Яна тады замест сваёй прыгожай хусткі павязалася дзяружкай. Цяпер усё гэта паляцела ў кусты.

Ля Дняпра яны памыліся і пайшлі па лузе — трава да пояса.

Паказалася за лугам вёска. Цямнела.

...Нялёгкі шлях твой, чырвонаармеец, ой нялёгкі! Гэта толькі частка шляху — магчыма самая лепшая. Наперадзе чакаюць цябе неверагодныя выпрабаванні, і невядома яшчэ, ці выйдзеш ты з іх жывы. Можа стацца, што назаўсёды пакінеш адну прыгажуню сваю Зосю, што ідзе



цяпер услед. Трэба сказаць, каб берагла сябе. Хіба ў гэтым ёсць штонебудзь саромнае, калі беражэш сябе?

Чыжык спакайнеў. Цяпер ён, лічы, прывёў Зосю да сваіх бацькоў, і яго сумленне было чыстае, як чыстым яно было перад памяццю аб палкавым камісары, які ўвесь час як бы крочыў поплеч з імі абодвума. Цяпер перад Зосяй правільны шлях і новае жыццё, да якога яна рвалася.

Разам з тым Чыжык думаў цяпер і пра іншае. Вядома, яго будуць распытваць, адкуль ён ідзе і што там такое з імі ўсімі здарылася. Але ён не скажа. Раней, да вайны, Чыжыку здавалася, што ён ахвотна такія гісторыі расказваў бы бясконца. Цяпер жа язык не паварочваўся. Не хацелася нават усяго таго ўспамінаць. Цяжкое перажытае, аказваецца, і расказваць цяжка, а часам і зусім немагчыма. І Чыжык рашыў гаварыць тое, што чуў не аднойчы: часць трапіла ў акружэнне, хто-ніхто вырваўся, і ён во прыйшоў.

Перад самай вёскай яны пайшлі поплеч. Зося зноў пачала папраўляць валасы, абцягваць плацце. Бацька купіў ёй гэтае плацце, не шкадуючы грошай, як толькі яна падрасла. І вельмі не любіў, калі Зося праходжвалася ў ім ля крэпасці, дзе заўсёды было многа маладых чырвонаармейцаў. Калі яна расказвала пра гэта, дык Чыжык злаваўся і ўсякі раз выходзіў з цярплівасці: ніяк не хацелася верыць, што Зосі мог сустрэцца не ён, а хто-небудзь іншы. Ён незадаволена натапырваў губы і бурчэў. Значыць, яны, казаў ён, сышліся выпадкова. Не загавары ён тады з ёю ў парку, і яна пазнаёмілася б з іншым. Хо, такую прыгажуню ды каб не заўважылі з іхняга гарнізона? А там былі хлопцы і прыгажэйшыя за яго. Што ён супраць іх! А пасля... Колькі гэтых самых выпадковасцей было пасля! Хіба ж не пазірала яна на яго спачатку скоса і нават уцякала? І каб не настояў ён на сваім, дык і зноў жа нічога не было б. Гуляла б Зося з кім-небудзь іншым, хто па душы. Адным словам, выходзіла, што ўсё атрымалася выпадкова, таму ўсё гэта зусім не трывалае, казаў Чыжык, да першага развітання.

Зося ў такія хвіліны звычайна доўга моўчкі слухала яго, а тады пачынала паціху плакаць. Аднак і яе слёзы дрэнна ўздзейнічалі на Чыжыка.

— Ты, Ваня, цяжкі чалавек, — казала яна, усхліпваючы, — невыносны. Ну, колькі ты будзеш мучыць мяне. Іншыя... Ну, падабаліся. Як вы прыйшлі, то вы ўсе мне падабаліся. А табе хіба не падабаліся іншыя дзяўчаты?

Чыжык раптам раскрываў рот, бляднеў і замаўкаў надоўга, а Зося старанілася тады яго.

Цяпер Чыжык абхапіў яе за плечы, прытуліў да сябе і сказаў:

— Ты ў гэтым плацці, як княгіня. Каб ты ведала, як ты мне падабаешся. Во зараз прыйдзем, дык усе здзівяцца. Не сумуй і не плач. Цяжка, канешне: гэтулькі кіламетраў прайсці, быццам няма свайго дому і сваіх бацькоў. Нашы будуць вельмі турбавацца аб табе. Не хвалюйся, мілая, харошая Зося! Вунь ужо вёска блізка.

Дарога ўзбягала на пясчаны ўзгорак, збоку яе па ўзвышшы, атуленыя садамі, былі двары. Не відаць кароў на поплаве, не рыліся свінні на ўзгорках, толькі тырчэў на абочыне паламаны шэры грузавік — адразу відаць, што тут прайшліся гітлераўцы. Глыбокая варонка ад авіябомбы зачарнелася наперадзе: бач, нават бамбілі!

Зайшлі ў вуліцу, і Чыжыку стала ніякавата. Ён добра ведаў сваю вёску і добра ведаў, што, нават нягледзячы на такі трывожны час, дзе-

сяткі вачэй будуць сачыць цяпер за ім з усіх двароў: го, ды гэта ж Іван Чыжык! А каго ж гэта ён вядзе?

На трэцім двары трапілася насустрач немаладая жанчына ў пярэстым андараку і ў старой выцвілай хустцы.

— Іван? — сказала яна. — Жывы, значыць! А старая ж твая ўжо ўсе вочы праплакала. Сніўся, кажа: ляжыш у полі ўвесь у крыві. А гэта што за маладзіца?

— Жонка, — адказаў Чыжык. — А ў нас усё добра, усе жывыя?

— А жывыя, Іване, чаго ж ім станецца. Во хіба толькі карову немцы забралі, дык яны ва ўсіх пабралі, — і даверліва зашаптала. — А свіней мы ўсё ж паспелі прыбраць. Такі віск стаяў — на ўсю вёску. Аж жаласна. Ну, ды яму не дасталося. А ішоў — грозная сіла. Усе на грузавіках ды на танках — злосныя: там, на нашым полі, іхнюю танку адну чырвонаармейцы ўсё ж падбілі. Пяць немцаў згарэла дашчэнту. А нашы, дзякаваць богу, цэлыя. Адзін толькі быў паранены. Той, каторы страляў. Дык вядзі, вядзі сваю гаспадыньку. Бач, прыдарожылася.

— А Гарпіна як?

— А што Гарпіна? Як і ўсе. Дзеці і цяпер іншым разам да яе ходзяць. Толькі, во, кніжкі ў школе немцы папалілі.

Чыжык перасмыкнуў губамі, зірнуў наперад. Там, пад стрэхамі хат, узвышаўся бляшаны дах дзесяцігодкі.

— А немцаў, часам, няма, цётка?

— Эт, яны былі дый пайшлі. А настаўнікі цяпер усе ў арміі. І дырэктар таксама.

— Пойдзем, — сказаў Чыжык.

Дом быў недалёка ад школы. Невядома як, толькі дома, відаць, ужо ўведалі пра яго прыход. Насустрач подбегам таропка спяшалася маладая жанчына з рэдкімі кароткімі валасамі, на якія звяртала, відаць, зусім мала ўвагі, і ў шэрым плацці простага пакрою, падперазаным шырокім поясам, канцы якога былі завязаны ў вузел.

— Сястра, Гарпіна... — сказаў Чыжык Зосі. — Настаўніца. Мы з ёю заўсёды сварымся, — і Чыжык таксама заспяшаўся насустрач.

Сястра Гарпіна была старэйшая за яго на пяць год і была вельмі падобная на яго: той жа кірпаносы твар, той жа невысокі рост, толькі во губы былі матчыны, крыху расцягнутыя. У жыцці яна была няўдачніца. Два разы выходзіла замуж і абодва — разыходзілася. Першы раз яе кінуў муж — раённы начальнік — бо, як ён сказаў, у яе невыносны характар і зжыцца з ёй ніяк немагчыма; другі раз яна сама пайшла ад мужа. Перажыўшы такое за якіх тры гады, яна ўсю сваю ўвагу спыніла на малодшым браце аж да адыходу яго ў армію. Цяпер, уваткнуўшыся тварам у яго плячо, гэтая грозная некалі Гарпіна пацішку плакала, уздрыгваючы.

Нечакана рашуча выцерла рукавом заплаканы твар, запыталася:

— З акружэння вырваўся?

— Але.

— А то — хто такая? — паказала вачыма ў бок Зосі. — Глядзі, якая яна...

— Гэта, сястрыца, мая жонка.

— Усё жартуеш? У такі час — ну, проста...

— Кінь, не жартую. З Заходняй ідзём, ад самай граніцы.

— Ой, Іване, дай пацалую!.. — і, абхапіўшы яго за шыю, яна шпарка чмокнула недзе за правым вухам. Імкліва кінулася насустрач Зосі, таксама пацалавала, сціснула ў абдымках. Разглядала твар, вочы, ступіла крок назад, агледзела ўсю, з ног да галавы. Падхапіла пад руку, амаль павалакла да двара, закрычала:

— Мама, тата! Зірніце, каго Іван прывёў!

І Чыжык зразумеў, што на час яго асоба павінна адступіць як бы на другі план.



## У сям'і

Двор быў амаль пусты, толькі капашыліся куры на прызбе ў пяску ды ў хлеве тупаў конь. Бацька такі ж, як і сын, прысадзісты, але з густой чорнай барадой, у картовых паласатых штанах і сіняй кашулі, падпяразанай рамянём, расчыніў перад Іванам вароты хлева.

— Во, бачыш, якую каняку маю. Небараку. У каго былі добрыя — немцы пабралі, а майго кінулі.

Конь быў стары, гнядой масці і, калі паварочваў да іх галаву, дык відаць было бяльмо на левым воку.

— А парсюкоў я, як і ўсе, — пад нож. Схаваў усё ажно ў хмызняку. Паграбец там зрабіў. Пачастуем вас свежанінай. А яна, твая маладзіца, з вучонай, глядзі, сям'і? — і кіўнуў у бок Зосі, што мылася пад павеццю — Гарпіна палівала ёй з драўлянага гарца ваду на рукі.

— Не, не з вучонай, — адказаў Іван.

— Бач ты! А і ты, брат, увесь у мяне. Такую бабу выбраў, — падмігнуў ён. — Куды там!

Што наважваецца рабіць далей Іван, бацька не распытваў. Ён і наогул амаль ніколі не ўнікаў у яго асабістыя справы. А цяпер была вайна, і што-небудзь раіць, асабліва ў такім становішчы, ён проста не адважваўся. Хай сын сам разбярэцца — яму відней.

Гарпіна гаварыла з Зосяй.

— І ты зусім не вучылася?

— Я ж кажу: бацька не пусціў. Ён са старым норавам. А грамату я ведаю — чытаю і пішу — і па-польску, і па-руску, — памаўчала, дадала: — Во яшчэ: у ксяндза вучылася. Нагаравалася — жах! Ксёндз быў малады — не даваў праходу. Ледзь адчапілася ад яго.

— Гэта і сапраўды жах! — падхапіла Гарпіна. — Маладая, здольная дзяўчына і не вучылася ў школе. Я цябе абавязкова падвучу. Кніжкі ў мяне ёсць. Згода?

— Згода, — сказала Зося і рассмяялася.

— Добра. Толькі скажы мне, як жа гэта вы ўмудрыліся сустрэцца з Іванам? Ён, што ж, з акружэння выйшаў?

— Не ведаю, — адказала Зося. Падумала і дадала: — Ведаю, ды толькі ён сказаў мне, каб не гаварыла.

— Угу, — заківала Гарпіна галавою. — Ясна. Ну, то і не гавары — ліха з ім. Будзе пасля толькі лішняя сварка. Ён у нас заўсёды такі — любіць сакрэты.

— Хадзем, хадзем, сынку, у хату, — пацягнуў бацька сына за рукаў. — Хадзем. Хай яны тут адны нагаворацца — ведама, кабеты. А мы пасля ўжо з маладой як след пазнаёмімся.

У хаце ля прыпечка завіхалася маці. Рукі яе ўсё яшчэ трэсліся ад перажытага, з вачэй цяклі слёзы, і яна раз-пораз выцірала іх фартухом. Над агнём на трыножцы скварылася свежаніна, булькаталі толькі што разбітыя яйкі. Маці прагна пазірала на Івана — усё не магла наглядзецца. Вось і цяпер прыпала галавою да грудзей, усхліпнула.

— Дзякаваць богу, у баку ад шашы жывём. Рэдка гэтыя пачвары наведваюцца. А што блізка ад шашы вёсак папалілі — не злічыць! Такая стралянїна была! Гэта добра, што ты з жонкаю. Ну, а як жа там цяпер яе бацькі?

— Нічога, жывуць, — прагаварыў Іван. — Настояла на сваім. Як ёсць, так і пайшлі. Ноччу. Яна з імі і не развіталася.

— Ты глядзі... — здзівілася маці. — Бывае ж на свеце такое!

Зайшлі Гарпіна і Зося — абедзве аднолькавага росту — і Іван міжвольна параўнаў іх абедзвюх. Гарпіна была хоць і кірпаносая, але хударлявая і як бы змучаная, а Зося — нават вялікая дарога амаль зусім не перайначыла: такая ж ласкава-вясёлая.

Малады Чыжык толькі дзівіўся з маці. Прыход незнаёмай Зосі ў сям'ю прынёс ёй жывую радасць.

Маці прынесла з сенцаў сыр, масла, каўбасы, халадзец, вяндліну. Нарэзала свежых гуркоў, накрышыла цыбулі. Сын толькі дзівіўся, для чаго ўсё гэта яна робіць: усё роўна ж усяго не з'есці. Маці, уладкоўваючы ўсё на стале, растлумачыла:

— Там, у гэтай Заходняй, кажуць, людзі бедна жывуць. Дык каб ты, Зося, не падумала, што і мы галадаем, як там некаторыя крычаць. Дзякаваць богу, добра жывём, усяго хапае — і хлеба і да хлеба. А ў апошнія гады, дзетачкі вы мае, ох жа як добра зажылі! А ўсё таму, што ў калгасе. Аднаасобнікамі мы самыя бяднейшыя людзі былі. А гэтае лета такое ж урадлівае, ды во злыдзень усё разбурыў... — і яна зноў усхліпнула.

Старая ганарылася жыццём у калгасе, які разбурыў цяпер люты вораг.

У двары паказалася некалькі жанчын, Услед за імі зайшоў сівенькі дзядок Анупрэй. Потым — настаўніца біялогіі Зелянкоўская, хударлявая, высокая і жылістая, як мужчына.

— Гэта мы, сынку, гасцей паклікалі, — растлумачыла маці. — Нельга ж без гасцей, — і зноў пабегла ў сенцы.

Не было спакуслівых размоў, як у той вёсцы. Не гаварылі пра лясы. Усе адчувалі за сценамі гэтай хаты вайну, і кожны душою быў там, далёка наперадзе, з сваімі часцямі. І Зося гэта адчувала.

Ноччу Чыжыку прысніўся палкавы камісар. Быццам ідзе ён як бы з самога туману цераз агароды, вялікімі крокамі, заходзіць у хату, нагінаецца над ім і пытаецца:

— Спіш?

— Сплю, — адказвае Чыжык.

— Не спі, — кажа камісар.

— Ведаю, — адказвае Чыжык.

— Ну, а яна як сябе адчувае? Ці спадабалася ёй у вашай сям'і, ці да спадобы бацька і маці, бо той ёй не бацька, а вораг.

— Спадабалася, — адказвае Чыжык. — Таму і вёў яе сюды.

— Ведаю, не расказвай, — прагаварыў палкавы камісар. — Ну, а як жа з патронамі і з тым патаемным ходам? Во, бачыш, — і ён паказаў яму акрываўленыя рукі. — Патроны канчаюцца...

Нешта цяжка, як бы ўсё гэта і ўсё, што ёсць на зямлі, раптам навалілася на грудзі, пачало душыць, зусім не стала паветра. Чыжык прачнуўся. Скроні гулі і балелі. Цяжкі непераадольны сон па-ранейшаму скоўваў усяго. Але Чыжык ляжаў з расплюшчанымі вачыма. Потым яму захацелася плакаць. Але слёзы ніяк не ішлі, і з-за таго было балюча.

Ён павярнуўся на бок, паклаў галаву Зосі на грудзі і так заціх, зрэдку ўздрыгваючы.



**На ўсход**

Яму здавалася, што гэта будзе вельмі цяжка — развітацца. Немагчыма было нават уявіць такога моманту, бо пакідаць Зосю не хацелася. Асабліва цяпер, калі было пра ўсё перагаворана і яны зблізіліся яшчэ больш. А атрымалася ўсё вельмі лёгка і проста.

Яшчэ да ўсходу сонца маці, бацька і Гарпіна праводзілі яго да той самай снараднай ямы, што была недалёка ад разбітага нямецкага грузавіка і якую ён палічыў не так даўно бомбавай варонкай. Тут развіталіся. Бацька, цяжка абхапіўшы сына, усё ж не вытрымаў і запытаўся:

— А цяпер куды?

— Пайду на ўсход. Буду дабірацца да сваёй арміі.

— Ну, як ведаеш, — сказаў ён, а ў самога пад вусамі блукала задаволеная ўсмешка.

Далей яны пайшлі ўтраіх — трэцяй была Гарпіна — па тым самым лузе, толькі не па той дарозе, а направа і ўбок. Тут Гарпіна перавезла іх на лодцы і сказала:

— Я цябе чакаць тут буду, Зося.

З братам яна развіталася не вельмі каб прыязна.

Яны пайшлі ўдвух.

Трава была не пакошаная і на ўзгорках пабурэла на сонцы. Варта было крануць ботам, як з яе асыпалася буйная раса. За лугамі сінеў лес. Там, за лесам, неспакойна барвавела неба. Усюды крычалі дзеркачы, пачыналі спяваць птушкі. Часам грымела, але тут гэта нагадвала чамусьці толькі навальнічныя грымоты і наганяла сон. Недалёка ад лесу пэўна мясцовы ляснік выкасіў ладную дзялянку, і Чыжык з Зосяй селі пад капу.

— Ну, во, на гэтым канчаецца наша жыццё, — сказаў ён і засмяяўся. — Цяпер ты прыстроеная і я спакойны. З Гарпінай дружы, яна— нядрэнны чалавек.

— У вас усе людзі добрыя, — адгукнулася Зося.

— Твая праўда, — згадзіўся Чыжык. — Толькі людзі ўсякія бываюць.

Зося згадзілася і заківала галавою.

І ад таго, што іхнія думкі заўсёды як бы супадаюць, што і яна і ён — гэта нешта як бы адно, Чыжыку стала балюча.

Ён прашаптаў:

— Ты мяне чакай. Я абавязкова вярнуся.

— Беражы сябе, —прашаптала яна.

Разгаралася раніца. Луг, Дняпро ззаду, капа, водбліскі зарава на траве і яны ўдваіх — гэта была частка вялікага неабдымнага свету. Дробная частачка. Як у лесе ў кожнай птушкі існавала сваё жыццё, так і ў іх існавала цяпер сваё асабістае жыццё. Развітваліся яны доўга, балюча...

— Дай яшчэ раз абдыму, — казала Зося. — Ты ж такі харошы. Пачакай яшчэ, не ідзі. Беражы сябе. Ты ж сам казаў, што берагчы сябе трэба.

— Ага, ага... — згаджаўся Чыжык.

Яму сорамна было цяпер за нядаўнюю сваю рэўнасць. Але калі ён пачынаў успамінаць усё больш падрабязна, сорам мінаў.

Ён ведаў, што Зося ўсім спадабалася — хіба ж можа чалавек з такой душою не спадабацца? — і радаваўся.

Узыходзіла сонца. У лесе, па ствалах дрэў, гулялі водбліскі, але луг быў яшчэ ў цяню. За лугам, на ўзгорку, узвышаўся сярод вёскі будынак



школы, і на яго бляшаным даху таксама ўспыхвала сонца. Над самай ракой радзеў туман. З нізін патыхала аерам. Увялае сена пахла, напамінаючы Чыжыку аб мінулым ужо леце. Хутка трэба б капаць бульбу, а тады пойдуць дажджы. І ён хінуў Зосю да сябе, бо ў ёй як бы было сабрана ўсё харахство зямлі, адчуванняў яе і сваіх уласных прыгожых мар. Але ж трэба было ісці, і ён закінуў сваю торбу за плечы. Абодва ўсміхнуліся — яна жаласліва, а ён бадзёра.

Ён думаў, што яна будзе плакаць, а яна рашыла перажываць усё мужна і толькі счарнела ўся. Ужо з лесу Чыжык яшчэ раз азірнуўся. Зося стаяла ўсё на тым жа месцы насупраць капы і пазірала яму ўслед. Правай рукою ён сарваў з галавы кепку і памахаў ёю над галавой. Зося зрабіла крок наперад, потым закусіла рог хусткі і пачала яшчэ пільней углядацца, а Чыжык пайшоў.

Ён ішоў і думаў, што добра было б вярнуцца з вайны з ордэнамі, пабудаваць свой дом, выгадаваць сваіх дзяцей і ўвесь час шанаваць Зосю. Хіба ў другі раз знойдзеш такую? Дзе там! Ну, наконт ордэнаў можна не думаць. Але ж вось ён неяк прадбачыў, што абавязкова зноў прыйдзе цэлы і непашкоджаны. Вунь з якіх боек выйшаў, кулі ўсяго абдрапалі, цэлай сцяною быў прысыпаны, суткамі не еў і не піў. А тут будзе лягчэй — болей прасторы. Галоўнае — дабрацца да сваіх.

Блізка пад паўдня ён завярнуў у лес, сеў і падсілкаваўся. Потым пайшоў наўпрост, па лагчыне, густа зарослай альшэўнікам. Мясціны былі знаёмыя, распытваць не трэба было, у зарасніках ён не баяўся, што сустрэне гітлераўцаў. Яны былі на вялікіх дарогах і там, дзе сушэй. Смутак па Зосі, напружанасць развітання як бы заціхалі. Чыжык увесь час спакайнеў, паглядаў усё больш бадзёра. Цяпер ён ужо не адчуваў за сабой якой-небудзь віны. Ноччу спаў у напалову разбуранай даўняй смалакурні, і палкавы камісар больш не сніўся.

Раніцаю ён зноў пайшоў, але цяпер больш асцярожна, бо наперадзе





ўвесь час гуло і грымела. Потым ён пачуў блізка трэск ламачча ў кустах і кінуўся ў густы нізкі ельнік. З кустоў выбіраўся чалавек. Быў ён у падранай чырвонаармейскай форме, але без пятліц і на галаве не было пілоткі. У правай руцэ ўчэпіста трымаў сукаватую важкую ламачыну. На худым, счарнелым твары ад зморанасці ўвесь час закатваліся пад лоб вочы. Чыжык адразу здагадаўся, што гэта такі ж, як і ён. Але ён марудзіў. Пачакаў, прыслухоўваючыся. Чырвонаармеец гэтак сама стаяў і прыслухоўваўся. Тады Чыжык, кашлянуўшы, выйшаў насустрач. Чырвонаармеец замахнуўся ламачынай.

— Ты што — здурнеў? — спакойна сказаў Чыжык, адступаючыся, але на ўсякі выпадак сціскаючы нож у кішэні. — Сам во таксама з акружэння і гэтакім жа макарам выбіраўся. Пераапрануўся толькі.

— Куды?

— Да арміі, куды ж. А ты хто — акружэнец?

— Але, акружэнец, — сказаў чырвонаармеец, апускаючы ламачыну.— Нас было многа. Ішлі таксама да сваіх. Толькі прайсці, брат, нельга. Там у яго столькі сілы, што і іголку не працягнеш. Дарэмна ідзеш, вяртайся.

Чыжык памаўчаў, разважаючы.

— Дык куды ж ты цяпер? — запытаўся нарэшце ён.

— А і сам не ведаю, куды, — адказаў той. — Во хіба знайду якую ціхую вёску ды прыстану да якой удавы ці салдаткі. Яны не чапаюць, калі жанаты. Яшчэ і хваляць — гут, кажуць, жыві.

— А ты адкуль ведаеш? — насупіўся Чыжык.

— Расказвалі, — няпэўна адказаў чырвонаармеец.

— «Расказвалі», — передражніў Чыжык. — Расказваць усякае могуць. Заварочвайся ды пойдзем удваіх. Пабачыш — прабярэмся. Ты з якога палка?

Чырвонаармеец памарудзіў, збіраючыся з думкамі, відаць, не адважваючыся незнаёмцу паведаміць нумар часці.

— Ладна, не трэба, — махнуў Чыжык рукою. — Не гавары. Дык удваіх пойдзем, ці што?

— Не прабярэмся, — выдыхнуў чырвонаармеец. — Ні за што не прабярэмся. У нас аўтаматы былі і то не прабіліся.

— А дзе ж твая зброя? — запытаўся Чыжык.

— Дык навошта яна, калі без патронаў. Толькі нашкодзіць, калі выпадкам трапішся. Ты часам не тутэйшы?

— Не, — адказаў Чыжык. — Гэта я выпадкам касцюм знайшоў, бо абмундзіраванне маё яшчэ горшае за тваё было.

— Дык заварочвай. Удвух весялей будзе. Пойдзем у тую вёску, папросімся да якіх баб — яны цяпер, д'яблы, будуць падкія да мужчын. А пасля відаць будзе, як і што. Га?

Чыжыку міжвольна прыгадалася Зося — заўсёды паслужлівая, падатлівая. Непакоіла, што дарэмна, прайшоўшы шмат кіламетраў, давядзецца вяртацца пасля, як во гэтаму чырвонаармейцу. А тут, у тыле, можна будзе арганізаваць пасля і партызанскі атрад.

Сумненне апякло яго. У такі час ды сядзець дома? І ён адмоўна закруціў галавой.

— Я, дружа, к фронту пайду. А ты — як хочаш. Толькі скажу табе шчыра — не можа быць такога, каб нельга было прайсці. Трэба толькі настояць на сваім. Не пашанцавала раз, то ў другі пашанцуе. Там, за Добрушам, пачынаюцца лясы. Балотамі якімі пралезу.

— У яго, брат, суцэльны там фронт, — уздыхнуў сустрэчны. — Усё танкі, браневікі. Пяхоты зусім не відаць — на машынах.

— Гм! — гмыкнуў Чыжык. — Хай сабе! Пайду!

І пакрочыў у гушчар, абыходзячы незнаёмца. Ужо як адышоў на колькі гоняў, пачуў ззаду сябе слабы крык:

— Дружа, а дружа! Можа ў цябе кавалак хлеба ёсць? Двое сутак не еў.

Чыжык спыніўся. Злосць, а найбольш крыўда распякалі яго. Ідзе ў той бок, адкуль ідзе ён, Чыжык, які пакінуў для гэтага бацькоў, маладую жонку, і яшчэ просіць есці.

— Да баб прыстрайвайся! — што моцы гукнуў Чыжык. — Яны, небаракі, падкормяць!

— А вёска блізка? — данеслася з-за кустоў, бо, відаць, чырвонаармеец успрыняў яго словы ўсур'ёз. — Чакай, раскажы, дзе вёска, — і пад яго нагамі зноў забрынчэла ламачча.

Чыжык сарваўся з месца і нырнуў у хмызняк.

«Хто яго ведае, што там у яго ў галаве», — разважаў ён.

...Праз дзень фронт ужо грымеў на ўсе застаўкі. У небе ўвесь час гулі самалёты. Часам нават і ў далёкія лагчыны залятаў лязгат гітлераўскіх танкаў. Чыжык здагадваўся, што блізка дарога і паварочваў убок. Іншым разам хацелася падабрацца бліжэй, пасачыць. Тут, з лесу, можна было кінуць і гранату пад гусеніцы, ды толькі дзе ж яе возьмеш. Чыжык амаль спыняўся ў замяшанні. Авалодваў той жа настрой, які быў там, у крэпасці. Сустрэчны чырвонаармеец пачаў забывацца. Грукат вайны ўзбадзёрваў Чыжыка. Як перад Зосяй ён быў упэўнены, што вернецца жывы, быццам нават прадбачыў гэта, так і тут пачынаў прадбачыць, што пяройдзе фронт. Галоўнае было выбраць правільны напрамак. Лепш за ўсё гэта павінны ведаць мясцовыя жыхары.

Ноччу Чыжык забраўся ў кусты, даўшы сам сабе слова, што заўтра ж выб'ецца да якога-небудзь паселішча. Было халаднавата. Чыжык драмаў седзячы. Уверсе глуха шумелі сосны. Сярод начы ён раптам убачыў агонь наперадзе. Вогнішча было раскладзена пэўна ў яме, водбліскі скакалі па камлях дрэў. Мільгалі цені, узблісквалі штыкі.

Чыжык напружыўся. Няўжо свае? Але магло быць і так, што гэта былі немцы. Які-небудзь вартавы пост замёрз і па неахайнасці расклаў вогнішча. На кароткі час, каб толькі трохі сагрэцца. Вогнішча і сапраўды хутка затухла. Чыжык не мог так адсюль пайсці. Калі гэта былі свае, дык яны яму патрэбны. Калі немцы — дык яму патрэбна была цяпер іхняя зброя. Не ісці ж яму з голымі рукамі да варожых акопаў.

Чыжык дачакаўся блізкага золаку і пачаў асцярожна паўзці наперад, сціскаючы ў руцэ нож. Пад адной з ялін ён прыкмеціў цень чалавека.

«Ага, гэта ў іх вартавы», — сказаў сам сабе Чыжык і яшчэ больш стаіўся.

Вартавы драмаў, стуліўшы галаву ў калені, і вызначыць, хто ён — немец ці наш, было цяжка. Вінтоўка тырчэла між ног.



«Перш за ўсё трэба вырваць вінтоўку, — разважаў Чыжык, — а тады ўжо зблізку будзе відаць, хто ён такі».

Чыжык лёгка прапоўз якіх дзесятак крокаў і стаіўся за вялікім пнём. Адсюль ён нейкі момант пільна разглядаў сваю ахвяру, думаючы, між іншым, што добра было б і зусім звесці гэтага вартавога, калі толькі ён вораг. Але як? Прыгразіць штыком, паказаць знак рукою, каб маўчаў. Не, усё роўна паспее крыкнуць. Усё роўна давядзецца заблытваць свае сляды па кустах. У цемені трасцу пацэляць, дый яны ж спяць, калі выставілі вартавога.

У яміне пачуліся галасы. Вартавы ўздрыгнуў і выпрастаўся. Ад яміны ў яго бок рухалася цень, бразгаючы рэмнем вінтоўкі. Чыжык як не ўціснуўся ў зямлю. Ён нават схаваў галаву за пнём, слухаючы. І як не ўскрыкнуў ад радасці. З-пад яліны пачуўся хрыпаты прастуджаны голас:

— Не сон, а адно мучэнне. Хоць бы дзяругу якую дастаць — усё цяплей было б. Гэты Саўчанка, д'ябла, усё гне сваё — не выходзь на дарогу. А я ўжо і смажанінай з гітлераўскай кухні разжыўся б. Двум тым кухарам па кулі б — во табе і ежа. А там у іх коўдры былі — сам бачыў, калі наглядаў. Бач, нявыгадна! Не страляй, бо якраз тут перадавая. А яны вазьмі дый махані за дзень кіламетраў на дваццаць. Цяпер даганяй. Ну, як, — нічога не чутно, усё спакойна?

— Усё, — адказаў з-пад яліны вартавы.

— Не ўсё, — адгукнуўся тады з-пад пня Чыжык. — Я яшчэ тут.

Цені адбегліся, закляцалі затворамі. Ляглі.

Глуха шумеў лес уверсе. Пахла мохам, грыбамі, спарахнелым дрэвам. Сыпалася раса. Было холадна, і чамусьці стала страшнавата.

— Не страляйце — свой, — падаў голас Чыжык. — Вы хто, — акружэнцы?

Наперадзе пашапталіся, гукнулі:

— Акружэнцы.

— Да сваіх дабіраецеся?

— А табе што?

— Чуў, што да сваіх. Мы таксама. Нас тут ззаду група, — на ўсякі выпадак зманіў Чыжык. — Мяне паслалі выведаць. Так што не страляйце. Калі б мы вас хацелі знішчыць, дык знішчылі б, калі вы раскладалі вогнішча. Падпусціце — пагаворым, пазнаёмімся.

Тады зноў зашапталіся, і, нарэшце, той голас, які нядаўна буркліва скардзіўся на нейкага Саўчанку, сказаў:

— Выходзь.

— А страляць не будзеце?

— Калі адзін — не будзем.

— Ладна! — махнуў Чыжык рукою. — Апрануты я ў цывільнае, так што не дзівіцеся.

— Мы і самі хто ў чым, — пачулася ў адказ.

— Ісці са зброяй ці без зброі?

— Без зброі.

Чыжык падняўся з-за пня. Падумалася: лепш было б дачакацца да раніцы ды прыгледзецца, ці мала ўсякіх людзей можа цяпер бадзяцца па лясах. Дзе-нідзе і з турмаў паўцякалі. К немцам не падаліся, але і да сваіх не прысталі. Усё гарачка праклятая. Толькі адступаць цяпер было позна. Канешне, гэта свае. Дзе там да такога злачынцам.

— Угавор, — сказаў ён на ўсякі выпадак. — Калі што якое — па вас адкрыюць агонь.

— Ладна, — незадаволена прагучаў хрыпаты голас. — Свае ў сваіх не страляюць, свае сваіх не б'юць. Вунь немец кроў смокча, а ён...

Двое паволі падняліся з зямлі. Падышлі. Абодва былі ў зашмальцаванай чырвонаармейскай форме. Насцярожана трымалі вінтоўкі.

— Ну ж і вартуюць у вас, — сказаў Чыжык. — Я за вашым вартавым з паўгадзіны сачыў. Чырвонаармейскія кніжкі ёсць?

— Ёсць, — адказаў хрыпатым голасам адзін з дваіх. — У мяне захавалася. А вы адкуль ідзяцё?

— З граніцы. А вы?

— І мы таксама. З Беластоку.

Чыжык назваў сваё месца.

Утраіх зайшлі ў яміну. Хрыпаты выцягнуў аднекуль з-пад падэшвы дакумент. Падзьмулі на сухую яловую галіну. Успыхнуў агонь. Чыжык убачыў зарослыя шчаціннем, змардаваныя твары. На галовах — пілоткі, на каўнярах пяхотныя пятліцы. У руках была сапраўдная чырвонаармейская кніжка з пячаткаю на імя Бабарыкі Ігната Барысавіча. Тады Чыжык дастаў з халявы сваю.

Твары яснелі, лагаднелі.

— Хлопцы, свой! — гукнуў Бабарыка. — Не вешайце насоў, чэрці. Цяпер лягчэй будзе.

— Колькі вас? — запытаўся Чыжык.

— Дванаццаць, — адказаў Бабарыка. — Быў трынаццаты — Дзямід Бондар — ды тры дні назад прапаў.

— Як гэта прапаў? — здзівіўся Чыжык.

— А так і прапаў. Прадзіраліся хмызнякамі. Выбраліся ў лес, а яго няма. Па праўдзе сказаць, дык і самі не ведаем добра, прапаў ён у тых хмызняках ці раней, бо трапілі мы тады ў такое балота, што ледзь выбраліся. І тое: каб ён тануў, дык крыкнуў бы.

— З бялёсымі вачыма і ўвесь час падкатвае іх пад лоб?

— Во-во, — падхапіў Бабарыка.

— І на левай шчацэ стары рубец.

— А што, вы яго бачылі?

— Ну, дык непакоіцца вам нечага, — злосна сказаў Чыжык. — Падаўся ваш трынаццаты ў вёску. Ён мне ў лесе сустрэўся. Так і сказаў: пайду ў якую вёску, да бабы прыстроюся. І мяне ўгаворваў — усё роўна, кажа, перайсці фронт немагчыма.

— Ну, бачыш, Саўчанка, — павярнуўся Бабарыка да напарніка. — Я ж табе казаў: нездарма ён усё плявузгаў, што цяжка.

Саўчанка, ніжэйшы, чымся Бабарыка, махнуў рукой.

— Ліха яго бяры. Там таксама не дурні, — і запытаўся: — А вас колькі? Гукні сваіх!

Чыжык сумеўся. Кашлянуў.

— Во што, хлопцы, — прызнаўся ён. — Я буду ў вас трынаццаты. Я — адзін.

— Адзін? — расчаравана працягнуў Бабарыка.

— Адзін, — зноў сцвердзіў Чыжык. — І зброі, брат, у мяне няма. Усё гэта ваенная хітрасць. А вы і паверылі...

— Та-ак! — мнагазначна працягнуў Саўчанка. — А я ўжо ўзрадаваўся — вялікай групай прарывацца лягчэй. А гэта што ў цябе? — і тыцнуў рукой за спіну.

— Мех, — адзначыў Чыжык. — А ў мяху — харчы. Кліч сваіх хлопцаў — хай падсілкуюцца. Вы ж, пэўна, галодныя?

— А то як жа, — сказаў Бабарыка.

— Толькі варту, дружкі вы мае, пакіньце. Вартавога пасля накормім.

Сядзеў пасля, пазіраў, як людзі елі сала.



## Ой, туманы мае, растуманы!

Усе дванаццаць былі з розных часцей. Былі двое з танкавых, да арміі — трактарысты, з пяхоты, з артылерыі, не было толькі з авіяцыі. Трактарысты абодва былі сяржанты. Старэйшы — Рыгор, уралец, быў высокі, касцісты, з запалым даўгаватым тварам; маладзейшы — Даніла — наадварот, меў вельмі малы рост, танклявы голас. Танкі іхнія разбіла варожая авіяцыя яшчэ ў гарнізоне. Нейкі час яны адстрэльваліся з вінтовак, а як убачылі, што іх акружаюць, адышлі. Так увесь час і ішлі, адбіваючыся, пакуль не давялося і зусім хавацца. Хоць і з розных часцей, а трымаліся адной дружнай групай. Да Гомельшчыны дайшло іх толькі трынаццаць. Рэшта палягла на палях пад Баранавічамі, пад Мінскам, ля Бабруйска. Трынаццаты, Дзямід Бондар, родам аднекуль з Беларусі, як і ўсе, хадзіў у атакі, як і ўсе, гарэў жаданнем вырвацца да арміі і толькі ў апошні час пачаў нездаволена бурчэць, падымаўся з начлежак неахвотна і во — раптам зусім кінуў. Пайшоў адседжвацца дадому або і сапраўды да якой бабы: маўляў, пры пераходзе фронта могуць і забіць, часці свае ўжо ўсё роўна няма, дык чаго лезці на ражон — лепш счакаць. А там... А там можна будзе і ў партызаны падацца, калі толькі яны арганізуюцца — хіба ж ён супраць?

Саўчанка быў тэхнік-інтэндант другога рангу, і таму па старшынству яму ўсе падначальваліся.

Прабіраючыся лясамі, яны апошнія трое сутак амаль нічога не елі, а хлеб бачылі толькі тыдзень назад. Можна было б што-небудзь здабыць у немцаў, але Саўчанка баяўся выяўляць сябе ў прыфрантавой паласе. З-за гэтага ў яго з Бабарыкам заўсёды пачыналіся спрэчкі.

Світала. Чыжык абыякава пазіраў, як з'ядаюць рэшткі яго запасаў. Ён найбольш дзівіўся на схуднелыя твары новых сяброў, на абтрапанае, бруднае адзенне, на абутак, з-пад падэшваў якога відаць былі босыя ногі, — і павага і гонар да іх напаўнялі яго душу. І чым больш во так ён сядзеў моўчкі, тым больш узнікала ў яго спачуванне. Нарэшце, усё ўзважыўшы, ён запытаўся:

— Патронаў шмат?

— Па абойме, — прахрып Бабарыка.

— А гранат?

— Больш нічога няма.

— Ну, дык тады слухайце мяне, — сказаў Чыжык. — Я быў у пераплётах яшчэ горшых, чым вашы. (Тут Чыжыку яшчэ раз давялося падняць кашулю і паказаць усім скрозь спаласаванае цела.) Там такое было, што і ўспамінаць не хочацца. Фронта нам во так не перайсці. Патрэбны ну хоць бы пяць-шэсць аўтаматаў, патроны і гранаты. Трэба і самім падкарміцца, адпачыць. Усё можна ўзяць у немцаў. Яны тут не вельмі каб пільныя. Чэснае слова, каб у мяне былі гранаты, я адзін падарваў бы не адзін іхні танк, а адбіць ад абозу якіх два-тры грузавікі — зусім лёгка. Ну, падумайце самі: як жа так пайсці, калі рукі свярбяць. Тут побач ідзе вораг, а мы туляемся. Тут толькі з лесу даць залп, дык адразу паніка. Пакуль яны там адумаюцца, мы чорт ведама дзе будзем — паспрабуй знайсці во па такіх кустах! А танкі? Ідуць на фронт. Ну, як прапусціць такое? Як ісці, не скарыстаўшы такога выпадку. Партызаншчыну — ну яе, я пра яе і не думаю, няма ў нас на гэта камандзірскага загаду — аднак жа дурні мы будзем, калі не ўдарым па іх колькі разоў. Во пабачыце — і людзі знойдуцца, сустракаў я па дарозе нямала акружэнцаў. А вялікай групай прабірацца, канешне, лягчэй.

— Во, так і я казаў, — адгукнуўся Бабарыка. — Паўз нас немцы вязуць каўбасы ды адзенне, а мы ўжо і на людзей не падобны. Ды і зброя і адпачынак патрэбны.

Танкісты згодна заківалі галовамі, буркнулі:

— Каб во не ён — Саўчанка...

Чыжык пазіраў на Саўчанку непрыязна. Гэты чалавек з абпаленым, нервовым тварам не падабаўся яму.

Зноў паляглі спаць. Але Саўчанка не спаў. Варочаўся, уздыхаў, нарэшце падхапіўся, адмахваючыся ад камароў, сказаў:

— Надакучылі вы мне сваімі размовамі. Хоць няма маёй згоды, а скажу так: рабіце як хочаце.

Усе заварочаліся, некаторыя пачалі падымацца. Аказалася, што ніхто і не спаў.

— Хе... — бадзёра адгукнуўся Бабарыка. — Усе разам як-небудзь разбярэмся. Не ўпершыню.

— Я такога загаду не даю, не згодны, — зноў загаварыў Саўчанка. — Дэмаскіраваць сябе ва ўмовах прыфрантавой паласы — гэта значыць, пайсці на смерць. Мы павінны прайсці нябачна, ціха, і абоймы на чырвонаармейца для гэтага зусім дастаткова. Калі і мала, дык і тады няма выгады дэмаскіраваць сябе.

— Таварыш тэхнік-інтэндант, — не сцярпеў Чыжык. — Ну, як жа так прайсці, калі побач такое. Душа не вытрымлівае! А наконт дэмаскіроўкі — не турбуйцеся: ім не да нас. Ад граніцы да Гомельшчыны на іх нападалі можа сотні разоў. Нападалі і знікалі. Так і мы зробім.

— Ваша справа, — сказаў Саўчанка і пачаў згортваць цыгарку.

Рукі ў яго трэсліся.

Чыжык павесялеў. Ён загаварыў горача пра тое, як яны нападуць на гітлераўцаў, кіем малюючы ў яме на пяску дарогу і лес. Трэба біць па канцу, па хваставых машынах. Пакуль пярэднія спахопяцца — захапіць усё, што трэба, і знікнуць.

— Давай сваю торбу, — рашуча патрабаваў Бабарыка. — З'ямо ўсё, а абедаць будзем трафеямі.

Усё, што заставалася — паўколца каўбасы, сала, цыбуля, соль і хлеб было выкладзена на траву і падзелена на трынаццаць роўных частак. Дзяліў Саўчанка.

— Пасля гэтага паспім якую гадзіну, — сказаў ён.

Чыжыку цяпер падабаліся ўсе, нават і гэты самы Саўчанка.

Саўчанка адразу неяк абмяк, запалыя, пачырванелыя ад бессані яго вочы сталі яшчэ больш безуважлівымі і панылымі. Ён быў родам з Саратаўскай вобласці і цяпер употай, відаць, думаў, што ўсе гэтыя людзі, якія сабраліся вакол яго — і Бабарыка, і Чыжык, і той баец, што пайшоў, і іншыя адзінаццаць найбольш родам з Гомельшчыны і Браншчыны — хочуць проста затрымацца ля родных сваіх месц. Аднак відаць было, што гэты яго настрой нетрывалы, што ён выкліканы незадаволенасцю прынятым рашэннем, што гэта кароткая ўспышка схаванага ад усіх гневу. Апрача таго, як тэхніку-інтэнданту другога рангу, яму непрыемна было падначальвацца тым, хто яшчэ не так даўно не мог яму пярэчыць. Вайна і гэтыя неверагодныя абставіны, у якіх ён апынуўся, увачавідкі пачыналі сціраць розніцу між ім і радавым чырвонаармейцам, а разам з тым губляліся і ўсе тыя выгады, якія ён, як камандзір, меў. Яго суцяшала толькі думка, што ён усё ж не страявы камандзір, а гаспадарчы. Разам з тым Саўчанка, які паспеў скончыць і тэхнікум і ваеннае вучылішча, добра і разумеў і адчуваў, што ў жыцці яго, як і ў жыцці многіх падобных яму, цяпер адбываецца вельмі важная падзея: ён, магчыма, саступае месца іншым, больш здольным і больш рашучым. Хоць ён быў і ўпэўнены, што рашэнне ягонай групы неразумнае, аднак за час адыходу ад заходняй граніцы не мог не заўважыць шматлікіх выпадкаў, калі радавы баец або сержант камандаваў батальёнам або ротай. Ён ужо тады задумваўся над гэтым, прыпамінаючы падобныя выпадкі з часоў белафінскай кампаніі. Як чалавек, які раз і назаўсёды вырашыў звязаць усё сваё жыццё з арміяй, ён пачаў улічваць усё гэта і напорыста вёў сваю групу на ўсход, праяўляючы пры гэтым нямала і кемлівасці і хітрасці. І вось тут, ужо ля самай лініі фронта, яму раптам пачалі пярэчыць. Калі б гэта былі людзі, якія наўмысля не хочуць рухацца далей, Саўчанка ведаў бы, як з імі размаўляць. Ён паспрабаваў бы сагітаваць іх, а калі б гэта не ўдалося, пакінуў бы іх. Аднак ён добра ведаў, што гэта не такія людзі. Адзіным выключэннем з усіх іх быў і застаўся Бондар. Больш такіх не было. За некалькі кіламетраў адсюль былі ўжо свае, і Саўчанка рашыў ні ў што не ўблытвацца, прадаставіўшы падзеям самім вырашыць іхні лёс.

Ён сядзеў у яміне, абыякава пазіраючы на іх, слухаючы сумны шум лесу, часам бездапаможна перабіраючы пальцамі металічныя гузікі на гімнасцёрцы. Аднак у самы разгар спрэчкі ён не вытрымаў і сказаў:

— Па-мойму, трэба шукаць надзейнага чалавека, які ведаў бы гэтыя мясціны. Карты няма, і нападаць усляпую рызыкоўна.

— А навошта яго шукаць, — адразу адгукнуўся Чыжык, — калі я прыблізна ўсё тут ведаю.

Чыжык ухапіў пруток і пачаў чарціць ім па пяску пад сваімі нагамі.

— Во тут, зірніце, Гомель. Мы яго абышлі. Гэты лес цягнецца ад Гомеля да Навазыбкава. Мы прыблізна на сярэдзіне лесу. Дарога ад Гомеля на Навазыбкаў во тут, прыблізна справа.

— Прыблізна, — буркнуў Саўчанка. — Ты кажы больш дакладна. На вайне не можа быць прыблізна.

— А мы не ў школьным класе і не ў акадэміі, — у тон яму адказаў Чыжык, успомніўшы кінафільм «Чапаеў». — Цыркулем мераць няма чаго. Немцы дзе? На дарозе. А дарога во ў гэтым баку, на поўдні. Значыць, туды і трэба ісці. І адыходзіць трэба не на той бок дарогі, а на гэты, бо з таго боку чыгунка, і немцы будуць яе ахоўваць.

Саўчанка згодна заківаў галавой, па-ранейшаму без усякага захаплення. Засяроджаны на сваім, ён бачыў далей. Ён бачыў, як настойліва пакідае яго ўлада камандзіра, і адчуваць гэта было балюча. Аднак ён і не зусім быў упэўнены ў сваіх думках, бо і патроны, і харчы, і абутак сапраўды патрэбны былі, дый і нельга было спрачацца — хіба ж ён быў супраць таго, каб «пашкумутаць» немцаў? Разам з тым ён ужо загадзя страшэнна ўзненавідзеў партызаншчыну. За час адыходу ён не раз быў сведкаю, як людзі адбіваліся ад гурту, ледзь толькі траплялі ў свае або знаёмыя мясціны. І яму вельмі не хацелася, каб і яго група, хоць і на кароткі час, а ступіла на тую ж дарогу.

Так ці інакш, а даводзілася згаджацца.

Туман рассейваўся ў лесе. Выбліснула сонца між дрэў, асвяціўшы гурбу пажоўклага лісця. Лісце і яшчэ сыпалася з бярозы і клёнаў, што акружалі яе. Рабілася цяплей, і далёкі гул матораў у небе толькі нагадваў грымоты навальніц, даўно і назаўсёды, здавалася, страчаныя. Ад гэтага было і прыкра і сумна. Раптам наляцелі ўспаміны пра Зосю, наляцелі і запаланілі ўсё сэрца, усю душу. Чыжык схіліў галаву, адчуўшы на вачах слёзы. Па гэтых сваіх слязах ён раптам адчуў, якое ён усё ж, па сутнасці, яшчэ дзіця, яшчэ юнак, яшчэ нясталы чалавек, яшчэ падростак ці што. Гэта былі зусім не новыя адчуванні, яны ўзнікалі заўсёды, калі ён бачыў, што ёсць нейкі зрух і сам ён сталее.

Лісце шамацела, падаючы. Свяціла сонца, пахла грыбамі. Раптам успомніўся палкавы камісар — тое, пра што нікому не гаворана. Захацелася расказаць, але і на гэты раз ён стрымаўся. Цяжка.

Бабарыка ды і іншыя кляцалі затворамі, аглядаючы патронныя магазіны. Саўчанка крутануў барабан нагана, засмучона цмокнуў языком. Барабан быў амаль пусты. Падумаў, паморшчыўся, нехаця пакорпаўся ў сваёй камандзірскай сумцы, якая вісела на баку, і раптам рашуча дастаў гранату, сунуў яе Чыжыку.

— На. Ты ж павядзеш. Як дзейнічаць — ведаеш?

Чыжык, успомніўшы баі ў крэпасці, толькі хмыкнуў. Паклаў гранату ў кішэню, пачаў выбірацца з ямы.

— Пайшлі, — толькі коратка сказаў ён.

За ім выбраўся Саўчанка, потым Бабарыка, потым іншыя.

Вайна — вялікае няшчасце. Аднак Чыжык, ведучы цяпер групу да дарогі, наперакор усяму адчуваў, што ён любіць ваяваць. Пасля стольkіх дзён перапынку ён радаваўся, што зноў ідзе на сапраўднае баявое заданне і што ў яго кішэні сапраўдная баявая граната. Яму ўжо вельмі падабаўся Саўчанка, які даў гэтую гранату і які не так даўно здаваўся пустым чалавекам. Можа быць яго, Чыжыка, зусім і не стане ў гэтай хуткай бойцы, аднак ён радаваўся ёй і той небяспецы, якую трэба будзе перажыць. Проста нават незразумела было, як гэта той Бондар, да якога цяпер ён чамусьці не меў ніякай злосці, не можа адчуваць такога? Хіба ж не тое было і там, у крэпасці? Хіба ж не лез ён часам толькі з-за гэтага ў самае небяспечнае месца, з радасцю пасля зазначаючы сам сабе, што жывы. Хіба і не таму капаў ён сабе выхад з завалу і не таму пакінуў Зосю і родны дом? І... ці не таму адчувае ён такую схільнасць да Саўчанкі, быццам гэта самы блізкі для яго чалавек? Раней ён не задумваўся над усім гэтым, а цяпер, пад шум лесу, усё стала акрэсленым і ясным.

І пазней, калі ляжаў у кювеце, а грузавікі набліжаліся па дарозе, Чыжык, дыхаючы пахамі восені, таксама адчуваў, што любіць ваяваць. Дый і няк немагчыма было ўявіць сябе недзе па-за гэтым кюветам і далёка ад гэтага гулу, што ўвесь час робіцца яснейшы і гразнейшы, а сэрца пачынае біцца ўсё больш неспакойна і ўзбуджана. Хвіліны напружанага чакання... Рука мацней сціскае адзіную гранату, гатовая ў любую хвіліну кінуць яе ў самую гушчыню ворагаў, у гэтым месцы лес — адно куп'е ды хмызняк і дарога відаць далёка і справа і злева. Грузавікі ідуць адзін за адным — іх каля дзесятка. У кожным кузаве па два салдаты ў касках і з аўтаматамі.

Чыжык мацней уціскаецца ў зямлю. Уважліва сочыць з-за куста за машынамі. Вось з ім пярэдняя параўнялася. У яе кузаве нейкі груз, на якім і сядзяць салдаты, пахмура паглядаючы на няветлівы лес. Шыны колаў, ды і сам кузаў запыленыя. За гэтай — другая, потым трэцяя.



Чыжык яшчэ больш напружана ўглядаецца ў хвост калоны. Нарэшце, застаюцца толькі дзве машыны — самыя канцавыя. Чыжык прыўзнімаецца, размахваецца і кідае гранату. Потым ён чуе кароткі ўскрык і ўслед за ім адзін і другі выбух. Грымяць з кустоў таропкія стрэлы. На дарозе — два вялікія вогнішчы. Па дарозе бегае гітлеравец, забыўшыся на аўтамат, што вісіць папярок жывата. Чыжык збівае яго ўдарам кулака. Зрывае аўтамат. Потым выпускае ўсю чаргу па машынах, што на поўным хаду, адстрэльваючыся, уцякаюць.

Аднак да машын нельга падступіцца. Полымя ўсё больш ахоплівае іх. Займаецца брызент, якім накрыты груз. Непрыемна пахне гарэлай гумай. Чыжык, ухапіўшы доўгую ламачыну, усё ж паспявае сарваць брызент на першай машыне. Пад імі скрыні з чужой маркіроўкай. Саўчанка, які падбягае ў гэты час, раптам крычыць не сваім голасам:

— Ратуйцеся, хлопцы, — боепрыпасы!

Чыжык, як і ўсе, зноў кідаецца ў кювет. І ў той жа час глухі выбух скаланае наваколле. Саўчанка цяжка валіцца на зямлю, ухапіўшыся рукою за паясніцу.

На дарозе доўгі час яшчэ ўзрываюцца патроны. Чыжык падпаўзае да Саўчанкі. У таго гімнасцёрка ў крыві. І, як заўсёды ў падобных выпадках, напалоханы ранены храпе збялелымі вуснамі:

— Бяры ўсё камандаванне на сябе. Чуеш — я загадваю. Вядзі групу, бо хутка сюды наляцяць...

Чыжыку і самому хочацца цяпер пайсці адсюль. Але ён авалодвае сабой, ірве торбу на часткі і пачынае бінтаваць Саўчанку, закінуўшы яму на плечы гімнасцёрку. Рана не вельмі страшная, але многа крыві.

Што-нішто ўсё ж застаецца і пасля выбуху. У кустах яны знаходзяць паўдзесятка аўтаматаў і разбітую скрыню з патронамі, якую выкінула з кузава.

У дзве споднія кашулі насыпаюць патроны. На дарозе ўжо чуцён новы гул.

Нарэшце Чыжык падхоплівае раненага Саўчанку і, трымаючы яго, як малое дзіця, падаецца ў лес. Ідзе шпарка, радуючыся, што ўсё адбылося не так ужо і дрэнна, і ў той жа час адчуваючы сорам перад Саўчанкам, які пацiху іншым разам стогне.

Лес робіцца ўсё гусцейшы. Ззаду, на дарозе, раптам узгараецца страляніна, чутны крыкі. Але цяпер гэта не страшна. Група паспела адысці далёка, немцы ж у лес заходзіць пабаяцца. Дый у іх, відаць, іншае заданне. Там жа, наперадзе, фронт.

Пазней, лежачы на імху пад ялінаю, Саўчанка зноў хрыпіць:

— Камандаванне над групай перадаю яму, — і тыцкае пальцам у бок Чыжыка. — Ён там, на дарозе, вельмі добра дзейнічаў. Мяне пакіньце тут, бо адчуваю, што мая песня спета. А ўсёй групе загадваю зараз жа прабівацца на ўсход да сваіх. Усё! — і зморана заплюшчыў вочы.

— Як цябе ў лесе пакінуць? — узгараецца раптам Бабарыка. — Ці ты здурнеў? Калі ўжо на тое, дык мы цябе куды ў паселішча, у надзейныя рукі... Вылечаць.



Зноў Саўчанка раскрывае вочы, і на гэты раз у іх гарыць незнаёмая для іншых настойлівасць:

— Загад на вайне закон, — кажа ён. — Я вас вёў, я і перад смерцю за вас адказваю. Як пачне цямнець, каб рушылі.

— Вось табе і на... — шэпча Бабарыка, адступаючыся. — Пакінуць аднаго на верную смерць...

І ва ўсіх на зморaных тварах таксама разгубленасць. Кожнаму немагчыма нават і ўявіць такое. Адзін Чыжык загадкава паглядае на ўсіх.

— Ну, а ты што скажаш? — пытаецца ў яго Саўчанка.

— Я чалавек у вас новы, — перадыхнуўшы, кажа Чыжык. — Толькі скажу праўду: я пабачыў і не такое, як сёння. Камандзіра пакідаць нельга. Перанесці яго цераз лінію фронта таксама нельга. Але ж раней, чымся ён сказаў ісці, ён аддаў загад мне камандаваць. Побач рухаецца вораг, і яго добра можна біць з тылу. Тут яшчэ блізка многа дарог і вайна выгадная. Пакуль Саўчанка ачуняе, мы паспеем добра адпомсціць гітлераўцам.

Саўчанка доўга разглядае чырвонаармейцаў, што абступілі яго, зморана шэпча:

— Добра. Я цяпер ужо не камандзір. Піць...

Боль, відаць, падступіўся да яго.

І першы, і другі, і трэці налёты. У лесе з'явіліся зямлянкі, коні, павозкі, новыя людзі.

Восень была багатая грыбамі, апалым лісцем і — туманамі. Чыжык, налятаючы на нямецкія заслоны, на абозы, збіраў людзей. Ён усё яшчэ спадзяваўся перайсці пасля разам з усімі цераз лінію фронта да сваіх войск. Ён толькі чакаў для гэтага зручнага выпадку. Але баявыя справы ўвесь час затрымлівалі яго. Саўчанка паздаравеў, у нямецкім фрэнчы і галіфэ ён хадзіў па лясным лагеры, абапіраючыся на кіёчак. Ён яшчэ не мог удзельнічаць у баявых аперацыях і таму заняўся новай, найбольш блізкай і прыемнай яму справай: перабіраў і рабіў улік захопленага варожага дабра. Як і Чыжык, спадзеючыся, што ў хуткім часе прыдзецца пераходзіць да сваіх, ён грунтоўна перапісваў, што за кожны дзень зрабіла група: колькі было забіта гітлераўцаў, якія ўзяты ад іх дакументы — асабліва афіцэрскія, каб пасля, калі давядзецца адчытвацца за свае дзеянні, было відаць, што яны не туляліся па лясах дарэмна.

Вайна ўваходзіла ў звычай, гарачка першых дзён міналася, фронт рабіўся не такім хуткацечным, пачынала адчувацца, што на немцаў усё часцей находзіць дыхавіца. І разам з тым не так ужо надзейна можна было сядзець у лясах.

Група Чыжыка — больш сотні чырвонаармейцаў — жыла ўсё ж нядрэнна. І харчаванне, і вопратка, і абутак былі найбольш нямецкія, і асаблівай нястачы ва ўсім гэтым не было. Замест чырвоных зорак на шапкі пачалі нашываць чырвоныя стужкі.

Чыжык вельмі пахуднеў за гэты час, некалі бялёсы твар яго пачарнеў ад ветру і доўгага сядзення ля кастроў, губы патрэскаліся і распухлі. Галіцца не было калі, раслі чорная барада і вусы. Звычайна ноччу група ішла на баявую справу і вярталася раніцою. Удзень жа разведвалі, дзе і як рухаецца вораг і які ён. Чыжык увесь час быў у турботах. Упершыню на яго плечы неяк як бы сама сабой звалілася вялікая адказнасць камандаваць дзесяткамі людзей. Чыжык аднак не адчуваў з-за гэтага ні зморанасці, ні асаблівых цяжкасцей. Ён і сам не мог зразумець, адкуль усё гэта магло прыйсці колішняму хлапчуку з вёскі ля Дняпра, — толькі самыя, здавалася б, складаныя баявыя задачы ён вельмі хутка вырашаў правільна і трапна. І патроху да яго пачыналі звяртацца за парадамі нават і ў нязначных справах. Яго аўтарытэт стаў і рос, так што аднойчы пасля бяссоннай ночы — знішчылі тады нямецкі батальён у адной з вёсак — Саўчанка прыкульгаў да яго ў зямлянку, абапіраючыся на свой кіёчак, і далажыў:

— Я тут без твайго дазволу вяду ўлік трафеяў і страт ворага...

— Што ж, вядзі, — адказаў Чыжык. — Будзь як бы начальнікам штаба. Гэта таксама трэба.

Ужо даўно трэба было ісці далей на ўсход, але Чыжык марудзіў. Ды ці можна было ўрэшце ісці, калі тут так зручна нападаць на нямецкія калоны, што ўвесь час ішлі к фронту? Ніяк не мог Чыжык адарвацца ад такой справы. Не лічачы тэхнікі, яго група за якіх паўтара месяца знішчыла больш палка гітлераўцаў. Чыжык толькі пасмейваўся, праглядаючы запісы Саўчанкі. Турбавала яго толькі адно: яны дзейнічалі без чыйго-небудзь дазволу, нікому не падначаленыя. Чыжык рашыў звязацца са штабам фронта. Для гэтага ён выбраў Бабарыку. Сказаў, што і як там растлумачыць, і цішком ад усіх паслаў разам з адным чырвонаармейцам за лінію фронта.

Пачыналіся ўжо дажджы. Холадна і сыра было ў лесе. Часта снілася Зося. Засмучанымі вачыма пазірала на яго, нешта гаварыла незразумелае. Неспакойна білася ўстурбаванае сэрца. Што з ёю, як маецца? Што там у вёсцы і як жывуць бацька з маці, Гарпіна? А можа і не патурбавалі іх яшчэ гітлераўцы?

Думаць пра гэта не хацелася, бо выходзіла, быццам ён, Чыжык, у гэты цяжкі час больш непакоіцца аб сваіх, чымся аб агульнай справе. Толькі думкі ўсё роўна прыходзілі самі сабою.

А восень усё больш убіралася ў сілу. Ужо ўвесь лес быў голы. Няспынны дождж. На дарогах — гразь і вада. І раніцаю цяжкія сны і непраходныя, як і гэты лес, туманы.

### Зноў Зося

Дзе яна, Зося, што з ёю? Ці жывая, ці чакае яго? А можа і яе няма зусім, і вёскі няма, як і гэтай, з якой яны толькі што выехалі, пакінуўшы сярод абгарэлых двароў дзесяткі фашысцкіх трупаў.

Ноч. Дзьме вецер, несучы валуны яшчэ незляжалага снегу. Пад камандзірам партызанскай групы Чыжыкам ёкае селязёнкай рослы конь. Наперадзе чарнее яшчэ адзін коннік, то набліжаючыся, то аддаляючыся. Як ні аднекваўся Чыжык, а ўсё ж угаварыў Бабарыка ўзяць з сабою напарніка.

Мінуў тыдзень, як вярнуўся Бабарыка з-за лініі фронта. І не адзін. Разам з ім прыйшлі два радысты з перадатчыкам, батальённы камісар, а на другую ноч пасля таго, як звязаліся з Масквой, прыляцеў самалёт і скінуў цюкі з зімовым абмундзіраваннем. Цяпер група падначальвалася не толькі Маскве, а і падпольнаму абкому партыі. Заданні атрымлівалі па радыё, і ад іх выканання залежала многае. Цяпер група ішла на бліжэйшую чыгуначную станцыю — на тую станцыю, якую Чыжык добра ведаў яшчэ з самага маленства. Праходзілі блізка ад роднай вёскі, і вось Чыжык не вытрымаў. Ад сувязных даведаўся, што ў вёсцы гітлераўцаў няма, і парашыў завярнуць туды.

Ён ведаў, што гэта нядобра — адлучацца ад групы хоць бы і на якую гадзіну, але зрабіць інакай не мог. Наперадзе яго чакалі новыя бойкі, новыя заданні, і невядома было яшчэ, калі і ці выпадзе яшчэ

такое — ісці за якіх два кіламетры ад сваёй вёскі ў глухую, завірушлівую ноч.

Ён не сказаў Бабарыку пра жонку, сказаў толькі, што заверне да бацькоў на якую гадзіну, адчуваючы ніякаватасць. Ён наадрэз адмовіўся таксама і ад кавалерыйскага ўзвода, бо лічыў сябе нявартым такой увагі. Апрача Бабарыкі, ніхто не ведаў, што ён адлучаецца. Думаючы цяпер і над гэтым, Чыжык не вінаваціў сябе. Аднак жа і тут пачыналі з'яўляцца сумненні і тут ён пачынаў задумвацца: а ці добра ўсё ж гэта? «Добра», — адказваў ён сам сабе і адчуваў, што маніць, крывіць душою перад самім сабою.

Так ці інакш, а Чыжык цяпер камандзір групы і наперадзе, апрача іншых, бачыць ён вялікую задачу самавыхавання і самаперавыхавання і вялікія нябачныя перашкоды ўласнага росту. Тое, што было на захадзе, калі ён пазіраў на самога сябе, як на перадавую моладзь — адышло, стала пройдзеным этапам. Цяпер жыццё прымушала яго падняцца яшчэ на адну, вышэйшую, ступень, і зрабіць гэта трэба было абавязкова. Нездарма ж і батальённы камісар, які нядаўна прыйшоў у групу разам з Бабарыкам, і нават начштаба Саўчанка, не-не ды і неўпрыкмет падкладуць яму якую-небудзь брашурку або кніжку: чытай, Чыжык.

Дапраўды, цяжкая гэта ўсё ж справа — камандаваць групаю. Непазбежна трэба быць прыкладам для ўсіх выключна. А які з яго пакуль што прыклад?

І Чыжык уздыхаў. І з радасцю лавіў сябе на тым, што ўздыхае знарок, бо перашкоды ён умее перамагаць і пераможа.

Вецер дзьме ў твар, і наперадзе нічога не відаць, апроч конніка. Вакол ляжыць у цемрадзі зямля — родныя палі. Нідзе ні агеньчыка, ні жылля. Але Чыжык адчувае, што вёска блізка. Вось коні ўвайшлі ў лог, увесь занесены снегам. Дарогі таксама няма, коні ідуць па калені ў снезе. Зноў узгорак, і коннік прыпыняецца. Чыжык пад'язджае да яго.



— Наперадзе быццам будынкі! — праз скавытанне ветру даносяцца да Чыжыка словы байца.

Так і ёсць — вёска. Нешта як бы абрываецца ў Чыжыка ў сярэдзіне. Напорыста пачынае біцца сэрца пад армейскім кажушком. І як не слёзы на вачах з-за таго, што напружана і падазрона даводзіцца ўглядацца ў вуліцу свае ж вёскі. Коні ідуць марудна і амаль нячутна. За шматлікія баявыя пераходы яны ўжо навучыліся трымаць сябе. Нават не фыркаюць, бо даўно знаёмы ім непрыемны посвіст куль. Але — маўчаць двары. Вось ужо і школа, а вось і свая хата. Чыжыку здаецца, што ўсё гэта



ў сне. Ён саскоквае з каня, чапляе повад за агарожу і шпарка шыбае праз калітку. Баец застаецца на вуліцы, стаіць, углядаючыся, наставіўшы аўтамат.

Тры-чатыры ціхія ўдары ў шыбу. З таго боку ні гуку, ні шораху. Чыжык палахліва азіраецца і стукае мацней. Потым за акном заўважае бялёсы твар, што прыпаў да самай шыбы, і як бы паспявае разглядзець знаёмыя ямачкі на шчоках. І адразу здагадваецца, што яна чакае. Чакае яго, хоць і ўпэўнена, што ён далёка на ўсходзе і можа ўжо ніколі не вернецца, назаўсёды заплюшчыўшы вочы ад варожай кулі. Нічога, родная! Мы і самі страляць умеем, і першым ляжа вораг, а не мы! Во, бачыш, як адбылося. Іх і яшчэ нямала лягло, а я жывы і здаровы... Тая самая кашуля з карункамі быццам мроіцца яму за акном. Потым ён чуе слабы ўскрык, потым ляскат дзвярэй і таропкі тупат босых ног у сенцах.

Разгульвае вецер па двары, намятаючы пры агарожы гурбы снегу. Саламяным шэлестам і пахам гною нясе ад хлева. Б'е капытом конь у сцяну. Бразгаціць вядро ля студні. Усе гэтыя гукі адразу ўрываюцца ў свядомасць, гаворачы аб жыцці і шчасці.

Дзверы сянец з грукатам раскрываюцца, і Зося выскоквае на двор, кідаецца да яго, як была — неапранутая, босая.

«Дзіва, як толькі яна паспела пазнаць так адразу?, — не разумее Чыжык, хапаючы яе абеpoints і амаль несучы ў хату.

У хаце ўжо мітусяцца бацька, маці, Гарпіна. Чыжык па чарзе абдымае ўсіх.

— Немцаў у вёсцы няма? — пытаецца ён пры гэтым.

— Няма, няма, сынку, — адказвае маці, а Зося толькі радасна ўсхліпвае, абмацваючы ў цемені яго твар.

— Дык ты, значыць, не ў арміі, — нездаволена зазначае між тым бацька.

— Што вы, тата! — палахліва адгукаецца Зося. — Ці ж не бачыце: на ім жа ўсё армейскае і во — зорка на шапцы.

— Ага, значыць, як жа так — у арміі і тут? — не сунімаецца бацька, і голас яго робіцца непрыемным Чыжыку.

— Вы, тата, схадзіце ў двор, завядзіце нашых коней і паклічце байца.

— Ага, значыць, ты што ж — у выведцы, ці што?

— Не, дый гаварыць пра гэта не належыць. І нікому не прызнавайцеся, што я быў.

— Дык ты тады, можа, з тых самых лясных людзей. Кажуць, аб'явіўся тут адзін. Асілак. Цыркач. У цырку на кулакі біўся, дык цяпер дае немцам прыкурыць. Спачатку на дарозе два іхніх грузавікі ўзарваў, а тады і пайшло.

Чыжык упершыню чуе такое пра самога сябе і марудна садзіцца на ўслон, трымаючы Зосю за рукі.

— Та-ак... — цягне ён. — Не, не адтуль я, бацька. А ты — змяніўся, сварлівы стаў, — зазначае ён, усё яшчэ ніяк не ачомаўшыся ад апошніх бацькавых слоў. Урэшце махае рукою: можа і не пра яго зусім?

— Станеш... А гэта, што на двары, твой таварыш, ці што?

— Таварыш, — кажа Чыжык. — Ты ўжо, калі ласка, завядзі яго ў хату, хай абагрэецца ды паесць. Мы заехалі не болей як на дзесяць якіх хвілін.

— Добра, добра, — і бацька тупае ў сенцы.

— Нешта з ім сталася, — кажа маці. — Так во ўвесь час і спіць апрануты. Усё лае гэтых, што ў палон паздаваліся.

Чыжык міжвольна ўспамінае Бондара. Пытаецца:

— Немцы часта наязджаюць?
— Два разы пасля таго, як ты пайшоў, былі. Больш не паказваюцца.
Чыжык праходжваецца па хаце, спыняецца ля маці, што ўжо завіхаецца пры чалесніку, загадвае:
— Агню не запальвайце. Не трэба частавання. Калі хто заўважыць, што ноччу да вас прыязджалі, дык скажыце, што незнаёмыя.
Потым яны сядзяць з Зосяй у бакавым пакоі адны і ніяк не могуць наглядзецца. Змянілася Зося. Прыгожы тварык як бы падпух, вочы пазмрачнелі. Яна ўвесь час хапае Чыжыка за руку, шэпча:
— Во-во, паслухай...
Гэта — пра тое, што жыве ўжо ў ёй. На двары вайна, пустэча, смерць, і для Чыжыка гэты факт набывае асабліва важнае значэнне. Зося — гэта яго шчасце. Ён не можа прыпомніць нават самай нязначнай драбязы ў ёй, якая яму калі-небудзь не спадабалася б. Усё ў яе толькі прыгожае і толькі добрае. І вось яна — ужо маці. Толькі ўсё скончылася б добра, толькі не забілі б гітлераўцы! Хутчэй, хутчэй бы выгнаць іх з роднай краіны...
І Чыжык гладзіць Зосіны валасы, амаль зусім забыўшыся, што блізка маці, бацька і ўвесь напружаны ў слых знаёмы баец.
Вельмі цяжка развітвацца, і Чыжык некалькі разоў то падымаецца, то зноў садзіцца ля Зосі. Нарэшце, ён моцна абдымае Зосю і да болю цалуе ў прыпухлыя губы.
— Ніколі не забуду цябе, — кажа ён, — калі давядзецца і памерці...
— І я таксама, — шэпча яна, — не забуду, Ваня, мілы, бывай! Ой, беражы сябе, Ваня... А заехаць яшчэ не зможаш?
— Не ведаю, — уздыхае ён.
— Толькі помні, што я нікога, нікога, апроч цябе, не любіла. І не палюблю ніколі. Чуеш, Ваня?
— Чую, — кажа ён. — Бывай. Глядзі сябе. Беражыся.
І ён разгінаецца. За акном бушуе вецер. Сыплецца снег у шыбы, як шрот. Там, у гэтай цемені, змагаюцца цяпер з завеяю яго людзі, якіх чакае наперадзе нялёгкі бой. Там, наперадзе, ляжыць яго шлях, напоўнены баявымі справамі і неверагоднымі пакутамі. Трэба спяшацца, трэба ехаць. Бывай, Зося, — мілая, дарагая, якую я люблю, як і ўсю зямлю, як і самое жыццё, як і радзіму нашу.

## Над кручамі

У той год у канцы снежня ў адзін з завірушлівых халодных надвячоркаў к пустому доміку бакеншчыка на беразе Дняпра гітлераўцы падвезлі ў санях скрываўленага чалавека. Рукі яго былі моцна сцяты на спіне рамянямі, на галаве мелася абпаленая чырвонаармейская шапка з пяціканцовай зоркай. Полы яго некалі белага кажуха таксама былі абпаленыя, кірпаносы твар, аброслы барадою, абдзёрты. Рукі на марозе замерзлі і былі белыя, толькі вочы, налітыя крывёю, узблісквалі і гаварылі аб празе жыцця і помсты.
Калі яго завялі ў домік, дзе гарэла буржуйка, з яго ног, абутых у валёнкі, з кажуха і шапкі пачаў стайваць снег і па твары пацяклі крывавыя струмені. Гітлераўцы, не спяшаючыся, распраналіся, толькі вартавыя ды вязень стаялі нерухома пры дзвярах. Гітлераўскі афіцэр скінуў шапку і футру, павесіў іх на крук ля ўваходу і марудна сеў на драўляны ўслон ля стала. Ён пачаў гаварыць пасля гэтага на той ламанай рускай мове, якая ўваходзіла ў яго ўжо ў звычай.
— Цябе прывезлі сюды, каб расстраляйт. Ты можаш выпрасіць жыццё. Так мне сказалі. Трэба толькі прызнацца, адкуль ты і хто ты. Трэба сказаць, якая часць дзейнічае ў нас у тыле і хто ёю камандвае. Пасля гэтага адпусцім цябе. Ты тады вольная птаха. За некалькі слоў — жыццё. На роздум — ноч. Не скажаш — раніцаю расстраляйт. Гэта апошняя наша ўмова. Ну?
Чалавек цяжка пераступіў з нагі на нагу. Рукі яго адтайвалі, невыносна пачыналі балець, але чалавек ужо не звяртаў на боль аніякай увагі. Гэта было прыкметна нават па яго змардаваным твары. Ён адкрыў прыпухлы рот, у якім не было відаць зубоў, і глуха сказаў:
— Я нічога не ведаю.
Гітлеравец хацеў падхапіцца, але ўтрымаўся. Ён ужо ведаў яго. Ды і трэба было дзейнічаць згодна дадзенай напаследак інструкцыі. Таму ён толькі пабарабаніў пальцамі па стале і адмоўна закруціў галавою:
— Нікс! Ты ўсё ведаеш. У цябе вунь савецкая зорка, і цябе захапілі ў беспрытомнасці пасля выбуху ў баі. Не будзеш жа ты адмаўляць гэтага?
Палонны прамаўчаў.
— Гавары!
— Нічога не ведаю.
Гітлеравец зноў памкнуўся падхапіцца і зноў утрымаўся.
— Мы пасадзім цябе ў пуню — там многа сена і цёпла. Да раніцы як след абдумай. Не скажаш — будзем страляйт! Ні на што не спадзявайся! Не спадзявайся на цуд і на святога бога! Гэтага месца ніхто з вашых не ведае і ведаць ніколі не будзе! — І ён павярнуўся да вартавога: — Развяжы яму рукі!
Палонны пахіснуўся. Развязаныя рукі павіслі па баках.
— Вядзі! — загадаў афіцэр вартавому і, павярнуўшыся, пагражальна папярэдзіў іншых: — Глядзіце. Калі што, дык за яго ўсім нам скуру здымуць.
Пасля гэтага ён абапёрся на стол і спакойна захроп, успамінаючы ў сне раку Одэр і свой невялікі гарадок на яе беразе. Ён быў усё ж не пазбаўлены летуценнасці, асабліва пасля чужых пакут, якія лічыў неабходнымі, як ежу і паветра.
Акрываўлены Чыжык сядзеў між тым у хлеве, у якім і сапраўды было многа сена і было не так ужо і холадна. Над словамі гітлераўца ён зусім не думаў. Не спрабаваў разабрацца і ў тым, чаму яму развязалі рукі і не катуюць, як гэта было ўчора, заўчора і многа дзён назад. Цяпер, калі ён трохі адышоў ад пабояў, яму вельмі хацелася ўспомніць увесь апошні бой, але ўспомніць ніяк не мог. Прыгадвалася толькі адно: як ён ляжаў з атрадам на ўзлеску і як ішлі на іх варожыя танкі. Пярэдні танк падышоў зусім блізка і пачаў біць з кулямётаў. Пасля гэтага нічога ўжо не помнілася. Толькі фашыстоўскі засценак. Аднак жа гітлеравец сказаў, што яго захапілі пасля выбуху. Значыць, гэты танк нехта ўсё ж падарваў? Тады яго, мусіць, і абпаліла. Выратаваць яго адразу, вядома, не маглі — у танку ж нямала боепрыпасаў. Хто ж цяпер камандуе групай? Бабарыка або батальённы камісар? І што робяць цяпер яго людзі і дзе яны? Сам ён зусім не ведае, дзе ён. Мяркуючы па ўсім — далекавата ад месца дзеяння групы.
З часам, як яму рабілася ўсё цяплей, думкі перайначваліся, спакайнелі. Што ж, гэта не адзін яго такі лёс. Але перш чым трапіць сюды, ён

забіў іх нямала. Так што памірае ён ад іхняй рукі не дарэмна. І група яго жыве і дзейнічае — у гэтым ён упэўнены.

Свістаў вецер на двары. Шамацелі мышы ў сене. Шапацела салома на страсе. Апошняя яго ноч. Хіба не ведаў ён, што барацьба можа скончыцца смерцю? Хіба не смерць вісела над ім праз увесь час баёў у крэпасці? А на дарогах вайны, пад грукат стрэлаў і ўзрываў — хіба не быў ён на валасок ад смерці? І не бачыў хіба, як паміраюць іншыя? І ўсё ж да апошняга часу ён зусім не верыў у яе. Проста немагчыма было паверыць, каб ён ды мог памерці. І вось яна навісла над ім — няўмольная і жорсткая. Заўтра раніцою яго расстраляюць. І ён адразу пачаў кідацца. Стараючыся асабліва не шумець сенам, ён абмацаў усе сцены, але сцены былі моцныя, з добрага лесу, ад якога пахла яшчэ смалою. Тады ён паспрабаваў дабрацца да страхі, але ў гэтым хлеве аказалася добра складзеная столь — можа самі гітлераўцы яе зрабілі. Чыжык капянуў сена, але пад ім была падлога. Тады ён пачаў шукаць, чым бы ўзарваць хоць адну дошку, але не знайшоў нічога. У нейкай надзеі ён абвёў вакол сябе рукамі паветра і таксама нічога не абмацаў. Пачаў прыкмячаць, што сена зляжалае і вытаптанае і падумаў, што не ён першы праводзіць тут апошнюю сваю ноч.

Знясілены, ён сеў. Кроў раптам падступілася і зашумела ў галаве. Яму пачало здавацца, што ён у крэпасці. У тым самым сутарэнні, дзе ляжаць параненыя. Ад руін уздымаецца пыл і дым. Незнаёмы лейтэнант крычыць яму ў вуха:

— Ты — Чыжык? Да палкавога камісара.

Чыжык у паўпадвале, зусім, як тады. Дзверы зачыняюцца, і лейтэнант выходзіць, пакінуўшы яго адзін на адзін з палкавым камісарам. Той сядзіць на нейкім чурбачку і зморана выцірае з твару пот. У яго каштанавыя вочы, схуднелы даўгаваты твар, бялёсыя валасы, што зліпліся і спадаюць на лоб. Камісар нейкі час аглядае яго і марудна кажа:

— Чырвонаармеец Чыжык! У ноч гітлераўскага нападу вы самавольна адлучаліся з крэпасці праз падземны ход, што ў кутку ўсходняй сцяны, недалёка ад вашай казармы. Вы хадзілі туды да адной дзяўчыны, якую завуць Зося. Нічога не скажу — добрая дзяўчына, толькі вось бацькі яе мне не зусім падабаюцца. Ці было гэта?

Чыжык пабялеў, здзіўлена ўставіўшыся вачыма на палкавога камісара.

— Было, таварыш палкавы камісар, — ледзь чутна прашаптаў ён, седзячы на сене.

— Не дзівіцеся, што я ведаю пра гэта. Магло ж здарыцца так, што той днявальны, які прапусціў вас і ад якога вы хавалі ў прыбіральні адзенне, выследзіў вас, а пасля далажыў?

— Магло.

Палкавы камісар цяжка ўздыхнуў.

— А дзяўчына, гэтая Зося, вельмі прыгожая? — зусім іпакшым голасам неспадзявана запытаўся ён, зусім так, як некалі.

— Вельмі прыгожая, — выдыхнуў Чыжык і памкнуўся наперад.

У каштанавых вачах камісара ўспыхнулі прыязныя аганькі і адразу ж патухлі.

— І ты яе сапраўды кахаў?

— А як жа! — ужо гучней сказаў Чыжык.

Камісар усміхнуўся.

— Вунь як усё выходзіць... — сказаў ён. — Хіба адно такое каханне і хіба толькі яно гіне? Падумаць страшна, — і ён схіліў зарослую валасамі сваю галаву, і відаць было, што яму шкада гэтага кахання, магчыма, да слёз. — Вунь як усё...



— Нашы прыйдуць, — сказаў Чыжык.

— Абавязкова, — згадзіўся камісар. — Біцца ж будзем да апошняга патрона.

Ён зноў змоўк і зноў схіліў галаву. Нечакана махнуў рукою, як бы адганяючы нейкі прывід. Шпарка запытаўся:

— Той ход цяпер завалены?

— Завалены, — паведаміў Чыжык. — Мы спрабавалі разабраць — не паддаецца. Ды ўсё роўна, калі і прабярэшся, — трапіш ім у рукі. Па адным перастраляюць.

— Кажуць, у той яміне ты хаваеш патроны і нямецкую зброю?

— Хаваю, — прашаптаў Чыжык.

— Малайчына, — пахваліў камісар. — Хлопец ты запаслівы. Хавай. Але помні: пра іх будуць ведаць, не адзін ты. Барацьба будзе да апошняга дыхання і можа стацца так, што застануцца лічаныя патроны. Тады будзе скарыстаны твой запас...,

Гэта была не такая ўжо і даўняя праўда, і яна была не такой ужо і дзіўнай. З ёю можна было пагадзіцца нават у беспрытомнасці. Ён выразна бачыў увесь змардаваны яго твар, даўгія валасы, трохі пакручастыя, яго каштанавыя вочы, што пазіралі холадна і пагардліва.

— Чыжык, — з болем сказаў ён. — Чаму ж ты не прынёс свае запасы?

І скрыўленыя Чыжыкавы вусны шапталі:

— Мяне прыдушыла... Сцяною... Я крычаў, ледзь не захлынуўся. А цяпер мяне і самога злавілі. Тут няма ніякага выйсця — проста дзіву можна дацца, як усё зроблена. І галоўнае — ніхто пра гэты засценак не ведае...

Аднак ён усё ж апрытомнеў як след. Адчапіўся ад хваравітых успамінаў. Смерць стаяла над ім, і ўся яго істота вельмі яскрава ведала гэта. Уся яго істота прагнула, каб ноч цягнулася як мага больш, каб здарылася нешта неверагоднае, з-за чаго ён застаўся б жывы. Як і палкавы камісар, ён пры жыцці, аказваецца, зусім не ведаў свайго характару. Калі ён успомніў Зосю, калі зразумеў, што назаўсёды траціць яе, — салёныя слёзы раптам пацяклі з яго вачэй. Ён сам здзівіўся гэтаму, бо не толькі не плакаў, але нават не стагнаў на надакучліва-балючых допытах, калі выломвалі рукі і білі, хто як мог.

І таму, што ён вельмі хацеў, каб апошняя ноч цягнулася незвычайна доўга, яна ляцела для яго з ліхаманкавай шпаркасцю, хоць і сапраўды была надзвычай доўгай, як і ўсякая зімовая ноч. Ён то сядзеў, то ляжаў. У думках гаварыў то з Бабарыкам, то з батальённым камісарам і прасіў адпомсціць за сябе і за Зосю. Патроху пачаў адчуваць, што пры жыцці, у апошні год, усё ж лічыў бліжэйшым чалавекам Зосю і мала звяртаў увагі на бацьку і маці. Ён пачаў пакутаваць ужо з-за гэтага. Цяпер ён з болем успамінаў, што недаравальна холадна развітаўся з бацькамі ў апошнюю сваю сустрэчу.

Яму здавалася, што і вецер за сцяною скуголіў і стагнаў. Некалі, лежачы на беразе Дняпра, ён доўга чуў незразумелы, працяглы і тонкі свіст. Нехта як бы на самаграйцы выводзіў самыя неверагодныя разумныя мелодыі. Ён тады падхапіўся, здзіўлены, бо блізка нічога не было, і ўбачыў амаль побач адзінокую надламаную чарацінку. Спеў даносіўся з яе, спявала чарацінка. Вецер іграў на ёй сваю песню, якой яму хацелася... Чыжык зразумеў, што ўсё, што ёсць на зямлі, — і вецер, і вада, і трава, і дрэвы, — толькі разумнае.

Цяпер вецер шамацеў саломаю на страсе і яму хацелася ўчуць спеў толькі адной саломіны, але ён ніяк не мог злавіць яго. Усё кружылася,

усё змешвалася ў ягонай галаве. Ен чуў толькі напорысты гул, скавытанне і глухія ўдары снегу ў сцяну.

Нейкі неспакойны пабочны енк уплятаўся ў гэты тлум. Потым моцна грукнула ў вароты — так ірваўся сюды вецер.

У яго занылі зубы. Сэрца рвалася на часткі. Падступаліся крыўдныя думкі, калі ўспамінаў, што ў жыцці вельмі многа залежыць ад выпадку. Гэта прыводзіла яго ў роспач, у адчай, прыносіла невыносны боль і без таго змардаванаму целу. Каб не выпадак... Вярніце назад, на поле бою, — і ён будзе страляць, хадзіць у атакі, любіць сваю радзіму, будзе любіць сваю Зосю! Як жа яна цяпер без яго! І яна і дзіця? Ці выжывуць, ці дачакаюцца перамогі?.. Усе аднолькава рабіліся блізкімі і дарагімі. Усе...

Па-ранейшаму ўплятаўся ў гул віхуры непрыкметны пабочны енк. І зноў чамусьці ўспыхнула надзея, і змардаванае цела напружылася.

— Чорт, Бабарыка! — вылаяўся ён, плюнуў крывёю і падхапіўся.

Шпарка захадзіў па хлеве, зноў усё абмацваючы. Але ўсё па-ранейшаму было моцнае і трывалае. Адкуль жа гэты пабочны енк? Раптам ён спыніўся, прыслухаўся. Гэта давалася нялёгка, бо ў вушах увесь час гуло. Ён пахіснуўся і імкліва кінуўся ў дальні кут, баючыся страціць пачутае. Упаў на калені, потым лёг на жывот. Нешта настойліва шоргала пад моцнай падлогай. Вішчэла. Як бы варушылася. Сэрца ўдарыла ў грудзях, і надзея, і прага ўсё больш настойліва пачалі разгарацца.

— Вецер... Адзін вецер... Дзьме, мяце... — слаба шаптаў ён.

А прага да жыцця, да волі, да ўсяго таго вялікага, што было звязана з Зосяй, усё больш і больш не давала спакою. І ён слухаў, слухаў, а пад падлогаю шоргала і сапраўды енчыла, вішчэла... І з кожнай хвілінай усё больш не верылася, што во так ён тут і загіне. Ён раптам пачаў здагадвацца, што гэта вішчыць і енчыць цвік, які выдзіраюць разам з дошкай. Колькі часу прайшло, пакуль такое пачало яму здавацца? Ён адразу паверыў гэтаму і доўга прыслухоўваўся да гэтых як бы нават падманлівых гукаў...

...Немец парывіста адчыніў вароты і, пераступіўшы цераз скурчаны труп, асвятліў хлеў электрычным ліхтарыкам. Пахіснуўся, хапіў ротам паветра. Рука з ліхтарыкам задрыжала. Здарылася нешта няўцямнае. Адбыўся неверагодны выпадак, верыць якому не хацелася. Вязня, таго самага, які сядзеў тут, цяпер у хлеве не было. Замест яго — труп вартавога ля самых варот ды вялізная шчыліна ў падлозе, праз якую вецер заносіў цяпер у пахмурую будыніну снег. Немец не верыў — такое яшчэ не здаралася... Ён выскачыў, абабег хлеў, прабег троху наперад па цаліку, і спыніўся і — застрачыў з аўтамата.

Толькі жоўтыя трасіры памчаліся ў невядомую цяпер, пагрозлівую цемень...

Дзьмуў моцны вецер, заносячы густым снегам Дняпро, прырэчча, Чыжыкавы сляды.





Фёдар Чэрня нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Доржні Валожынскага раёна.
Пасля заканчэння сярэдняй школы некаторы час працаваў загадчыкам сельскага клуба, потым вучыўся ў Мінскім тэхнічным вучылішчы пры аўтазаводзе. Цяпер служыць у радах Савецкай Арміі.

**Фёдар ЧЭРНЯ**

## ЦІШЫНЯ



На лапках абвіслых, нібыта на стрэхах,
Гушкае хвайняк цішыню,
Яна разлятаецца спуджаным рэхам
Ад першага залпу агню.

І грукаюць пушкі, бы злыя суседкі,
Аж скачуць ствалы да зямлі,
і танкі, «разбітыя» намі у шчэпкі,
Не болей ста метраў прайшлі.

І гучным «адбой» баявыя парадкі
Зрываюцца ўміг з агнявой;
І зноў спачываць на зялёныя лапкі
Ідзе цішыня стараной.

Але не засне. На пустым палігоне
Не раз зблудзіць стрэл у галлі.
Спакойна таварышы! Мы абарона
Другой цішыні на зямлі.

## НЕСПАКОЙ САЛДАТА



Глядзіць салдат з-пад новае пілоткі,
Як, дзесьці ля Карпат узяўшы старт,
Ідзе вясна вялікай сямігодкі,
Ідзе ў паход без компасаў, без карт.

Яна без іх дарог не забывае
У край, дзе песняй любяць сустракаць.

Глядзіць салдат і ціха уздыхае.
Дый як яму, салдату, не ўздыхаць.

Ён чуе, як гудуць ў палях машыны,
Як малаткі у кузнях стукацяць,
Таго й чакай: што ў сем зрабіць рашылі—
Закончаць за чатыры ці за пяць.

Ад гэтага і неспакой на сэрцы
І ў ложак доўга не прыходзяць сны:
Яму цяпер бы з дружбакамі стрэціць
У полі надыход такой вясны.

* * *



Цяпер то не тое. Праехаў вёрст дваццаць
І на тут табе: і кватэры, і печкі.
Праз пару гадзін ужо трубы дымяцца,
Пастаўшы у рад ля палатак, як свечкі.

Ну што, калі ноччу марозец разбудзіць
І бліжай прытуліць таварышаў сонных.
Назаўтра успомніш і тут жа забудзеш,
Сустрэўшы усмешкай вясенняе сонца.

А кухня адстане у «хвасце» выпадкова —
Нічога. Усё на карысць апетыту.
Без лішняга слова здагадлівы повар
Надбавіць чарпак за спазненне нібыта.

Не тое цяпер. І здаецца не варта
Расказваць аб тым, што было ці што будзе.
Сягоння мы — проста надзейная варта.
І хоць мы са зброяй, мы—мірныя людзі.



Уладзімір **КАРАТКЕВІЧ**

# У ШАЛАШЫ

**Апавяданне**

Мал. М. Залознага.

Міхал ледзь паспеў дабегчы да шалаша.

— А каб цябе, каб...

Бліскавіцы секлі неба так часта, што можна было разгледзець усё ў пустым шалашы: саламяны ложак, зэдлік, кошык з бульбаю, кацялок на падлозе, вязку цыбулі і старую ватоўку, што вісела ля дзвярэй.

Вартаўніка не было: можа абходзіў сад, а мо' сядзеў у другім шалашы.

Міхал высунуў галаву і ўгледзеў побач з шалашом нешта падобнае на невялічкую пуньку: сцены з жэрдзя, саламяная страха... «Яблыкі восенню ссыпаюць, ці што?» — падумаў ён. І адразу пачуў далёкі шолах дажджу; раззлаваўся на самога сябе.

«Вось і трапіў на станцыю. А казалі ж, каб начаваў. Яно і праўда, пасля дваццаці вёрст трэба было. Але ж да станцыі заставалася толькі пяць...»

Дождж пайшоў, відаць, на ўсю ноч.

Свежы, вільготны вецер уварваўся ў шалаш, стала лёгка дыхаць, заныла ад стомы цела. Міхал суцішыўся. Ці не з той невялічкай пунькі стала далятаць ціхая размова? Гаманілі, відаць, дзве жанчыны: адна ў гадах, другая мо' маладзейшая.

— Што мне рабіць, цётачка? Вельмі ж кахаю яго...

— А ён і глядзець на цябе не хоча. Учора зноў біўся. Адзін трох хлопцаў збіў на горкі яблык.

— Але, ваша праўда, не хоча ён на мяне глядзець. Так мне цяжка. Гляджу на яго — вочы сінія, дзёрзкія такія... Чуб, усмешка... Такі прыгожы. Абняў ён мяне аднойчы, выпадкова, проста так...

— Глядзі, дзеўка... Так вось наша сястра і гіне.

— А я і рада б загінуць, ды ён, бы вецер...

Міхал скінуў пінжак, лёг на спіну.

І тут няладнае каханне... Ды што яму да таго?

Галасы сціхлі, мо' таму, што вецер налятаў парывамі. Стала халаднавата.

... А тады, паўтара месяца назад, быў такі цёплы летні дзень. І Кіеў са сваімі будынкамі, каланадамі, купаламі, здавалася, плыў кудысьці насустрач поўным аблокам, насустрач сонцу і жыццю. Каштаны развесілі зялёныя шаты-ветразі. Там, на ўскраіне горада, ад хаты да хаты вялі сходцы, варыўся на цаглінах абед, надуваліся ветрам, як рыбацкі сак, кашулі на вяроўках, чулася бойкая гаворка. Вецер гнаў вулкамі таполевы пух, высцілаў ім, як сівой коўдраю, завулкі. Хлапчукі кідалі ў пух запалку, і ён выбухаў, як порах. І адразу ж гэта месца зацягвалася зноў сівой покрыўкай.

Ён быў у Кіеве на экскурсіі і выпадкова забрыў у лаўру, дзе грэцкія арэшнікі гладзілі твар лапчатым лісцем. Старажытны, маленькі, як лялька, храм Спаса на Берастове быў увесь у зеляніне, здавалася, не вытрымаў ён цяжару год і, як Святагор, улез па калені ў зямлю.

У сярэдзіне храма было пуста і халаднавата, бы ў склепе. А ў вокны білася гарачая, напоеная сонцам лістота. Там быў поўдзень, спякота, крыкі пеўняў...

Міхал стаяў ля непрыгожага надмагільніка Юрыю Далгарукаму і думаў, што князю не пашанцавала. Такі саркафаг зрабілі, што толькі дзяцей палохаць: «Вось дзядзька са скрынкі ўстане — ён табе!..»

Непадалёк стаялі тры хлопцы і дзяўчына. Міхал спачатку іх не ўгледзеў. У дзяўчыны былі моцныя, як у хлопца, ногі, рэзкія, вуглаватыя рухі. Твар шчыры, як у дзіцяці, адкрыты. Сінія вочы.

Міхал здзівіўся, што хлопцы нейкія цельпукаватыя і размаўляюць з ёй без усялякай пачцівасці.

Не вытрымаў, падышоў, спытаў:

— Прабачце, хіба дакладна невядома, дзе пахаваны князь?

— Ну так, так, — загарэлася яна. — А хіба вы не ведаеце?

— Не ведаю, — сказаў ён. — Я толькі паляўніцтва знаю.

— А мы археолагі, — усміхнулася яна, — тут цяпер працуем.

— Цікавая ў вас праца, асаблівая... — шчыра сказаў Міхал.

— Вы што, ніколі не бачылі раскопак?

— Не. А вельмі хацеў бы.

— Хлопцы, бяром яго з сабой! Хочаце з намі?

— Вельмі, — загарэўся ён.

— Тады едзем. На Борычавым Узвозе пракладалі траншэю і натрапілі на цікавыя рэчы. Нас там чакаюць.





На раскопцы было пыльна і горача. Міхала прымусілі распрануцца. Перад вачыма блішчэлі на сонцы камяні. Міхал глядзеў не на іх, а на дзяўчыну, якая старанна ачышчала ад глеістай зямлі нейкую рэч.

Такія слаўныя былі гэтыя археолагі...

І раптам Міхал угледзеў яе халаднаватыя вочы.

— Бачыце, Міхал, ёсць такія знаходкі, пра якія ніхто і дагэтуль не ведае, што гэта. Дорага дала б я, каб даведацца, што гэта за рэч. Але гэтага ніхто не скажа.

Лёвачка, што першы пазнаёміўся з Міхалам, з'едліва сказаў:

— Мар'яна, абяцанне помніш?

І ўсе загулі:

— Абяцанне... Абяцанне...

— А што, — сур'ёзна сказала яна, — і сапраўды пацалавала б таго, хто б растлумачыў.

— Не спадзявайся родненькая, — уздыхнуў Лёвачка, — калі будзеш чакаць тлумачэння — так і памерці табе нецалаванай.

— Пакажыце мне, — сказаў Міхал і працягнуў руку.

Гэта была невялічкая штучка з рога.
Міхал сядзеў на кукішках і моршчыў лоб. Хлопцы глядзелі на яго з усмешкаю.
— Кінь, Міша, — сказаў Лёвачка, — галава яшчэ спатрэбіцца для больш важных праблем...
Усмешкі былі паўсюль. Белазубыя, шырокія.
— Ведаю, — сказаў Міхал.
Нехта войкнуў.
— Што? — уся памкнуўшыся ўперад, спытала Мар'яна.
— Жыццё дрэнна ведаеце, археолагі. Каб ведалі добра, дык не давялося б вам думаць, ад якой бочкі гэты шпунт.
— Не здзекуйцеся, — сказала яна. — Гэта вельмі важна. Што гэта?
— Я ж і кажу: шпунт. Дзіцячая цацка. Дзеці і цяпер з ёю гуляюць у некаторых вёсках Палесся.
Міхал гаварыў многа і доўга.
Яна глядзела на Міхала здзіўленымі і сур'ёзнымі вачыма.
— Каб вы толькі ведалі, Міхал, якую вы важную справу зрабілі. Як ваша прозвішча?
— Дарскі.
— А што, — ціха сказала яна, — «цацка Дарскага» нядрэнна гучыць? — і дадала: — Знойдзены дзве шыферныя прасніцы, каралі — «лімонкі» і адна «цацка Дарскага». Не, Міхал, вы ўсё ж малайчына...
Лёвачка стаяў на краі траншэі, абапіраючыся на рыдлёўку. Рот да вушэй, вочы хітрыя, смяшлівыя.
— Ты, Мар'яна, зубы не загаварвай, — прыжмурыўся ён, — ты абяцанне выконвай...
— І сапраўды, — сказаў хлопец у акулярах.
Абяцанне, абяцанне...
Зноў Міхал бачыў вакол усмешкі.
— Я думаю, — сказаў ён, — Мар'яну не трэба прымушаць. І хапацца за яе словы не варта. Яна пацалуе сама, каго захоча і калі захоча. І гэта будзе цудоўны чалавек, лепшы на зямлі...
— Брава! Брава!..
— Бацюхны... — Лёвачка ўпаў на спіну і задрыгаў нагамі, — як у рыцарскім рамане... Ха-ха-ха!..
— Ну і добра, — сказала Мар'яна. — А ты, Лёва, хутчэй стань на ногі. У такім стане ты вельмі нагадваеш трусяня...
Хлопцы кіслі ад смеху.
...Міхал павярнуўся на другі бок і доўга паціраў далонямі скроні.
Дождж усё шумеў за саламянай страхой. Подыхі ветру неслі водар абмытай лістоты, востры пах мяты.
Дождж... Так ён шумеў і тады, калі застаў іх удваіх у парку, што на беразе Дняпра. Яны ледзь паспелі дабегчы да пустой ракавіны для сімфанічнага аркестра...
Слабае святло падала на дошкі падлогі, бліскчэлі мокрыя рады пустых лавак. І ветрык, такі, як цяпер, патыхаў з мокрых клёнаў.
— Холадна...— здрыганулася яна.
Ён накінуў ёй на плечы пінжак. Адчуваў пад далонню яе моцныя плечы. І неспадзявана для сябе прыгарнуў да грудзей...
Аднойчы ён бачыў дзікую казу, якая трапіла ў пастку. Ён тады вызваліў яе. І вочы ў той касулі былі такія, як у гэтай дзяўчыны. Бытцам прасіла яго, невядомага чалавека, пусціць яе...
І ён пусціў...





Пасля яны пачалі разыгрываць перад пустымі лаўкамі, перад мокрым паркам, у якім не было ніводнага чалавека, сцэну з нейкай трагедыі.
— Вазьміце меч, — замагільным голасам стагнаў Міхал, — і мне прабіце грудзі. Клянуся пасівелай барадой, вы любая і ясная...
— Я вам не веру, — смеючыся, гаварыла яна. — У рыцараў палескіх ёсць у вачах жахлівая спакуса... Яны хітруюць і яны чаруюць. Яны даверлівых дзяўчатак крадуць і ў Турцыю султанам прадаюць.
— Ну, гэта паклёп, — не вытрымаў Міхал, — мы такія людзі, што ў нас сабакі з-пад носа хлеб могуць сцягнуць...
Яны засмяяліся. Дождж перастаў. Толькі дрэвы ўсё яшчэ сыпалі мокрыя кроплі.
Выйшлі ў парк. І тут, ля агарожы стадыёна, яна выпадкова дакранулася плячом да яго пляча.
Ён абняў яе і пацалаваў у дзіцячыя, прыпухлыя вусны.
— Успомніў усё ж маё абяцанне... — шапнула яна.
Пацяклі дні. Праца, дзе яго ўжо лічылі сваім, кпіны Лёвачкі, дняпроўскі пляж, тугі звон мяча ў паветры... І яна, то задыханая, з занесенай для ўдару па мячу рукой, то ціхая і пяшчотная, з адбіткам начных ліхтароў у вачах...
Аднойчы яны правялі ноч на вадзе. Проста так, селі і паехалі начным параходам недалёкага следавання.
З берагоў далятаў рэзкі голас драча, які недарэчна пераймаў цвыркуна, даносіла пахі водарасцяў і нагрэтых за дзень кіёўнікаў. Калі параход набліжаўся да берага, чуліся ўсплёскі хваль, журботныя і сонныя галасы начных птушак. Недзе далёка ўверсе па цячэнню гарэла сіняя зорка.
— Не ведаю, — сказаў Міхал, — што ў тваім сэрцы. Але маё перапоўнена...
— Ты доўга будзеш кахаць мяне? — яна прынікла да яго плячом.
— Не ведаю, — проста і сурова сказаў ён.
— Чаму?
Ён маўчаў, потым сказаў шчыра:

— Невядома, колькі жыцця адведзена кожнаму з нас. Таму я і не ведаю, колькі буду кахаць...

Яны плылі і плылі... Потым быў світанак. З-за пяскоў і прыбярэжнай лазы выглянула сонца. Хвалі сталі зеленавата-блакітныя. І на адзін кароткі момант грабянцы іх успыхнулі крывавым, трывожным святлом... Ранак нёс цеплыню і дабро...

А пасля... Як магло атрымацца, што ён адзін тут, у шалашы? Што выклікала тую размову ў начным скверыку ля Залатой Брамы?

— Ты сам разумееш, Міхал, я не магу з табою ехаць...

Сказала жаласна і ціха, і плечы яе задрыжэлі.

— Я ж кахаю цябе.

— Я кахаю больш. І я не паеду не таму, што твая праца заўсёды толькі ў глушы. Я з табою і ў пустыню паехала б. Але ў мяне мая работа. А ў пушчах раскопак не вядуць, хіба што выпадкова. Абое мы з табой цыганы, але вандруем у розных напрамках. І бадай што цяжка сысціся нам. Я гнала ад сябе гэтыя думкі, і падманвала сябе тым, што яшчэ застаецца ўвесь твой водпуск за два гады. Але... Вось сорак дзён... Трыццаць... Сем... І вось хлусіць больш нельга, засталіся тры дні.

— Як жа нам быць?

— Пераходзь да нас. Будзем разам. Ты ж так зацікавіўся працай. Будзеш пакуль што рабочым... Потым скончыш завочна інстытут. Табе ж толькі дваццаць тры гады.

— Мне будзе нязручна...

— Кінь гаварыць глупства, дарагі, — сказала яна, — мы ж сучасныя людзі.

— Не кахаеш ты мяне...

— Міхалка, дарагі! Я вельмі люблю сваю работу, мне нельга без яе, я без яе пamру. Водар зямлі... Сонца... Аліўкавыя старыя камяні. Знаходкі. Боль у плячах. І вечная думка, што вось адкапаеш, ускрыеш склеп, а адтуль выпырхне песня, старая, забытая на зямлі, самая гожая...

Яна глядзела на пабітыя часам камяні Залатой Брамы, а Міхалу здавалася, што яе вочы бачаць далёкі, неабсяжны стэп.

— Я таксама люблю сваю працу. Акрамя таго, мяне вучылі, трацілі грошы...

— Ты не так любіш яе, калі ўспомніў пра грошы. І тут жа ты будзеш працаваць. Усё адробіш...

— Я не магу. Я таксама прырос сэрцам.

— Ну, будзеш займацца гэтым, як аматар. Натураліст скрозь на месцы. Пабачыш фауну Крыма, Азіі, пустынь, гор. А не толькі Беларусі.

... Дождж.

Чаму ён не згадзіўся? Але правільна. Ён мужчына. А яна, відаць, мала кахала яго, калі не захацела ехаць з ім. Помніцца толькі трывожныя вочы ў паўцемры і голас:

— Міхал, любы мой, аднаго хачу, каб ты хоць у дзіцёнку, у сыне быў поруч са мной. Каб падобны... Каб заўсёды... Што ж мне рабіць, калі я кахаю цябе?

Яны вырашылі расстацца. Якія цяжкія былі апошнія дні.

Яны яшчэ казалі, што не ўсё скончана, што ў вольную хвіліну будуць ляцець адзін да аднаго, што будуць пісаць, але кожны ў глыбіні душы ведаў, — гэта канец.

Міхалу цяжка было вярнуцца на месца працы, адкуль паехаў толькі два месяцы таму назад. Ён не вытрымаў, узяў разлік і, вырашыўшы перабрацца ў другі запаведнік, пакінуў вёску.

І вось дождж. Да станцыі пяць кіламетраў. І дзве дарогі. Адна з іх туды, дзе Мар'яна раскопвае гарадзішча...

Але ён паедзе другою. У пушчу. Відаць, яна мала кахала яго, калі адмовілася ехаць з ім.

Дождж паласаваў зямлю, як градам, біў па лісцях, скакаў па лужынах, як хлапчук. Бледныя, далёкія маланкі чырванню распаўзаліся па дрэвах.

І зноў стаў чуваць голас з пунькі. Міхал нацягнуў на галаву пінжак. Яму не хацелася слухаць. Усё адно нічога не патрэбна, усё адно не будзе шчасця ні заўтра, ні паслязаўтра.

Ніколі! Дарогі ляжаць у розныя бакі. Не кахае...

Але недалёкі голас пажылой жанчыны не лёгка было заглушыць:

— Не кахае. А ты чакай... Глупства. Ты вось паслухай, што ў мяне было з маім Алесем. У Паволжжы. Голад быў, траву елі. А нам, бежанцам, і таго горш было. І тады Алесевы бацькі і мае павезлі нас на радзіму. А тут такая завіруха пайшла... І апынулася я ў сваёй вёсцы, у Літве, а ён у сваёй, у Польшчы. А паміж намі — мяжа. Толькі і можна глядзець, як ён каровы ганяе па іржэўніку. Зусім блізка.

Ён мне не падабаўся з дзяцінства. Вечна такі, быццам яго сабакі шкуматалі, вечна зубы выскаляе. Яршысты нейкі, злы. Аднойчы, ну зусім так, як твой, біўся адзін з чатырма. Гады праходзілі. І часта бывала: ён на адным баку рачулкі пасвіць, а я на другім. Прабіла аднойчы нагу на іржэўніку, сяджу, плачу. Чую, гукае ён: «Гэй, трыпутніку прыкладзі». Праз некалькі дзён прыйшла на пашу — матляецца на лазовай галіне белая анучка. Я падышла — пад кустом лапцікі ляжаць, акуратненькія такія. А ён з таго боку зубы выскаляе. Пераплываў, чортаў сын!.. А маглі ж падстрэліць. І так добра сплёў — хоць ты квас з іх пі.

Я тымчасам дзеўка выгадавалася, хоць снапы вазі. І ўвесь час заўважаю: вылуплівае ён на мяне вочы. Так і пайшло. Калі ведаем, што нікога няма вакол — часам словам перакінемся. Потым ён стаў гаварыць, што я вельмі яму падабаюся. А я ў адказ толькі пасмейваюся.

— Што ж з таго? Хіба з табою на гулянку пойдзеш? У вас паны, у нас «понасы». І вось яна — мяжа.

Узімку аднойчы сабраліся на папрадухі, спяваем. І раптам ён — шусь у хату.

— Дурань, — кажу, — цябе ж заб'юць.

— А я назнарок такую ноч выбраў, — і смяецца. Зубы прадае. — Дуйка мяце. Дулю яны сляды заўважаць.

Танцавалі. Я яму шчыра сказала, што ён мне непатрэбен, што мне такімі хоць платы падпірай. Не верыць.

— Ты, — кажа, — гэта маніш усё. Не можа гэтага быць, каб я не падабаўся.

І сказаў, што прыйдзе за мною, што няма яму ад мяне дарогі. Прызначыў ноч.

Толькі пайшоў, узнялася страляніна.

Так мы і згубілі адзін аднаго. Потым — вайна. Я сувязной была. І вось аднойчы прыходзіць перад світаннем чалавек. Глядзіць, усміхаецца.

— Не пазнаеш? — кажа.

Я глянула — божа мой, Алесь. Зарослы, жорсткі ўвесь нейкі. Толькі глядзіць весела з-пад калматых брывей.

Выявілася, што ён таксама сувязны. І даведалася я, што нічога ён не

забыў, што па-ранейшаму ажаніўся б, калі я не супраць. А мяне як чорт які за язык торгае. Не хачу і ўсё. І так цягнулася ўсё з год. Як ён ні ўгаворваў, якіх слоў ні казаў — не хачу. І вось аднойчы з'явіўся ён да мяне запозна і не паспеў да раніцы пайсці. Вырашыла я схаваць яго ў старой бульбяной яміне на гародзе. Там не знойдуць.

І нанёс чорт у гэты дзень немцаў. Пачалі лавіць людзей для адпраўкі ў Германію. Мяне ўжо і ў калону былі загналі, ды я неяк вырвалася і канавай, канавай, а потым ля платоў да сваёй хаты. Але заўважылі мяне — і за мной. Я скочыла на двор — і на гару.

А ён з ямы ўсё гэта бачыць.

На гары ў нас салома ляжала. Многа. Зашылася я ў салому за комінам і сяджу. Чую — шукаюць. Ператрэслі ўсё ў хаце. Рыпяць прыступкі — лезе нехта па лесвіцы. Стаў, дыхае цяжка.

— Выходзь! — кажа.

Я сціхла, як мыш пад венікам. І раптам аўтаматная чарга проста па саломе. Каб не комін...

А тут нехта на двары заліўся, як ганчак на зайца.

— А-а-а... Вось ён! Вось ён!..

І чую, той, хто страляў, скаціўся з лесвіцы. Ушчалася страляніна. Раздаўся выбух.

Я зірнула ў шчыліну. А гэта мой Алесь выскачыў з яміны — і бегчы, як ліс, што адцягвае паляўнічага ад нары. Бяжыць, бяжыць па роўным полі, а яны па ім страляюць. Знік ён у хмызах, а яны пра мяне і забыліся. Загэркалі нешта па-свойму і пайшлі, людаловы чортавы.

Потым я кінулася па следу і адшукала яго ў раўчуку. Вочы пяском зацярушаны, кісць левай рукі на жылах вісіць.

Дацягнулі мы, бабы, яго да хаты. Ён памацаў руку і кажа:

— Рэжце...

Потым, калі апрытомнеў, я схілілася над ім:

— Алеська, добры мой, дарагі...

— Нічога не бачу, — кажа ён глуха.

— Алесь, любы ты мой, будзеш бачыць...

А ён павярнуўся да сцяны і глуха так адказаў:

— Не хачу я цябе. Ідзі...

Вядома, ён лічыў, што калі такое з ім здарылася, дык не яму пра мяне думаць. Куды, маўляў...

А я толькі вуснамі яму да шчакі:

— Даруй ты мне... Я ж вельмі цябе кахаю. Ты такі добры, такі жаданы...

І вось з таго часу разам. Выхадзіла я яго ў атрадзе. Праз некаторы час пачаў бачыць. І такое мне было шчасце, — нічога, здаецца, не трэба больш.

— Як жа так, цётка, — спытала маладая, — і дагэтуль добра пражылі?

— І дагэтуль...

Міхал уздыхнуў. Гэтыя людзі разважалі інача́й. Ён закурыў другую папяросу. Маўчаў. Змоўклі і тыя. Відаць, пакладаліся спаць.

Дождж усё шамацеў над самай галавою, спорны, роўны. І пад шум дажджу Міхал непрыкметна заснуў.

Сніўся яму астравок таго стэпу, што трапляецца ўжо на поўдні Беларусі. Шырокая пыльная дарога, шалёныя промні сонца. На ўзвышшы ўсё ў чырвоным марыве і, самі чырвоныя, стаяць людзі з рыдлёўкамі. І раптам ён чуе здзіўлены вокліч. Нехта бяжыць да яго з узгорка.

— Вярнуўся... Вярнуўся... — задыхаецца яна.

Яе рукі бяруць чамадан...

— Хлопцы!.. — крычыць яна. — Ён вярнуўся! Ён з намі!

А сама прыціскаецца да яго.

— Не, — кажа ён, — я толькі паглядзець. Я мужчына. У мяне гонар.

І вось — чужая, зусім чужая. Павярнулася, знікла...

І стэп трывожны, як перад навальніцай. І людзі на ўзвышшы расплываліся ў чырвоным марыве.

Ён прачнуўся.

— Мар'яна... — прашаптаў у нейкай знямозе.

Было ціха. У шалаш свяціла сонца. Дымела побліз чорная зямля.

Міхал схапіў чамаданчык і выкаціўся з шалаша.

Поле зіхцела, праменні сонца купаліся ў лужынах. Яблыні стаялі ў мокрай знямозе. На ліпы было балюча глядзець.

Пырхала, пералятала з галіны на галіну, з дрэва на дрэва ўзбуджаная малінаўка. Спявала, ажно сад звінеў.

— Разумееце, разумееце, разумееце... Сонца ёсць... Сонца ёсць... Ёсць, ёсць...

Далёка, садам, ішлі жанчыны. Размаўлялі голасна, у радасці.

А малінаўка звінела і звінела.

— Сонца ёсць... Ёсць...

Міхал шпарка пакрочыў да дарогі.

Дарога звярнула да ракі, ішла берагам. Увесь свет ператварыўся ў сімфонію гукаў, іскраў, пахаў.

«Абавязкова ўсё раскажу, — думаў Міхал. — Усё будзе добра. Каханне не адступае, яно не адступіць ніколі. Я пераканаю яе ці яна мяне — хіба не ўсё роўна? Хіба дрэнна стаць звычайным рабочым на раскопках? Паліцца пад праменнямі, глядзець у яе вочы, цалаваць яе, гарачую ад сонца, калі за курганом згасае зара...»

Рака млела пад сонцам. Каля берага плыў у чаўне дзед, самы лепшы з усіх дзядоў на свеце, сівы, лысы.

Міхал махнуў дзеду рукою і крыкнуў у радасці:

— Лавіць табе не пералавіць, дзед!..

І дзед адказаў праз зубы, не таму, што быў мо' не ў гуморы, а што трымаў у роце шнур:

— Хадзі шчаслiва, сынок...

Такі добры дзед...

Міхал крочыў дарогай. Поле, сонечнае, іскрыстае, як хвост паўліна, ляжала перад ім.

З-за далёкай сінечы лесу паказаўся дымок, бы там хто піпчыў люльку. Даляцеў гудок цягніка.





Іван СІПАКОЎ

# РАЗМОВА



Цягніку слепіць непагадзь вочы,
Бы стрымаць, неўтаймоўніца, хоча.
Але той не суцішыў разгону
І спытаў толькі ў цяжкіх вагонаў:
— Колькі там панасядала,
Колькі там панасядала?

Прарыпелі вагоны: — Пройдзеш,
А свабоднага месца не знойдзеш.
Тут цягнік засоп на ўсе грудзі
І спытаўся, што гэта за людзі.
— І куды яны імчацца,
І куды яны імчацца?

— То хлапцы са службы вайсковай
Будаваць едуць горад новы.
Заспяшаўся цягнік — ён жа рады,
Што вязе на будоўлю брыгады.
То да нас у Салігорск,
То да нас у Салігорск.

І да месца згадзіўся давезці
Юнакоў з іх салдацкай песняй:
Так і быць, няхай сядзяць,
*Так і быць, няхай сядзяць,*
Так і быць,
Так і быць...

* * *



Вецер блукаў па садзе,
П'яны вясною роснай.
Вецер пупышку пагладзіў —
Стала пупышцы млосна.

Няўсцерпкі лістоце клейкай —
Хто там такі ласкавы?
Яна расплюшчыла вейкі
У асалодзе млявай.

Лопнула ўраз пупышка
Ад маладое сілы.
Лістоце боязна крышку —
Што яна нарабіла?

Пачулі травінкі шорах,
Іх узяла цікавасць:
Паціху узнялі ўгору
Пласт зляжалай атавы.

Што там з зямлёю стала,
Што гэта там за гукі?
Хмара ў разведку паслала
Дожджык на ногі хуткі.

Той навакол агледзеў
Кожны лісток, травінку,
Нават убачыў недзе
Сіняй пралескі хусцінку.

Зноў заспяшаў да неба,
Каб папярэдзіць хмару:
Снегу страсаць не трэба, —
Там жа вясна гаспадарыць!

# НЕАДАСЛАНЫ ЛІСТ



Пасля лекцый у ціхім пакоі
Пішуць хлопцы лісты дадому.
Я таксама пішу, хаця знаю,
Што не будзе табе ён вядомы.
Мне ж успомніўся час той далёкі,
Калі я, неўгамонны, віхрасты,
Сустракаць бег цябе пасля працы
Аж на выган па сцежцы пятлястай.
А пасля я прасіўся на рукі...
Хіба ж ведаў хлапчук бесклапотны,
Што яны і так ужо нылі
Пасля цяжкай
Мужчынскай работы.
О, як многа чаго 'шчэ не ведаў
Я тады, ў расстраляныя вёсны;
І каму ты вячэру насіла
Ў варыўню, пакідаючы кросны;
І чаму той хаваецца днямі,
А да нас не заходзіць у хату;
І чаго ты казала: далёка,
А не з намі жыве цяпер тата;
І чаго па грыбы ты хадзіла,
Хоць я рэдка еў бульбу з грыбамі;
І чаго пры дзядзьках адпускала
Пагуляць да гумна з хлапчукамі...
Як вялі цябе каты пад вартай,
Зразумець я не мог анічога...
Вораг...
Слёзы...

Сястрычкі галосяць...
А мяне суцяшаюць малога...
Ціха зноў.
Спаць палеглі ўжо хлопцы,
Напісаўшы лісты дадому.
Скончыў я свой...
Саджуся за новы.
Толькі гэты на імя дзетдома.



**Уладзімір НОВІК**

# САЛАМЕІШЫН ПРЫМАК

**Апавяданне**

Мал. П. Лысенкі.

Яны пажаніліся гэтак нечакана, што ўсе загаварылі:
— Як жа гэта выйшла, браточкі, га?
На ферме Надзю атакавалі сяброўкі.
— Калі так, не кліч нас на вяселле...— фанабэрылася Прося. — Як ты толькі магла з ім распісацца?..
Надзя маўчала, бо гэтак было лепш. Не было больш у яе той гарэзлівасці і спрыту, як дагэтуль. Ды задзірыстыя смяшынкі ў вачах змяніў дзявочы смутак.
Вяселля не было. Проста Кастусь забраў свае небагатыя пажыткі і агародамі падаўся да Саламеіхі, вечарам, вядома, каб людзі не бачылі і менш мянцілі языкамі.
— Гэта ён на зло бацьку,—гаманілі назаўтра кабеты ля калодзежаў.
— А Понтус, жоначкі, аж пасівеў за ноч.
— Падумаць толькі: адзін сын і той у прымы!
— Божухна мой, без вяселля. Хто ж гэтак робіць?
Надзя была сіратой. Гадавалася ў цёткі Саламеіхі. Сваіх дзяцей Са-

ламеісе бог не даў, і яна ўвесь мацярынскі клопат аддала Надзі. Жыла Саламеіха адна — муж даўно памёр, а другога не захацела мець.

Кіравала Саламеіха агароднай брыгадай. Была вострая на язык і ўвішная на працы. Памідоры, агуркі і капуста з «Першамая» раней, чым з суседніх калгасаў, трапплялі на рынак, у магазіны.

Старшыня паважаў Саламеіху, але і пабойваўся. Неяк раз падбіваў яго бухгалтар завезці машыну памідораў аж у Архангельск. А Саламеіха на гэта пры людзях узяла і тыцнула бухгалтару пад нос фігу ды яшчэ «калымшчыкам» абазвала.

Надзя, ледзь толькі падрасла, пайшла ў даяркі. Цётка на гэта ні слова не сказала, хоць у душы не вельмі ўхваляла. На ферме загадчыкам быў Харытон, стары халасцяк. Ён, бывала, чапіўся да дзяўчат.

Па вечарах Надзя з Саламеіхай дзяліліся навінамі, пакуль не прыбягала Прося. Схаваўшыся за шырмачкай, сяброўкі сакрэтнічалі, а потым падаваліся ў клуб.

У кутку заўсёды на адным месцы сядзеў Кастусь. Як толькі заўважаў у дзвярах Надзю, ажыўляўся, даставаў пачак папярос і курыў увесь вечар.

Сам Кастусь танцаваць не навучыўся, бо з маленства саромеўся дзяўчат. А як вярнуўся са службы, чамусьці не ўзлюбіў танцы.

Статны, шырокі ў плячах, з яснымі шэрымі вачыма, Кастусь падабаўся не адной дзяўчыне. Тым больш, што ён цяпер хадзіў жаніхом.

Пасля танцаў Кастусь з Надзяй падоўгу праседжвалі на шуле, зваленым ля плота на двары ў Саламеіхі. Над іх галовамі звісала вішнёвая квецень. З таго і пачалося...

Было якраз жніво, самы гарачы час у калгасе. Кастуся паставілі брыгадзірам. Ад бяссонніцы ў яго ўсплылі сінія кругі пад вачыма. Каму-каму, а брыгадзіру клопатаў хапае.

Неяк раз пасля вячэры, калі Кастусь з Надзяй былі ў хаце адны, скрыпнулі дзверы і цераз парог кульгікнуў бацька — стары Понтус.

— Вечар добры ў хату, — ён прайшоў да стала і сеў на лаву.

Надзя хуценька адлучылася ў баковачку, і на стале паявілася частаванне. Понтус доўга аднекваўся, але яго ўгаварылі выпіць.

Пасля ён хваліў Надзю за руплівасць, за парадак у хаце. Кастусь адчуваў, што бацька захвальвае яго жонку не за так сабе. Ён бачыў аброслы рудым шчаціннем бацькаў твар. У пасалавелых вачах мільгалі прагавітыя іскрынкі. Час ад часу стары глытаў сліну, і тады яго сухі, як сук, кадык смешна падскокваў угору.

Успомніўся Кастусю бацька ў касé. Гэта было летам. Тады яны перад світаннем крадком выбраліся ў лазнякі, каб да ўсходу сонца набіць добры каляснік мурагу. Бацька ішоў уперадзе, моцна налягаючы на касу. Кастусь ледзь паспяваў за ім. Бацька часта азіраўся, і тады Кастусь заўважаў у яго вачах гэтыя ж самыя іскрынкі, а калі той піў ля куста, дастаўшы з кайстры бутэльку старога бярозавага соку, і закідаў галаву, — тады, як і цяпер, сухі кадык яго падскокваў угору.

А то, бывала, усю ноч прападаюць у лесе. Бацька выкульгвае паміж дубкоў, стукае па камлях абушком, прыслухоўваецца. Выбера дубок, — зваляць, прывязуць і схаваюць у падстрэшніку. Праз колькі дзён, глядзіш, бацька прадае новыя цабэркі, дзежачкі, кублікі — суседзям, а то і на рынку.

Сам Понтус на працу ў калгас не хадзіў. «Енвалід, — гаварыў ён брыгадзіру, — ды і пухліна ў мяне ў баку, ліха на яе...»

«Для цябе, сынок, стараюся, — прыпамінае Кастусь бацькавы словы. — Цяпер ты самы багаты жаніх. Толькі барані цябе бог прывесці ў маю хату Саламеішыну сірату...»

Надзя ўвішна падае бацьку вышыты ручнік. Ён доўга выцірае засаленыя пальцы. Устае, паволі ідзе праз хату і, ужо стоячы ля парога, гаворыць:

— Коніка мне назаўтра... Сянцэ з лазняку прывезці... Разам касілі, памятаеш?..

Кастусь адвярнуўся, каб не бачыць у гэты час бацькі:

— Заўтра ўсе коні пасылаю вазіць снапы, як і рашылі на праўленні...

Якую хвіліну памаўчаў, чакаючы, што бацька пачне ўпрошваць, але Понтусу быццам язык адняло.

Тады Кастусь павярнуўся да бацькі:

— Ды і стажок цяпер не твой. Калгасны.

Понтус залыпаў асалавелымі вачыма, нешта хацеў сказаць, затым разгублена пачаў мацаць рукамі па кішэнях, шукаў мо' закурыць. Нарэшце знайшоў сілы перапытаць:

— Не мой, кажаш?

— Я ўжо сказаў, — голас у Кастуся спакойны, цвёрды. — Стажок калгасны. У калгас і забяром.

Понтус скамянеў. У яго вачах блішнулі халодныя іскрынкі і паволі пачалі стухаць.

Ціха-ціха зачыніліся дзверы...





Юрась **СВІРКА**

# У СТАРОЙ КРЭПАСЦІ



Ля маўклівых, суровых руін
Цішыня і пустыннасць, бы ў стэпе.
Я прыходжу сюды адзін
І падоўгу гляджу на крэпасць.

А пясок са сцяны пабяжыць,
Быццам зноўку ударылі кулі.
І нялёгка тым ранам зажыць,
Што гарачых асколкаў глынулі.

Хлапчукі падпаўзаюць з кустоў
І не бачаць нідзе мішэні.
Не адважыцца з іх ніхто
Запусціць з рагаткі каменне.

Палахліва на крэпасць глядзяць,
І мне хочацца клікнуць іх, босых.
Падыходзьце,
Не бойцеся:
Гэта не кулі ляцяць —
Сабе гнёзды будуюць восы.

* * *



Я падслухаў размову суседніх лясоў,
Бо дзялюся я з імі і шчасцем і бедамі.
Тут жа кожнае дрэва са школьных гадоў,
Як людзей сваёй вёскі па імені, ведаю.

Дуб плячысты на сонцы зусім разамлеў,
Нібы рукі,
Раскінуў сукі вузлаватыя.
На палянцы спыніўся, не дайшоўшы у лес,
Так стаміўся за дзень,
Што лістамі не кратае.

Пазбягаліся сосны, размову вядуць,
Што па лесе далёка ідзе адгалоскамі.
Яны ноччу пачулі: шаптаў нешта дуб,
Нахіліўшыся нізка над стройнай бярозкаю.

А насупраць асіна трасецца, злуе.
Ёй, асіне раўнівай, усё яшчэ верыцца:
Дуб пакаецца ёй за шаптанні свае, —
Ён жа ў цёмную ноч да яе яшчэ вернецца.

# ЗАБЫТАЯ



Ты парою прыходзіш у сны,
Я хацеў бы, каб ты адгукнулася.
Пакацілася рэха па ўзгорках лясных,
А назад да мяне не вярнулася.

Запытаўся у сосен — не знаюць, дзе ты,
Толькі моўчкі ківаюць галовамі.
У дуброве знаходжу я нашы сляды,
Не астылі яны пад лістамі кляновымі.

Падыйду да дубоў, запытаю, як быць:
Тут жа летняй парой сустракаліся часта мы.
Мне нічога не кажуць асілкі-дубы,
Прывіталі мяне — жалудамі зашасталі.

Я не знаю, куды мне падацца цяпер,
Маё рэха адно па узгорках галёкае.
Можа, возера помніць яшчэ пра цябе,
Хай яно варухне сваю памяць глыбокую.

Я ля возера стаў, і яно падпаўзло,
Яно ведае ўсё і нічога не блытае,
А пазнаўшы мяне, доўга моршчыць чало
І не ўспомніць цябе: для яго ты забытая.

Вы паверце мне, сосны, дубровы мае,
Гэта ж з ёй я хадзіў па лугах і па верасе.
І няўжо ж вы не ўспомніце голас яе,
І няўжо ж вы яе мне не вернеце?

І як лепшых сяброў, вас начамі я сніў,
Як згадаю вас, сэрца тугою напоўніцца.
Мусіць, нехта чужы тут са мною хадзіў,
Што яе вы сягоння не помніце.



## НАРОД НАЗВАЎ ІХ ГЕРОЯМІ

У летапіс слаўных спраў камсамола чатыры адважныя воіны Савецкай Арміі Асхат Зіганшын, Анатоль Кручкоўскі, Піліп Паплаўскі і Іван Фядотаў упісалі яшчэ адну яркую старонку. Ва ўсіх краінах свету сталі вядомы імёны савецкіх салдат, якія 49 дзён і начэй дрэйфавалі на баржы ў адзінаборстве з ціхаакіянскім штормам.

За праяўленую мужнасць пры выкананні воінскага абавязку і стойкасць у барацьбе з сіламі стыхіі Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў чатырох герояў Ціхага акіяна ордэнамі Чырвонай Зоркі.

Масква. Унукаўскі аэрапорт. А. Зіганшын, П. Паплаўскі, А. Кручкоўскі і І. Фядотаў ступаюць на родную зямлю.
Фота ТАСС.

Артур **ВОЛЬСКІ**

# ПАЗЫЎНЫЯ ЖЫЦЦЯ



Іх на борце ўсяго чацвёра,
А за бортам —
сто тысяч хваль
Узнімаюцца,
нібы горы,
Засланіўшы хрыбтамі даль.

Хвошча ў твары ім вецер рэзкі.
Налятае за шквалам шквал.
І баржу пашчапаць на трэскі
Ўжо гатоў
сто дзевяты вал.

А яны —
каторыя суткі
Без харчоў і без сну амаль! —
Устаюць і бяруць загрудкі,
Як асілкі,
любую з хваль.

Акіян аж знямеў:
— Вось ліха!

Сэрца —
лепшая з лепшых рацый —
Без антэны прыём вядзе.
...Можа,
мне
давядзецца гінуць,
Ў небе,
Ў моры
Ці на зямлі, —
О, Радзіма!
І мне, як сыну,
Пазыўныя жыцця пашлі.

# ПОДЗВІГ СЯРГЕЯ ГРЫЦАЎЦА

У Мінску ў парку імя 30-годдзя БССР узвышаецца помнік-манумент двойчы Герою Савецкага Саюза Сяргею Іванавічу Грыцаўцу.

Цікавае і слаўнае жыццё ў гэтага простага беларускага хлопца з-пад Баранавіч. Маленства Сяргея Грыцаўца прайшло на чыгунцы, дзе яго бацька Іван Антонавіч працаваў рабочым-рамонтнікам.

Пачалася імперыялістычная вайна. У 1915 годзе, пры набліжэнні немцаў да Баранавіч, сям'я Грыцаўца падалася на ўсход, у бежанства. Эшалон з бежанцамі прыбыў на станцыю Шуміха Аранбургскай губерні. Тут і спыніліся Грыцаўцы на сталае жыхарства. Бацька працаваў у дэпо, Сяргей наняўся пастушком да суседняга памешчыка.

Толькі пасля Вялікага Кастрычніка Сяргей Грыцавец пайшоў вучыцца ў школу. У 1923 годзе яго прынялі ў камсамол, выбралі піянерважатым.

Яшчэ ў школе ў Сяргея нарадзілася думка — стаць лётчыкам. Скончыўшы на выдатна сямігодку, ён падаў дакументы ў школу лётчыкаў, але ў прыёме яму адмовілі — малады.

У хуткім часе Сяргей едзе ў горад Златауст, паступае на механічны завод рабочым і вучыцца ў школе ФЗВ, каб набыць спецыяльнасць слесара. У дружнай рабочай сям'і яшчэ больш праявіліся станоўчыя якасці Сяргея Грыцаўца. Хлопец працуе сакратаром заводскай камсамольскай ячэйкі. Неўзабаве яго рэкамендуюць на працу ў гарком камсамола.

Вясна 1931 года прынесла Сяргею новыя радасці — у красавіку яго прымаюць у члены камуністычнай партыі, а ў чэрвені — выдаюць камсамольскую пуцёўку на вучобу ў Аранбургскую вайсковую школу лётчыкаў імя К. Я. Варашылава.

З першых дзён курсант Сяргей Грыцавец стаў прыкладам у вучобе і паводзінах. Вучоба давалася яму лёгка. Неўзабаве пачаліся палёты. І тут у Сяргея Грыцаўца ўсё атрымлівалася ўдала.

«Сёння я быў у першым самастойным палёце, — пісаў Сяргей бацьку. — Кіраванне самалётам мне здалося на дзіва лёгкім. Матор ракатаў роўна, я адчуваў сябе ўпэўнена. Пасадку зрабіў выдатна».

Калі ў Грыцаўца было ўжо звыш 50 самастойных палётаў, начальнік школы сеў з Сяргеем у самалёт і падняўся ў паветра. Ён уважліва назіраў, як малады пілот вёў машыну, рабіў віражы, як зрабіў пасадку, а потым сказаў:

— Малайчына! З такімі можна смела ісці ў бой.

Пасля гэтага ў авіяшколе з'явіліся баявыя лісткі: «Раўняйцеся на Сяргея Грыцаўца!», «Бярыце прыклад з Грыцаўца!».

За час вучобы ў авіяшколе Грыцавец зрабіў 513 самастойных палётаў. У атэстацыі, якая захоўваецца ў асабовай справе курсанта 61-га выпуску Аранбургскай лётнай школы імя Варашылава Сяргея Грыцаўца, запісана: «Грыцавец Сяргей Іванавіч тэарэтычны курс засвоіў выдатна, умела выкарыстоўвае свае веды на практыцы. У пытаннях матэрыяльнай часткі разбіраецца добра. Лятаць вельмі любіць. Рашэнні прымае правільна, упэўнена і хутка. Тэхніка палёту добрая, заданні выконвае дакладна. У складаных абставінах не губляецца. Дастойны звання лётчыка-разведчыка.. Можа быць выкарыстаны ў цяжкай і штурмавой авіяцыі».

З восені 1932 года пачалася служба ў Савецкай Арміі. Тут і разгарнуўся талент Сяргея Грыцаўца. Любімым яго ўзорам быў Валеры Чкалаў — выпускнік той жа Аранбургскай школы. Атрымаўшы якое-небудзь заданне, Грыцавец у думках гаварыў сам сабе: «А як бы гэта зрабіў Чкалаў?», і гэта надавала яму рашучасці. Грыцавец лятаў ва ўсякае надвор'е, ахвотна згаджаўся на «сляпыя палёты», выконваў складаныя заданні.

Пра майстэрства Сяргея Грыцаўца стала вядома ўсім савецкім авіятарам. Пра яго пісалі ў газетах, часопісах. Ён стаў аўтарытэтам у кругу сяброў. Але ўсё гэта не ўскружыла яму галаву. Не шкадуючы сіл, Сяргей Грыцавец настойліва рыхтаваў сябе да абароны Радзімы.

Фашысцкая інтэрвенцыя ў Іспаніі ў 1936 годзе выклікала хвалю гарачай нянавісці працоўных усяго свету і ў першую чаргу народаў Савецкага Саюза. На дапамогу іспанскаму народу з многіх краін прыбылі антыфашысты-добраахвотнікі, якія са зброяй у руках



**Жнівень 1939 г. Маршал Мангольскай Народнай Рэспублікі Чойбалсан** (у цэнтры) **гутарыць з С. Грыцаўцом** (злева) **і Г. Краўчанкам.**

выступілі на барацьбу з фашыстамі. Сяргей Грыцавец тады выказаў жаданне ўступіць у адну з інтэрнацыянальных брыгад, якія накіроўваліся ў Іспанію.

... Палявы аэрадром замаскаваны. Штаб схаваўся ў пячоры. Людзі ў камбінезонах хвалююцца. Ужо з гадзіну, як павінен быў вярнуцца Грыцавец. І вось нарэшце ў небе паказалася кропка. Яна ўвачавідкі расце. Самалёт хутка зніжаецца і вось ужо коціцца па зялёнай траве. Насустрач Сяргею Грыцаўцу бягуць баявыя таварышы:

— Як справы, Сяргей Іванавіч?

— Заданне выканана, — чуецца з кабіны. — Збіў тры самалёты!..

Пакуль Грыцавец расшпільваў рамяні, таварышы аглядзелі самалёт, падлічылі кулявыя прабоіны: іх было больш дзесяці.

На другі дзень аэрадром высачылі фашысты. Нечакана з'явілася цэлая чарада варожых самалётаў.

Што рабіць? Лётчыкі чакаюць каманды. Але каманды няма. Не чакаючы загаду, Сяргей Грыцавец падаў каманду:

— У бой!

Лётчыкі ўзняліся ў паветра. Завязалася гарачая сутычка. Сяргей Грыцавец атакаваў фашысцкі самалёт. Хутка варожая машына задымілася...

У гэтым баі лётчыкі-добраахвотнікі збілі адзінаццаць фашысцкіх самалётаў. Камуніст Сяргей Грыцавец атрымаў падзяку.

У наступным баі зноў вызначыўся Грыцавец. Ён збіў яшчэ тры варожыя самалёты.

За праяўлены гераізм Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Сяргею Іванавічу Грыцаўцу было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

У 1939 годзе японскія імперыялісты развязалі канфлікт у раёне ракі Халхін-Гол. На досвітку 28 мая Квантунская армія перайшла ў наступленне. На граніцу Мангольскай Народнай Рэспублікі рынуліся японскія танкі, артылерыя, пяхота.

Савецкая Армія і войскі Мангольскай Народнай Рэспублікі падрыхтавалі ворагу належны адпор. У ліку савецкіх войск, якія змагаліся супраць японскіх самураяў на Халхін-Голе, была і паветраная эскадрылля, якой камандаваў Герой Савецкага Саюза С. І. Грыцавец. У першым жа баі лётчыкі яго эскадрыллі збілі восем самалётаў ворага. І тут Сяргей Грыцавец праявіў бяспрыкладны па мужнасці і гераізму подзвіг.

Гэта было ў адзін са спякотных летніх дзён. Знішчальнікі ішлі на ўсход. Далёка ўнізе бліскучай стужкай мільганула рака Халхін-Гол. Пад крыламі самалётаў ляжалі зялёныя хвалі сопак, на схілах якіх замаскаваліся варожыя войскі.

Адна эскадрылля павінна была штурмаваць наземныя войскі, а другая — прыкрываць штурмавікоў. Штурмавікі ўжо заканчвалі сваю справу. І раптам з-за наплыўшых з усходу воблакаў на галоўнае звяно накінуўся варожы знішчальнік. Стрэўшыся з нашымі лётчыкамі, ён паспрабаваў набраць вышыню. Але шлях у воблакі яму быў адрэзаны. Сяргей Грыцавец гнаў яго ўсё ніжэй і ніжэй. Варожы самалёт ужо прыціснуты да зямлі, ён шукае ратунку. А з гары грыміць чарга. Загарэўся бак, і варожы самалёт, ахоплены полымем, урэзаўся ў зямлю.

Вяртаючыся з двума таварышамі на базу, Сяргей Грыцавец пад крылом свайго самалёта ўбачыў парашутыста, які спускаўся на зямлю. Хто гэта: свой ці вораг? Сяргей прыгледзеўся і заўважыў, што вакол парашутыста кружацца два шэрыя самалёты, абстрэльваюць яго. Адразу прыйшла думка: «Нехта з нашых. Трэба выручаць!»

Грыцавец падаў каманду сваім сябрам. Утраіх яны хутка атакавалі ворага. Адзін самалёт быў адразу ж збіты, другі паспеў уцячы.

Наблізіўшыся да парашутыста, Сяргей заўважыў, што гэта яго камандзір Вечаслаў Міхайлавіч Забалуеў. Ён апускаўся на варожую тэрыторыю. Сябры перакінуліся знакамі.

Забалуеў махае Сяргею, каб не затрымліваўся, ляцеў да сваіх. «Як жа ляцець да сваіх, калі сябар трапляе ў палон, яму пагражае смяртэльная небяспека!» Парашутыста ўжо заўважылі самураі. Яны кінуліся да яго, каб схапіць жывога. І ў гэты момант Сяргей Грыцавец хутка павёў самалёт на пасадку. Забалуеў, вызваліўшыся ад парашута, кінуўся да самалёта.

Пакуль збянтэжаныя самураі агледзеліся, самалёт Сяргея Грыцаўца хутка набіраў вышыню. Загрымелі стрэлы, але ўжо было позна.

Подзвіг савецкага лётчыка, які паказаў прыклад узаемавыручкі ў баі, быў высока ацэнены савецкім урадам. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 29 жніўня 1939 года Сяргею Іванавічу Грыцаўцу было прысвоена ў другі раз званне Героя Савецкага Саюза.

Пастановай Прэзідыума Малога Хурала Мангольскай Народнай Рэспублікі С. І. Грыцавец быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга І-й ступені.

Двойчы Герой Савецкага Саюза Грыцавец удзельнічаў у многіх баях. На яго рахунку больш чым 40 збітых самалётаў праціўніка.

«Я пасцігаў сотні разоў ворага ў паветры, — пісаў Сяргей Іванавіч у газеце «Красная звезда», — насцігаў і збіваў яго, і заўсёды адчуваў адно: любоў да Радзімы, адданасць свайму народу, ідэям вялікага Леніна».

Там жа ў артыкуле лётчыка-патрыёта ёсць такія словы: «Не аднойчы я задумваўся аб смерці. Але памерці за адзіна правільную ідэю, за адзіную краіну ў свеце, маю Радзіму, якая вядзе ўвесь свет да праўды і радасці — гэта сапраўднае шчасце. У гэтым перамога над смерцю, урачыстасць жыцця, урачыстасць Савецкай Радзімы».

Загінуў С. І. Грыцавец 16 верасня 1939 года пры выкананні службовага абавязку.

Такія людзі, як Сяргей Грыцавец, бессмяротныя. Іх слава жыве і будзе жыць вечна.

**А. ДОЛЬНІКАЎ.**

*Дарогамі сямігодкі*

Барыс СТРАЛЬЦОЎ

# КАВАЛІ СВАЙГО ЛЁСУ

**Рэпартаж**

Маці хацела, каб сын абавязкова скончыў інстытут і стаў вучоным чалавекам — настаўнікам ці ўрачом. Бацька трымаўся іпакшай думкі:

— Токар-універсал або фрэзероўшчык — гэта, сынку, таксама прафесія...

Алесь не пярэчыў ні маці, ні бацьку. Няхай сабе думаюць, што хочуць, а яго сцяжынка ўжо вызначана. На новабудоўлю! Вось толькі куды? На прыдняпроўскай кручы або ў цяньку векавога бору, куды хлопцы любілі хадзіць летнімі днямі, Алесь маляваў аднагодкам свае планы. Вось паехаць бы ў Казахстан — стэпы, прастора... Гойсае вецер, коціць хвалі залатое пшанічнае мора, а ты, цвёрда трымаючы ў руках штурвал, вядзеш камбайн па полі, якому няма ні канца ні краю.

— Можа лепш на Брацкую ГЭС... — летуценна гаварылі хлопцы.

— Някепска і на Брацкую, — згаджаўся Алесь. — Ангара яшчэ не скарылася!..

Час ішоў, а дружбакі з вуліцы Мянжынскага заставаліся дома. Яны гатовы былі хоць сёння адправіцца ў дарогу, але ж школа... Куды ні кінешся, усюды спытаюць атэстат сталасці, або, на крайні выпадак, пасведчанне за сямігодку.



Генадзь Пячора быў на будоўлі цесляром, на заводзе стаў апаратчыкам. А хутка скончыць тэхнікум і будзе майстрам.

Фота А. Дзітлава.

Можа Алесь і здзейсніў бы сваю мару, каб не адна падзея. Не раз з хлопцамі ён хадзіў на Цішоўскія пустэчы, што разлегліся на ўскраіне Магілёва. Сюды навезлі цэглы, нейкіх бетонных кубікаў, бярвення, дошак. І як здзівіліся Алесь і яго сябры, прачытаўшы ў газеце пра перспектывы Цішоўскай пустэчы, пра трэцюю чаргу завода штучнага валакна, якую пачыналі тут будаваць. Назва якая гучная — новабудоўля вялікай хіміі! Гэта ж, глядзі ты: тут, побач, ударная будоўля сямігодкі, а ім і няўцям!



Алесь Муманенка з сякерай у руках будаваў завод. Майстар Ліда Дзямідава, якая ўзначальвае камсамольскую змену, дапамагла яму асвоіць спецыяльнасць апаратчыка.

Заварушыліся хлопцы, даведаўшыся, што Віктар Рыбкоў працуе ўжо на будаўніцтве трэцяй чаргі. Пра Віктара яны ведалі мала. Звычайна гэты маўклівы юнак, старэйшы на некалькі гадоў за Алеся і яго сяброў, не звяртаў на іх увагі. Раніцай ён спяшаўся на работу. Вечарамі ж выходзіў з дому і затрымліваўся на некалькі хвілін ля брамкі. Хлопцы заўсёды зайздросцілі яго бялюткай, як лютаўскі снег, сарочцы і вострым стрэлкам напрасаваных цёмна-сініх штаноў. Яшчэ зайздросцілі хлопцы, што ў Віктара заўсёды была цыгарка ў зубах. Ім такое не дазвалялася. Калі іншы раз і зацягнешся самакруткай, дык і то хаваючыся ад дарослых. Зрэдку Віктар паяўляўся з дзяўчынай. Гэта ўжо адкрыта асуджалася. Каб хлопец з вуліцы Мянжынскага ды трымаўся за дзявочы падол! Ганьба! Але Віктар, здавалася, не звяртаў увагі на іх пякучыя позіркі.

Аднойчы Алесь парашыў бліжэй пазнаёміцца з Віктарам. Ён з гадзіну пільнаваў, пакуль той вернецца з работы.

Віктар абыякава глянуў на юнака, што стаяў ля брамкі яго двара.

— На трэцяй чарзе працуеш, праўда ці не? — спытаўся Алесь.

— На трэцяй, а што?

— Нічога. Хацеў і я туды...

— Можна, — абнадзеіў Віктар. — Камсамолец?

Алесь моўчкі кіўнуў галавою.

— Тады зусім добра... Будоўля ж камсамольская. Ідзі ў гарком і афармляйся...

Алесь вярнуўся дадому позна ўвечары. Маці, гледзячы на шчаслівы, расчырванелы твар сына, таксама ўсміхнулася:

— Во добра, відаць, нагуляўся. На лыжах хадзіў?

— Не, у гаркоме камсамола быў, пуцёўку атрымаў.

— Якую пуцёўку? — занепакоілася маці. — Ці не захварэў?

— Ды не. Я здаровы, — супакоіў яе Алесь і, памаўчаўшы, дадаў: — На работу заўтра пайду.

Давялося маці рыхтаваць сыну рабочую вопратку. Алесь жа прывodзіў у парадак свой стол. Сшыткі і падручнікі вырашыў надзейна прыхаваць — яшчэ спатрэбяцца. Звязаўшы кніжкі, ён паклаў іх у куфар, выпрастаўся і глянуў на сцяну, дзе вісеў каляндар. У цьмяным мірганні электрычнай лямпачкі на лістку расплываліся ліч-

бы і літары. Алесь шмаргануў лісток «1958. Люты. 20», склаў яго папалам і паклаў паміж кніжак.

Аўтобус, у якім Алесь ехаў на будоўлю, быў паўнюткі такіх жа, як і ён, маладых хлопцаў. Сядзелі сям-там і дзяўчаты. Відаць, сабраліся навічкі, незнаёмыя адзін другому, бо толькі некалькі чалавек у заляпаных растворам спяцоўках перакідваліся навінамі, астатнія насцярожана прыслухоўваліся.

— Учора зноў прастаялі паўдня, цэглы не было, — скардзіўся каржакаваты хлапчына.

— Ды і ў нас не лепш, — адгукнуўся сусед. — Патрэбны трубы з нержавеючай сталі, а іх днём з агнём не знойдзеш. Вось і поркаемся!..

Яшчэ больш насцярожыліся навічкі, прыехаўшы на будаўнічую. пляцоўку. Некаторыя нават разгубіліся. Ніхто іх не сустрэў; прараба давялося шукаць самім. Хадзілі ад аднаго муляра да другога, пакуль адзін з іх не паказаў ім на дашчатую канторку:

— Там ён, спіць, напэўна...

Сапраўды, прараб кляваў носам ля бляшанай пячуркі. Прагнаўшы дрымоту, ён пачаў вінавата апраўдвацца:

— Усю ноч на цагельным заводзе прабыў, націскаў... А вы, значыць, на работу? Спецыяльнасці, канешне, не маеце.

Выйшаўшы з канторкі, прараб тыцнуў пальцам:

— Бярыцеся, хлопцы, за катлаван. Ламоў толькі няма. Але нічога. Нашы прызвычаіліся. Арматуры хапае, дык тоўстыя пруткі сякуць, завастраюць — і лом гатовы. Так і вы рабіце...

Алесь ад прыкрасці аж плюнуў. Вось дык прафесія — землякоп, ды з жалезным прэнтам. Нечакана для самога сябе ён тузануў за крысо прараба:

— А я крыху цяслярскую справу ведаю і сталярнічаць магу.

— Ну і добра, — павесялеў прараб. — Тады ў брыгаду пойдзеш. Можа яшчэ хто трымаў у руках сякеру ці кельму — прызнавайцеся? Спецыялісты патрэбны!..

Усе, нават тыя, хто аб цяслярстве меў самае цьмянае ўяўленне, пайшлі за прарабам здабываць прафесію.

Амаль з год памалу цюкаў сякерай Алесь Муманенка. Будоўля была ў прарыве. Усе на чым свет стаіць лаялі забеспячэнцаў, лаяліся паміж сабой і зноў навальваліся на гаспадарнікаў. Даставалася на сходах і міністэрству будаўніцтва, і Саўнаргасу БССР. Будоўлі не хапала матэрыялаў, механізмаў. Агульны аб'ём будаўніцтва быў выкананы прыблізна на сорак працэнтаў. Вось табе і «вялікая хімія»!

Пералом настаў у 1959 годзе. Цэнтральны Камітэт ВЛКСМ аб'явіў трэцюю чаргу завода штучнага валакна ўдарнай камсамольскай будоўляй. Знайшліся энтузіясты ў абкоме камсамола. Першым сярод іх быў другі сакратар Фрыдрых Ярмак, які ўзначаліў Магілёўскі абласны камсамольскі штаб на будоўлі. Штаб звярнуўся з заклікам да камсамоліі Магілёва. І пайшлі на будоўлю новыя атрады камсамольцаў. Стварaліся комплексныя брыгады, будаўнікі пераводзіліся на двух- і трохзменную работу. Моладзь адчула сілу, паверыла ў поспех.

У камітэт камсамола будоўлі прыйшлі новыя людзі. Сярод іх і Алесь Муманенка. Камсамольская армія стварыла сваю баявую разведку — трыццаць тры пасты камсамольскага кантролю. Адсюль штодня паступалі сігналы ў штаб. Фрыдрых Ярмак акуратна заносіў усё ў тоўсты сшытак, перацягнуты чырвоным гумавым жгутам. З гэтым сшыткам ён ніколі не разлучаўся. Па кожнаму сігналу трэба было прымаць меры, прычым — тэрміновыя.

Вось ён, адзін з першых сігналаў: «Завод «Прагрэс» не пастаўляе шматтонныя фільтрапрэсы». Мінаючы ўсе забеспячэнскія арганізацыі, штабісты пішуць пісьмо заводскім камсамольцам. І адтуль не марудзяць з адказам: «Зробім усё, што можам». Праз некаторы час фільтрапрэсы пачалі прыбываць на будоўлю.

Адгукнуліся на пасланыя пісьмы камсамольцы заводаў «Чырвонае Сормава», «Ленінская кузня» і іншых прадпрыемстваў. Па просьбе магіляўчан яны станавіліся на працоўную вахту — і абсталяванне, матэрыялы патокам ішлі па сталёвых магістралях да нядаўняй Цішоўскай пустэчы.



Тынкоўшчыца Марыя Львова стала рэзчыцай цэлюлозы.

Прыгадаў Алесь Муманенка і колішнюю размову ў аўтобусе аб тых трубах. За год яны добра ўеліся ў косці мантажнікам. Потым напісалі гомельскім камсамольцам. І адтуль прыйшла вестка, што на складзе «Белметалазбыту» знайшліся нержавеючыя трубы: «Бярыце нарад і адгружайце».

Камсамольскі штаб распрацаваў умовы спаборніцтва маладых будаўнікоў: у каго будуць лепшыя вынікі, хто даб'ецца высокай выпрацоўкі, той атрымае пуцёўку на завод. За гэтае ганаровае права змагаліся ўсе.

У першых радах ішлі комплексныя камсамольска-маладзёжныя звенні Канстанціна Плетунова, Міхаіла Казлова, Васіля Анастасьева і Мікалая Зубарава. На ўсю будоўлю праславіліся муляры Мікалай Сувораў і Ліда Дзямідава, цесляры Аляксей Кліменка і Алесь Муманенка, тынкоўшчыкі Віктар Рыбкоў, Людміла Плюшчакова, Людміла Кажамякіна, Ларыса Ваўчкова, Кацярына Рыкуль, Марыя Львова, якія прыйшлі на будоўлю па заклiку сэрцаў, ад школьнай парты, не маючы ніякай спецыяльнасці.

Пуск адной з паточных ліній намецілі на пярэдадзень новага, 1960 года. А за два месяцы да гэтага дзесяткі лепшых будаўнікоў рассталіся з кельмамі і сякерамі, вібратарамі і зварачнымі апаратамі. Пераможцы спаборніцтва пераводзіліся ў кадравыя рабочыя, накіроўваліся на практыку ў цэхі завода. У адну групу трапілі Алесь Муманенка і Віктар Рыбкоў. Хоць хлопцы і жылі на адной вуліцы, а сустракаліся вельмі рэдка — будоўля вялікая, прафесіі ў іх розныя. На гэты раз яны моцна паціснулі адзін другому рукі і цёпла ўсміхнуліся:

— Значыць, разам?

— Выходзіць, так.

Першае знаёмства з вытворчасцю паказала юнакам, якую цікавую прафесію яны выбралі. Дыспетчар Рыма Кірава, водзячы з цэха ў цэх, ад апарата да апарата, расказвала аб казачным пераўтварэнні звычайнага дрэва ў валакно.

Вось цэлюлоза, што прыбыла з Карэльскага прыазер'я, засыпаецца ў вялікія чаны. Цэлюлоза — назва гучная, а рэч даволі простая. Стаяла ў прыазер'і саракагадовая елка, яе спілавалі, абкарылі, пасеклі на невялічкія



**Ларыса Ваўчкова — былая тынкоўшчыца хутка асвоіла спецыяльнасць рэзчыцы.**

квадрацікі. У чанах цэлюлоза здрабняецца, ідзе ўсё далей і далей, паступова апрацоўваецца натрыевым шчолачам, серавуглародам і іншымі хімікатамі. Доўгі шлях праходзіць маса, пакуль не заблішчыць у прадзільнай машыне доўгай серабрыстай ніткай. Але і гэта не ўсё. Трэба яшчэ прамыць маткі нітак — кулічы — у розных растворах, давесці да пэўнай вільготнасці, пераматаць. Толькі пасля гэтага павязуць шоўк на ткацкія фабрыкі.

Хлопцы слухалі і назіралі моўчкі. Затое дзяўчаты не ўтойвалі свайго захаплення. Ларыса Ваўчкова аж рукамі пляснула:

— А я купляла ў магазіне шоўк і думала, што ўсё проста!..

— Няўжо і мая сукенка прайшла праз усе гэтыя чаны і машыны? — засмяялася ёй у адказ Кацярына Рыкуль, кранууўшы рукаў святочнай сукенкі, апранутай з выпадку першай практыкі.

Праз некалькі дзён навічкоў разбілі на групы. Алесь Муманенка, Віктар Рыбкоў, Людміла Плюшчакова, Людміла Кажамякіна і яшчэ некалькі чалавек сталі апаратчыкамі, астатнія — рэзчыкамі, сушыльшчыкамі, кантралёрамі. Пацягнуліся дні напружанай вучобы. Праз два месяцы практыканты павінны былі стаць ля машын побач з майстрамі, што вучыліся ў Ленінградзе і Калініне.

І вось настаў гэты памятны дзень. Запрацавалі механізмы. Апаратчыкі падалі раствор. Праз хвіліну-другую на другім канцы паточнай лініі цьмяна заблішчэў маток штапельнага валакна.

Горача віншаваў рабочых з вялікай перамогай дырэктар завода.

— Таварышы! — пранёсся пад гулкай столлю цэха яго ўсхваляваны голас. — Мы прысутнічаем пры вялікай падзеі. Выпушчан зусім новы для Беларусі від прадукцыі — штучная воўна. Штапельная вытворчасць штодзённа будзе даваць столькі воўны, колькі можна настрыгчы за год з 7200 авечак. Мільёны метраў выдатнай тканіны можна зрабіць за год з той воўны, якую выпускае завод.

Калі ж прыйшло віншавальнае пісьмо з Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ, радасці не было канца. Моладзь заслужыла віншаванне. Гэтыя юнакі і дзяўчаты, што нядаўна яшчэ стаялі на рыштаваннях, сталі рабочымі на заводзе, створаным уласнымі рукамі. Яны і цяпер працуюць разам. Ліда Дзямідава ўжо майстар, вучыцца на завочным аддзяленні Маскоўскага тэкстыльнага тэхнікума і ўзначальвае камсамольскую змену. Яна адразу павяла з камсамольцамі гутарку аб вучобе.

— У нашай змене павінны вучыцца ўсе, — рашуча сказала дзяўчына. — Глядзіце, Генадзь Пячора хутка скончыць тэхнікум, таксама майстрам стане. Чаму ж адставаць іншым?

— Пачакаем крыху, прыгледзімся, асвоімся, — спрабавалі пярэчыць Алесь, Віктар і іншыя хлопцы.

— Некалі чакаць! — сказала Дзямідава. — Завод расце. Будзем выпускаць фарбаванае валакно, а фарбаваць трэба не гатовыя жгуты, а віскозу.

— А навошта гэта? — пацікавілася Людміла Плюшчакова.

Ліда ўсміхнулася:

— У цябе ёсць штапельная сукенка? Заўважыла, што яна выгарае на сонцы? Дык вось, пры новай тэхналогіі штапель нават пад афрыканскім сонцам не выліняе. Над усадкай валакна таксама трэба думаць. Наша ж штучная воўна пойдзе на выраб шарсцяной тканіны. І вам, дзяўчаты, трэба вучыцца, усёй змене.

— Мы ад хлопцаў не адстанем, — згадзілася Людміла Кажамякіна. — Яшчэ ім нас прыдзецца даганяць. Як было на будоўлі!..

— Хопіць спрачацца, — выступіў Алесь. — Вы ў нас, вядома, перадавікі, але навошта ж на канцэрт спазняцца? Пойдзем.

Шумнай талакой высыпала моладзь з заводскай прахадной і рушыла да палаца культуры. Над іх галовамі плыў басавіты гудок і глядзелася ў люстэрка Дняпра перадвячэрняе неба. А насустрач ланцужком крочыла вячэрняя змена — маладыя, дужыя, прыгожыя, усё магілёўскія хлопцы і дзяўчаты, якія пазнаёміліся яшчэ на будоўлі, стаўшы на першую прыступку самастойнага жыцця.

# ХЛОПЕЦ З МЯЦЯВІЧ

Між вёсак па палетках срэбнай стужкай бяжыць чыгунка, а поруч, у тым жа кірунку, пралегла шырокае палатно шасейкі. Кіламетр, другі, і перад вачыма ўзнікае велічная панарама Салігорска.



**Мікалай Караньќо ў забоі.**

Фота аўтара.

Высока і горда ўзняліся ў неба на Старобіншчыне шахтавыя капры — першыя на Беларусі. Днём і ноччу не гаснуць на іх чырвоныя агні-зоркі. Агні над капрамі — адзнака таго, што план перавыконваецца. Гэта — шахцёрская традыцыя.

Шахцёры — смелыя і ўпартыя людзі. Крок за крокам прабіваюцца яны да вялікіх пластоў калійнай солі. Круглыя суткі пад зямлёю не змаўкае стук адбойных малаткоў, гул пад'ёмных машын і механізмаў. З вялікай хуткасцю то ўверх, то ўніз нырае шахцёрская бодня. На паверхню няспынна выкідваецца з нетраў непадатлівая парода.

Сотні чалавек налічвае сёння шахцёрская сям'я Салігорска. Амаль усе яны ўдарнікі камуністычнай працы, і сярод іх самы малады — Мікалай Каранько.

...Гэта было вясной мінулага года. Мікалай Каранько з недалёкай ад новабудоўлі вёскі Мяцявічы разам са сваімі сябрамі, такімі ж маладымі калгаснікамі, дзень у дзень тралявалі гной на ўрочышча, адкуль, як на далоні, была відна панарама Салігорскага калійнага камбіната.

— Вось бачыце, — звярнуўся аднойчы да сяброў Мікалай, — чым багаты нетры нашай зямлі! Пройдзе яшчэ некаторы час, і калгасныя палеткі мы будзем угнойваць не трухой, — і ён дакорліва паказаў на перасохлы гной, — а мінеральнымі солямі. Яны ж — дрожджы зямлі. Малайцы шахцёры! Добрую справу робяць для людзей. Я ім зайздрошчу!..

Мікалай Каранько падоўгу глядзеў на шахтавыя капры, не хаваючы свайго захаплення новабудоўляй.

Неяк надвячоркам Мікалай затрымаўся на полі і не заўважыў, як да яго пляча дакранулася чыясьці рука. Перад ім стаяў старшыня калгаса Сцяпан Сяргеевіч Прыхожы.

— Што, хлопча, так працуеш позна? — загаварыў Сцяпан Сяргеевіч.

— Ды не. Я ўжо закончыў. Так сабе стаю, дзіўлюся на вячэрні горад. Які ён прыгожы! Кругом агні, машыны снуюць, здаецца, чутно, як грукочуць шахцёрскія малаткі...

— Ці не шахцёрам задумаў ты стаць? — проста глянуўшы ў вочы, спытаў Сцяпан Сяргеевіч.

Хлопец не чакаў такога пытання. Яго думкі нібы хто падслухаў. Ён баяўся аднаго, што Сцяпан Сяргеевіч скажа: «Хопіць, браце, табе работы і ў калгасе. Што ж будзе, калі ўсе захочуць пайсці на будоўлю».

— Хачу ў шахцёры, але не ведаю, ці здолею...

— Калі хочаш, то абавязкова будзеш, — усміхнуўся Сцяпан Сяргеевіч. — Прыходзь заўтра ў праўленне, атрымаеш камсамольскую пуцёўку на будоўлю.

Неўзабаве Мікалай Каранько быў ужо ў канторы «Шахтспецбуда». Тут якраз ішоў адбор на курсы шахтапраходчыкаў. Прыёмнай камісіі падаў свае дакументы і Мікалай. Хлопец ён адукаваны, камсамолец, нядрэнна зарэкамендаваў сябе ў калгасе, дужы, і прыёмная камісія не задумвалася над тым, ці залічыць гэтага юнака.

Спачатку займаліся ў пакоях. Вывучалі будову адбойных малаткоў, скразную праходку, замарожванне плывуноў, правілы для шахтапраходчыкаў. Мікола засвойваў усё лёгка, з ахвотай.

Вось настаў і той час, калі хлопец упершыню ў сваім жыцці спусціўся ў забой. На шахтавым ствале № 3, куды накіравалі вучнем-праходчыкам Мікалая Каранька, глыбіня ствала была больш як 120 метраў. Хлопец не забудзе той хвіліны, калі першы раз сеў у бодню. Кружылася галава, калі дзеля цікавасці глянуў уніз. Але радавала тое, што ты ў ліку тых смелых людзей, якія напорыста прабіваюцца ў глыбіні зямлі.

Прыйшоў час, калі Мікалай самастойна ўзяў у рукі адбойны малаток. Націснуў на яго, і механізм запрацаваў. Задрыжалі рукі, зашумела ў вушах. Першыя кавалкі пароды пасыпаліся ўніз, пад ногі.

Спачатку Мікалай думаў, што не будзе з яго сапраўднага шахцёра. Хоць у суткі прыходзілася працаваць толькі 6 гадзін, але без прывычкі балелі рукі, звон і шум увесь час стаяў у вушах. А тут, як на бяду, ён яшчэ вывеў са строю пнеўматычны малаток. Малады шахцёр зусім разгубіўся.

«А раптам звольняць!?.. — трывожыўся Мікалай. — «Слабак», скажуць».

Усім спадабаўся гэты працавіты юнак, яго напорыстасць, энергія, валявы характар.

— Будзе з хлопца шахцёр, — выказаў думку за ўсіх брыгадзір скразной комплекснай камсамольска-маладзёжнай брыгады Анатоль Селіванаў. — Трэба толькі дапамагчы яму на першым часе.

Анатоль Селіванаў і старэйшы шахцёр Аляксей Паўлавіч Барысенка станавіліся ў ствале поруч з Мікалаем, вучылі сакрэтам забойшчыка.

Прайшоў яшчэ некаторы час, і нядаўні калгаснік Мікалай Каранько стаў у шарэнгу першых беларускіх шахцёраў.

Дзве нормы ў дзень — такое ў яго правіла.

Партыйная арганізацыя ўпраўлення «Шахтспецбуда» нядаўна прыняла Мікалая Каранька ў рады слаўнай Камуністычнай партыі. Неўзабаве ў жыцці шахцёра адбылася яшчэ адна падзея: яго прызначылі памочнікам брыгадзіра скразной комплекснай камсамольска-маладзёжнай брыгады.

Усё далей паглыбляюцца ў зямныя нетры шахцёры. Яшчэ ў красавіку шахтапраходчыкі з глыбіні 365 метраў дасталі кухонную соль. Наперадзе — галоўны пласт калійнай солі. Няспынна множацца рады герояў, якія па-баявому змагаюцца, каб на год апярэдзіць планавы тэрмін, хутчэй выдаць нагара калійную соль.

**Павел БАРОДКА.**



**Паўлюк ПРАНУЗА**

# СВЕТЛА Ў ВОКНАХ

**Рэпартаж**

У доме Адама Шныка збіраліся вячэраць. У гэты момант у калідоры пачуліся крокі.

— Ну, вось і наша Марылька.

Адам Сямёнавіч і яго жонка былі здзіўлены, калі на парозе замест дачкі ўбачылі па-дарожнаму апранутага чалавека з чамаданам у руцэ.

— Добры вечар у хату, — прывітаўся той. — Ці сюды я трапіў?

— А бадай і не заблудзіў! — радасна сказаў Адам Сямёнавіч. — Распранайся, браце. Падсілкуемся з дарогі.

І як звычайна бывае пры сустрэчах, калі знаёмыя доўга не бачацца, Адам Сямёнавіч засыпаў сябра пытаннямі:

— Як дабіраўся?

— Аўтобусам.

— Дык апошні аўтобус даўно прайшоў.



Марыля Шнык збіраецца ў клуб.
Фота В. Бараноўскага.

— У тым, брат, і справа, што я пэўна гадзіны тры цябе шукаў.

— Як гэта шукаў?! Жыву я, праўда, не на самым калгасным праспекце, але вуліца наша таксама светлая.

І пакуль гаспадыня завіхалася каля стала, госць расказваў:

— Прыехаў гэта я прыцемкам. Баранавіцкім аўтобусам. Злез у Грускове. Ну, і па старой памяці, пашыбаваў сабе на твой хутар. Гляджу — тут павінна быць твая хаціна, а яе няма. Аглянуўся навокал — няма, дый годзе. Добра, што з-за ўзгорка трактар паказаўся. Я — насустрач агеньчыку. Пытаюся ў трактарыста. А ён прыглушыў крыху матор і смяецца: «Спазніўся, чалавеча! Вось гэты мой конь ужо другую вясну тут ходзіць. А жыве Адам Сямёнавіч вунь там, дзе мігцяць электрычныя агні...»

Неўзабаве прыйшла Марыля.

— Вось і наша дачушка, — сказала маці.

— А я памятаю яе яшчэ маленькай, — азваўся госць.

— Растуць дзеці!

Усмешка кранула бацькаў твар.

— Дзіва што растуць, — заўважыў Адам Сямёнавіч. — Яшчэ як! Нават пашану маюць.

— І нашай жа Марылі ўзнагароду нядаўна далі, — уставіла слова маці.

— О, дык яе трэба павіншаваць! — весела ўсклікнуў госць.

... Назаўтра раніца выдалася ціхая, ясная. За аселіцай ракатаў трактар. Можа той самы, што надоечы заараў сядзібу апошняга хутараніна.

Сонечнай раніцай асабліва прыгожа выглядаў новы пасёлак. Не дзіва, што Адам Сямёнавіч прапанаваў госцю прайсціся па калгасным праспекце.

— У нас праспектам называюць галоўную вуліцу на новым пасёлку, — заўважыў гаспадар і дадаў, убачыўшы тэхніка-будаўніка Антона Мясніковіча. — А вунь і наш інжынер ідзе. Малады яшчэ, але добра ведае справу.

Прывіталіся. Загаманілі. Пра вясну, якая сёлета выдалася імклівая і дружная, пра калгасныя справы.

І пажылому калгасніку, і маладому майстру-будаўніку прыемна было акінуць вокам шырокую вуліцу, спыніць позірк на бялюткіх сценах дамоў, на маладых садках, якія ўжо аздабляліся квеценню, на стройных ліпах, якія выкідвалі кволыя лісточкі, на палісадніках з першымі кветкамі.

У калгасным пасёлку многа прыгожых дамоў. Побач са школай-дзесяцігодкай — дом калгасніка Мікалая Урублеўскага, па суседству з ім — дом бухгалтара Баляслава Сташынскага, насупраць, праз вуліцу, двухпавярховы цагляны будынак праўлення калгаса...



Роўным шнурочкам працягнуўся ў Снове калгасны праспект. Зручней стала працаваць калгаснаму паштальёну Антону Антонавічу Сержану.

... Гэта было ў такую ж веснавую раніцу пяць гадоў таму назад. Закладвалі падмурак першага будынка — кантору калгаса. Народу сабралася многа. Тут, пры людзях, самы старэйшы будаўнік сыпнуў у кут жменьку звонкіх манет — на шчасце. І ніхто не пажартаваў з гэтага народнага звычаю.

Старшыня калгаса Якаў Васільевіч Аляксанкін у гэты ўрачысты момант гаварыў:

— Мы стварылі моцную эканамічную базу. Гадавы даход калгаса — 8 мільёнаў рублёў. Мільён дзвесце тысяч адпусцім на ссяленне хутароў, бо ў нас каля шасцісот сем'яў жыве на адзіноце. Час ім развітацца з хутаранствам. Трэба, каб у кожным доме свяціла электрычнасць, гаманіла радыё. Збудуем сапраўдны гарадок, вадаправод, пошту, камбінат бытавога абслугоўвання, пякарню.

— Добра гаворыць старшыня, — пачуліся галасы адабрэння. — Трэба, людзі, ссяляцца!..

Часцей пачалі хутаране заглядваць на будаўнічую пляцоўку. Той на перакур, а той «проста так». А пад гэтым хавалася адно — даведацца, ці варта перасяляцца. Можа гэта толькі абяцанне, а ці будзе дапамога?

Тым часам на будаўнічай пляцоўцы ўвачавідкі выраслі новыя дамы. У каго была добрая будыніна, перавозіў яе сюды, а ў каго адна парахня — калгас даваў лес, цэмент, цэглу.

А чаму ж не будавацца? І пляц добры даюць, і будаўнічым матэрыялам памагаюць. Хочаш грошай — калі ласка, пішы заяву ў праўленне. Не тое, што раней. І адзін муляр прыгадаў, як ён за панамі перасяляўся на хутар і браў крэдыт: апошнюю кароўку ледзь не забралі, насілу расплаціўся.

— Ці варта аб гэтым успамінаць, — зазначае старшыня калгаса і дадае: — Мы даём крэдыт без працэнтаў.

Першымі пабудавалі сабе дамы (слова «хата» не пачуеш у новым пасёлку) калгаснікі Васіль Шчасны, Міхаіл Буян, Мікалай Урублеўскі, заатэхнік Міхаіл Іўкін.



Майстар-будаўнік Антон Мясніковіч (справа) разам з цеслярамі Уладзімірам Піштуком (у цэнтры) і Валянцінам Кандыбовічам на будаўніцтве калгаснага тока.

Не раз затрымлівалася на будаўнічай пляцоўцы звеннявая-ільнаводка Станіслава Юльянаўна Курыла. У сэрцы выспявала думка: «Можа падаць заяву ў праўленне?» Але не адважылася адразу зрабіць гэта.

Прыйдзе з работы на хутар, і сум апаноўвае яе. Тут пражыла яна 15 год: свой садок, поле пад



Утульна ў доме звеннявой-ільнаводкі Станіславы Юльянаўны Курылы.



Старшакласнікі Сноўскай сярэдняй школы на заробленыя імі ў калгасе грошы набылі кінаперасоўку. Таямніцы кінапраекцыйнай апаратуры ім адкрывае выкладчык фізікі Антон Паўлавіч Халопіца (справа).

бокам, здаецца, выгода, але смутак не пакідаў яе. Ні блізкага суседа, ні радыё, школа для дзяцей далёка — кіламетры за тры. І самой на работу хадзіць не блізкі свет!

Неяк старшыня калгаса сустрэў звеннявую, запытаўся:

— Дакуль, Станіслава, будзеш на хутары карпець? Час на прастор выбірацца, да людзей, да святла.

— Яно то добра, але...

— Адну не пакінем. Дапаможам. Колькі патрэбна грошай?

У вачах калгасніцы старшыня заўважыў агеньчыкі радасці. Упершыню ў жыцці яна адчула такі клопат. Перад ёй паўстала цяжкае маленства: дзяўчынка-падлетак працуе на кулацкім полі з сярпом ад золку да цямна. А надыдзе зіма, замяце той хутар снегам, — сумна, няма куды пайсці. Адзіны паратунак — сесці за кудзелю...

За тры месяцы на новым пляцы вырас новы дом. Люба зайсці ў яго цяпер. Тры пакоі, кухня. А колькі сонца! Калі Станіслава Юльянаўна першы раз зайшла ў новы дом, ёй адно кінулася ў вочы: за ўсё сваё жыццё яна ніколі не бачыла гэтулькі святла. На хутары, калі сонца было ў зеніце, святло ляжала на падаконніку і вузкай пасачкай клалася на падлогу. У новым доме яно разлілося па фарбаванай падлозе, па новай мэблі, срабрыстымі агеньчыкамі ўспыхнула на ложках.

... Паглядзіце на дамы, што ўпрыгожваюць новы пасёлак, прайдзіце па вуліцах, і вы пераканаецеся, што трапілі ў калгасны гарадок. У ім больш двухсот дамоў. На галоўнай вуліцы, што ідзе ад Снова на Хвоеў, дамы цагляныя, шлакабетонныя і з саману. Вуліца шырокая, абсаджаная ліпамі.

— А вы чулі, што пра наш пасёлак у Маскве гаварылі? — расказвае Антон Мясніковіч. — Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў на снежаньскім Пленуме ЦК КПСС даў высокую ацэнку самаадданай працы нашых калгаснікаў, іх ініцыятыве ў ажыццяўленні шырокага плана будаўніцтва вытворчых памяшканняў і жылых дамоў на вёсцы.

Нават адсюль, з цэнтральнай вуліцы, відаць за поплавам новыя будынкі пад бляхай і шыферам: электрастанцыя, кароўнікі, цялятнікі, ільнозавод, механізаваная кармакухня...

І ўсё гэта зрабілі людзі, бо згуртаваліся ў дружны калектыў.



Пяцікласнік Алег Катляроў на практычных занятках у школьным садзе.

Ідучы па вуліцы, той жа Антон Мясніковіч расказваў, як будаваўся калгасны гарадок, як усіх захапіла гэтая новая справа. Толькі пра сябе ён змоўчаў. А між тым, Антон Мясніковіч — энтузіяст пабудовы новага пасёлка.

Пасля дэмабілізацыі з арміі Антон вярнуўся ў родны калгас. Будоўля была ў самым разгары. І калі ён яшчэ ў вайсковай гімнасцёрцы зайшоў у праўленне, старшыня калгаса запытаў у яго, што ён думае рабіць адпачыўшы.

— Прыйшоў, каб якую работу далі, — сціпла сказаў Антон. — Не магу сядзець дома, калі вакол такое разгарненне...

Хлопца ўключылі ў брыгаду, пазней паслалі на вучобу.

У Полацкай будаўнічай школе Антон не раз прыгадваў словы старых майстроў свайго калгаса: «Няма, браце, на свеце лепшай прафесіі, як будаўнік. Пабудаваў ты, скажам, дом, ідзеш па вуліцы і табе здаецца, што з кожнага акна з павагай глядзяць на цябе. Удзячны будаўнікам усе навасёлы...»

— Вы думаеце, што толькі будаўнікам хочацца зрабіць больш? — пытаецца Антон Мясніковіч і сам адказвае: — У кожнага вялікія планы. Пагутарыце з нашай моладдзю. Якія смелыя планы ў яе! Камсамолкі Феня Зарожная, Вольга Гаспадыніч узяліся аж па тысячы свіней адкарміць. Ці ж яны адны? Высокія абавязацельствы ўзялі даяркі, паляводы, усе працаўнікі дружнай калгаснай сям'і...

Сёння радасць адчуваецца ва ўсім: у вясёлым гомане дзяцей, што спяшаюцца ў школу, ва ўсмешках малых, якія нарадзіліся ў новым пасёлку і не бачылі бацькоўскіх хутароў, у чырвані сцягоў, што ў свята лунаюць над новымі дамамі.

... Прыгожа вясною ў новым Снове. Ад лёгкага ветрыку ціха шумяць ліпы, на агародах вясна апранае ў зялёны ўбор сады і прысады, а сонца так і б'е свежымі струменямі святла ў чыстыя вокны новых дамоў.

**Калгас імя Калініна Нясвіжскага раёна.**



## Мінская вясна 1960 г.

Зноў прыйшла яна, прыгажуня-чараўніца, як заўсёды, жаданая, у яркай зялёнай абнове, поўная мар і надзей — вясна!

Колькі разоў на жыцці яе сустракаеш, і заўсёды перажываеш ні з чым непараўнанае пачуццё: здаецца, што за тваімі плячамі вырастаюць крылы і ўздымаюць цябе на новую вышыню. Колькі разоў назіраеш, як раптам на сконе зімы наляціць мяккі, цёплы, вецер, пашкумутае снежныя хмары, засмяецца неба і ў паветры з'явяцца першыя кволыя вясновыя пахі.

Гэта — заўсёдныя прыкметы вясны.

І ў той жа час кожная вясна мае свае адметнасці, сваё непаўторнае хараство.

... Мінская вясна 1960 года. Яна *такая ж шчодрая і руплівая*, як і летась, як і ў той год, калі пасля страшэнных ваенных зім, над абмытым першымі вясновымі дажджамі горадам-змагаром узышло жаданае сонца *нашай перамогі*.

Груды цэглы на вуліцах, зямлянкі на цяперашняй плошчы Перамогі, траншэі і калючыя «вожыкі» на ўзрэччы каля тэатра оперы і балету, надпісы на ўцалелых будынках: «Міны. Рукамі не краtаць».

На грузавіках, якія толькі што вярнуліся з-пад Берліна, у Мінск прыехалі першыя навасёлы, прывёзшы з сабою сапёрныя лапаты і сякеры. У Чырвоным Урочышчы ў палатняных палатках асталяваліся пасланцы камсамола, якім пашчаслівілася ўкласці першыя цагліны ў муры новых беларускіх заводаў-гігантаў: трактарнага і аўтамабільнага.



Міналі вёсны. Рос, дужэў, набіраўся моцы горад-воін, горад-будаўнік. Знікалі руіны, набывалі свой цяперашні выгляд новыя кварталы.

І вось вясна 1960 года. У яе свае адзнакі, свае прыкметы. У Мінску збоч вуліц на вільготным асфальце пралеглі загорнутыя ў прасмоленую паперу трубы... Труб гэтых вельмі многа. Іх напрадвесні згружалі і ў цэнтры і на ўскраінах. У шмат якіх месцах іх ужо ўклалі ў зямлю, а на іншых вуліцах яшчэ грукочуць малаткамі далакопы, завіхаюцца зваршчыкі. Будаўнікі спяшаюцца падрыхтаваць сустрэчу блакітнаму агню, які неўзабаве прыйдзе па газаправодзе ў Мінск з Дашавы.

Кожны дзень ля многіх дамоў можна бачыць, як разам з іншым абсталяваннем навасёлы згружаюць газавыя пліткі. Прыемны, радасны малюнак.

З прыходам у Мінск блакітнага агню знікнуць чорныя пасмы дыму над фабрыкамі і заводамі, менш стане пылу на вуліцах, у дварах.

Мінская вясна 1960 года прынесла людзям шмат радасці і новых надзей. Пра такую вясну мы марылі, вярнуўшыся ў свой родны горад з цяжкіх ваенных паходаў, — пра вечную вясну міру і шчасця на зямлі!

**Малюнкі** студэнта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута **Г. Лойкі.**

Тэкст **А. Вечаркова.**



## 40 год ЛКСМ Беларусі

# ЮНАЦТВА КАМСАМОЛЬСКАЕ

*У шматгадовай і ўпартай, поўнай героікі барацьбе за справу камунізма Ленінскі камсамол свята захоўваў і памнажаў рэвалюцыйныя і працоўныя традыцыі Камуністычнай партыі і савецкага народа. Заўсёды з роднай Камуністычнай партыяй, заўсёды на пярэднім краі барацьбы за камунізм — такі закон, па якім жыве арлінае племя краіны Саветаў.*

*24 верасня 1960 года спаўняецца 40 год з дня ўтварэння камсамола Беларусі. Слаўны шлях барацьбы і перамог прайшоў за сорак год адзін з баявых атрадаў Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі. Неўміручай славай увойдзе ў гісторыю масавы гераізм камсамольцаў і моладзі Савецкай Беларусі на палях бітваў з ворагам і ў дні мірнага будаўніцтва.*

*Юнакам і дзяўчатам, якія ўступілі сёння ў шматмільённую армію Ленінскага камсамола, ёсць з каго браць прыклад, ёсць у каго вучыцца.*

*Напярэдадні 40-годдзя ВЛКСМ у «Маладосці» друкаваліся матэрыялы пра баявыя справы камсамола Беларусі ў гады яго нараджэння. У гэтым і наступных нумарах «Маладосці» будуць змешчаны новыя цікавыя факты з багатага летапісу гераічных спраў моладзі нашай рэспублікі. Наш чытач даведаецца пра подзвігі, якія можна параўнаць з подзвігам легендарнага Данка, і пра справы звычайныя, якія рабіліся і робяцца маладымі патрыётамі штодзень.*

*Мы раскажам аб тым, як члены камуністычнага Саюза моладзі прымалі ўдзел у арганізацыі калгасаў і змагаліся з кулацтвам, будавалі фабрыкі і заводы, авалодвалі ведамі, як моладзь у навальнічныя гады вайны граміла нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а ў пасляваенны час аднаўляла разбураную ворагам гаспадарку.*



*Мы раскажам таксама пра цудоўныя працоўныя справы нашых сучаснікаў, чые подзвігі яшчэ не сталі гісторыяй, але па сваёй яркасці і значэнню заслугоўваюць месца на старонках камсамольскага летапісу.*

Браніслаў СПРЫНЧАН

# ЧЫСТЫЯ КРЫНІЦЫ

### Нарыс

— Значыць, у цэх, — вяртаючы мне дыплом, сказаў галоўны інжынер. — Там вельмі патрэбны тэхнікі.

І вось я ў кавальска-прэсавым цэху, на каркасным участку. У той час толькі там, на «Гомсельмашы», і ўжывалася электразварка. Праз месяц мне даручылі брыгаду, якая вырабляла каркасы для малатарні «Камуна». Гэта былі вясёлыя хлопцы. Назаўсёды ў маёй памяці застанецца камсамольскі сход, на якім маладыя зваршчыкі, слесары і прэсаўшчыкі абмяркоўвалі свае абавязацельствы напярэдадні свята Вялікага Кастрычніка.

Першым узняўся невысокі хударлявы хлапец Анатоль Ермакоў.

— Бяруся зварыць дваццаць звышпланавых бакавін, — хвалюючыся, прагаварыў ён.

— Я прапаную балгарскі заказ на малатарні здаць датэрмінова! — сказаў слесар Пятро Гулевіч.

— Правільна, правільна, — пачулася з усіх бакоў. — Трэба памагчы сябрам, якія будуюць новае жыццё!..

Я, тады яшчэ зусім «зялёны» майстар, вагаўся: ці адолеем тое, за што бярэмся. І ў той жа час мяне радавала натхненне маіх маладых сяброў. На такім бурлівым сходзе я прысутнічаў упершыню. Камсамольскія сходы ў школе і ў машынабудаўнічым тэхнікуме, дзе я вучыўся чатыры гады, — зусім не тое. Мы гаварылі аб дысцыпліне, паспяховасці. Як правіла, у нас выступалі адны і тыя ж актывісты і заклікалі ўсіх студэнтаў выдатна вучыцца. Тут жа маладыя рабочыя самі абмяркоўвалі свой план, бралі на сябе задачу перакрыць яго.

Адчуўшы маю збянтэжанасць, камсорг цэха Аляксандр Мархула сказаў:

— Такая ўжо традыцыя сельмашаўцаў. Яе вытокі яшчэ ў тым спаборніцтве, якое запалілі камсамольцы першых пяцігодак!..

# ГОД ЗА ГОДАМ

**З гісторыі камсамола Беларусі**

**БУДУЮЧЫ САЦЫЯЛІЗМ**

**1927**

☆

**У адпаведнасці з рашэннем ЦК ВЛКСМ аб арганізацыі камсамольскага паходу «За ураджай», Магілёўскі акруговы камітэт камсамола прыняў план мерапрыемстваў.**

**У перыяд паходу «За ураджай» камсамольцы павінны ў кожным раёне стварыць не менш аднаго калгаса, змагацца за культуру земляробства, праяўляць ініцыятыву па пераходу да шматполля, збіраць попел, удзельнічаць у ачыстцы насення.**

**Вясною ў дзень свята «Першай баразны» арганізаваць паходы-экскурсіі ў лепшыя калгасы і саўгасы.**

☆

**Каля сваёй хаты ў вёсцы Каменная Лава Шклоўскага раёна па-зверску засечаны сякерай сакратар камсамольскай ячэйкі т. Грашчанкаў.**

**1928**

☆

**ЦК ЛКСМБ абвясціў двухмесячны паход па барацьбе з непісьменнасцю, з алкагалізмам, за культуру ў быту.**

**Лозунг—«Кожны пісьменны, навучы аднаго непісьменнага» — узняў усе грамадскія сілы ў паход за культуру.**

☆

**Камсамольская ячэйка Саюза друкароў вырашыла правесці конкурс на лепшага новага ча-**

**лавека. Конкурс працягваўся 38 дзён.**

**Мэта конкурсу: весці непрымірымую барацьбу з неахайнасцю, некультурнасцю, недысцыплінаванасцю, нядбаласцю, п'янствам, хуліганствам, грубасцю.**

**Умовы конкурсу: быт, вытворчасць і грамадская работа павінны ў новага чалавека цесна спалучацца.**

**Пераможцы атрымаюць прэміі.**

☆

**Члены камсамольскай ячэйкі г. Прапойска (цяпер Слаўгарад) выязджалі ў вёску Гайшын, дзе арганізавалі і правялі вечар моладзі, раздавалі літаратуру.**

**Сельскія камсамольцы сваімі сіламі абсталявалі клуб і школу.**

**1929**

☆

**Камсамольцы Кіраўскага раёна, пераадольваючы супраціўленне кулакоў і бандытаў, праводзяць растлумачальную работу сярод насельніцтва па стварэнню калгасаў.**

**На групу камсамольцаў, якія вярталіся дадому з вёскі Берасвёўка, напалі ўзброеныя бандыты. Моладзь не разгубілася, дала бандытам належны адпор.**

☆

**У Койданаве (цяпер Дзяржынск) створана першая ў рэспубліцы МТС. У ліку трактарыстаў і іншых спецыялістаў сюды прыбыло 50 камсамольцаў.**

**1930**

☆

**У першую калгасную вясну камсамольцы рэспублікі з'явіліся ініцыятарамі сацыялістычнага спаборніцтва. Каля 2 000 ударных камсамольска-маладзёжных брыгад змагаліся за своечасовае і якаснае выкананне плана веснавой сяўбы.**

«Добрая традыцыя», — падумаў я. Мне захацелася больш даведацца аб жыцці першых камсамольцаў-сельмашаўцаў, але трэба было падумаць над заўтрашнім заданнем, і я пайшоў у кантору.

На самым пачатку мне спадабалася тая шчырасць і прастата, з якой рабочыя рабілі заўвагі майстру і нават інжынеру. Электразваршчык Камышны неяк сказаў у размове са мной:

— Каб даваць указанні, трэба добра самому справу ведаць...

Яго намёк мне быў зразумелы. Работу прэсаў і станкоў, на якіх мы апрацоўвалі вугольнікі, я ведаў добра. Мог наладзіць абсталяванне і аснастку, паспеў пачытаць сёе-тое па электразварцы, а вось сам пакласці шво на метал не ўмеў. Бывала, спытаеш у каго-небудзь з навічкоў, чаму швы крывыя, а ён з'едліва ўсміхнецца:

— Электроды такія, таварыш майстар!

І паспрабуй дакажы яму, што электроды тут ні пры чым, калі сам паказаць не ўмееш.

У вольны час давялося трэніравацца. Дуга, як на ліха, не запальвалася, а электрод «прымярзаў» да металу. У мяне гэта было яшчэ і ад таго, што займаўся я крадком, каб рабочыя не заўважылі. Яны, відаць, зразумелі мой намер і непрыкметна то адзін, то другі пачалі вучыць мяне рабіць добрую зварку.

Аднойчы ў канцы змены мы здавалі кантралёру каркасы. Бакавіны перакасіліся, і мы, абліваючыся потам, білі кувалдамі па пругкіх сталёвых вугольніках. Але дарэмна — каркасы ніяк не выпростваліся. У гэты час на ўчастку з'явіўся незнаёмы мужчына. Апрануты ён быў у чыстае цёмна-сіняе паліто, а на галаве акуратна сядзела новая шэрая кепка. Ён прыжмурыў левае вока і, уважліва агледзеўшы каркас, ціха сказаў мне:

— А ну, лягчэй, лягчэй, толькі вось па гэтай крыжавіне!

Ударыў раз, другі. Прыклаў шаблон. Добра!

Астатнія дзесяць каркасаў выпрасталі за некалькі хвілін.

Калі мужчына пайшоў, адзін са слесараў кінуў:

— А вока ў яго трапнае!

— Дык гэта ж Вікенці Раманавіч! Хіба ты Нарбутовіча не ведаеш? — заўважыў стары кантралёр і дадаў: — Ён з першых дзён сельмаша тут...

Мне тады таксама ўпершыню давялося бачыць Нарбутовіча — члена парткома завода, хоць чуў пра яго шмат добрага. Сапраўднай жа павагай пранікся да яго, пабачыўшы, як ён завіхаўся з кувалдай. «Такі чалавек, — думаў я, — можа выпрастаць любую крывізну».





**Вікенці Раманавіч Нарбутовіч** (у цэнтры) **дае парады слесару Вечаславу Ліствіну** (злева) **і яго вучню Віктару Лагодзіну па зборцы сіласаўборачнага камбайна СК—2,6.**

Фота П. Белавуса.

.. Адна за другой гаслі блакітныя дугі электразваркі. Над пралётам павольна плыў маставы кран, падобны на самаходную баржу. Хлопцы выключалі апараты, выцiралі спацелыя твары. Пачыналася здача работы кантралёрам.

На ўчастку зноў нечакана паявіўся Нарбутовіч. Уважліва паглядзеў на доўгі рад каркасаў, потым — на мяне. Я ўгледзеў шэрыя запалыя вочы, над якімі навісалі рыжыя кусцістыя бровы, і збянтэжыўся. Мне здалося, што чалавек гэты зазірнуў у душу, а там было неспакойна. Праўда, работа пачала захапляць мяне, я зблізіўся з рабочымі, але думка паехаць на радзіму, у Кіраваград, не давала спакою.

— Ну што, навучыўся выпростваць? — усміхаючыся, сказаў Нарбутовіч. Гэтая добразычлівая ўсмешка падбадзёрыла мяне, і я адказаў:

— Вучуся.

Падышлі зваршчыкі, што здалі змену. Пачалася шчырая гутарка. Віктар Іваненка, любімец усёй брыгады, які добра ведаў Нарбутовіча, папрасіў расказаць пра першых энтузіястаў «Гомсельмаша».

— Шмат што з таго ўжо забылася, пачаў Вікенці Раманавіч. — Але самае яркае засела ў памяці назаўсёды. На гэтым вось месцы некалі шумеў галінамі стары сад. У корпусе цяперашняга механічнага цэха змяшчаліся тры цэхі — інструментальны, механічны і зборачны. Да нас з Украіны ўлетку 1929 года прыехала вялікая група слесараў і токараў — выпускнікоў Гараднянскай тэхнічнай школы. Быў сярод іх вясёлы сінявокі камсамолец Вася Кобец. «Зух-хлопец, — гаварылі пра яго ў цэху. —

**Камсамольцы ўзначальвалі ўдарныя маладзёжныя брыгады, якія паказвалі ўзоры працы на калгасных палях.**

**У ліпені-жніўні з дапамогай камсамольцаў было арганізавана 173 калгасы.**

☆

**У вёсцы Аўчынец Краснапольскага раёна для арганізацыі калгаса створана група актывістаў. Сярод іх — камсамолец Найдзёнаў. Бандыты сачылі за ім, стралялі ў яго. Але гэта не напалохала камсамольца. Хутка ў вёсцы быў створаны калгас «Перамога».**

☆

**Камсамольцы вёскі Лагуны на Гомельшчыне паслалі рапарт X з'езду ЛКСМБ: «Мы, камсамольцы Лагунскай ячэйкі, Гомельскага раёна, стварылі калгас імя X з'езда ЛКСМБ. Мы абяцаем з'езду, што яшчэ з большай упартасцю і камсамольскім энтузіязмам будзем змагацца за ўцягненне працоўнага насельніцтва ў рады новых калгасаў, за поўнае выкананне плана 3-га года пяцігодкі...»**

☆

**Па прапанове камсамольскай ячэйкі калгаса «Бальшавік Беларусі» ўпершыню было пасеяна 10 гектараў кукурузы на сілас.**

**Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ з 1-га ліпеня па 1-е жніўня аб'явіў месячнік па сіласаванню кармоў.**

**Для камсамольскіх ячэекперадавікоў устаноўлены прэміі.**

☆

**Новаму калгасу ва Ушацкім раёне Полацкай акругі дадзена назва «Чырвоная змена».**

**1931**

☆

**Віцебская камсамолія змагаецца за пуск панчошнага камбіната, адной з буйнейшых**

518 будоўляў першай пяцігодкі, на 10 дзён раней тэрміну — у Міжнародны юнацкі дзень 16 верасня. Новаму гіганту прысвоена імя «КІМ».

☆

Рабочыя-рачнікі Гомеля адлічылі аднадзённы заработак на дапамогу ахвярам фашысцкага тэрору і арганізавалі ячэйку МОПР.

☆

У Старадарожскім раёне забіт камсамолец, член сельгасарцелі імя Скварцова і Маёрава Іван Безбародзька. Ён — першы арганізатар калгаса ў сваёй вёсцы Языль,—вёў актыўную барацьбу з кулацтвам.

Арганізавала забойства кулачко, у знак помсты. Забойцы затрыманы.

☆

Валянцін Таўлай — малады паэт Заходняй Беларусі, член камсамола. Прымаў актыўны ўдзел у барацьбе з польскім фашызмам і беларускім нацыяналізмам. Удзельнік вядомай сваім баявым характарам вучнёўскай забастоўкі ў Віленскай беларускай гімназіі ў 1929 годзе. За гэтую забастоўку выданы нацыянал-фашыстам Астроўскім у рукі польскай паліцыі. Арыштаваны паўторна перад 15 МЮДам, прасядзеў год у турме. Засуджаны фашысцкім судом на катаргу, але ўцёк у СССР.

☆

Газета «Чырвоная змена» у адказ на заклік «Комсомольской правды» і пуцёўку М. І. Калініна ўзнімае кампанію «Камсамол на барацьбу з бездарожжам».

☆

Масавыя перабежкі працоўных сялян з акупаванай Заходняй Беларусі ў Савецкі Саюз. Пачынаючы з 23 жніўня, няма таго нумару польскай прэсы, дзе б не пісалася аб забойстве або параненні сялян, што ўцякаюць у СССР.

☆

Разгарнулася шырокая работа па вярбоўцы рабочай сілы для Данбаса. У лік 9 000 чалавек будзе мабілізавана 1 000 камсамольцаў.

☆

У вёсцы Заполле (Навагрудчына, Заходняя Беларусь) забаронена беларуская школа. У адказ сто вучняў выйшлі на дэманстрацыю.

**1932**

☆

Рэдакцыя газеты «Чырвоная змена» за лепшую пастаноўку масавай работы вакол камсамольскага друку і за выкананне кантрольных заданняў па падпісцы ўстанаўляе пераходны Чырвоны сцяг.

За дрэнную пастаноўку масава-тыражнай работы і невыкананне кантрольных лічбаў па падпісцы ўстанаўліваецца пераходны рагожны сцяг.

☆

Адобрана ініцыятыва газеты «Чырвоная змена» і Беларускага савета ТПТЭ (Таварыства пралетарскага турызму і экскурсій) аб пасылцы інтэрнацыянальнай дэлегацыі-экскурсіі лепшых ударнікаў камсамольцаў і працоўнай моладзі Беларусі на Украіну з мэтай азнаямлення і абмену вопытам пралетарыята Украіны і Беларусі ў справе пабудовы сацыялізма, а таксама заключэння соцдагавору паміж камсамолам Беларусі і камсамолам Днепрабуда.

☆

29 мая праведзен усебеларускі камсамольскі суботнік на будаўніцтве дарог пад дэвізам: «Збудуем новыя, упарадкаваныя дарогі!»

☆

У маі 1932 года Цэнтральны Камітэт ВЛКСМ аб'явіў збор кніг для вёскі. Штаб па збо-

Відаць, казацкай крыві». Улетку Вася працаваў у майцы. Прыемна было глядзець, як завіхаўся ён, дужы і загарэлы, з напілкам.

Пасля змены камсамольцы збіраліся ў садзе, на зялёнай траўцы. Мікола Лапуцька браў у рукі гітару, Анюта Шобік і Мікола Пахмурны заводзілі песню. Шчуплаваты Яша Казлоў ужо каторы раз чытаў «Дзесяты падмурак» Паўлюка Труса. Потым Вася Кобец пачынаў чытаць верш Уладзіміра Сасюры «Чырвоная зіма».

Калі настала цішыня і кожны задумаўся пра нешта сваё, былы дзетдомавец Якаў Мінін сказаў:

— Хлопцы, давайце жыць камунай!

— Запрацаваныя грошы ў агульны кацёл, — загарэўся новай ідэяй Вася Кобец. — Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!..

Вясёлым і цікавым было жыццё камуны.

Зборка сіласарэзак вялася тады яшчэ даволі прымітыўным спосабам, і камунары задумаліся, як яе ўдасканаліць. Праз два месяцы прадукцыйнасць працы павысілася. Спатрэбілася ўдвая больш дэталей. Затрымлівалі ліцейшчыкі. На дзвярах кватэры начальніка ліцейнага цэха хлопцы вывесілі ўночы «Трывогу». Ліццё рытмічна пайшло на зборку.

Разгараліся агні спаборніцтва. Брыгадам-пераможцам уручалі пераходны Чырвоны сцяг. Хто адставаў, у таго перад вачамі стаўлялі вымпел з рагожы. У адстаючы цэх прыходзілі ў час абеду ці пасля работы члены агітбрыгады «Сіняя блуза». Сінеблузнікі Мікола Лапуцька, Ніна Александровіч, Якаў Мінін у сатырычных куплетах, якія складаў Вася Кобец, злосна высмейвалі тых, хто плёўся ў хвасце.

Камсамол трымаў у полі зроку жыццё брыгад. Як толькі хто вырываўся наперад, адразу на відным месцы ў цэху з'яўляўся намаляваны на фанеры паравоз ці самалёт, а для тых, хто любіў працаваць з халадком, — чарапаха...

... Калі Нарбутовіч закончыў свой расказ, усе стаялі, нібы зачараваныя. Кожны, напэўна, думаў: добра б пераняць вопыт камсамольцаў трыццатых гадоў. Не вытворчы, вядома; тут мы пайшлі далёка наперад. У нас цяпер цэхі з цудоўнай тэхнікай, высокапрадукцыйныя станкі, аб якіх моладзь трыццатых гадоў толькі марыла. Але вось павучыцца, як рабіць спаборніцтва цікавым, захапляючым, як змагацца з бракаробамі і гультаямі, нам не пашкодзіла б!

Пасля той сустрэчы з Нарбутовічам завод мне параднеў. Я зусім забыў, што збіраўся ў Кіраваград, і ўжо напружана думаў, як лепш арганізаваць спаборніцтва ў сваёй брыгадзе, каб заваяваць першынство.

З таго дня, калі я ўпершыню пераступіў парог прахадной «Гомсельмаша», прайшло больш дзесяці год. За гэты час завод непазнавальна вырас. Узніклі карпусы новых цэхаў, у шырокіх пралётах выстраіліся шарэнгі новых станкоў, у цэхах паявіліся новыя прэсы, молаты-аўтаматы...

Ужо год пяць, як з галоўнага канвеера зборачнага цэха, які ўзначальвае дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Вікенці Раманавіч Нарбутовіч, сходзяць сіласаўборачныя камбайны. Іх можна сустрэць не толькі ў нашых калгасах і саўгасах, але і ў шмат якіх краінах Еўропы, Азіі.

Мне — члену заводскага прафсаюзнага камітэта і супрацоўніку шматтыражкі — часта даводзіцца бываць у цэхах. Ветэраны завода — Гаранскі, Белаш, Дэйт, Кавалёў, Лосеў, Кубліцкі і іншыя расказваюць шмат цікавага са сваёй сельмашаўскай маладосці.

Якаў Казлоў, які прыйшоў на завод шаснаццацігадовым хлапчуком, цяпер працуе майстрам, узначальвае партыйную арганізацыю цэха.

— Добра памятаю, — расказвае Казлоў, — з якой упартасцю авалодвала тады моладзь ведамі. Той жа Нарбутовіч за кароткі час стаў кваліфікаваным токарам. На яго станку гарэў вымпел ударніка-перадавіка. За год працы на заводзе ён стаў майстрам і ўжо вучыў моладзь. У тыя гады Вікенці Раманавіч навучыў такарнай справе больш за трыста маладых рабочых.

У час Вялікай Айчыннай вайны гомсельмашаўцы эвакуіраваліся ў глыбокі тыл на Урал. Большасць камсамольцаў пайшла на фронт, а тыя, што засталіся ля станкоў, кавалі зброю для абаронцаў Радзімы. Камуніст Вікенці Нарбутовіч стаў настаўнікам маладога папаўнення сельмашаўцаў.

У тыя цяжкія дні вайны з лясоў роднага Палесся да сельмашаўцаў прыляцеў на самалёце адзін з беларускіх партызан, над якімі ўзялі тады шэфства заводскія камсамольцы. Усе дружна сабраліся на мітынг. І тут жа сталі на працоўную вахту. Моладзь завода на свае сродкі пабудавала танкавую калону для войск, якія вызвалялі родную зямлю.

Адразу ж, як толькі ворага прагналі з Гомеля, вярнуліся сельмашаўцы ў родныя мясціны. Моладзь поплеч са старымі рабочымі ўзялася за аднаўленне завода. Токары, слесары, ліцейшчыкі, не чакаючы, пакуль адбудуюцца цэхі, працавалі пад адкрытым небам, імкнучыся хутчэй даць калгасам машыны.

Зноў, нібы крыніцы на Сожы, заструменіла на заводзе камсамольская ініцыятыва. З кожным годам яна віруе ўсё мацней і мацней...



**Віктар Рыбкоў — адзін з тых, хто будаваў трэцюю чаргу Магілёўскага завода штучнага валакна. Цяпер ён працуе тут апаратчыкам.** (Да рэпартажа «Кавалі свайго лёсу», стар. 78)

Фота А. Дзітлава.



**Я. Вучэціч. Перакуем мечы на аралы.**



Б. Нёманскі. Подых вясны.



Ф. Малаеў. Узнятая цаліна.

ру літаратуры ўзначаліў А. М. Горкі. Ён адобрыў пачын камсамола і звярнуўся да інтэлігенцыі краіны праз газету «Комсомольская правда». Са сваёй бібліятэкі Аляксей Максімавіч выдаў некалькі соцень кніг.

Беларускія камсамольцы сабралі звыш 30 тысяч кніг і адкрылі 500 новых калгасных бібліятэк.

**1933**

☆

У Мінску адбыўся рэспубліканскі злёт калгасных конюхаў-ударнікаў. На з'ездзе выступаў М. І. Калінін. Ён даў каштоўныя парады па развіццю жывёлагадоўлі, указаў на важнасць стараннага догляду коней.

☆

Піянер Жорж Саскоўскі з калгаса імя Войкава Лельчыцкага раёна быў забіты кулакамі ля калгаснага статку.

☆

Віцебскі гарком ЛКСМБ разгортвае паход за культурны інтэрнат і барак рабочых.

**1934**

☆

18 студзеня ў суботніку ўдзельнічала звыш 3 000 камсамольцаў, маладых і дарослых рабочых Мінска. На пабудове ЦЭЦ — 300 чалавек, на работах вадаканалтрэста — 500 чалавек, на таварнай станцыі — 320 чалавек і г. д.

☆

24 лютага адбыўся злёт гарманістаў Дрысенскага раёна. Прысутнічала 29 чалавек.

☆

Камсамольцы-чыгуначнікі Оршы пад кіраўніцтвам палітаддзела абвясцілі культбытавы

Імкліва расце заводская камсамольская арганізацыя. У яе рады ўліваецца моладзь — перадавікі вытворчасці. Ва ўсіх цэхах і ўчастках ствараюцца камсамольска-маладзёжныя брыгады.

Вясною 1956 года на галоўны канвеер зборкі прыйшоў дэмабілізаваны салдат Пятро Селькін. Ён хутка асвоіў спецыяльнасць слесара і шчыра ўзяўся за работу. Стараўся, каб не запляміць гонару бацькоў. Яго дзед Іван Іванавіч Селькін працаваў на першым такарным станку, які паявіўся на заводзе. Потым у цэх прыйшлі сыны Івана Іванавіча — Якаў, Мікола і Іван.

— Залатыя рукі ў вашых хлопцаў! — сказаў неяк старому Селькіну Вікенцій Раманавіч, які навучаў іх такарнай справе.

Неўзабаве Іван-малодшы стаў ударнікам. Яго — перадавіка спаборніцтва — прэміравалі каштоўным падарункам і ганаровай Граматай. У той жа дзень дома яго чакала яшчэ адна радасць — нарадзіўся сын Пятрок.

Пятрок рос і ўсё з большай цікавасцю прыслухоўваўся да таго, што расказваў дзядуля.

— Сельмаш — наш родны дом, — гаварыў Іван Іванавіч Селькін. — Добрая змена расце нам. Цяперашнюю моладзь не назавеш зялёнай: так і глядзі, што які-небудзь віхрасты хлапчук цябе абгоніць!.. І не толькі сілаю ды спрытам — навука ў іх на першым месцы, новыя метады...

«Навука ў іх на першым месцы» — гэтыя словы дзеда добра запомніў малады слесар Пятро Селькін, бо, прыйшоўшы на завод, адразу ж паступіў на вячэрняе аддзяленне машынабудаўнічага тэхнікума. І вучыўся добра, і ў працы быў першы.

У кастрычніку таго ж 1956 года на галоўным канвееры арганізавалася новая камсамольска - маладзёжная брыгада. Сваім важаком моладзь дружна выбрала Селькіна, які праяўляў цікавасць да ўсяго новага, перадавога.



**Здымак зроблен у 1959 годзе. Сакратар Чыгуначнага РК ЛКСМБ тав. Талкачова ўручае чырвоны сцяг Пятру Селькіну. Брыгадзе, якую ён узначальваў тады, першай у Гомелі было прысвоена званне камуністычнай.**



Слесары-зборшчыкі на чале з камсамольцам Пятром Селькіным смела ўступілі ў спаборніцтва з тэрмістамі, якія на працягу многіх год трымалі першынство і пераходны вымпел гаркома камсамола.

Калі ў краіне разгарнуўся новы патрыятычны рух — спаборніцтва за права называцца калектывамі камуністычнай працы, Пятро Селькін прыйшоў да Нарбутовіча і сказаў:

— Наша брыгада таксама...

— Добра, хлопцы, — з першага слова зразумеў просьбу Селькіна Вікенцій Раманавіч. — Я чакаў, што вы гэтак зробіце...

У Пятра Селькіна знайшлося шмат паслядоўнікаў. У барацьбу за права называцца калектывамі камуністычнай працы ўключыліся брыгады Яўгена Бубенкі, Яўгена Барашкава, Антаніны Арлоўскай, Віктара Шышкіна і іншых. Не засталіся ў баку і тэрмісты, якія зразумелі, што старой славай не пражывеш, што трэба ўвесь час вучыцца, каб не адстаць ад жыцця.

Праз паўгода брыгадзе Пятра Селькіна першай на «Гомсельмашы» было прысвоена ганаровае званне калектыву камуністычнай працы. Неўзабаве гэтая дружная брыгада па прыкладу Валянціны Гаганавай перайшла ў другі цэх, на самае «вузкае» месца — на зборку грэйферных пагрузчыкаў. Праз некалькі месяцаў машыны пайшлі роўным патокам.

На тым самым месцы, дзе трыццаць год таму назад нарадзілася маладзёжная камуна, цяпер працуе брыгада камуністычнай працы, якой кіруе Яўген Барашкаў.

Пятро Селькін, якога нядаўна заводскія камсамольцы выбралі сваім важаком, пазнаёміў мяне з Яўгенам Барашкавым. І той ахвотна расказаў аб сваіх сябрах.

— У нашай брыгадзе выключна моладзь, — гаварыў з захапленнем Яўген. — Усе старанныя, працавітыя. У механічным цэху былі арганізаваны дзве паточныя лініі апрацоўкі вілак кардannага вала. Спатрэбіліся рабочыя — фрэзероўшчыкі, свідравальшчыкі. Тады з выпускнікоў сярэдняй школы і ўтварылі брыгаду. Цяжка было на першым часе. Адзін другога мы не ведалі...

Тамара Рапатуева — выхаванка дзіцячага дома — старалася здружыць членаў брыгады ў адну сям'ю, але гэта ёй доўга не ўдавалася.

Аднойчы Тамара прачнулася на досвітку. Памылася, прыбрала пасцель, паснедала і — да дзвярэй.

— Куды ты, дачушка, спяшаешся, яшчэ і першага гудка не было...

— У нас, бабуля, цяпер гарачая пара, — супакоіла гаспадыню Тамара, — да Перша-



паход. Яны ж узялі шэфства над рабочымі баракамі і абавязаліся ўзорна наладзіць у іх палітмасавую работу.

☆

20 красавіка ў Горках арганізаваны першы ў Беларусі ўніверсітэт культуры. Універсітэт меў тры факультэты: гісторыка-геаграфічны, мастацтвазнаўчы і літаратурны.

☆

Прынята пастанова бюро ЦК ЛКСМБ аб пабудове самалёта «Піянер Беларусі». У рашэнні адзначаецца, што гэты самалёт будзе зроблены да Усебеларускага злёту юных ударнікаў абароны краіны.

☆

8 мая апублікавана пастанова:

Пераходны чырвоны сцяг за ўзорную работу з дружкам замацаваць за Слуцкай раённай арганізацыяй.

☆

Адобрана ініцыятыва завода «Віцебскі пралетарый» і гаркома камсамола аб гарадскім конкурсе на лепшы гурток тэхнічнай вучобы.

Разгарнулася ўсебеларускае сацыялістычнае спаборніцтва.

☆

Камсамольцы Хойніцкай МТС у сувязі з падрыхтоўкай да святкавання МЮДа парашылі правесці масавы інтэрнацыянальны суботнік, сродкі ад якога перадаць брацкаму падпольнаму камсамолу Заходняй Беларусі.

Па няпоўных даных у суботніку ўдзельнічала 2 тысячы чалавек, якія зарабілі 3 тысячы рублёў.

☆

У звароце камсамольцаў віцебскага завода «Чырвоны металіст» гаворыцца аб тым, што

трэба дапамагчы калгаснай моладзі арганізаваць культурны адпачынак. Для свайго падшэфнага калгаса «Прагрэс» яны парашылі абсталяваць дзве фізкультурныя пляцоўкі і арганізаваць струнны гурток.

☆

27 жніўня апублікавана пісьмо ўсім сакратарам ГК і РК ЛКСМБ, нампалітаддзелаў па камсамолу:

«Арганізуйце масавыя чыткі і абмеркаванне даклада М. Горкага на з'ездзе пісьменнікаў. Рэкамендуем праводзіць масавыя чыткі кніг Шолахава «Узнятая цаліна», Серафімовіча, Новікава-Прыбоя з удзелам рабочых, работніц, калгаснікаў і калгасніц».

☆

ЦК ЛКСМБ па прыкладу маскоўскіх камсамольцаў 9 верасня абвясціў усебеларускі рэйд праверкі аховы ільну на сцелішчах, якасці вылежкі трасты і догляду сцелішчаў.

**1935**

☆

Распрацаваны практычныя мерапрыемствы па ўзмацненню далейшага шэфства камсамола Беларусі над лінкорам «Парыжская камуна».

☆

Кожны выхадны дзень 400 стаханаўцаў мінскіх прадпрыемстваў павышаюць культурны і палітычны ўзровень. Тры месяцы працуе ўніверсітэт для стаханаўцаў — гэта разлічаны на год цыкл цікавых лекцый для перадавікоў прадпрыемстваў. Кожная лекцыя ва ўніверсітэце заканчваецца вялікім канцэртам.

☆

Камсамолец Лучкоўскі П. С.— лепшы рабочы гомельскай фабрыкі «Везувій»—узнагароджан ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.



Член брыгады камуністычнай працы свідравальшчыца Тамара Рапатуева.



маю рыхтуем падарункі, а тут у брыгадзе непаладкі. То адзін станок спыніцца, то другі.. Фрэзы крышацца. А ў нас жа паточная лінія... Ну, я пабягу!..

Тамара крочыла па вуліцах Новікаўскага гаю да прахадной. Над карпусамі цэхаў высока ў небе палала яркая зара. Яна расцякалася па вільготных стрэхах, успыхвала на шкле вокан і клалася залатой палоскай пад ногі дзяўчыны.

Густым басам азваўся першы заводскі гудок. Да пачатку змены яшчэ поўная гадзіна, але Тамара спяшалася. Раптам яна ўбачыла на страсе маленькага доміка Міхаіла Жукава — фрэзероўшчыка іхняй брыгады, па віне якога не раз затрымліваўся паток.

— Добры дзень, Міхась! Час на змену, — крыкнула Тамара.

Жукаў нешта буркнуў у адказ і, схіліўшы галаву, зноў заняўся сваёю справай. На двары — гліна, бярвенні, трэскі... «Рамонт», — падумала Тамара.

У абедзенны перапынак Рапатуева звярнулася да камсорга Валянціны Ламаносавай.

— Валя, ты добра ведаеш Жукава?

— Не вельмі, — адказала тая. — Ведаю, што ён камсамолец, жыве ў сваім доме, — і, падумаўшы, дадала: — працаваў раней добра, а цяпер падленьваецца. Сёння зноў паламаў фрэзу, давядзецца прастаяць хвілін сорак. Трэба выклікаць яго на сход ды «зняць стружку»...

Тамара прамаўчала. Увечары яна даведалася, што жыве Міхаіл без бацькі, у яго хворая маці.

— Усе мы, васемнаццаць камсамольцаў, — усміхнуўшыся, расказваў Яўген Барашкаў, — тады сабраліся на сход і на поўную сілу прабіралі Жукава. Рэзка крытыкавалі хлопца і камсорг Ламаносава, і майстар Мікола Кірычэнка.

— Гавары, чаму ты на рабоце спіш! — дапытваліся хлопцы.

Міхаіл маўчаў. І гэта злавала многіх. Але восць слова ўзяла Тамара.

— Таварышы, — пачала яна, — Міхаіл рамантуе свой домік. Яшчэ да змены ён паспее добра напрацавацца, а вернецца з завода, зноў за працу. Потым яшчэ і абед самому трэба згатаваць, бо ў яго маці хворая... Сёння субота, давайце ўсёй талакой паможам Жукаву!..

Так і зрабілі. У нядзелю справіліся з рамонтам. Дзяўчаты згатавалі вячэру. За вячэрай разгаварыліся, лепш пазнаёміліся. Так пачалася гэта таварыскасць, дэвіз якой: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

У брыгаду прыйшоў дэмабілізаваны салдат Віктар Говар. За працу ўзяўся шчыра, з душою. Пачаў працаваць адразу на двух станках. Яму пакоўкі ішлі ад Тоні Кудраўцавай. Аднойчы ў яе паламаўся інструмент. Спыніўся станок. Віктар, насупіўшы рыжаватыя бровы, накінуўся на Тоню:

— Няўмека ты...

Не разабраўшыся, зняважыў дзяўчыну. Шмат давялося гаварыць з Віктарам, пакуль ён папрасіў прабачэння ў Тоні. Цяпер яны — лепшыя сябры. Дапамагаюць адно аднаму ў працы, у вучобе.

Змагаючыся за культуру на вытворчасці, камсамольцы ўспомнілі старую, але грозную зброю, якой карысталіся іх папярэднікі, што выступалі супраць адсталасці. На кавалку фанеры цэхавы мастак намаляваў «свінню»: яе маленькія, прыжмураныя вочкі ўсміхаюцца. Тут жа надпіс: «Увесь цэх абышла, большага бруду не знайшла». «Свіння» спынілася ля станка Камароўскай. На гэты раз дзяўчына ўпершыню не пайшла дадому, пакуль не навяла парадку на сваім рабочым месцы.



Добра прайшла змена ў брыгадзе камуністычнай працы. Яўгену Барашкаву (трэці справа) ёсць аб чым пагутарыць з членамі сваёй брыгады.

☆

Кармянскі райком камсамола 3 ліпеня арганізаваў сустрэчу камсамольскага актыву з Панцеляймонам Мікалаевічам Лепяшынскім, старым бальшавіком. Панцеляймон Мікалаевіч прачытаў камсамольцам лекцыю аб другім з'ездзе РСДРП і значэнні газеты «Искра».

☆

У Капылі праведзена раённая спартакіяда, у якой прыняло ўдзел 11 калгасных калектываў. Першае месца заваявала каманда калгаса «Камунар». Праведзены стралковыя раённыя спаборніцтвы, у якіх прынялі ўдзел прадстаўнікі 36 пярвічных камсамольскіх арганізацый.

☆

У Бабруйскім раёне створана 29 брыгад «лёгкай кавалерыі» па праверцы гатоўнасці школ да новага навучальнага года.

☆

Адбылася першая камсамольская канферэнцыя Кіраўскага раёна. Канферэнцыя звярнулася да моладзі з заклікам: «Камсамолец, садзіся на трактар!»

На заклік канферэнцыі камсамольцы праводзілі нядзельнікі і дэкаднікі, у часе якіх да позняй ночы працавалі на асушэнні балот, лугоў і пашаў.

☆

Сярод калгаснай моладзі шырока распаўсюдзілася спаборніцтва за павелічэнне выпрацоўкі працадзён.

Першынство ў рэспубліцы заваявала камсамолка Надзя Масюк з калгаса «Баявік» Грэскага раёна. Яна выпрацавала за год 620 працадзён.

**1937**

☆

Лепшая трактарыстка рэспублікі Маня Савельева з Ра-

сонскага раёна больш чым у два з паловай раза перавыканала гадавое вытворчае заданне. Замест 400 га яна ўзарала 1 015.

☆

Бюро Магілёўскага райкома ЛКСМБ абмеркавала прапанову мазыран аб падарунках пагранічнікам і падтрымала яе.

☆

Звяно Паўліны Сянчыла з калгаса «Другая пяцігодка» Талачынскага раёна вырасціла высокі ўраджай ільну — па 13 цэнтнераў ільнавалакна і па 10,2 цэнтнера ільносемя з гектара.

1938

☆

Ініцыятарам стаханаўскіх метадаў працы на Віцебскай фабрыцы «КІМ» з'явілася камсамолка т. Падскочая. Высока ацаніў урад заслугі т. Падскочай і ўзнагародзіў яе ордэнам Леніна.

☆

У віцебскім паравозным дэпо ініцыятарам стаханаўскага руху з'явіўся камсамолец токар дэпо Леанід Казлоў. Ён першы за змену выпрацаваў 10 норм. Л. Казлоў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а затым і другім ордэнам — «Знак Пашаны».

☆

Маладая трактарыстка з Віцебшчыны Соня Рачок, удзельніца ўсесаюзнай нарады стаханаўцаў, была першым ініцыятарам рэспубліканскага паходу за 1 000 гектараў ворыва на трактар.

«Свіння» спынілася яшчэ сям-там. І хутка на ўчастку ўсё блішчэла.

Аднойчы Віктар Небыліца прапанаваў:

— Таварышы, пойдзем на экскурсію!

Яго прапанова ўсім спадабалася. І пачаліся экскурсіі, паходы ў тэатр, кіно. Улетку наладжваюцца паездкі на пляж, а зімою лыжныя прагулкі, катанні на каньках.

І цяпер у цэху часта ўспамінаюць турысцкі паход па партызанскіх сцежках. Да прыстані Чонкі плылі на кацеры па Сожу. На месцы былога партызанскага лагера запалілі касцёр. Чырвоныя водбліскі агню трымцелі на ўсхваляваных тварах. Усе глядзелі на полымя, і ў душы нараджаліся светлыя, прыгожыя думкі-мары.

Прыгадалі, як тым камсамольцам, што ўпершыню прыйшлі на новы завод, цяжка было, як яны цягнуліся да ведаў. Каб скончыць тэхнікум, трэба было ехаць у Харкаў, у Ленінград. Не кожны мог пакінуць работу на тры-чатыры гады. А цяпер усё пад бокам — тэхнікум свой, на заводзе. Толькі не лянуйся, вучыся!..

— А ведаеце, хто закладваў падмурак нашага цэха? — нечакана запытала Тоня Кудраўцава.

Усе пагдядзелі на дзяўчыну.

— Камсамолец Мікалай Дворнікаў, — узрушана адказала Тоня. — Да 1930 года ён працаваў на будоўлі, быў мулярам. Пазней пайшоў на партыйную работу, стаў адным з кіраўнікоў рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі. Дворнікаў у інтэрнацыянальнай брыгадзе змагаўся за свабоду Іспаніі, там і загінуў...

Тоня змоўкла. Ціха шумелі высокія сосны, на вяршынях якіх успыхнулі прамені ранняй летняй зары. Ніхто не адважваўся парушыць цішыню. Здавалася, кожны слухаў голас свайго сэрца, якое гаварыла: «Падмурак зроблены надзейнымі рукамі. На трывалай аснове!»

Камсамольцы «Гомсельмаша» заўсёды жылі і жывуць па прынцыпу: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. З глыбінь заводскага камсамольскага жыцця струменяць чыстыя крыніцы новых адкрыццяў, вялікіх пачынанняў, смелых здзяйсненняў. Яны зліваюцца ў адзіны магутны паток, які імкне ў светлыя далі будучыні.

## *Навука - праца - чалавек*



На Гродзеншчыне ў Жалудоцкім раёне працуюць разам фельчарка Ніна Ходчанкава і акушэрка Святлана Валодзька. І жывуць яны разам. Іх часта можна бачыць разам нават за кнігай.

Фота В. Сакалова.

# НА БЫСТРЫНІ

### Нарыс

З таго дня, Яўгенія Іванаўна, як быў я ў вас у Баранавічах, прайшло шмат часу. Вы, напэўна, ужо забыліся пра гэта. Забыліся, як мы дабіраліся ў нейкі далёкі калгас, каб падзівіцца на новы будынак фельчарска-акушэрскага пункта. Тады такое было не ў кожнай вёсцы. Не тое, што цяпер, калі ва ўсіх калгасах ствараюцца лячэбныя ўстановы.

Памятаецца, быў спякотны дзень. Узнімаючы воблакі пылу, старэнькі «Масквіч» імчаў нас сярод зялёнага мора палёў. Вы расказвалі, як пасля заканчэння медыцынскага інстытута працавалі недзе ў сельскай бальніцы, як паважалі вас людзі. Потым вы з абурэннем загаварылі пра тых маладых людзей, якія баяцца крануцца з наседжанага месца, адрачыся вы-

год гарадскога жыцця. Пры гэтым вы назвалі імя адной дзяўчыны, выпускніцы Баранавіцкага медыцынскага вучылішча, памянулі яе нядобрым словам. Я ахвотна згаджаўся з вамі...

І вось нядаўна мне давялося пабываць на Гродзеншчыне, у Жалудоцкім раёне, сустрэць там Ніну Ходчанкаву — тую дзяўчыну, аб якой тады ішла гаворка. Пра яе мне ўдалося дазнацца больш, чым, напэўна, ведалі вы, і мне стала сорамна за тое, што мы неабдумана нагаварылі на чалавека, які гэтага не заслугоўвае.

Памятаеце, Яўгенія Іванаўна, вы гаварылі, што Ніна не паехала ў вёску, а засталася ў горадзе. Сапраўды, яна пераехала ў Гродна. Але ж яе туды накіравала міністэрства, накіравала таму, што там не хапала медыцынскіх сясцёр, хоць у яе жаданне было іншае: вучыцца далей, на ўрача.

А што датычыць цяжкасцей, то запэўняю вас — Ніна цяжкасцей не баіцца. Баязлівасць не ўласціва яе характару.

Калі наша савецкая моладзь адгукнулася на заклік партыі паехаць на цаліну, сярод першых энтузіястаў гэтага выдатнага пачыну была і беларуская камсамолка Ніна Ходчанкава. Нялёгка было ёй там. Дзяўчаты жылі ў палатках, смяглі ад спякоты, але нішто іх не палохала. Яны садзіліся за руль трактара, грузавіка...

Ніна Ходчанкава вярнулася з Кулундзінскага стэпу ў Беларусь толькі тады, калі медыцынскае вучылішча адклікала яе на вучобу.

Яўгенія Іванаўна! Вы, напэўна, нічога не ведаеце аб апошніх падзеях, што адбыліся ў жыцці Ніны. А між тым, яны якраз гавораць аб тым, што Ніна не любіць ціхай завадзі, а рвецца на быстрыню жыцця, туды дзе цяжэй, дзе здолее прынесці больш карысці.

Аднак я не збіраюся навязваць сваю думку, а раскажу ўсё па парадку, як гэта было.

Калі стала вядома аб каштоўным пачыне вышневалоцкай ткачыхі Валянціны Гаганавай, дзяўчаты з 2-й Гродзенскай гарадской бальніцы, у тым ліку і медыцынская сястра Ніна Ходчанкава, задумаліся, як бы і ім скарыстаць гэты новы, народжаны сапраўднай камуністычнай свядомасцю прыклад.

Ніна разам з участковым урачом прымала хворых у паліклініцы, наведвала іх на кватэры, выконвала ўрачэбныя назначэнні і прафілактычныя мерапрыемствы. Часта яе працоўны дзень заканчваўся позна ўвечары.

У бальніцы, як вядома, не было ні брыгад, ні ўчасткаў, такіх, як на прадпрыемстве, і дзяўчаты не ведалі, што ім рабіць.

Але вось камсамольскі важак Людміла Цімашкова неяк вярнулася з абласнога аддзела аховы здароўя і сказала:

— Дзяўчаты, ёсць магчымасць паехаць у вёску. У далёкія калгасы, дзе не хапае медработнікаў...

Склікалі камсамольскі сход, пагаварылі, паспрачаліся з начальствам, бо яно не надта ахвотна сустрэла гэтую прапанову, і пастанавілі: нікога сілай не цягнуць, а хто хоча — калі ласка!

Камсамольцы добра разумелі, што іх дапамога на вёсцы вельмі патрэбная. Вядома, там будзе цяжэй, але затое цікава, карысна для справы і для сябе. Нельга стаць добрым, спрактыкаваным спецыялістам, не папрацаваўшы самастойна.

Паехаць у вёску выказалі жаданне Людміла Цімашкова, Элеанора Піваварава, Тамара Дуброўшчык і Ніна Ходчанкава. Усе яны трапілі ў Жалудоцкі раён, але ў розныя вёскі.

Ніна працуе ў Ходараўцах на фельчарска-акушэрскім пункце. Мы прыехалі ў вёску разам з галоўным урачом раёна Мікалаем Яўтропавічам Бугаенкам і на месцы працы Ніну не заспелі. Яна пайшла ў суседнюю вёску да хворай дзяўчынкі.



**Дыягназ устаноўлены правільна. У Гені — запаленне лёгкіх.**

Фельчарска-акушэрскі пункт знаходзіцца пад адным дахам з сельскім Саветам, і нас запрасіў да сябе яго старшыня Аляксей Васільевіч Карпаў.

— Пасядзіце, адпачніце з дарогі, — прапанаваў ён. — Ніна хутка вернецца. Яна ў нас рухавая, хуткая...

— Вы задаволены ёю? — спытаў Бугаенка нібы для таго, каб яшчэ раз упэўніцца, ці не памыліўся ён, даўшы ёй накіраванне на работу.

— Дзіва што! — старшыня ўскінуў густыя чорныя бровы. — Такога кемлівага фельчара, па праўдзе кажучы, у нас яшчэ не было. Ды і прынцыповая дзяўчына.

І тут галоўны ўрач успомніў адзін цікавы выпадак.

Аднойчы яму давялося прысутнічаць на прафсаюзным сходзе супрацоўнікаў участковай бальніцы, дзе абмяркоўваўся выпадак з адной медсястрой, якая заснула на дзяжурстве. Сама віноўніца вытлумачыла гэта даволі проста: маўляў, стамілася, ну і заснула, нічога тут асаблівага няма. Знайшліся людзі, якія нават паспачувалі ёй.

Але вось паднялася Ніна і асудзіла ўчынак парушальніцы працоўнай дысцыпліны. Усе з ёю згадзіліся. Сход меў карысць не толькі для той медсястры-нядбайніцы, але і для ўсяго калектыву.

— Яна такая, — пацвердзіў старшыня сельсавета. — Справядлівая і цярпець не будзе, калі хто крывадушнічае, ухіляецца ад работы...

За перагародкай раптам пачулася:

— Ніна прыйшла.

...Мы слухаем усхваляваны расказ Ніны пра тое, як яна хадзіла ў вёску, як шукала хворую дзяўчынку.

— У вёсцы не тое, што ў горадзе, — усміхаецца дзяўчына. — Тут усё зусім проста. Ведаючы толькі прозвішча чалавека, хутка адшукаеш, дзе ён жыве. Мяне тут усе завуць не інакш, як «доктарка». А калі так, то трэба апраўдваць гэтую высокую назву!..



**Ніна Ходчанкава (справа) уважлівая да кожнага хворага.**

Крыху памаўчаўшы, Ніна загаварыла пра хворую дзяўчынку. У тае была ангіна, дала высокую тэмпературу. І Ніна паведаміла, якое лячэнне намеціла.

Затым Ніна расказала, што па дарозе дадому яна наведала дыспансерных хворых, занесла ім лякарства. Пабыла і ў дзядулі Мацвея, які нядаўна выпісаўся з бальніцы.

Ніна паказала нам журнал амбулаторных прыёмаў, кнігі ўліку прафілактычных прышчэпак. І ўсё так акуратна, так старанна...

Пакуль мы гутарылі, звечарэла. Ніна пачала збірацца дадому. Ужо на вуліцы яна нерашуча спыталася:

— Можа заглянеце да нас, паглядзіцё, як мы жывём?..

Ніна Ходчанкава і акушэрка Святлана Валодзька жывуць на адной кватэры, якую даў ім сельскі Савет. Іх пакойчык светлы, утульны. На стале, на беласнежным абрусе, — свежыя газеты, часопіс мод і томік вершаў Аляксандра Блока. А побач з ім — нераспячатанае пісьмо.

— Ад Людкі Цімашковай! — убачыўшы канверт, усклікнула Ніна.

Сяброўка пісала з вёскі Галубы, што па той бок Нёмана. Там яна працуе медсястрой участковай бальніцы. Было бачна, што і Людміла новым месцам задаволена і адчувае сябе там, як дома.

У тую ноч у Ходараўцах здарылася няшчасце. Дзяўчаты, напэўна, добра ўжо ўспаліся, калі ў акно да іх пастукалі. Першай падхапілася Ніна.

— Хто там?

З панадворку адказаў глухі, нібы прастуджаны, жаночы голас:

— Доктар, не прагневайцеся, дрэнна з маім чалавекам... Памажыце!..

Падхапілася і Святлана, пачала апранацца. Ніна шапнула:

— Ты чаго? Спі!

— Пойдзем разам...

Дзяўчаты хутка сабраліся, узялі санітарную сумку з інструментам і медыкаментамі і заспяшаліся да хворага.

Хворы быў непрытомны.

Ніна праверыла пульс і загадала Святлане падрыхтаваць морфій. Зрабілі ўкол, далі лякарства, і хворы неўзабаве апрытомнеў.

Ніна ўспомніла, што такі ж цяжкі сардэчны прыступ янаназірала ў Гродне, калі разам з урачом ёй давялося прыводзіць у прытомнасць хворага. Гэтая практыка ёй цяпер памагла. Даючы хвораму лякарствы, што рэгулююць дзейнасць сэрца, Ніна ўвесь час сачыла за пульсам.

Калі хвораму палегчала, яна адаслала Святлану дадому, каб тая, адпачыўшы, змагла весці прыём на пункце, а сама засталася дзяжурыць.

На досвітку хвораму стала лепей. У хуткім часе з участковай бальніцы прыехаў урач. Ён пацвердзіў дыягназ.

Гэты выпадак хутка стаў вядомы ўсёй ваколіцы. І старыя, і малыя гаварылі, што ў Ходараўцах новая фельчарка вылечвае нават цяжкія захворванні сэрца. Як звычайна ў такіх выпадках, людзі не скупіліся на пахвалы, нават сёетое і перабольшалі.

Самаадданай працай, стараннасцю заваёўвае Ніна павагу ў людзей. Для яе няма большага шчасця, як адчуванне таго, што яна прыносіць чалавеку ў дом здароўе і радасць. Няхай у яе на шляху будуць і цяжкасці, і няўдачы, але дзеля гэтай удзячнай мэты варта жыць і працаваць!

...Вось, бадай, і ўсё, Яўгенія Іванаўна, што я хацеў напісаць. Не ведаю, ці загадваеце вы, як раней, сектарам кадраў ці перайшлі на іншую работу, але мне хочацца верыць, што вы зразумееце мяне як трэба, і ўдумаецеся як след у тое, што тут расказана.

**Павел ТОРМАСАЎ.**

# РАДЫЁЭЛЕКТРОНІКА Ў МЕДЫЦЫНЕ

Шэсцьдзесят пяць гадоў аддзяляюць нас ад таго дня, калі наш суайчыннік, вялікі вучоны і вынаходнік Аляксандр Сцяпанавіч Папоў прадэманстраваў створаны ім першы ў свеце радыёапарат. За гэты параўнаўча кароткі час радыётэхніка дасягнула такіх поспехаў і так шырока ўвайшла ў жыццё, што без яе зараз не абыходзіцца ні адна галіна чалавечай дзейнасці. У прамысловасці, напрыклад, радыёапараты выкарыстоўваюцца на ўсіх этапах тэхналагічнага працэсу, пачынаючы ад кантролю за паступленнем сыравіны і канчаючы ўлікам гатовай прадукцыі. Радыёхвалі дапамагаюць вучоным пранікнуць у таямніцы прыроды, вывучыць будову рэчыва, зазірнуць у нязведаныя прасторы сусвету. Штучныя спадарожнікі Зямлі, першыя ў гісторыі сусветнай навукі савецкія касмічныя ракеты — бліскучы доказ высокіх дасягненняў айчыннай радыётэхнікі і электронікі. У час дыстанцыйнага радыёкіравання палётам першай касмічнай ракеты савецкай радыёапаратурай быў устаноўлены сусветны рэкорд дальнасці двухбаковай сувязі — 600 тысяч кіламетраў!

Выкарыстанне радыё не толькі вызваляе чалавека ад цяжкай фізічнай працы, але і памагае ў яго разумовай дзейнасці. Электронныя вылічальныя машыны ўжо зараз у значнай ступені разгрузілі чалавека ад шматлікіх разумовых аперацый. Гэтыя машыны адкрываюць бязмежныя магчымасці для аўтаматызацыі кіравання вытворчасцю.

Радыёэлектронныя прыборы знайшлі прымяненне і ў медыцыне. У барацьбе з захворваннямі чалавека, за падоўжанне яго даўгалецця, у прафілактычнай і лячэбнай практыцы савецкіх урачоў шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя радыёэлектронныя апараты.



Першая клінічная бальніца ў Мінску багата абсталявана радыёэлектроннай апаратурай. Лабарантка З. Бакланава рыхтуе электракардыёскоп для чарговага здымку.

Фота С. Чырэшкіна.

Здаўна вядома, што электрычным токам можна ўздзейнічаць на жывы арганізм, запавольваць або паскараць працэсы, якія ў ім адбываюцца. У XVII стагоддзі італьянскі фізік і фізіёлаг Луіджы Гальвані заўважыў, што пры скарачэнні мускулаў жабы ўзнікаюць слабыя электрычныя токі, так званыя біятокі. Калі ж да жабінай лапкі падключыць знешнюю крыніцу току, то, наадварот, можна выклікаць скарачэнне мускулаў, якія прыводзяць яе ў рух. Гэтыя доследы з'явіліся пачаткам новай біялагічнай навукі — электрафізіялогіі, якая ўзнікла на скрыжаванні двух навук: біялогіі і электратэхнікі.

Сучасная электрафізіялогія ўстанавіла, што ў жывым арганізме біятокі ўзбуджаюцца не толькі пры скарачэнні мускулаў, але і ў выніку дзеяння ўсіх унутраных органаў: сэрца, страўніка, разнастайных залоз, а таксама як вынік вышэйшай нервовай дзейнасці. Да таго ж біятокі — гэта не проста пабочная з'ява, якой суправаджаецца дзеянне арганізма. Яны адыгрываюць вельмі важную ролю ў фізіка-хімічных працэсах, што адбываюцца ў арганізме. Устаноўлена, што перадача раздражненняў па нервовым валакне ажыццяўляецца з дапамогай звязаных між сабой біялагічных і электрычных працэсаў. Біялагічныя з'явы выклікаюць электрычны ток, які ў сваю чаргу абуджае новыя біялагічныя працэсы. Велічыня і характар біятокаў залежыць ад стану ўсяго арганізма. Такім чынам, вывучаючы біятокі, можна ажыццяўляць дыягностыку розных захворванняў. Для вызначэння хвароб створаны разнастайныя радыёэлектронныя прыборы, якія дапамагаюць атрымоўваць своеасаблівыя «электраздымкі» дзейнасці розных частак жывога арганізма. Пры дапамозе спецыяльных электродаў біятокі прымаюцца і перадаюцца па правадах на радыёўзмацняльнік. Узмоцненыя ў сотні і нават тысячы разоў, яны рэгіструюцца прыборам, які называецца асцылографам. Асцылограф запісвае біятокі ў выглядзе зігзагападобнай лініі на фотаплёнцы або на спецыяльным экране. Такая крывая і з'яўляецца электрадыяграмай дзейнасці таго ці іншага органа чалавека.

Сучасная медыцына, грунтуючыся на дасягненнях радыёэлектронікі, можа хутка і дакладна распазнаваць сардэчныя, нервовыя і

іншыя ўнутраныя захворванні. Электракардыяграма — запіс біятокаў дзейнасці сэрца, дазваляе ўрачам вызначаць характар сардэчных захворванняў. Для гэтага параўноўваюцца электракардыяграмы хворага і здаровага сэрцаў.

Электрадыяграма дзейнасці галаўнога мозгу (энцэфалаграма) дапамагае ўрачам беспамылкова ўстанавіць прычыну псіхічных і іншых захворванняў. Зараз паспяхова праводзяцца доследы нават па распазнаванню думак чалавека шляхам вывучэння біятокаў мозгу.

Радыёэлектронныя прыборы даюць магчымасць урачам не толькі вызначаць дыягназ захворвання: яны дапамагаюць вылечваць шматлікія хваробы.

Не так даўно выяўлена, што ўздзеяннем на жывы арганізм электрычнага току, які мае такую ж велічыню і форму змяненняў, як і прыродныя біятокі гэтага арганізма, можна палепшыць яго дзейнасць, выклікаць разнастайныя фізіялагічныя з'явы: бадзёрасць, сон, добрае самаадчуванне і нават добры настрой.

Некалькі год таму назад створаны апарат, які называецца «электрасон». Ён пасылае ў мозг рытмічныя электрычныя раздражненні. Электроды, злучаныя праваднікамі з апаратам, прыкладаюцца да галавы чалавека, які хварэе бяссонніцай, і ён хутка засынае глыбокім, здаровым сном. З дапамогай гэтага апарата можна так усыпляць хворых, што яны нават не адчуваюць болю ў час аперацыі. Электрасном паспяхова праводзіцца лячэнне гіпертаніі, шматлікіх псіхічных і іншых захворванняў. Апарат «электрасон» апошняй канструкцыі важыць усяго 600 грамаў, ён не большы за звычайны прас для адзення. Гэты апарат можна ўключаць непасрэдна ў асвятляльную сетку і выкарыстоўваць у хатніх умовах.

Шырокі ўжытак маюць у медыцыне прыборы, якія нагадваюць высокачастотныя радыёперадатчыкі. Для лячэння язваў, ран, апёкаў, празмернага атлусцення, а таксама для глыбокага прагравання розных участкаў цела выкарыстоўваюцца токі высокай частаты, якія робяць ад 500 тысяч да адна-го мільёна ваганняў у секунду. Здольнасць токаў высокай частаты знішчаць бактэрыі дазваляе выкарыстоўваць іх для стэрылізацыі прадуктаў харчавання.

Высокачастотныя токі замяняюць хірургу скальпель: яны амаль без болю разразаюць ткані цела, пры гэтым разрэзы не крававяць, таму што крывеносныя сасуды зварваюцца гэтымі токамі.

Кожны, хто сядзеў у крэсле зубнога ўрача, ведае, які боль прыносіць апрацоўка зубоў звычайнай бормашынай. У апошні час у стаматалагічных клініках пачалі выкарыстоўваць радыёэлектронныя прыборы, якія называюцца ультрагукавымі генератарамі.

Вельмі часта ўрачу неабходна ведаць тэмпературу не толькі ўсяго цела хворага, але і асобных яго частак, каб вызначыць невялікія зачаткі запалення тканак, зараджэнне пухлін і інш. Медыцынскім ртутным тэрмометрам гэта зрабіць нельга. Зараз створаны паўправадніковы мікратэрмометр, у якога адчувальны элемент размешчаны на кончыку своеасаблівай іголкі. Новым тэрмометрам можна вымяраць тэмпературу самых маленькіх участкаў арганізма, напрыклад, рагавіцы вока, асобных залоз і нават клетак.

Нельга не ўспомніць яшчэ адзін вельмі цікавы радыёэлектронны прыбор, дзеянне якога заснавана на выкарыстанні біятокаў арганізма чалавека. У 1957 годзе групай вучоных Інстытута машыназнаўства Акадэміі навук СССР і Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута пратэзабудавання створан макет біяэлектрычнай сістэмы кіравання. Гэты макет уяўляе сабой высакаякасны ўзмацняльнік біятокаў і невялікі электраматор, злучаны з пратэзам рукі — механічнай мадэллю кісці. Два праваднічкі злучаюць гэты прыбор са своеасаблівым металічным бранзалетам. Калі бранзалет надзець на запясце рукі і сціснуць яе ў кулак, то механічная рука дакладна паўторыць гэты рух. Сігнал біятоку запясця рукі чалавека, узмоцнены ў некалькі мільёнаў разоў, кіруе механізмам матора, які прыводзіць у рух пальцы механічнай рукі. Калі чалавек мацней сціскае кулак, то ўзмацняецца магутнасць біятоку, дзякуючы чаму мацней сціскаюцца і штучныя пальцы. Гэты незвычайны пратэз рукі, які кіруецца біятокамі чалавечага арганізма, названы біяточным маніпулятарам. Такая рука спакойна пранікае ў агонь; пальцы з непрабіваемай токам высакаякаснай крэмніевай ізаляцыі працуюць у электрычных машынах высокага напружання. Лёгкія, жвавыя маніпулятары праводзяць найтанчэйшыя доследы з небяспечнымі для жыцця радыёактыўнымі рэчывамі, рэгулююць работу складаных механізмаў у непасрэднай блізкасці ад ядзернага рэактара.

Яшчэ больш цікавая механічная рука дэманстравалася на Сусветнай выстаўцы ў Бруселі ў 1958 годзе. Гэтая рука прыводзілася ў рух думкамі чалавека. Кожны наведвальнік выстаўкі меў магчымасць надзець невялікі металічны бранзалет, злучаны правадамі з механізмамі жалезнай рукі. Дастаткова было пасля гэтага ўявіць сабе ў думках які-небудзь рух рукі, як штучная рука паслухмяна выконвала яго. Напрыклад, вы падумалі, што сціскаеце пальцы ў кулак, і механічная рука адразу робіць гэты рух. Справа ў тым, што ў працэсе мыслення таксама ўзнікаюць адпаведныя біятокі, якія распаўсюджваюцца ад галаўнога мозгу па нервовых валокнах, як па правадах, да другіх частак чалавечага арганізма. Чалавек падумаў, што трэба сціснуць пальцы ў кулак і яшчэ гэтага не зрабіў, а па нервовых валокнах цела памчаліся ўжо з галаўнога мозгу да кісці рукі электрычныя імпульсы-загады. Калі іх злавіць бранзалетавым электродам, узмацніць і падаць на механічную руку, то яна выканае гэтыя загады, Так кіруюць работай біяточнага маніпулятара пры дапамозе думкі. Больш таго, ужо існуюць радыёэлектронныя прыборы, якія дазваляюць па характару біятокаў мозгу вызначаць настрой чалавека, і яго самаадчуванне.

Дзякуючы высокаму развіццю радыётэхнікі і электронікі, а таксама новай навукі — кібернетыкі вучоныя здолелі сканструяваць прыстасаванні, якія мадэліруюць нават органы слыху і зроку. Створаны электронныя машыны, якія аўтаматычна ўголас чытаюць друкаваны тэкст. Існуюць апараты, што могуць размаўляць складаць словы і нават цэлыя фразы.

Дарэчы сказаць, такія электронныя машыны вельмі складаныя па канструкцыі, але ў аснову іх дзейнасці пакладзены звычайныя і простыя фізічныя з'явы. Напрыклад, мадэллю вока служыць фотаэлемент — прыбор, здольны выпрацоўваць электрычны ток пры ўздзеянні на яго светлавых праменняў. Фотаэлементы шырока выкарыстоўваюцца ў гукавым кіно, аўтаматыцы, тэлемеханіцы, тэлебачанні.

Мадэллю вуха з'яўляецца мікрафон, якіператварае гукавыя ваганні паветра ў ваганні электрычнага току. Паміж мікрафонам і вухам існуе блізкае падабенства: як мікрафон, так і вуха ператвараюць гук у электрычны ток.

Вядома, канструкцыя фотаэлементаў і мікрафонаў толькі ў самых агульных рысах нагадвае будову вока або вуха. Яшчэ не ўдалося стварыць такі фотаэлемент, які можна было б прыраўняць да вока, таксама, як не існуе мікрафона, які па сваіх якасцях быў бы раўназначны вуху. Аднак гэтыя прыборы пашыраюць магчымасці чалавечага вока ці вуха. З дапамогай фотаэлементаў можна ўспрыймаць праменні, нябачныя вокам, такія, як інфрачырвоныя або ультрафіялетавыя. Спецыяльныя п'езакрышталічныя мікрафоны здольны ўспрыймаць нячутныя гукі — ультрагукі.

Выкарыстоўванне радыёэлектронікі ў медыцыне толькі пачалося. Але, вынікі яго ўжо даволі адчувальныя. Прымяненне электронных прыбораў робіць медыцынскую навуку *яшчэ больш* магутнай, памагае ёй паспяхова змагацца з рознымі захворваннямі чалавека, за прадаўжэнне яго веку.

**Васіль ВАЛЯЎКА,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута матэматыкі і вылічальнай тэхнікі Акадэміі навук БССР.**

„Маладосць" вядзе рэпартаж...

# ВЕЧАРАМ У СКІДЗЕЛІ

Фота А. Дзітлава.
Тэкст Т. Булгакавай.

Суботнім вечарам вырашылі мы прайсці па Скідзелю. Гэта — гарадскі пасёлак, у якім знаходзіцца цэнтр аднаго з раёнаў Гродзеншчыны.

Скідзель вядомы нават за межамі Беларусі і не столькі, можа, сваёй сціплай прамысловай прадукцыяй, колькі гераічнымі справамі камсамольцаў, якія склалі слаўную старонку летапісу Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэтыя справы напамінае пастаўлены ў цэнтры пасёлка помнік героям камсамольскага падполля, якія загінулі ад рук фашысцкіх захопнікаў.

Яны раслі звычайнымі хлопцамі. Летам бегалі на Котру лавіць рыбу, прыводзілі часам у адчай бацькоў і суседзяў сваімі выдумкамі, за некалькі кіламетраў хадзілі па цяжкіх зімовых дарогах у школу.

Вайна так раптоўна перарвала прывычнае жыццё, што не хацелася гэтаму нават верыць. Пажары, расстрэлы, арышты, зноў расстрэлы... Апусцелі, нібы вымерлі, вуліцы пасёлка. Вечарамі ў хатах стараліся не запальваць агню, шчыльна зачынялі дзверы, нібы гэта магло спыніць бяду. Юнакі не маглі сядзець склаўшы рукі за замкнёнымі дзвярыма. Яны ішлі на «вечарынку». Малюнак мастака ўваскрашае характар такіх вечарынак у першыя дні вайны.



І калі аднойчы ноччу ў ваколіцах Скідзеля ўспыхнулі сцірты збожжа, сабранага з палёў саўгаса, вынікі «вечарынак» сталі відавочнымі: спалілі, каб не аддаць ворагу. Лістоўкі і зводкі «Савінфармбюро», расклееныя нейчай бясстрашнай рукой, дыверсіі партызан давалі падставу жыхарам Скідзеля гаварыць: «Нашы змагаюцца!»

Арыштавалі васьмярых: Мікалая Дзелянкоўскага, Анатоля Зелянкоўскага, Уладзіміра Кізевіча, Фёдара Макарчука, Аляксея Роліка, Івана Сініцу, Івана Сеўрука, Івана Шчаснага... Тады толькі людзі даведаліся імёны гэтай васьмёркі, старэйшаму з якіх было 26, а малодшаму — усяго 14 гадоў. Нібы святло яркай зоркі, успыхнула іх слаўнае жыццё, адданае за справу міру.

Надвячоркам мы ішлі вуліцамі пасёлка. Было людна. Усё ішло сваім звычайным парадкам. Запальваліся ў вокнах агні, вольныя ад працы людзі спяшаліся — хто дамоў, хто ў школу, хто ў кіно, а хто на танцы.

Скідзельскі цукровы завод — буйнейшае прадпрыемства харчовай прамысловасці рэспублікі. За яго калектывам даўно ўмацавалася добрая слава.

Моладзь тут можна сустрэць на кожным кроку. Ёй давяраюць самыя складаныя ўчасткі вытворчасці, аб маладых спецыялістах тут адгукаюцца цёпла, з павагай.

Калі мы прыйшлі на завод, пад кіраўніцтвам інжынера М. Зуевай працавала другая змена.



Мы накіраваліся да апаратаў варкі. Тут — амаль трапічная гарачыня. Уназіральнае шкло відаць, як бурліць у велізарных катлах карычневая вадкасць — патака. Час ад часу апаратчыца Надзя Жарская бярэ пробу.

— Бачыце, у патацы ўжо сталі завязвацца крышталікі цукру. — Нявопытным вокам нам з цяжкасцю ўдаецца разгледзець ледзь прыкметныя крупінкі гэтай





ваецца густая зацукраваная маса, якую завуць утфель.

Вось так мы пазнаёміліся коратка з тэхналогіяй вырабу таго прадукта, які ўжываем кожны дзень. Разам з тым пазнаёміліся і з Надзяй Жарскай. Яна прыйшла на завод, як і многія, пасля дзесяцігодкі, чатыры гады таму назад. Уменне і вопыт не прыходзяць адразу. Але нават тады, калі адчула сябе зусім упэўненай ля апаратаў, Надзя ведала: вучыцца трэба. Цяпер яна займаецца ўжо на другім курсе Усесаюзнага завочнага інстытута харчовай прамысловасці.

Надзя з аднолькавым поспехам абслугоўвае апарат першага і апарат другога прадукта. Але ўсё роўна на вока не заўсёды ўсё ўгадаеш. Бывае часам, што доўга не зварваецца патака. Тут патрэбна дапамога лабараторыі. І нават калі ўсё ідзе нармальна, апаратчыца абавязкова зазірне да дзяўчат у лабараторыю.

— Колькі мы ў мінулую змену зварылі утфелю? — пытаецца Надзя ў зменнага хіміка Валянціны Дзмітрыеўны Бабкінай і чуе адказ, які радуе не толькі яе, але ўсіх на заводзе. Апаратчыцы далі столькі утфелю, што з яго атрымалі 323 цэнтнеры цукру, замест 285, як было вызначана планам. Значыць, зноў у графіку змена зойме першае месца.

Звараны апаратчыцамі утфель падаецца на цэнтрафугавыя машыны, каб з дамешак вылучыць чысты цукар. Тут працуе Уладзімір Гарбач, былы воін Савецкай Арміі. Ён прынёс з сабою на завязі. — Калі не ўгледзіш і не дадасі ў час цукровай пудры, яны распадуцца, — працягвае Надзя. — Цукровая ж пудра памагае крышталам «нарошчвацца», умацоўвацца. У выніку атрымлі-





завод сабранасць, працавітасць, дысцыплінаванасць.

На заводзе нам параілі абавязкова пазнаёміцца з Нінай Гайко, перадавой апаратчыцай. Яна працавала ўдзень, а цяпер была дома. Там мы яе і засталі. У гэты суботні вечар у яе сабраліся сяброўкі — апаратчыца Ядзя Война і работніца механічных фільтраў Шура Шулейка. Нініна маці Хрысціна Іванаўна таксама прыняла ўдзел у забавах моладзі. І калі сталі праігрываць на радыёле пласцінкі, не ўтрымалася і сама выбрала сваю любімую «Рабінушку». У гэты момант мы і сфатаграфавалі іх. Злева направа — Шура, Хрысціна Іванаўна, Ніна і Ядзя.

Ніна заўсёды жывая, непасрэдная, але калі давялося расказваць пра сябе, усю біяграфію ўмясціла ў некалькіх словах: школа, завод, паступленне ў харчовы тэхнікум.

— Няма нічога асаблівага, — збянтэжана ўсміхнулася яна. Але потым усё ж крыху ажывіла свой расказ некаторымі цікавымі эпізодамі.

Выкладчыца хіміі ў школе, дзе вучылася Ніна, Клаўдзія Піліпаўна Крылова, адначасова працавала і на заводзе зменным інжынерам. Яна і прывіла сваім вучням любоў да завода. Ніна Гайко з атэстатам сталасці прыйшла на завод. Цяжка было выбраць сабе прафесію, але калі параілі вучыцца на апаратчыцу, вырашыла, што так і будзе.

Тры месяцы — тэрмін невялікі, калі нават да дзён дадаецца шмат начэй, а было і такое. Але затое адзін дзень стаў узнагародай за ўсё: яна самастойна стала ля апарата.

Вучылася Ніна і ў Клаўдзіі Піліпаўны, у змене якой пачала працаваць, і ў вопытнага апаратчыка, цяпер майстра змены Скварнюка, і ў многіх рабочых. У іх яна навучылася не толькі майстэрству варыць цукар. Ніна навучылася цаніць дружбу і давер'е людзей, зразумела, як многа даў ёй калектыў.

Сапраўды, яе працоўная біяграфія пачалася таксама, як і ў многіх іншых. Але поспехі ў працы такія выдатныя, што былі адзначаны ў дзень 50-годдзя Міжнароднага жаночага дня ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Неяк, выступаючы на маладзёжным вечары, прысвечаным сустрэчы з маладымі перадавікамі вытворчасці, Ніна сказала:

— Пра сябе я магу цяпер сказаць адно: высокая ўзнагарода абавязвае мяне вучыцца. Цяпер я проста не маю права задавальняцца дасягнутым.

Для большасці маладых рабочых на заводзе асноўным дэвізам цяпер стала — «вучыцца».

Мы завіталі ў госці да маладой сям'і — Ніны і Барыса Гаруновых. Ніна летась скончыла дзесяцігодку, працуе выпаршчыцай, Барыс — электрыкам на заводзе і вучыцца ў восьмым класе вячэрняй школы.





Нядаўна ў сям'ю ўвайшло шчасце — нарадзіўся сын. Сашка, як назвалі яго бацькі, адразу ж заняў галоўнае месца ў жыцці гэтай сям'і. Суткі для Ніны і Барыса нечакана ўшчыльніліся: яны шмат часу аддаюць сыну. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, Барыс па-ранейшаму акуратна ходзіць на заняткі, яго па-ранейшаму можна сустрэць разам з жонкай у заводскім клубе.

Гэта быў звычайны вечар нашага звычайнага маленькага населенага пункта. У вокнах дамоў звычайных савецкіх людзей мірна гарэла святло. Вочы ўсіх, каго мы сустракалі ў гэты вечар, гаварылі аб сардэчнасці і дружалюбстве, хоць кожны быў заняты сваімі клопатамі.

Інжынер-тэхнолаг раённага прамысловага камбіната Нэля Слізкова і швачка таго ж камбіната Юлія Рапейка наводзілі парадак у пакоі, куды яны толькі што пасяліліся. Пакой у новым доме, які яны атрымалі, паводле меркаванняў будаўнікоў, павінен быў асвятляцца невялікай лямпачкай.

— Ну, што гэта за свята! — абурыліся сяброўкі. — Гэтаму свяцільніку месца ў калідоры, а не ў жылым пакоі.

— Трэба замяніць! — рашуча заявіла Нэля. Асцярожная Юля спрабавала адгаварыць Нэлю, але тая паставіла ўжо крэсла на крэсла і апынулася пад столлю.

Мы вырашылі не перашкаджаць выкананню гэтага акрабатычнага нумару, выкліканага абыякавасцю будаўнікоў, і пацікавіліся, што робіць іх суседка.

Майстар харчовага цэха райпрамкамбіната Раіса Бабайцава аказалася студэнткай Усесаюзнага завочнага інстытута харчовай прамысловасці. У той вечар яна была занята кнігамі, рыхтавала чарговае кантрольнае заданне, і, вядома ж, на чарговую «пяцёрку». Сесія, як кажуць, на носе: даводзіцца ахвяраваць іншы раз і кіно, і танцавальным вечарам.

Пра Раю гавораць многія: «упартая», а яна проста настойлівая, працавітая.

Стрэлкі на гадзінніку набліжаюцца да дванаццаці. Апошнія хвіліны гэтага вечара мы правялі ў раённым Доме культуры, дзе моладзь танцавала пад гукі ўласнага духавога аркестра. Гэта — звычайнае і найбольш частае тут мерапрыемства.

Аркестр у чэрвені будзе адзначаць свой першы «юбілей». Ён створаны год назад. Адным з першых запісаўся ў аркестр Валеры Макеенка, вучань курсаў радыётэлеграфістаў. Шмат працы знаходзіцца для аркестра, не зважаючы на яго маладосць. Адкрываюць калгасны клуб — абавязкова запрашаюць аркестр, і камсамольскае вяселле не абыдзецца без яго. У рэпертуары аркестра цяпер больш сотні твораў, вядома, калі лічыць і танцы.

Хутка Валеры Макеенка пачне працаваць. У яго менш будзе вольнага часу, але аркестр ён не пакіне.



— Што вы. Вось хутка будуць новыя інструменты, тады аркестр стане вялікі, зусім сапраўдны...

Валеры гэта добра ўсведамляе. Ён толькі-толькі становіцца на самастойны шлях у жыцці. І ён хоча прайсці па ім бадзёра, з высока ўзнятай галавою. А музыка ж і стварае такі настрой.



У радасным настроі ад добра праведзенага часу сярод жыхароў невялікага гарадка на паўночным захадзе рэспублікі мы пакінулі Дом культуры, дзе ўсё яшчэ чутны былі гукі апошняга ў той вечар вальса.

Веснавое неба было густа ўсыпана зоркамі, чуўся ледзь улоўны шэлест дрэў у парку, гулкія крокі позніх прахожых. У многіх дамах пачынала гаснуць святло.

Праходзячы праз цэнтр, дзе ўзвышаецца абеліск у памяць аб героях камсамольскага падполля, зноў нашы думкі перанесліся ў недалёкае мінулае, калі пачынаўся слаўны летапіс камсамола Скідзельшчыны. Пачаты беспрыкладным подзвігам пераічных падпольшчыкаў, ён працягваецца і ў нашы дні, папаўняючыся штодзень працоўнымі справамі моладзі Скідзеля.

# ДОМ-ПОМНІК

Многія старажылы Гродна добра памятаюць май 1910 года — час цяжкай хваробы і смерці Элізы Ажэшка. Гавораць, гаражане заслалі тады саломай увесь брук перад домам, дзе яна жыла, каб прыцішыць вулічны шум. Гэты факт сведчыць пра тое, якой любоўю простых людзей — працаўнікоў горада і вёскі — карысталася выдатная польская пісьменніца-дэмакратка.

Гродзенцы глыбока ўшаноўваюць памяць Элізы Ажэшка. Адна з цэнтральных вуліц горада, на якой знаходзіцца дом, дзе на працягу некалькіх дзесяткаў год жыла пісьменніца, названа яе імем. У адным з пакояў гэтага дома працуе чытальня імя Элізы Ажэшка.

Прасторны, утульны пакой. У кніжных шафах — творы пісьменніцы на польскай мове і перакладзеныя на рускую, кнігі класікаў польскай літаратуры Сянкевіча, Канапніцкай, Міцкевіча, Рэйманта, сучасных польскіх і савецкіх пісьменнікаў. На стэндах змешчаны фотаздымкі Элізы Ажэшка рознага часу, бацькоў пісьменніцы, здымкі яе дома, пакояў і рабочага кабінета, фатаграфіі Салтыкова-Шчадрына, Талстога, Тургенева — пісьменнікаў, якія аказалі вялікі ўплыў на творчае фармаванне Элізы Ажэшка, а таксама класікаў польскай літаратуры Ю. Славацкага, А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, С. Красінскага.

Чытальня імя Элізы Ажэшка адкрыта ўсяго два гады таму назад. Але яна паспела ўжо прывабіць шматлікіх чытачоў.

У чытальні не бывае пуста. Яе сталыя, заўсёдныя наведвальнікі, — рабочыя, інжынеры, настаўнікі, студэнты, вучні, — дзеці і ўнукі тых зняважаных, чые вобразы з вялікай мастацкай сілай адлюстраваны на старонках цудоўных кніг пісьменніцы.

На адрас чытальні прыходзяць пісьмы з Польскай Народнай Рэспублікі. Былы інжынер, цяпер пенсіянер Тадэуш Радоўскі з мястэчка Карпач Врацлаўскага ваяводства піша: «Я пражыў на свеце 84 гады. На схіле сваіх год мне асабліва прыемна ведаць, што наша зямлячка карыстаецца такой глыбокай павагай у вашай краіне».

Чытальная зала збірае ўспаміны сучаснікаў Элізы Ажэшка і іншыя матэрыялы аб жыцці і дзейнасці пісьменніцы. У кастрычніку мінулага года ў чытальню прыйшло пісьмо ад Уладзіславы




Гродна. Вуліца Элізы Ажэшка.

Францаўны Луцэвіч, якая расказвала пра адносіны народнага паэта Беларусі да Э. Ажэшка: «Асабіста Янка Купала з пісьменніцай ні разу не сустракаўся, знаёмы яны не былі. Творчасцю ж яе цікавіўся, любіў. Не выпадкова сярод сваіх любімых пісьменнікаў ранняга часу называе імя і Ажэшка. Вядома мне і аб тым, што Ажэшка была добра знаёма з Алаізай Пашкевіч (Цёткай), з сям'ёю Ф. Багушэвіча. Да іх прыязджала Ажэшка ў Кушляны ўжо і пасля смерці паэта. У 1908 годзе мне пашчаслівілася пазнаёміцца з пісьменніцай у Вільні ў доме маёй сяброўкі Марыі Шнэйдар, з сям'ёй якой сябравала і Ажэшка».



Куток чытальні імя Элізы Ажэшка.
Фота А. Дзітлава.

Насупраць дома, дзе жыла Э. Ажэшка, быццам сімвалізуючы здзяйсненне ў нашы дні лепшых мар пісьменніцы, высіцца трохпавярховы будынак Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы, дзе набываюць веды сотні юнакоў і дзяўчат, якім савецкая ўлада адкрыла дзверы ў навуку. Многія студэнты інстытута ўваходзяць у літаратурнае аб'яднанне. Моладзь прыносіць з сабой у літаратуру подых новага часу, свае лепшыя думкі, пачуцці, услаўляе веліч нашых дзён, харastво роднага краю.

Гродзенскія літаратары — пісьменнікі М. Васілёк, М. Дуброўскі, А. Карпюк, В. Быкаў, пачынаючыя аўтары Д. Бічэль, Я. Гладкоў, К. Койша, А. Дземідовіч, В. Чэкін і іншыя часта збіраюцца ў чытальні імя Э. Ажэшка. Тут наладжваюцца сходы літаратурнага аб'яднання, сустрэчы з сучаснікамі Элізы Ажэшка, літаратурныя вечары.

**І. МІХАЙЛАВА.**



# МОВА ДРУЖБЫ

Гэты здымак зроблены ў Мінску ў адной з аўдыторый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Але сярод тых, каго вы бачыце на здымку, толькі адзін мінчанін. Больш таго, гэтыя чацвёра маладых людзей, якіх хочацца назваць старымі сябрамі, сустрэліся ўпершыню.

Крайні злева — жыхар польскага горада Беластока Шыман Раманчук. Побач з ім — мінчанка Валянціна Трыгубовіч, далей — Марк Сакалянскі з Адэсы і Лідзія Палубічанка з берагоў Нявы, з горада белых начэй і рэвалюцыйных бур — Ленінграда.

Што ж прывяло іх у гэтую аўдыторыю? Што зблізіла іх?

У традыцыі савецкіх універсітэтаў увайшло штогадовае правядзенне канферэнцый, даклады на якіх чытаюць члены студэнцкіх навуковых таварыстваў. Жывая цікавасць да даследаванняў, характэрная для нашай студэнцкай моладзі, з'яўляецца цудоўнай глебай для выспявання глыбокіх думак. Як правіла, для ўдзелу ў такіх канферэнцыях запрашаюцца і студэнты з іншых універсітэтаў. Так было і на гэты раз.

Дастаткова пералічыць тэмы хоць бы чатырох дакладаў, прачытаных на навуковай канферэнцыі філолагаў, якая нядаўна адбылася, для таго, каб па заслугах ацаніць імкненні іх аўтараў.

Госць з Украіны Марк Сакалянскі зрабіў вельмі цікавае паведамленне аб так званым пакаленні разгневаных маладых людзей у сучаснай англійскай літаратуры. Добра валодаючы англійскай мовай, ён здолеў выкарыстаць крыніцы яшчэ да перакладу іх на рускую мову.

Прадстаўніца Ленінграда Лідзія Палубічанка паведаміла аб сваіх даследаваннях па лінгвістычных пытаннях. Яе выступленне таксама выклікала заслужаную цікавасць.

Мінчане не засталіся ў даўгу перад гасцямі. Большасць прачытаных імі дакладаў вызначалася стараннасцю распрацоўкі тэмы, шырынёй поглядаў, глыбінёй думак. Аўтарам аднаго з такіх паведамленняў была Валянціна Трыгубовіч. Яна паставіла на абмеркаванне даклад аб перакладах Шэкспіра на беларускую мову. Студэнцкія навуковыя таварыствы некаторых універсітэтаў краіны запрасілі беларускую студэнтку прачытаць свой даклад у іх на канферэнцыях.

Шыман Раманчук, грамадзянін Польскай Народнай Рэспублікі, заканчвае сваю адукацыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яго даклад «Эліза Ажэшка і Беларусь» з'явіўся адлюстраваннем узаемасувязей культур двух братніх народаў. Шыман Раманчук добра авалодаў рускай і беларускай мовамі, што дало яму шырокія магчымасці ў вывучэнні літаратуры і шматлікіх архіўных дакументаў.

Дарэчы, пра мову. Даклады чыталіся на беларускай, рускай, украінскай, але агульнай на канферэнцыі была мова сардэчнасці і дружбы.

**А. ДЗІТЛАЎ.**



# З блакнота падарожніка

*Шырока вядомы ва ўсім свеце чэшскія падарожнікі Іржы Ганзелка і Міраслаў Зікмунд. На маленькай легкавой машыне «Татра-87» яны ў 1947—1948 гадах перасеклі з поўначы на поўдзень афрыканскі мацярык, а потым праехалі па краінах Паўднёвай Амерыкі. Гэтыя падарожжы далі Ганзелку і Зікмунду багаты матэрыял для цікавых кніг аб жыцці і побыце народаў наведаных імі краін — выйшлі ў свет трохтомная «Афрыка летуценняў і сапраўднасці», «Там, за ракою Аргенціна», «Па Кардыльерах», «Паляўнічыя за чарапамі». З кінаплёнак, заснятых падарожнікамі, былі змантіраваны тры поўнаметражныя і дванаццаць кароткаметражных фільмаў. Сотні тысяч савецкіх гледачоў з хваляваннем сачылі за прыгодамі Ганзелкі і Зікмунда па фільмах «Афрыка» і «Ад Аргенціны да Мексікі».*

*Мінуў год, як Зікмунд і Ганзелка ў складзе экспедыцыі, куды ўваходзяць яшчэ кінааператар Ольдржых Халупа і доктар Роберт Віт, накіраваліся ў новае падарожжа. На гэты раз падарожнікі разлічваюць на двух васьміцыліндровых грузавых машынах «Татра-805» за пяць год праехаць Венгрыю, Югаславію, Албанію, Турцыю, Аб'яднаную Арабскую Рэспубліку, Індыю, Малайскі паўвостраў, Інданезійскія астравы, Аўстралію, Новую Зеландыю, Філіпіны, Кітай, Японію, потым уздоўж паўднёвай граніцы перасекчы Савецкі Саюз і праз Польшчу і Германскую Дэмакратычную Рэспубліку вярнуцца ў Чэхаславакію. Больш чым сорак краін трох кантынентаў!*

*Старанна рыхтаваліся падарожнікі. «Мы павінны вывучыць асновы некалькіх моў народаў тых краін, дзе пабываем: дзве мовы Індыі, кітайскую, інданезійскую, пазнаёміцца з мовамі іншых народаў», — такую задачу паставіў перад экспедыцыяй Ганзелка. Дарэчы, Зікмунд і Ганзелка цяпер валодаюць рускай, польскай, венгерскай, нямецкай, англійскай і французскай мовамі ў такой ступені, што маглі аўтарызаваць пераклады сваіх кніг на гэтыя мовы. А ў час падрыхтоўкі да падарожжа па Афрыцы яны авалодалі асновамі некалькіх моў афрыканскіх народаў.*

*«Наш народ змагаецца за дружбу паміж усімі краінамі, — гаворыць Ганзелка. — А для таго, каб быць сябрамі, трэба добра ведаць адзін аднаго: жыццё, мастацтва, характар, звычкі». Так коратка фармулююць падарожнікі задачу сваёй новай вандроўкі.*

*Чэшскі часопіс «Кветы» з нумара ў нумар друкуе рэпартажы І. Ганзелкі і М. Зікмунда аб іх новым падарожжы. Некаторыя з гэтых цікавых рэпартажаў рэдакцыя «Маладосці» прапануе ўвазе сваіх чытачоў.*



ZaH

MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA

Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД

## ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### Поўнявы каляндар

Горы, якія акружаюць Бейруцкі заліў, крыху вышэй за тысячу метраў. У летнія ночы яны зяюць жэмчугам акон — тут, у элегантных вілах на схілах хрыбта Ліван, першыя «дзесяць тысяч» хаваюцца ад марскіх вятроў і вільгаці. Агні пераліваюцца, як парчовыя складкі вялізнай заслоны, узнятай над барэльефам горада. З надыходам змроку агні цягнуцца да берага, нібыта сумуючы па салёным моры, хвалі якога б'юцца аб пляжы Святога Сімона і Святога Міхаіла.

Такая маляўнічая карціна адкрылася нам у адну з жнівеньскіх начэй. Раптам горы, па схілах якіх мы рухаліся з поўначы, нібыта сталі вышэйшымі. Якраз у гэ-



ты час з-за іх выкаціўся месяц, жартуючы, паваллузіўся з парчовым мігценнем агнёў і перавандраваў на бяскрайні марскі прастор.

— Хлопцы, ведаеце што? Давайце адлічваць час нашага падарожжа не месяцамі, а квадрамі — гэта рамантычней! І тады замест шасцідзесяці месяцаў за пяць год набярэцца шэсцьдзесят дзве поўні. Дзве поўні звыш плана ў якасці прэміі!

У «ход планавання» ўплёўся голас муэдзіна — дакучлівы, плаксівы, хрыпла-дрыжачы. Над намі, побач з зоркай, уваткнутай у паўкружжа бляшанага паўмесяца, успыхнуў слуп з электрычных лямпачак — знак таго, што надышоў час шостай малітвы. Святло месяца залівае падобны да цыбуліны шпіль і верхнюю частку мінарэта з балкончыкам. Але дзе ж муэдзін? Вось ён набраў паветра перад новай сурой, і зноў нясецца яго плач-голас над дахамі горада і серабрыстым мігценнем мора.

Вось як праслаўляюць Алаха ў сучасным Бейруце! Чатыры рэпрадуктары, па адным на кожную старану свету, грампласцінка — і ніякіх табе турбот! А палове чацвёртай уранку іголка ў першы раз датыкаецца да пласцінкі. Праз дзве гадзіны пасля таго, як сціхнуць пеўні, іголка апускаецца зноў, даючы магчымасць купцы прававерных, занятых падвозам друзу і пяску для будоўлі, адкласці на мінуту лапаты і пакланіцца Мецы. Трэці сеанс — у поўдзень, калі перавага мікрафона ў параўнанні з простым голасам найбольш адчувальная, затым чацвёрты, пяты... А праз дзве гадзіны пасля заходу сонца, калі месяц плыве высока ў небе, куды больш прыемна абаперціся аб каменныя поручні балкончыка на мінарэце і спакойна любавацца далечынёй, чым надрываць галасавыя звязкі вечна аднастайнымі спевамі...

Ліпеньская поўня адносіцца не да Міжземнага мора, а да Эгейскага. Яна вынырнула з усходніх падступаў да Ізмірскага заліва, ледзь толькі мы заглушылі матоны перад аднапавярховым домам на Мітхат-паша джадэсі, стомленыя цэлым днём язды і фатаграфавання ў каменным пекле антычнага Пергама. Месячнае святло гуляла ў веерах пальмаў, якія ціха схіліліся над гладдзю вод, і нагадвала шолах хваль у чаротах Паградзецкага (Ахрыдскага) возера, што належалі папярэдняй поўні, чэрвеньскай, на граніцы паміж Албаніяй і Югаславіяй. І яшчэ адзін крок назад, да Адрыятыкі, на тэрасу атэля ў Дурэсе, дзе мы ў ясную ноч склалі планы паездкі ў паўднёвую Албанію.

Толькі ў той пачатковай, майскай, поўні муэдзіна не было.

* * *

Паперам, здаецца, не будзе канца.

— Вось вопіс аснашчэння экспедыцыі на англійскай мове, засведчаны мытным упраўленнем, вось страхавыя полісы машын — на чэшскай, англійскай, рускай і нямецкай мовах, вось міжнародныя вадзіцельскія правы і тэхнічныя пашпарты машын. Учора нам міністр падпісаў дазвол на карыстанне радыёперадатчыкамі, таксама на трох або чатырох мовах. А журналісцкія пасведчанні вы ўзялі? А пашпарты? Дзе пашпарты? Хвілінку назад яны ляжалі тут...





Аж да пагранічнага шлагбаума праводзілі падарожнікаў блізкія сябры.

Спакойна, галоўнае — спакой і дыхаць глыбей! Да ад'езду яшчэ дзесяць мінут часу. Машыны, у якіх ад учарашняй раніцы аж да ночы знікала начынне, частка за часткай, усё яшчэ з ахвотай прымаюць у сябе груз. Дванаццаць год назад было значна горш. Тады проста з тратуара на Сілезскай вуліцы мы пхалі ў «татру» ўсё як папала і толькі ў Пльзене надарылася хвілінка часу, каб упарадкаваць усё як мае быць.

Маленькую плошчу перад Домам навуковых супрацоўнікаў Чэхаславацкай Акадэміі навук, праз якую звычайна за дзень праходзіць жменька людзей, сёння не пазнаць: тут вакол гатовых да ад'езду машын тоўпяцца сябры і знаёмыя, якія хацелі прысутнічаць пры самым пачатку, каля неафіцыйнага старту, калі машыны пройдуць першыя метры вельмі доўгага падарожжа.

— Ішлі б вы ўжо, — падганяюць нас журналісты, — трэба ж нам напісаць, што пасля шматдзённай падрыхтоўкі экспедыцыя стартавала ў дакладна вызначаны час.

І вось нарэшце — узмах нажніц, старт!

Машыны ледзь прабіваюць дарогу ў натоўпе, нага ўвесь час на тормазе, левая рука — у акенцы. Як нам падзякаваць за гэтае бясконцае давер'е, за праявы дружбы, за імгненныя поціскі рук і пажаданні шчаслівай дарогі, шчаслівага вяртання!

Роўна дванаццаць год назад Іржы тут, перад мастом Палацкага, павярнуў руль «татры» ў напрамку Афрыкі. Цяпер, здаецца, стрэлка дарожнага паказальніка кліча нас: Азія — прама!

Яшчэ раз азіраемся на панараму Градчан. Бывай, Прага, расці і стань яшчэ прыгажэйшай к таму часу, калі мы зноў вернемся да цябе...

Сёння пагранічнікі прапусцілі на самую граніцу палову насельніцтва Чэшскіх Веленіц. Прыйшлі піянеры, каб пагутарыць у прамежку паміж выкананнем мытных фармальнасцей, прыйшлі чытачы, каб атрымаць аўтограф, датаваны 22 красавіка 1959 года.

Пашпарты гатовы, крыху даўжэй цягнецца мытны агляд, але вось першая пячатка пастаўлена на доўгі пералік начыння. Колькі яшчэ пячатак прыбавіцца на ім, пакуль колы машын выведуць трасу, якая існуе пакуль што толькі на картах трох кантынентаў?

... Машыны прагна рвануліся ў цемнату, пакідаючы за сабой шчыт з надпісам «Republik Österreich» (Аўстрыйская Рэспубліка).

А з-за лесу раптам вынырнуў чырванаваты дыск месяца, нулявой квадры нашага шляху.

### Там, за ракой, — Чэхаславакія

— Два нумары ў атэлі «Вестбан» вам падрыхтаваны. Машыны пакіньце на стаянцы каля вакзала. І было б добра, калі б вы паспяшаліся: прэс-канферэнцыя пачынаецца праз трыццаць мінут. На ёй будуць таксама прадстаўнікі Міжнароднага афрыканскага таварыства, якія хочуць уручыць вам дыпломы ганаровых членаў.

На тое, што давядзецца спаць не заўсёды у машынах, мы, вядома,

разлічвалі, але не чакалі, што гэта здарыцца так скора, у Вене.

... Дакументы, рэкамендацыі, пералік абсталявання, запасных частак, адрасы, якіх набралася ад знаёмых і незнаёмых сяброў незлічоная колькасць, дарожныя карты, паштовая папера, нататкі перыяду падрыхтоўкі — усё складзена ў вялікім дарожным чамадане.

І вось аб'яўляецца нядзельнік. Кабінет аташэ ператварыўся ў невялікую саматужную майстэрню: адзін намячае контуры папкі, другі адразае лішнія міліметры, трэці прыводзіць у сістэму матэрыялы, а чацвёрты раскладае іх па месцах. Акрамя гэтага, трэба пранумараваць некалькі соцень касет з чыстай фотаплёнкай — даць кожнай нешта накшталт пасведчання аб нараджэнні, адказаць на гару карэспандэнцыі, атрыманай у Празе ў апошнюю мінуту. Толькі а першай гадзіне ночы тухне святло. Мы зусім забылі на вячэру і нават пра тое, што была нядзеля.

Новы дзень новага тыдня пачынаецца ў дзесяць раніцы «аўстрыйскім» стартам ад Шварцэнбергскай плошчы.

... А вечарам у васемнаццаць пяцьдзесят мы ўжо праязджаем праз венгерскі Комарам. Скрозь заараснікі вольхі і ніцай вярбы за лугам матава паблісквае паверхня Дуная. За ім — чэхаславацкае Комарна. Ці даўно мы прыязджалі туды, каб агледзець верфі, пагутарыць з рабочымі аб планах будучага падарожжа! Цяпер і на Комарна, і на Комарам, і на Дунай апускаецца цёплы красавіцкі вечар. У Празе, у Копршыўніцы, у Готвальдаве, напэўна, і не падазраюць, што іменна ў гэту мінуту мы глядзім за раку, дамоў, што толькі цяпер мы расстаёмся. Колькі дзён пройдзе, колькі падзей адбудзецца, пакуль родны край зноў пачне набліжацца...



### Пячаткі ў нас няма...

Мы надоўга запомнілі цябе, дарагі Будапешт, хаця хвіліны для знаёмства з табою мы літаральна кралі ў прамежку паміж афіцыйнымі візітамі, сустрэчамі са студэнцкай моладдзю, трыманнем мікрафонаў каля вуснаў, наведваннямі рэдакцый і падпісваннем кніг. Мы ўключылі цябе ў лік трох найпрыгажэйшых гарадоў свету нароўні з Рыо-дэ-Жанейра і, вядома ж, Прагай. З абодвума ты можаш зраўняцца выразнасцю сілуэту, багаццем зеляніны, прыгажосцю будынкаў, люстраным зззяннем вод і прыветлівымі ўсмешкамі людзей.

— Мы столькі ўсяго вам хацелі паказаць, але што з вамі зробіш, калі ў вас у галаве адна Азія, — дакараюць нас гасціннейшыя будапештцы. — Абяцайце хаця б, што прыедзеце да нас на адпачынак, калі праз пяць год вернецеся дадому. Тады зноў заглянем да «Караля Маціаша», калі ён вам так спадабаўся.

— Прыедзем абавязкова, мы ж жывём так блізка! І тады ўжо навучымся вымаўляць такія словы, як *ві-сонт-ла-та-шро*!

— Так, так, шчаслівa, да пабачэння, вісонтлаташро!

... У Кішпешце, паўднёва-ўсходнім прадмесці Будапешта, зноў нaдыходзіць будзённы дзень. Паволі супакоіўся першамайскі рух, калі





Надоўга запомніўся падарожнікам Будапешт.

даводзілася крок за крокам прабівацца праз незлічоную колькасць транспарту, змоўклі трыумфальныя воклічы перад трыбунамі на плошчы Герояў, гэтай Вацлаўскай плошчы венгерскай сталіцы. А перад вачыма ўзнікаюць вясёлыя твары будапештцаў, усмешкі дзяўчат і хлопцаў...

У шуме колаў і плёскаце дажджу, які толькі што паліў з зацягнутага хмарамі неба, здаецца, яшчэ гучыць голас Першага мая, дня, які святкавалі мільёны людзей ва ўсім свеце. Але зараз свята ўжо сапраўды скончылася, настаў звычайны дзень.

Перад намі праносіцца бязмежная раўніна, урадлівая венгерская «пушта», вядомая нам яшчэ па падручніках. Бяскрайнія палі кукурузы, потым яшчэ больш бяскрайнія палі сланечніку, зноў кукуруза; то там, то тут гаёк белых бярозак, за ім мільгануць дахі хутара, і вось ужо зноў палі кукурузы — і так бясконца.

Дождж барабаніць па дахах абедзвюх машын усё слабей і, нарэшце, перастае. Спыняемся ў алеі высокіх таполяў, праз дванаццаць кіламетраў ад Сегеда, каля самай венгера-югаслаўскай граніцы.

Іржы сядзіць за радыёперадатчыкам. У эфір ляцяць паведамленні аб тым, што мы ў двух кіламетрах ад югаслаўскай граніцы, што заўтра на досвітку пакідаем Венгрыю. З рэпрадуктара даносяцца пазыўныя нашага старога знаёмага з Усходняй Афрыкі, Робі. Некалькі год назад мы правялі з ім не адзін вечар каля яго перадатчыка ў Найробі, там, адкуль вельмі добра бачна снежная шапка Кіліманджара.

— Дзякуем за прывітанні, Робі, ці ж мы можам цябе забыць! Той кавалачак лавы, які ты нам падарыў у Найробі, мы захоўваем да гэтага часу. Пачакай на дыяпазоне, праз пяць мінут я звяжуся з табою зноў, да мяне прыйшлі госці...

Каля адчыненых дзвярэй машыны стаяць тры пагранічнікі, аўтаматы на грудзях. Складаная вянгера-руска-чэшская размова цягнецца значна даўжэй, чым аб'яўленыя намі пяць мінут. Нарэшце мы зразумелі: хлопцы хочуць атрымаць пісьмовае пацверджанне таго, што яны сапраўды былі ў нас, што выканалі свой службовы абавязак.

— Толькі вось пячаткі, хлопцы, у нас няма. А даведку мы з задавальненнем вам напішам, хоць па-чэшску, хоць па-руску...

Яны задаволены, моцна тра-

суць нам рукі, і старшына засоўвае ў шапку лісток паперы.

Мы зноў пачулі голас Робі ў прыёмніку. Ён стаў ветліва развітвацца:

— Ідзіце лепш спаць, Жорж і Міро, у вас, напэўна, ёсць важнейшыя клопаты, чым траціць час на гутаркі са старым балбатуном з Кеніі. Я б вельмі хацеў яшчэ раз пачуць вас...

### На поўдзень ад аўтастрады

На 1127-м кіламетры ад Прагі, калі ехаць праз Вену і Будапешт, пачынаюцца Балканы. Калі хочаце ведаць яшчэ дакладней, гэта праз пяцьдзесят восем кіламетраў на захад ад Белграда.

Мы не мелі аб гэтым ніякага ўяўлення, калі па прыездзе ў Будапешт заселі на востраве Маргіт над картамі Паўднёва-Усходняй Еўропы, каб канчаткова вырашыць, як рухацца далей. Трэба было нагнаць незапланаваныя тры дні затрымкі ў Будапешце. І хоць самы кароткі шлях у Цірану ідзе праз Крагуевац і Мітравіцу (выбраўшы яго, мы страцілі б магчымасць палюбавацца Адрыятыкай), мы рушылі па дарозе Белград — Сараева — Мостар — Дуброўнік — Цітаград.

— Вы правільна выбралі, — сказалі нам у белградскім пасольстве. — Адразу забярэцёся на Балканы!

Прамыя скразныя шашы, асабліва калі яны ўтрымліваюцца ў добрым стане, хоць і льюць бальзам на душу аўтамабіліста, але пазбаўляюць яго магчымасці сустракацца з жывымі людзьмі, калі, вядома, не лічыць шафёраў машын, якія праносяцца з хуткасцю сто дваццаць кіламетраў у гадзіну па бетанаванай «аўтастрадзе Ціта», як тут называюць гэтую шашу. Сапраўднае жыццё старанна схавалі ад вачэй падарожніка геадэзісты, якія праклалі белую бетонную стужку так, што з яе зніклі вёскі, аслы, базары, людзі з граблямі і косамі, хлапчукі-пастухі з невялікімі статкамі авец, цэрквы, корчмы.

— Мірак, падыдзі, калі ласка, спытай, ці не заблудзіліся мы?

Мы былі ў вёсцы Кузмін, кіламетры праз тры пасля павароту з аўтастрады на пыльную, ухабістую дарогу. Перад намі раскінулася шырокая вясковая плошча, і нам чамусьці здавалася, што на поўдзень трэба ехаць праз яе. Але дарожны паказальнік з дробным надпісам кірыліцай «Біеліна» няўмольна патрабаваў браць налева. А на аўтамабільнай карце наогул не значыцца ніякай развілкі ў вёсцы Кузмін.

— Яны гавораць — «дзесна», гэта значыць направа... «Біеліна, Зворнік — дзесна!»

— У такім выпадку паедзем дзесна.

Дарога ўецца па злёгку ўзгорыстай мясцовасці, абыходзіць бярозавыя гаі, уздоўж дарогі цягнецца вузкая сцяжынка для веласіпедыстаў, месцамі раскапаная глыбокімі ямамі. Гэта — справа рук дарожніка, які час ад часу раскопвае сцяжынку, каб не вазіць здалёк матэрыял для рамонту дарогі.

І ўсё-такі тутэйшым дарожнікам трэба аддаць належнае. Праз роўныя прамежкі дарогі мы мінаем таблічкі з надпісам: «Путар, участак 18 — налева, участак 19 — направа». Потым «Путар, участак 19 — налева, 20 — направа». І гэтак далей, ад горада к гораду, па ўсёй краіне. З той толькі розніцай, што сербскі «путар» у Далмацыі ператвараецца ў «цэстара», у Македоніі — у «патара». Усюды дарожнікі клапатліва даглядаюць свае ўчасткі, ведаючы, што ад таблічкі да таблічкі дарога знаходзіцца пад іх уладай, што яны за яе адказваюць. Дарожнікі ганарацца сваёй прафесіяй і, каб кожны мог знайсці іх, ставяць каля дарогі ўласныя паказальнікі: «Путар 24 — 300 м.»

Гэта азначае: «Я, дарожны абходчык участка 24, жыву праз трыста метраў ад дарогі налева, завітай да мяне...»

У семнаццаці кіламетрах ад Кузміна дарога ідзе праз стары вузкі мост, аб якім нам гаварылі яшчэ ў Белградзе. Перад мастом — шлагбаум. Права праезду па гэтым мосце дзеляць паміж сабой аўтамабілісты і машыністы, а паколькі паравозы маюць перавагу ў вазе, яны заяўляюць аб сваім



прыарытэце не толькі свісткамі, але і масіўным чыгуначным шлагбаумам. У дадатак да ўсяго, гэта мост праз раку Саву, якая ўтварае граніцу Харватыі і Босніі. Такую выдатнасць мы, вядома, сфатаграфуем! І абавязкова стэрэаскапічнай камерай — агарожа маста так і просіцца на плёнку.

На сіняй машыне пад'ехаў Роберт; Іржы ўжо выскачыў і бяжыць на працілеглы канец маста, каб зрабіць здымак. Пстрычка, знак рукой, машыны пад'язджаюць бліжэй, другі здымак — з машынамі ў кадры. Вартавы каля шлагбаума прыветліва ўсміхаецца: «Добар дэн, добар дэн». Раптам з будкі выскоквае другі вартавы, працірае заспаныя вочы і кідаецца да нас:

— Вы слікалі?

— Так, «слікалі», гэта ж вельмі прыгожы мост, такога мы яшчэ не сустракалі. Як жа яго не сфатаграфаваць?

Вартавыя некаторы час спрачаюцца, адзін «за», другі — «супраць». Верх бярэ працiўнік фатаграфавання. Ён бяжыць зачыняць шлагбаум, але потым зразумеў, што пакінуць нас адных на рэйках нельга, і пачынае лаяцца, каб хоць так вымесціць сваю злосць на тых, хто разбудзіў яго. Пасля прымірэнчай папяросы вартавы дабрадушна махае рукой: маўляў, можаце ехаць. А «апазіцыя» добрасумленна запісвае ў зашмальцаваны сшытак нумары машын.

— Едзьце! — нарэшце казённа дазваляе ён. І падкручвае вус, відаць, для таго, каб надаць большую вагу свайму загаду.

Край навокал зялёны і прыгожы, іскрыстае сонца зззяе над намі. Побач з дарогай цячэ Дрына, якая празрыстасцю і чыстатой нагадвае Ваг пад Татрамі. «Гей горэ гай, доле гай...» * — успамін пераварваецца ў песню.

Наперадзе паказваецца шпіль мінарэта. Першы мінарэт на нашым шляху. Колькі часу будуць суправаджаць нас па дарогах мусульманскага свету гэтыя вострa заточаныя алоўкі, якія нешта пішуць на небасхіле?

Мужчыны тут ходзяць у вузкіх чорных штанах, жанчыны закрываюць ніжнюю частку твару каляровымі хусткамі, усе яны — у падкасаных шырокіх нагавіцах, якія нагадваюць паношаныя штаны-гольф або моцна выцягнутыя спартыўныя штаны. Гарадок Біеліна. Мы не толькі ў Босніі, на Балканах, але і на Усходзе...

### Зворнік — усім выйсці з машыны!

За выключэннем буйных гарадоў, запраўвіца бензінам у Югаславіі — цэлая падзея. Бензараздатачных калонак няма. Бензін з бочак пераліваюць у адкрытыя дзесяці- або дваццацілітровыя бляшанкі і ўжо з іх — у бак. Тое, што пры такім спосабе нельга кантраляваць дакладнасць і што

Сараева — гэта ўжо Усход.



* Пачатковыя словы народнай славацкай песні.

па дарозе ад бочкі да машыны з паўлітра бензіну расплешчацца, прадаўцоў не вельмі хвалюе. Непрыкметна таксама, каб вадзіцелі грузавікоў асабліва блізка прыймалі да сэрца павучанне «пушэнне забранена» — курыць забараняецца.

На ўскраіне Зворніка мы заправілі бензінам нашы «татры», але тут паяўляюцца два міліцыянеры і прапануюць нам прайсці ў камендатуру. Гэта дзесьці на другім канцы горада. З усіх бакоў збягаюцца людзі — паглядзець, як міліцыянеры вядуць двух іншаземцаў.

Цудоўна! Вусаты як мае быць раззваніў пра нас па тэлефоне. У такім выпадку трэба ісці, як гаворыцца, «да пастуха, а не да падпаска», інакш нам прыдзецца ехаць па Югаславіі ад стражніка да стражніка.

— Будзьце ласкавы, правядзіце нас да начальніка.

— Каменданта тут няма.

— Добра, мы пачакаем.

Камендант прыйшоў, цярпліва выслухаў тлумачэнні, прагледзеў пашпарты і журналісцкія пасведчанні. Было відаць, што ён разумее недарэчнасць «справы», але не можа адступіць, бо служба ёсць служба, паліцыя ёсць паліцыя.

— Што па тым мосце хадзіў Франц-Іосіф, зусім магчыма, — засмяяўся ён. — Мост сапраўды стары... Але ўсё-такі гэта мост!

— Аднак на граніцы нас не папярэдзілі, што ў Югаславіі нельга здымаць гістарычныя месцы. Хоць бы павесілі на мосце дошчачку, што, маўляў, «слікаць» забаронена.

— Вы маеце рацыю, але плёнку я ў вас усё роўна адбяру, гэта мой абавязак.

Затым не без цяжкасці склалі пратакол, паабяцаўшы апрацаваць плёнку ў праявіцелі, які мы назвалі, і ў парадку вярнуць астатнія кадры.

— Зразумейце, мы ж прыстойныя людзі і паважаем турыстаў усіх краін.

Калі мы ўжо садзіліся ў машыны, Іржы сказаў:

— Шкада плёнкі, цяпер мы яе не ўбачым. Чорт з ім, з мостам, але ж там былі і іншыя цікавыя здымкі. Мірак, а ты той мост не фатаграфаваў?

— Фатаграфаваў, і нават на каляровай плёнцы. Але мяне аб гэтым не пыталі. Я пашлю яго Саву, гэта ж мост праз Саву! *

* Сава — маленькі сын Міраслава Зікмунда.

... Ніхто з нас чацвярых, якія мыюцца зараз, на світанні, у крыштальна-празрыстай вадзе Нератвы, ніколі раней не быў у Югаславіі. Югаславія для нас — чыстая старонка. Зрэшты...

— Югаславія — гэта адны пляжы, жоўты пясок, пальмы, сіняе, як на паштоўках, неба...

... Невыносная для пейзажыста безгустоўнасць. Але затое ў Спліце гараць над морам найпрыгажэйшыя зоркі...

... А яшчэ тут пабылі настаўніцы-чэшкі, і, кажуць, акулы так і намагаліся з'есці хаця б адну, каб на наступны турысцкі сезон Далмацыя стала яшчэ прывабнейшай...

— Вы забылі пра Герцагавіну, гэтую «суцэльную раўніну».

Пасядзеў бы той, хто гэта прыдумаў, учора за рулём замест мяне дзвесце семдзесят кіламетраў! У мяне да гэтага часу рукі, як мёртвыя.

Хто гэта сказаў, што мы нічога не ведаем аб Югаславіі?..

... Мора ад нас усяго якіх-небудзь трыццаць кіламетраў па прамой. Згодна з усімі правіламі рэльеф павінен быў паступова паніжацца, пакуль у прасветлінах паміж кіпарысамі не адкрыўся б сіні прастор...

Але ўсё не так. Нератва недзе знікла ў цясніне, а дарога жвава лезе ўверх, у высушаную пустыню. Калі чалавека з камяністай пустыні на граніцы ААР і Лівіі, завязаўшы вочы, на казачным дыване-самалёце перанесці сюды, ён не заўважыць асаблівай розніцы. Праўда, дзе-нідзе тут праглядае мізэрная раслiннасць, заціснутая каменнямі, якія распалены сонцам да белага.



Праз паўгадзіны дарогі пустыня адступае, мы заўважаем вінаграднікі, першыя фігавыя дрэвы з яшчэ няспелымі, падобнымі на дробныя грушкі пладамі. І вось мы ўязджаем у Меткавіч.



Проста не верыцца, як змянілася ўсё навокал. Дарога пятляе па вузкай каменнай сценцы, якая тырчыць сярод невялікіх палёў, спаласаваных сеткай каналаў. Відаць, людзі тут імкнуцца адваяваць у прыроды кожную жменьку ўрадлівай зямлі. З вялікай цяжкасцю пракапаны водаадводныя каналы, і жыхары дабіраюцца да палёў на лодках. У лодках сушаць сена, насаджваючы яго на драўляныя жэрдкі дзіўнымі, падобнымі да цукровай галавы, ахапкамі, каб дарма не займаць ні пядзі зямлі. А сам чалавек жыве ў каменных доміках, уціснутых паміж дарогай і скаламі, разводзіць гародніну на некалькіх квадратных метрах глебы, якую нанасіў вёдрамі за каменную агарожу. Сваё жыллё людзі ўпрыгожваюць незлічоным мноствам яркіх кветак. Іх развешваюць у кансервавых банках і бляшанках з-пад бензіну па краі даху, саджаюць нават у шчыліны сцен.

За Дальюлай дарога зноў паглыбляецца ў горы. Мора быццам гуляе ў хованкі з намі. Яно адчуваецца ў паветры, ды і, мяркуючы па карце, яно павінна быць дзесьці пад намі. І нарэшце:

— Хлопцы, мора! Першае мора на нашым шляху! Ольда, спыніся вунь за той паваротам, трэба зрабіць здымак.

Вось яно зіхаціць унізе пад скаламі. Неба над морам сіняе-сіняе, і ў думках даруеш усім жывапісцам іх «адрыятычную» сінечу, якую некалі лічыў безгустоўнасцю. Аднак дзве горныя грады, падобныя да гіганцкіх кітоў, трымаюць мора ў абцугах. Гэта паўвостраў Пелешац, і, значыць, мы бачым не мора, а бухту Нератвы. Але ўсё-такі гэта Адрыятыка!

### Асколкі далмацінскіх уражанняў

Далмацыя — цудоўны край. Відаць таму, што тутэйшая прырода пазбаўлена вялай, «вялікасвецкай» аранжарэйнай красы; пляжы тут не ўсцілаюць берагі суцэльнай стужкай: яны схаваны за дзвярыма каменных уцёсаў, нібы каштоўныя жамчужыны. А зверху над імі карціна жорсткай барацьбы чалавека са скупой прыродай змяняецца стракатай акварэллю неаглядных альпійскіх лугоў. І зноў рады малюсенькіх тэрасавых палёў, яшчэ ніжэй — пейзаж са стройнымі кіпарысамі і раскідзістымі туямі, якія, невядома чаму, называюць «біблейскім». І, нарэшце, невычэрпная разнастайнасць відаў блакітнага мора і бухт, што мімаволі выклікае летуценныя ўздыхі: «Эх, вось бы нам дадому адну такую, зусім маленькую, з дваццаццю метрамі пясчанага пляжу...»

А за мястэчкам Слана трапляем у фантастычны край. Чалавек нацягаў аднекуль урадлівай глебы і засыпаў ёю круглыя ўпадзіны, якія нагадваюць кратэры на Месяцы, папярэдне ачысціўшы іх ад камення. Тоны гэтага камення перацягаў ён на ўласным гарбе, каб скласці з іх высокія сценкі. І цяпер усюды авечкі могуць толькі зверху паглядаць на сакавітую зеляніну гэтых палёў: яна належыць чалавеку. Ён засеяў штучныя садочкі Семірамiды кукурузай і цыбуляй, а авечкам пакінуў навакольную сухмень. І яны шукаюць сярод камення засохлыя былінкі...

Яшчэ ў Белградзе адзін наш чэшскі сябар, аддаючы нам пару старонак машынапіснага тэксту, сказаў:

— Можа вам гэта спатрэбіцца. Я тут нагадаў для вас сякія-такія вартыя ўвагі мясціны па маршруту. Не забудзьцеся спыніцца ў Іліджы і пакаштаваць «пастрмке» — стронгу. Яе там цудоўна гатуюць на алеі.

Хай нам даруюць: стронгі мы ў Югаславіі не пакаштавалі. Прыйшлося наганяць час, страчаны пры затрымцы «па прычыне маста Франца-Іосіфа», таму мы не завіталі ні да вытокаў ракі Босны, ні ў Іліджу. Не змаглі мы таксама скарыстаць добрую параду і ў адносінах Дуброўніка. У запісах пабач з яго назвай адзначалася: «Нуль метраў над узроўнем мора, 19 тысяч жыхароў, цікавага з пункту гледжання фатаграфавання — на тры дні, іншых выдатнасцей — не менш чым на тыдзень».

Калі мы ўехалі ў ажыўлены Дуброўнік, да заходу сонца заставалася гадзіны дзве з паловай. Жываты падвяло, бо мы з раніцы нічога не елі. Мясны суп, смажаная марская рыба, па горла чырвонага віна — абед і вячэра разам. Напісалі паштоўку дамоў — і зноў у дарогу.



— Калі ў вас няма магчымасці фатаграфаваць тут тры дні, дык лепш наогул не здымаць. Заўтра мы павінны быць на албанскай граніцы, там нас чакаюць Яраслаў Новатны і шмат спраў. Сёння можна праехаць яшчэ некалькі кіламетраў у запас.

Як сведчыць карта, у Купары лагер для аўтатурыстаў!

... Пад платанамі «Маленькага раю» (так падносіць яго рэклама) сучасныя вандроўнікі разбілі свае стракатыя шатры. Побач — «стойбішчы» бензінавых аслоў, коней і вярблюдаў: ад матацыклаў і малютак «рэно» да «алімпій», здольных цягнуць цэлае жыллё на колах. Турысты — французы, немцы, англічане, бельгіец і галандка — разглядваюць нашы «татры-805», якія не змясціліся на стаянцы і засталіся проста на асфальце за два метры ад хваль Адрыятычнага мора.

— Гэта зусім «дарослая» машына, — прызнаюць яны. — А ў гэтых прычэпах вы жывяце?

— Не, там у нас куратнік, каб штодзённа мець свежыя яйкі.

Турысты зайздросцяць.

— Зразумела, цудоўная думка. Якое камфартабельнае падарожжа!

### Бока Котарская

Сваю «Белую гару» Сербія перажыла на 231 год раней, чым наша краіна *. У Сербіі панаванне чужаземных заваёўнікаў працягвалася без малога пяцьсот год. З таго фатальнага 1389 года, калі асманскі султан разбіў на Косавым полі войска сербскага князя Лазара, туркі фармальна пачалі панаваць і над Чарнагорыяй. Але фактычна яны ніколі не сталі валадарамі чарнагорцаў.

Граніцу Чарнагорыі мы перасеклі недалёка ад Груды, а неўзабаве пранiклі ў славутую Боку Котарскую. Каб доўга не інтрыгаваць чытача, скажам адразу. Бока ** Котарская — гэта дзіўны водны лабірынт: ідэальная, з усіх бакоў атуленая высокімі гарамі бухта, вузенькім выхадам злучаная з

* Маецца на ўвазе бітва на Белай гары пад Прагай у 1620 годзе, калі ў выніку паражэння чэшскіх войск Чэхія на 300 год страціла палітычную самастойнасць і пертварылася ў аўстрыйскую правінцыю Багемію.

** Бока — у многіх славянскіх мовах заліў, бухта.

морам. Незлічоныя былі спробы заваяваць яе: ілірыйцы, рымляне, візантыйцы, грэкі, туркі, венецыянцы, аўстрыйцы. Гэтым апошнім акупантам нясоладка давялося ў Боцы Котарскай у студзені 1918 года, напярэдадні звяржэння аўстрыйскай манархіі, калі тут успыхнула вядомае Котарскае паўстанне матросаў.

Ад гарадка Херцаг-Нові, дзе мы ўпершыню спаткаліся з Бокай, да горада Котара сорак шэсць кіламетраў. Але гэта толькі палова адлегласці ўздоўж бухты: усё яе ўзбярэжжа цягнецца на добрых сто кіламетраў. Каб сэканоміць час аўтамабілістам, асабліва вадзіцелям грузавых машын, абыякавым да прыгажосці тутэйшай прыроды, паміж Каменары і працілеглым берагам Бокі наладжаны перавоз.

Мы таксама ледзь было не спакусіліся кароткасцю дарогі. Але... Дастаём са скрынкі рулетку, вымяраем машыну з прычэпам — 770 сантыметраў, а паром, збудаваны з дзвюх даволі ненадзейных лодак, мае ў даўжыню ад краю да краю 775 сантыметраў. Праўда, мы выйграем кіламетраў дваццацьтрыццаць. А калі паром нахіліцца? Бензін дзяшовы, а якая-небудзь гадзіна нас таксама не выручыць. Рашэнне дапамаглі прыняць мясцовыя шафёры: «Мы не будзем чакаць, пакуль вы надумаеце!» Грузавік з закрытым брызентавым кузавам ужо стаіць на пароме, за ім уз'язджае легкавая машына. Наступнага рэйсу мы чакаць не станем.

— І не чакайце, — вымаўляе нехта за нашай спіной па-чэшску. — Дарога па беразе бухты добрая і цікавая.

Зямляк. Родам з мараўскай вёсачкі.

— З Тршэбіча я. Толькі ўжо вельмі даўно гэта было. У Чарнагорыі я апынуўся амаль паўвека назад, у дванаццатым годзе.

У такіх сітуацыях часу хапае якраз на біяграфію, выкладзеную тэлеграфным стылем. Спачатку мяснік і каўбаснік, потым матрос: «Самі ведаеце, жаданне паблукаць па свету, а ў маладосці мора па калена; потым доўгія гады работы тут у арсенале. І вярнуўся б дамоў, калі б... — голас старога Ржыгі задрыжаў, — калі б не страціў сына ў гэтых самых мясцах».

Ён паказвае на паром:

— Сын быў механікам на гэткай жа пасудзіне. Аднойчы пачалася навальніца, і яго забіла маланкай...

Выязджаем з Каменары, размаўляць не хочацца. Няўжо гэтая бухта здольна забіваць? Гэткая вясёлая і цікаманая дзяўчынка ў прыгожай сукенцы, з вялікім сінім бантам. Зверху на яе горда глядзяць горы, пухлыя воблакі гарэзліва гуляюць з ёй у хованкі. А дзяўчынка-франціха быццам пераапранаецца, у кожным выгіне спрытна мяняючы свае ўборы. Вось яна ўжо ў доўгай вячэрняй сукенцы: поўнымі жменямі раскідвае па гладзі асляпляльна зіхатлівыя жамчужыны, нібы запрашаючы: «Ідзіце са мной у карагод, стройныя асілкі гор...»

Але часам дзяўчыну ахоплівае сум, і яна плача, плача наўзрыд. Ад Рысана, самага дальняга куточка бухты, да Црквіцэ ўсяго некалькі кіламетраў, а Црквіцэ — месца, вядомае ўсім метэаролагам. «4 600 міліметраў ападкаў у год», — суха паведамляе статыстыка аб гэтым самым мокрым месцы ў Еўропе.

Праязджаем Пераст. Вузкая асфальтавая дарога выгінаецца вужакай, і калі б у нас не было на каленях карты, мы не змаглі б арыентавацца ў гэтай каруселі. Стрэлка компаса ў ліхаманцы, усход то справа, то злева. Але што робіцца вакол! Па бірузовай роўнядзі Бокі быццам падплылі два астраўкі, на адным каплічка...

— А другі яшчэ не заняты, — гаворыць Роберт, калі мы спыніліся і дасталі фотаапараты. — Тут можна было б пабудаваць санаторый. А пасля вяртання з падарожжа я б з задавальненнем папрацаваў у неўралагічным аддзяленні. Вось дзе лячыць, га...

Наш «праект» нібы пацвердзіла маленькая вёсачка, якая прытулілася на левым беразе. Яна называлася Добрата.





**Казачны заліў — Бока Котарская.**

### Дваццаць пятая паваротка

У нас заняло дух, калі мы глянулі ўгару. Ехалі мы, ехалі, прыкаваўшы позіркі да вады, і раптам апынуліся ў пастцы. Канец бухты, канец казкі. Котар.

Калісьці ў фільме аб Сярэдняй Азіі мы бачылі паляванне на горных дзікіх казлоў. Паляўнічыя акружылі статак і загналі яго на высокую скалу. І ўсё-такі палова жывёл уцякла ад паляўнічых: казлы адважна кідаюцца ў бездань, адштурхоўваючыся нагамі ад скал.

Нас невядомыя «праследавальнікі» загналі ў тупік на краі бухты. Загарадзілі шлях да адступлення — і давайце, казлы, наверх, у горы! Туды, на крутыя скалы, дзе нейкі феадал набудаваў крэпасных сцен, нібы гэтыя кручы самі па сабе недастатковая абарона! Галава пачынае кружыцца, калі глянеш у твар фанабэрыстым гарам, калі ўбачыш каменныя бар'еры дарогі і возьмешся лічыць яе віражы, высечаныя ў стромкай сцяне. Апошнія павароты недзе на вяршыні хаваюцца ў воблаках. Мы аб'ехалі паўсвета, але гэткага не сустракалі нават у Кардыльерах. Што на гэта скажуць нашы «татры-805»?

Напаўняем бензабакі да краёў (з нейкім урачыстым пачуццём, нібы збіраемся на вялікую бітву), Ольда правярае тармазы. Яны абавязкова спатрэбяцца нам, як толькі мы ўзбярэмся наверх. Цяпер галоўнае слова даецца маторам.

Сапраўды, дзіўна, што аб гэтай чарнагорскай дарозе так мала вядаюць у Еўропе. Добра вядомы высакагорныя трасы ў швейцарскіх і аўстрыйскіх Альпах. Але дарога, якая ўзбіраецца з Котары на Лоўчан, на працягу некалькіх кіламетраў паднімаецца на тысячу метраў.

— Тут на карце каля самай дарогі высотная адзнака. Толькі ніяк не разбяру, адзінка гэта ці сямёрка. Ні то 1 149 метраў, ні то 1 749.

Не паспелі мы і апамятацца, як ужо былі на вышыні чатырыста метраў над Котарам. Знайсці б цяпер месцейка шырэйшае, каб зняць Боку з птушынага палёту. Смаўжовы след, па якім мы кружылі ўсяго гадзіну назад, губляецца ў туманнай далечыні, горы расплываюцца, быццам іх завесілі кісяёй. На схілах, у якіх высечана дарога, тысячы маленькіх сценак, плацін і галерэй, складзеных з незмацаванага камення. Гэтыя сценкі свабодна прапускаюць праз шчыліны бурныя патокі дажджавой вады, адбіраючы ў іх згубную сілу і не дазваляючы змыць у бездань гіганцкую працу чалавечых рук. Праз тры сотні метраў вышэй ахоўныя сценкі атрымалі падмогу: тут на шляху імклівых патокаў стаяць адзінокія сосны і туі, моцна змацоўваючы схілы сваімі вузлаватымі карэннямі.

Глыбока пад намі, відаць у Троіцы, з невялікага аэрадрома ўзлятае самалёт. Вось ён ужо адарваўся ад зямлі. Цікава глядзець зверху на самалёт у палёце. Маторы нашых «татраў-805» упарта пяюць сваю песеньку; яны ўжо выпрабаваныя байцы. Мы лезем угару са скорасцю семнаццацьвасемнаццаць кіламетраў у гадзіну.

— Заўваж, Ольда, паваротки пранумараваны. Зараз ідзе дваццаць другая. Спыніся на хвілінку, мы зробім здымак.

Тут працуюць тры каменшчыкі-чарнагорцы. Яны абцёсваюць вапняковыя пліты і будуюць з іх ахоўную сценку.

Не, яны не хочуць, каб іх фатаграфавалі, паварочваюцца да нас спіной, а стары з абурэннем пратэстуе. І ўсё ж мы пасябравалі: яны пачулі, што мы гаворым на блізкай для іх мове, што нашы

словы аб тым, якую важную работу яны робяць тут, гучаць перараканальна, што гэта не проста ліслівасць. Колькі жыццяў збераглі іх мазолістыя рукі, колькім шафёрам надалі ўпэўненасці гэтыя каменныя бар'еры...

— Робім, што ўмеем, — сціпла гаворыць стары Блажа Вулавіч, — у гэтым няма ніякага цуда, паглядзіце — вось.

Пліты — адна да адной, цэмент у стыках змацоўвае іх у суцэльную сценку, злёгку нахіленую да праязной часткі. Пасля паваротკі сценка несуцэльная, пліты ўстаноўлены з невялікімі інтэрваламі. Дзе-нідзе на іх нанесены касыя чорныя палосы, якія папярэджваюць, каб шафёр не заязджаў надта далёка.

— Крыху вышэй звярніце ўвагу на дваццаць пятую паваротку, — гаворыць адзін з маладых каменшчыкаў. — Гэта былая граніца паміж Аўстра-Венгрыяй і каралеўствам Чарнагорыяй.

Слова «каралеўства» ён асабліва выдзяляе: гэта ж быў астравок незалежнасці ў моры аўстрыйскага і турэцкага заняволення.

На васемнаццатым кіламетры ад старту з Котара мы апынуліся ў найвышэйшым пункце перавалу праз Лоўчан. Дастаём з прычэпаў кансервы і хлеб, каб паабедаць на свежым горным паветры і заадно даць маторам заслужаны адпачынак. Над намі ўзвышаецца вяршыня Лоўчана, на яе схілах яшчэ ляжыць снег.

— Дзякуй богу, тая тысяча семсот метраў, што адзначаны на карце, адносяцца да Лоўчана, — гаворыць Ольда. — А я ўжо думаў, што гэтая дарога ўзбіраецца на самы верх.

Унізе цьмяна паблісквае роўнядзь Бокі, а над бяздоннем, вышукваючы здабычу, лунаюць горныя арлы.

Пераклад з чэшскай мовы
**А. МАЖЭЙКІ.**

(Працяг будзе.)



*Давайце пагаворым...*

## УСМІХНІСЯ, ТАВАРЫШ!

У Машанькі быў дрэнны настрой. Гэта было відаць па нахмуранаму твару, і па рэзкіх рухах, і па маўчанню, якім яна пагардліва адказвала на жарты пакупнікоў. А пакупнікоў, як на бяду, сабралася многа. Дзень святочны, надвор'е добрае. Пачулі гаражане першы подых вясны, пацягнула іх на вуліцу. Блукаць без усялякай мэты надакучае, і людзі заглядваюць у магазін: адны купляць, другія проста паглядзець.

Ля Машынага прылаўка — цэлы натоўп. Іскрацца пад электрычнымі промнямі вялікія пасудзіны з рознымі сокамі, пеніцца ліманад у шклянках. Людзі спыняюцца, становяцца ў чаргу. А Машанька злуецца. З самай раніцы ёй хочацца на кім-небудзь спагнаць злосць.

— Таварыш прадавец, калі ласка, бутэльку «Журавіннага».

Машанька злосна ставіць бутэльку на прылавак.

— Во якая сярдзітая, а маладая...— жартуе стары дзядзька.

Маша паварочваецца спіной да пакупнікоў і пачынае знарок нешта перастаўляць у вітрыне. Чарга хвалюецца.

— Вы не маглі б крыху хутчэй, паважаная? Вітрыну прыбраць можна і пасля.

— Даражэнькая, бачыце чарга якая? Калі ласка, паспяшайцеся.

Машанька злосна адказвае:

— Паспееце, не гарыць...

Апошнія ў чарзе — юнак і дзяўчына. Па ўсім відаць, яны вельмі спяшаюцца. Дзяўчына час ад часу паглядае на гадзіннік і шэпча: «Спознімся, Гена...» Хлопец набіраецца храбрасці і просіць:

— Калі ласка, хутчэй... Мы ў кіно познімся.

Маша пагардліва глядзіць на яго:

— А мне што? Пазніся...

Не ўдалося Генадзю і яго сяброўцы пакаштаваць шыпучага ліманаду. Яны пакінулі магазін амаль такімі ж злоснымі, як і сама Маша. Хто ведае, можа яны нават пасварыліся ў гэты вечар, бо, выходзячы з магазіна, дзяўчына холадна кінула свайму сябру: «Гэта ты вінаваты...»

А Маша па-ранейшаму грукала бутэлькамі і шклянкамі па прылаўку, злосная на ўвесь белы свет. І наўрад ці прыходзіла ёй у галаву думка аб тым, колькі людзей адышлі ад прылаўка з сапсутым настроем. Можа з-за яе нешчаслівым было спатканне ў Гены і яго спадарожніцы, хмурым прыйшоў дадому весялун-дзядзька, не такім цудоўным здаўся сонечны дзень астатнім пакупнікам.

Машанька — асоба не выдуманая. Яна сапраўды працуе ў Мінску, у магазіне «Гастраном» № 4. Але мы не будзем называць яе прозвішча. Дзяўчына, мабыць, сама зразумее ўсё.

Ёсць такая жартаўлівая песенька. У ёй даюцца парады, як палепшыць настрой таму, хто выйшаў з дому «нахмурыўшыся»:

Пусть вам улыбнётся,
Как своей знакомой,
С вами вовсе не знакомый
Встречный паренёк.

Так, гэта проста. Усміхнецца чалавек чалавеку, скажа ветлівае слова — і лягчэй стане на душы. Дрэнны настрой нібы сам па сабе знікае. Крыўдна толькі, што на ўсмешкі мы часта бываем скупымі.

... Некалькі месяцаў праспект імя Сталіна ад Даўгабродскай вуліцы і да парку імя Чалюскінцаў быў пакапаны, бо пракладваўся газапровод. Тралейбусы хадзілі толькі да плошчы Перамогі, і мінчане кожны дзень з надзеяй пазіралі на магутныя бульдозеры, што працавалі на праспекце. Усе чакалі заканчэння работ і аднаўлення вулічнага руху. І, нарэшце, аднойчы раніцай першыя прахожыя ўзрадавана прачыталі на тралейбусах шыльдачкі: «Вакзал — Абсерваторыя».

У гэты дзень амаль ва ўсіх быў святочны настрой. Людзі жартавалі, смяяліся. Заводзілі размовы з кандуктарамі.

У машыне, якой ехала я, таксама было весела і па-хатняму ўтульна. Людзі, нават не знаёмыя, віншавалі адзін аднаго і з гонарам пазіралі ў вокны. А як жа, родны горад — як родны дом! Чым больш у ім прыгажосці, тым прыемней на сэрцы. Пажылы і грузны чалавек, самы вясёлы з пасажыраў, нават кандуктара не пакінуў у спакоі:

— Што, дачушка, дачакаліся? Да абсерваторыі будзем катацца?

Кандуктар, маладая, праз меру сур'ёзная дзяўчына, холадна адказала:

— А мне ўсё роўна, куды ехаць. Бярыце вось білет, і няма чаго тут жарцікамі займацца...

*І адразу нібы святло пагасла ў тралейбусе.*

Вясёлы пасажыр дакорліва паківаў галавой і толькі сказаў:

— Нудны ты чалавек, кандуктар... Няма ад цябе, мусіць, нікому радасці.

Гэта вельмі дрэнна, калі няма ад цябе радасці другому чалавеку. Кепска *так* жыць не свеце. Уявіце сабе, колькі людзей вам даводзіцца сустракаць за свой рабочы дзень: супрацоўнікі ўстановы, дзе вы працуеце, прадаўцы магазінаў, кандуктары, работнікі арцелей, куды вы здаяцё *парамантаваць вопратку* ці абутак, афіцыянткі ў сталовай, дзяўчаты на пошце, дзе вы атрымліваеце пісьмы «да запатрабавання», медыцынскія сёстры ў бальніцах, нарэшце проста прахожыя на вуліцы... Што было б, каб усе гэтыя людзі раптам страцілі добры настрой, развучыліся гаварыць шчыра *і ветліва? Як бы сумна стала тады!*

На вялікі жаль, часта так бывае. Часам мы не задумваемся над тым, што крыўдзім другіх людзей, *псуем* адзін аднаму настрой, бываючы рэзкімі і грубымі там, дзе варта было б стрымацца, забыцца пра свае асабістыя непрыемнасці.

...Юнак з аўтазавода на першую сваю зарплату парашыў купіць *касцюм.* Поўны шчаслівых надзей, ён едзе ў магазін. Хлопец упэўнены, што ўвесь свет радуецца *разам* з ім. Дзяўчаты ў аддзеле гатовага адзення здаюцца яму добрымі, як сёстры. І раптам на нясмелую просьбу хлопца гэтая «сястра» абыякава тыцкае пальцам у першы, які трапіўся пад руку, касцюм:

— Вось, вазьміце гэты. Не падабаецца? Шукайце ў іншым месцы.

*Добры настрой* у хлопца знікае. І ўжо не хочацца яму новага касцюма.

... Дзяўчынка з новенькай сумачкай у руках стаіць ля акенца прыёмшчыка арцелі «Бытрамонту». Над акенцам надпіс: «Прымаюцца ў рамонт жаночыя сумкі». Дзяўчынка падае сваю сумачку, просіць:

— Калі ласка, прывядзіце *да ладу.* Мама на дзень нараджэння падарыла, і вось, бачыце, сапсавалася.

Але *сумачка* ляціць зноў ёй у рукі. Прыёмшчык абыякава зазначае:

— Такіх не бярэм.

— Дык дзе ж мне яе адрамантаваць? Парайце, калі ласка:

— Дзе хочаце, ваша справа. Наступны?!

Дзяўчынка адыходзіць амаль не са слязьмі на вачах не столькі ад сваёй няўдачы, колькі ад грубасці.

*... Пошта. Восем гадзін вечара. Ля акенца з надпісам «Да запатрабавання» хвалюецца юнак.*

— Я вас вельмі прашу. Сёння мне пісьмо павінна быць. Вельмі важнае, паглядзіце, *калі ласка.*

Дзяўчына за акенцам сярдзіта гаворыць:

— Я вам сто разоў гаварыла — у нас ужо зачынена. Бачыце, восем гадзін.

— Але я вельмі чакаю *пісьма.* Ну, што вам зробіцца, калі вы пагледзіце?

— Прыходзьце заўтра...

*Запаветнае пісьмо так* і засталося ляжаць на стале абыякавай дзяўчыны, а юнак доўга яшчэ стаяў на ганку пошты, відаць, на нешта спадзеючыся.

Тры выпадкі з жыцця розных людзей, але як яны падобны *паміж сабой!* І ў адным, і ў другім, і ў трэцім — чэрствасць, абыякавасць, грубасць. Але ж людзі, якія праявілі іх, — нашы савецкія людзі, маладыя, прыгожыя, магчыма нават і добрыя. Мабыць тая дзяўчына *на пошце сама* кагосьці кахае і чакае з нецярпеннем пісем. Прыёмшчык у арцелі, *напэўна, вельмі любіць* сваіх дзяцей, а маладзенькая прадаўшчыца з універмага ганарыцца сваім старэйшым братам. А вось для іншых людзей увагі, цеплыні, ветлівасці ў іх не знайшлося.

Крыўдна, вельмі крыўдна *за такіх* людзей. Але давайце падумаем: а ці заўсёды мы самі бываем чулымі і ўважлівымі? І *да нас самі*х, дзе б і на якой пасадзе мы ні працавалі, прыходзяць людзі са сваімі справамі... Ці заўсёды ў нас знаходзяцца да іх спагадлівае слова, ветлая ўсмешка?

Камсамолка Жэня К., кандуктар тралейбуса, аднойчы, калі яе папракнулі ў нячуласці, сярдзіта адказала:

— *Мне не да гэтага. Я* на рабоце, думаць пра дробязі няма калі.

Жэні ўсяго дзевятнаццаць год. Яна пры*гожая, яснавокая.* І так хочацца сказаць ёй ад шчырага сэрца: «Мілая дзяўчынка, усміхніся! Навошта табе злавацца? Вакол цябе — такія харошыя людзі... Гэта ж зусім няпраўда, што на рабоце трэба быць суровым і злосным»...

... Вера Бурко — прадаўшчыца гастранома № 1. Яна вельмі стараецца, бо самастойна працуе зусім нядаўна, а да гэтага была вучаніцай. Веры яшчэ крыху непрывычна, калі ля яе прылаўка збіраецца *многа людзей.* Тады яна губляецца і часам блытае чэкі. Але людзі ў чарзе не крыўдзяцца. Яны бачаць, што прадаўшчыца яшчэ маладая, неспрактыкаваная.

У гэты вечар было, як заўсёды. Вера старанна абслугоўвала пакупнікоў, якіх сабралася даволі многа. Нарэшце, чарга патроху разышлася, і тут Вера ўбачыла на прылаўку забыты некім чэк. І адразу ўспомніла — старэнькая бабулька доўга порпалася ў цэлым вееры чэкаў, пакуль нехта з пакупнікоў не дапамог ёй выбраць патрэбны. Відаць, гэтая старая і забыла чэк.

«А цяпер, мусіць, шукае, хвалюецца»,— Веры стала вельмі шкада бабульку. Але дзе ж яна? Паспрабуй, знайдзі яе ў гэткай мітусні. І з-за прылаўка выходзіць нельга, працаваць трэба. Вера адклала чэк у бок: «Потым». Але спакойна працаваць ужо не магла. І калі чарга ля яе прылаўка разышлася, Вера хуценька выбегла ў залу.

Бабульку яна знайшла ў кандытарскім аддзеле зусім разгубленую, у роспачы.

— Дзетачкі, не ведаю, дзе ён падзеўся. Толькі што ў руцэ быў...

Прадаўшчыцы ў аддзеле пацiскалі плячыма.

Вера вельмі абрадавалася, што знайшла бабульку.

— Бабулька, вы чэк згубілі? Вось ён...

Старая не паспела нават падзякаваць, як Вера была ўжо зноў на сваім рабочым месцы.

Здаецца, нічога асаблівага дзяўчына не зрабіла. Проста вярнула чалавеку згублены чэк. Але ўявіце сабе на яе месцы Машаньку, пра якую мы гаварылі на пачатку нашай размовы. Наўрад ці яна зрабіла б гэтак жа. А яны амаль аднагодкі, працуюць на аднолькавых пасадах, ад абедзвюх, часам, залежыць добры настрой многіх людзей. Але Маша проста забываецца аб сваіх *высокіх і ганаровых абавязках, забываецца* аб тым, што яна служыць людзям.

... Светлае веснавое сонца ўзнімаецца над горадам. Сотні людзей пачынаюць свой рабочы дзень — спяшаюцца на заводы, фабрыкі, у школы, інстытуты, ва ўстановы. Яны запаўняюць аўтобусы, трамваі, проста так ідуць па вуліцы. А горад іскрыцца, ззяе, поўніцца бадзёрай музыкай працоўнага дня. Як не хочацца бачыць у такі дзень нахмураныя твары, сярдзітыя позіркі, чуць грубыя словы. Так і цягне сказаць кожнаму:

— Весялей глядзі, таварыш! Ты жывеш у вялікай цудоўнай сям'і, у выдатным горадзе, ты робіш вельмі добрую *справу — служыш людзям.* Дык усміхніся ж. Ад тваёй усмешкі будзе цёпла і радасна ўсім.

**Раіса САМУСЕНКАВА.**

*Размова аб майстэрстве*

**Міхаіл СТАЛЯРОЎ**

# ЛІТАРАТУРА КРЫЛАТАЙ ДУМКІ

Сёння, калі развіццё сучаснай навукі дасягнула небывалых вяршынь, марыць пра будучыню пісьменнікам-фантастам стала і вельмі лёгка, і вельмі цяжка.

Лёгка таму, што бясконца разнастайныя навуковыя пытанні і праблемы ўзнікаюць у сувязі з хуткім развіццём хоць бы навейшых галін даўно вядомых навук — матэматыкі, фізікі, хіміі.

Цяжка таму, што той, хто піша навукова-фантастычныя творы, павінен спалучаць у сабе якасці мастака і вучонага, жыва, захапляюча расказваць пра людзей і тэхніку будучыні, расказваць па-мастацку ўсхвалявана і навукова абгрунтавана.

У нашы дні, калі касмічныя прасторы перасталі быць для савецкага чалавека недасягальнымі, калі кавалачак металу, выплаўленага на савецкай зямлі, апынуўся ў выглядзе вымпела з літарамі «СССР» на нядаўна яшчэ далёкім Месяцы, намнога бліжэйшымі сталі для нас Сонца і іншыя целы сусвету. Тэма асваення, вывучэння космасу становіцца адной з галоўных тэм навукова-фантастычнай мастацкай літаратуры. Ёсць падставы спадзявацца, што гэтая тэма з'явіцца тым моцным штуршком, які ажывіць цудоўны літаратурны жанр, так незаслужана забыты многімі пісьменнікамі, што спрабавалі свае сілы ў ім. Менавіта з гэтай тэмай звязана, хоць і па-рознаму, большасць навукова-фантастычных твораў, якія паявіліся за апошнія пяць — шэсць год. Сярод іх — «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» Я. Маўра, «Туманнасць Андрамеды» І. Яфрэмава, «Шосты акіян» М. Гамолкі. Грунтуючыся на матэрыяле гэтых кніг, паспрабуем вызначыць тыя асноўныя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да кожнага навукова-фантастычнага мастацкага твора.

Першым з гэтых патрабаванняў трэба назваць смеласць навуковай гіпотэзы, дзёрзкае прадбачанне, якое расхінае заслону будучыні. І. Яфрэмаў у рамане «Туманнасць Андрамеды» зрабіў цікавую спробу паказаць жыццё людзей камуністычнага грамадства праз сотні і сотні год, у эру, названую пісьменнікам «Эрай Вялікага Кальца», калі ўсе народы Зямлі, прайшоўшы праз стагоддзі барацьбы за новы свет, сталі «адзінай, дружнай і мудрай сям'ёй». Палёты на аддаленыя планеты і нават зоркі паказаны, як адзін з бакоў працоўнай дзейнасці людзей. Змяніўшы аблічча сваёй планеты, людзі думаюць аб перабудове іншых планет і нават цэлых планетных сістэм. Гэта сапраўды прыгожае і дзёрзкае імкненне.

У беларускай літаратуры пасляваенных год першы адгукнуўся на запатрабаванні часу Янка Маўр, які адчуў неабходнасць расказаць юным чытачам аб палётах на Месяц і на Марс, аб неабмежаваных магчымасцях чалавечага розуму і фантазіі. Герой яго навукова-фантастычнай аповесці прафесар Цылякоўскі вынайшоў і пабудаваў машыну — фантамабіль, якая рухаецца энергіяй фантазіі. Унукі прафесара Святлана і Светазар робяць на фантамабілі падарожжы над Зямлёй і ў космасе. Ідэя Цылякоўскага простая: фантазіраваць — значыць думаць, выпраменьваць энергію. Імпульсы мозгу можна ператвараць у іншыя віды энергіі, у прыватнасці, у механічную энергію, падобна да таго, як слабыя радыёхвалі можна ператвараць у гукі, у відочныя вобразы, выкарыстаць для кіравання механізмамі на адлегласці. Казачна? Так. Але не толькі казачна, а і смела, паэтычна. Фантамабіль уяўляецца зусім рэальнай машынай будучыні.

На наш погляд, Янка Маўр не зусім дакладна вызначыў жанр свайго твора. Гэта не аповесць, а хутчэй навуковая казка, пра якую ён сам вуснамі прафесара Цылякоўскага гаворыць: «Навуковыя казкі адрозніваюцца ад народных тым, што ў народных непраўдападобнымі звычайна бываюць усе факты, а ў навуковай можа быць неправдападобным якінебудзь адзін, асноўны».

Смеласць навукова-фантастычнага твора цесна звязана з эрудыцыяй пісьменніка. Чым глыбейшыя будуць яго веды ва ўсіх галінах навукі, тым больш надзённых навуковых, тэхнічных, псіхалагічных, сацыяльных праблем здолее закрануць ён у сваім творы. У гэтым можна пераканацца на прыкладах лепшых навукова-фантастычных кніг. У «Туманнасці Андрамеды» І. Яфрэмава аб'ектамі роздуму і фантазіі пісьменніка становяцца новыя навукі і новае мастацтва, якія ўзнікнуць пры камунізме, новыя ўзаемаадносіны людзей і новыя метады кіравання грамадствам. Можна спрачацца супраць гіпотэз пісьменніка, але нельга не прызнаць шырыню светаадчування і глыбіню яго навуковых ведаў.

Вядома, і ў «Туманнасці Андрамеды» ёсць свае недахопы. Так, напрыклад, не паказаны побыт чалавека камуністычнага грамадства, спрэчным з'яўляецца пытанне пра сям'ю, як яго тлумачыць Яфрэмаў, і г. д. Але гэта не змяншае шырыні карціны, намаляванай пісьменнікам, а толькі дае прастору для творчай спрэчкі.

Янка Маўр у сваёй аповесці закранае іншае кола пытанняў. Але фантазія абодвух пісьменнікаў сыходзіцца ў адным: Мвен Мас у І. Яфрэмава шукае магчымасці пераадолення прасторы шляхам стварэння нуль-прасторы, а ў Я. Маўра прафесар Цылякоўскі знаходзіць спосаб яе пераадолення шляхам стварэння звышхуткаснага рухавіка ў ідэале, які дазваляе дасягнуць хуткасці думкі, г. зн. такой хуткасці, якая ў непамерную колькасць разоў перавышае вядомую чалавеку хуткасць святла. Зразумела, у кнігах няма тэхнічных падрабязнасцей. У Я. Маўра мы не знойдзем тлумачэння ўмоў руху фантамабіля і спосабу прыстасавання чалавечага арганізма да звышхуткасці; у І. Яфрэмава пасля гіганцкай катастрофы нейкім чынам застаюцца жывыя і Мвен Мас, і Рэн Боз. Але ніхто, вядома, не ўздумае дакараць аўтара за гэта. Важна, каб сама ідэя была народжана палымянай чалавечай марай.

У аповесці Я. Маўра ёсць цікавыя па сваёй смеласці думкі — як, напрыклад, ідэя аб «размоўных шапках» — апаратах, якія дазваляюць размаўляць з людзьмі любой мовы і разумець іх, або думка аб стварэнні асаблівага, звыштрывалага матэрыялу «фантазіту», «які мацней за ўсе металы на зямлі». Ужо сёння гэтая думка перакліікаецца з навейшымі дасягненнямі тэхнікі, якая знайшла спосаб здабываць чыста крышталічнае жалеза, лепшае па сваіх якасцях за ўсе сталі і сплавы.

Аднак не ўсе гіпотэзы ў аповесці пісьменніка арыгінальныя. Напрыклад, расказ аб прыродных умовах Месяца хоць і адпавядае навуковым поглядам, але не выклікае цікавасці, таму што шмат разоў гэтае пытанне асвятлялася ў літаратуры. І яшчэ — навука

даўно ўзяла пад сумненне існаванне на Марсе «Каналаў Скіапарэлі», але довады супраць іх існавання, што прыводзяцца ў аповесці, не пераканальныя, бо нельга адмаўляць «каналы» толькі на той падставе, што іх не ўбачылі Святлана і Светазар.

У рамане М. Гамолкі «Шосты акіян» расказваецца аб стварэнні штучных спадарожнікаў і аб палёце на Месяц. Як бачым, бярэцца зусім блізкая, нават, можна сказаць, надзённая тэма. Ды і аўтар датуе падзеі рамана 196... годам. Але справа, безумоўна, не ў даце, а ў тым, што новае, «заўтрашняе» паўстае перад чытачом увачавідкі.

Блізкае «заўтрашняе» — гэта савецкія людзі на Месяцы. Геліаўстаноўкі з крышталічнага крэмнію, касмічныя касцюмы, фатонныя рухавікі, штучныя спадарожнікі — лабараторыі і ракетадромы — расказ аб усім гэтым мае пазнавальнае значэнне, хоць многае ў творы здаецца вельмі знаёмым. Гэта і зразумела — мы нямала чыталі ў газетах і часопісах пра ўсе апошнія тэорыі, здагадкі, пошукі. Праўда, ёсць у «Шостым акіяне» і цікавыя гіпотэзы, напрыклад, аб магчымасці адрыву Плутона ад сонечнай сістэмы, аб магчымасці ператварэння астэроіда Гермеса ў спадарожніка Зямлі шляхам змянення яго арбіты. Але першая з памянёных гіпотэз з сюжэтам рамана зусім не звязана, а другая — аб Гермесе — магла б вельмі ўзбагаціць кнігу, калі б яе развіць належным чынам. На жаль, у творы яе засланілі малацікавыя паходжанні, звязаныя з прыгодамі шпіёна Назарава.

Прыходзіцца прызнаць, што смелай фантастыкі ў рамане «Шосты акіян» няма. У гэтым малады пісьменнік значна саступае Я. Мауру. Але ў творы ёсць пазнавальны матэрыял, разлічаны ў асноўным на пэўнага чытача — на дзяцей сярэдняга ўзросту. У большасці выпадкаў пісьменнік імкнецца навукова абгрунтаваць свае гіпотэзы, хоць яму гэта не заўсёды ўдаецца. У якасці прыкладу можна прывесці ні на чым не заснаванае сцверджанне аб залежках урану на Месяцы. Гэтае меркаванне ўведзена толькі для ўскладнення сюжэта, на ім пабудавана прыгодніцкая лінія другой часткі рамана, дзе паказваецца пагоня амерыканскіх бізнесменаў за важнай энергетычнай сыравінай. І трэба адзначыць, што ўсе недарэчнасці адбываюцца якраз там, дзе пісьменнік малюе прыгоды сваіх герояў. Тут дзеля ўяўнай займальнасці іншы раз прыносіцца ў ахвяру не толькі навуковасць і праўда, але нават і простае праўдападабенства. Вось тут нельга не пагаварыць аб месцы і значэнні прыгод у навукова-фантастычным творы.

Прыгоды — гэта захапляючыя здарэнні, заўсёды нечаканыя, непрадбачаныя, поўныя небяспекі, рызыкі, радасцей адкрыцця нова-га. Без прыгод немагчыма навуковая фантастыка.

Але прыгоды бываюць розныя. У навукова-фантастычным творы галоўнае, калі не выключнае месца павінны займаць прыгоды не пабочныя, а звязаныя з навуковымі праблемамі, пастаўленымі ў кнізе. У гэтых адносінах цікава пабудавана прыгодніцкая лінія ў «Туманнасці Андрамеды». З вялікім напружаннем сочыць чытач, напрыклад, за барацьбой астранаўтаў з невядомай грознай і змрочнай прыродай «Жалезнай зоркі» і жудаснымі насельнікамі гэтай планеты, за грандыёзным, хоць і няўдалым доследам Мвена Маса, за даследаваннямі Веды ў пячоры.

У «Фантамабілі прафесара Цылякоўскага» ўсе прыгоды лагічныя, праўдзівыя, кожная мае пэўную мэту і характарызуе або героя або цудоўную машыну. І ўсё ж іх можна падзяліць на дзве групы: на цікавыя, захапляючыя і нецікавыя, якія пакідаюць чытача раўнадушным. Цікавыя і захапляючыя заўсёды толькі прыгоды нечаканыя. Да такіх можна аднесці першы палёт Светазара і Святланы да зімоўшчыкаў з прэпаратам крыві для выратавання палярніка. Самыя ж лепшыя старонкі — гэта прыгоды дзяцей на Марсе. Пісьменнік расказвае аб прыродзе Марса ў адпаведнасці з тымі дадзенымі, якія мае сучасная навука аб прыродных умовах гэтай «няўтульнай планеты». Я. Маўр насяляе Марс насякомымі, птушкамі, рыбамі. Найбольш развітымі жывымі істотамі з'яўляюцца «яхі», якія валодаюць нават зачаткамі мовы. Не будзем спрачацца з аўтарам, хоць тут узнікае рад пытанняў: як маглі развіцца нават такія разумныя істоты ў суровых прыродных умовах, адкуль ім вядомы агонь і як яны яго страцілі, і, нарэшце, што ўяўляюць з сябе «яхі» — пачатак эвалюцыі гэтага тыпу жывёл ці яе канец, выкліканы ахаладжэннем Марса і збядненнем яго прыроды. Але ва ўсякім выпадку, гіпотэза прыводзіцца новая, а таму і прыгоды займальныя і новыя. У іх выразна праяўляецца характар савецкіх дзяцей, асабліва Светазара, які не жадае бачыць «паноў» на Марсе і смела ўстанаўлівае справядлівы «грамадскі лад» сярод яхаў.

Мала цікавымі здаюцца прыгоды Светазара і Святланы ў Амерыцы, таму што тут пісьменнік не расказвае чытачу нічога новага. Пра становішча бедных фермераў, пра бяспраўе неграў можна прачытаць і ў газетах, ці варта для гэтага выкарыстоўваць фантамабіль?!

Апошнюю старонку аповесці Я. Маўра перагортваеш з пачуццём чакання: здаецца, самае цікавае яшчэ наперадзе, там, дзе ажыццёвіцца абяцанае аўтарам «падарожжа на такую планету, як наша Зямля». Чытач чакае працягу аповесці.

Ёсць цікавыя прыгоды і ў «Шостым акіяне» М. Гамолкі, асабліва такія, як знаходжанне Макса Вела за бортам касмічнай ракеты, апісанне магнітнай буры на сонцы ў час палёту ракеты «Вулкан» на Месяц і яе вынікаў для астранаўтаў. Але ёсць і такія, якія не звязаны з навукова-фантастычнай тканінай рамана і выглядаюць зусім лішнімі. Гэта, у першую чаргу, прыгоды амерыканскага вынаходніка Вілі Рэндала на караблі «Чорная страла». Сумленны інжынер абурыўся намерам капіталіста Уолтара выкарыстаць сканструяваную ім касмічную ракету для нападу і захопу штучнага спадарожніка «Малога Месяца» і вырашыў уцячы са Штатаў. Як бачым, у навуковую фантастыку тут уводзяцца грамадскія, палітычныя матывы, што зусім правамерна. Але самі прыгоды пазбаўлены арыгінальнасці і здаюцца безгустоўным пераказам знаёмага. Вілі грымі-руецца пад кіраўніка завода і, абдурыўшы паліцэйскіх, забірае свой атамны пісталет. Міжволі прыгадваюцца старонкі з «Гіпербалоіда інжынера Гарына» А. Талстога, дзе адбывалася нешта вельмі падобнае.

Мала верагодным здаецца ўсё, што здарылася з Рэндалам на электраходзе. Зусім наіўнымі, архаічнымі атрыбутамі аванцюрнага твора з'яўляюцца гадзюка і страла, пры дапамозе якіх робіцца замах на Рэндала. Як тут не ўспомніць прыгоды Шэрлака Холмса, «Стракатую стужку» і іншае! Усё гэта нельга апраўдаць тым, што раман разлічаны на юнага чытача — менавіта ў дзяцей варта выхоўваць добры мастацкі густ і здаровую зацікаўленасць сапраўды разумнымі прыгодамі. Добрая навукова-прыгодніцкая аповесць не адрасуецца пэўнаму ўзросту. Кнігі Г. Уэлса, Ж. Верна, А. Бяляева, А. Талстога з аднолькавым захапленнем чытаюць дарослыя і дзеці. А ў рамане М. Гамолкі нават дзеці могуць заўважыць неправдападобныя сітуацыі. Напрыклад, нельга ўявіць сабе, каб хлопчык Алег Дрозд змог кіраваць ракетай, каб ракета паляцела з... незачыненымі дзвярамі, або каб шпіён Баброў, без трэніроўкі, трапіўшы ў «Вулкан», паводзіў сябе таксама, як астатнія, умеў апранаць складаны касмічны касцюм і карыстацца ім.

Дарэчы, пра шпіёнаў. Навуковая фантастыка мае такія багатыя магчымасці зацікавіць чытача, што можа абысціся і без шпіёнскіх інтрыг. Апрача таго, пісьменнік павінен быць чулым да голасу часу. Зусім відавочна, што настае пара, калі для далейшага прагрэсу чалавецтва неабходна цеснае супрацоўніцтва вучоных усіх краін. Пра гэта нястомна клапоціцца наша партыя, савецкі ўрад, на міралюбівае творчае супрацоўніцтва накіравана ўся палітыка нашай дзяржавы. Аб гэтым шмат разоў гаварыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў.

Не злыя намеры, а мірнае супрацоўніцтва вучоных заслугоўвае заняць месца на старонках навукова-фантастычных кніг. Гэта неабходна

і ў выхаваўчых мэтах. Празмернае захапленне «шпіёнскімі» кнігамі часам выклікае ў дзяцей няправільныя ўяўленні. Адна з высакародных мэт навукова-фантастычнай літаратуры — паказаць, што не шпіёны рухаюць навуку, а вучоныя, прывіць вучням павагу да вучобы, раскрыць перад імі вялікае значэнне аб'яднаных намаганняў вучоных розных краін дзеля агульнай карысці ўсіх народаў. Яго яшчэ няма, гэтага ўсеагульнага супрацоўніцтва, але гэта такая важная справа, аб якой варта памарыць.

Навуковая фантастыка — жанр мастацкай літаратуры. Таму і ў ім першаступеннае значэнне маюць жывыя чалавечыя характары. У кнізе, як і ў жыцці, галоўнае — чалавек. У навукова-фантастычных творах, якія малююць карціну далёкай будучыні, стварыць жывы мастацкі вобраз не так лёгка. Тут усё залежыць ад светапогляду мастака. Буржуазнаму пісьменніку, які назірае вакол сябе разлажэнне і ўпадак, будучыня ўяўляецца ў яшчэ больш змрочным святле. Так паяўляюцца ў творах галавастыя вырадкі з гіпертрафіраваным мозгам і атрафіраванай душой, накшталт герояў Г. Уэлса. Савецкі пісьменнік бачыць будучыню, асветленую сонцам камунізма, а людзей — дужымі, смелымі, справядлівымі, сумленнымі, гарманічна развітымі. Такімі намаляваў іх у сваім рамане І. Яфрэмаў.

Героі Яфрэмава — з'ява новая ў сучаснай літаратуры і амаль выключная, яшчэ ніхто не спрабаваў да яго зазіраць так далёка наперад.

У большасці ж навукова-фантастычных твораў апошняга часу дзейнічаюць, як правіла, нашы сучаснікі або людзі бліжэйшай будучыні. Але, захапіўшыся навуковай гіпотэзай, тэхнічнай праблемай або вынаходніцтвам, пісьменнікі часта зводзяць герояў да ўзроўню ўмоўных фігур, схем, якія пазбаўлены жывых чалавечых рысаў. Нават у такога вопытнага пісьменніка, як Я. Маўр у аповесці «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» з трох герояў — прафесара, Святланы і Светазара — найбольш жыва намаляваны толькі адзін — Светазар. Ён надзелены пэўным характарам: гэта хлопчык разумны, цікаўны, валодае ведамі, даступнымі для яго ўзросту, смелы і рашучы. З якім запалам ажыццяўляе ён на Марсе «сацыяльную рэвалюцыю» ў поўнай адпаведнасці з тымі поглядамі на свет і грамадства, якія выхаваны ў ім савецкім ладам! Ён адбірае ў марсіянскага царка «бао» яго магутную зброю — агонь і аддае яго «яхам». «Не паспелі зрабіцца людзьмі, а ўжо строіце з сябе нейкіх паноў», — гнеўна ўшчувае ён «бао» і яго блізкіх. А сястру, якая дазволіла сабе насмешку па адрасу марсіян, Светазар строга дакарае: «Ты не маеш права здекавацца з якой бы там ні было асобы, хай сабе будзе яна падобнай і да мядзведзя».

Гуманнасць Светазара праяўляецца і ў намаганнях «прыстасаваць да сумленнага жыцця» звергнутага «бао» і яго світу.

Пра Святлану амаль няма чаго сказаць, гэта дзяўчынка наогул самастойным характарам у аповесці не надзелена.

Прафесар Цылякоўскі вонкава апісаны падрабязна — гэта шаноўны васьмідзесяцігадовы стары, энергічны, добры, уважлівы. Сёе-тое гаворыцца аб яго біяграфіі, якая вельмі падобна (як і прозвішча) да біяграфіі вялікага вучонага, летуценніка і геніяльнага вынаходцы Канстанціна Эдуардавіча Цыялкоўскага. Пётр Трафімавіч Цылякоўскі — у мінулым настаўнік гімназіі, які траціў увесь свой заработак на навуковыя доследы; цяпер ён — прызнаны светам вучоны. Але ў кнізе яго роля абмяжоўваецца тым, што ён расказвае, растлумачвае, г. зн. з'яўляецца своеасаблівым аўтарскім рупарам. Інакш кажучы, гэта службовая фігура, а не дзейная асоба.

А якімі паказаны людзі недалёкага заўтра ў рамане «Шосты акіян»? На жаль, і на іх вобразах адчуваецца выразны адбітак штампу. Акадэмік Дзянісаў, спакойны, упэўнены, смелы вучоны, якім і павінен быць начальнік экспедыцыі на Месяц. Алег — таксама смелы і таксама валявы. Зіна і Наташа — персанажы службовыя, уведзеныя для «ажыўлення» сюжэта.

У другой частцы рамана вялікую сімпатыю выклікае вобраз штурмана амерыканскай ракеты негра Роба Пітэрса — чалавека гордага, але справядлівага. Па сваёй дабраце ён выратоўвае на Месяцы ад смерці капітана ракеты, авантурыста Поля Арноля, але рашуча спыняе яго спробы ўстанавіць на Месяцы парадкі паўднёвых штатаў.

Паколькі ў рамане паказаны людзі хоць і недалёкай, але ўсё ж будучыні, не хацелася б бачыць сярод іх ні бюракрата і самадура, якім паказаны дырэктар Астранамічнага інстытута Мельнік, што спадзяецца больш на «сувязі», чым на свой аўтарытэт вучонага, ні начальніка радыёлакацыйнага цэнтра жуліка Фёдарава. Іх, як вядомага ўсім Пабеданосікава, абавязкова адкіне прэч — і вельмі хутка — «машына часу».

Далёка не ўсе старонкі нашай навуковай фантастыкі «дацягваюць» да ўзроўню мастацкага твора. Пісьменнікі, якія працуюць у гэтым жанры, не абцяжарваюць сябе карпатлівай працай над стварэннем мастацкага характару, над стылем твора. Толькі гэтым можна вытлумачыць спрошчанасць у абмалёўцы характараў герояў, безгустоўнасць і схематызм у пабудове сюжэта.

Сучасны чытач, непасрэдны ўдзельнік многіх пераўтварэнняў, зразумела, чакае ад пісьменніка ўсхваляваных кніг, якія вучылі б яго марыць, абуджалі цікавасць і любоў да навукі, пашыралі кругагляд і вабілі б наперад, у будучыню. А выхоўваць у чалавеку імкненне да цудоўнай будучыні, да камунізма, значыць, выхоўваць у ім палымянае жаданне справай наблізіць гэтую будучыню.

У навукова-фантастычных творах мы непазбежна сустракаемся і знаёмімся з новай тэхнікай. Трэба, каб яна паказвалася ў дзеянні, як магутны сродак у руках герояў, якія карыстаюцца ёю. А пералічэнні або нават апісанні «з боку» не абуджаюць нашага ўяўлення. Вельмі многа сухіх навуковых матэматычных, астранамічных выкладак мы знаходзім і ў рамане І. Яфрэмава.

Некалькі слоў аб форме. Нават на прыкладзе трох разгледжаных твораў можна бачыць, што навукова-фантастычны змест можа «ўкладвацца» ў разнастайныя формы. У Яфрэмава знаходзім лаканічнасць апавядання, сціслась сюжэта, хуткую змену падзей. Героі яго твора немнагаслоўныя, яны блізкія да таго, каб разумець адзін аднаго без слоў, нібы чытаючы думкі.

Я. Маўр выбраў форму прывабнай казкі, якая так добра гарманіруе з яго юнымі героямі. М. Гамолка палічыў за лепшае рамкі разгорнутага рамана. А колькі яшчэ ёсць іншых форм...

Чалавек накіраваўся ў сусветную прастору. Што цягне яго ў такую бязмежную далеч? «Чалавек адважыўся пакінуць Зямлю, акунуцца ў цемру, холад, вечнае аняменне. Навошта? Каб яшчэ мацней палюбіць сваю блакітную планету, прынесці ёй сапраўдны росквіт і шчасце». Так прачула і шчыра піша М. Гамолка, але тлумачэння радаснай перспектывы тут усё ж няма. Якім чынам пазнанне космасу паслужыць росквіту і шчасцю Зямлі? Мільгае ў кнігах думка аб запасах каштоўных каменняў і золата на іншых планетах. Але ці варта вазіць іх з далёкіх зор або нават з Месяца, ці не дарагавата гэта абыдзецца? Тое ж можна сказаць і аб залежах урану, які мае да таго ж цану толькі сёння, калі навука пакуль пасцігла сакрэт расшчаплення ядра нямногіх элементаў. Заўтра яна знойдзе шляхі здабываць гіганцкую энергію, расшчапіўшы ядро, скажам, азоту або крэмнію. Не, не па золата і дыяменты накіроўваецца ў космас чалавек. З незапамятных часоў ён насяляў Месяц і зоркі жывымі істотамі, часцей за ўсё людзьмі, каб не быць адзінокім у сусвеце. У гэтым адвечным імкненні ў космас са спадзяваннем адкрыць у ім жыццё было стыхійнае праяўленне матэрыялістычнага тлумачэння свету, як адзінага цэлага з адзінымі законамі развіцця.

У «Туманнасці Андрамеды» вучоны Мвен Мас гарыць палымяным жаданнем знайсці спосаб пераадолення прасторы і часу, які дае магчымасць чалавеку Зямлі паціснуць руку насельніку якой-небудзь далёкай зоркі, што знаходзіцца ад нас на адлегласці мільёнаў светавых год. І хоць дослед яго заканчваецца катастрофай, чытач пераконаны, што навуковая

ідэя, якая нарадзілася з жыццёвай неабходнасці, рана ці позна стане явай. Так і трэба марыць: з вялікай смеласцю і верай у здзяйсненне мары.

Якія ж тэмы з галіны навуковай фантастыкі чакаюць сёння свайго вырашэння? Умовы палёту ў міжзорную прастору дзякуючы дасягненням савецкай навукі цяпер не могуць служыць прадметам фантастыкі, — гэта ўжо рэальнасць. Затое пісьменнікам-фантастам прадастаўляецца права і магчымасць першымі зазірнуць у нязведаны свет. Яны могуць адкрыць перад намі свет нежывы або населены. І на зямлі мы бачым вялікую разнастайнасць форм жыцця, тым больш вялікая яна можа быць у маштабах неабсяжнага сусвету.

А колькі цікавых, хвалюючых нашу моладзь тэм хаваюць у сабе адкрыцці ў галіне выкарыстання тэрмаядзерных рэакцый, цяжкай вады, вытворчасць якой звязана з велізарнай рызыкай. Нямала казачных і сапраўды фантастычных матэрыялаў могуць даць пісьменнікам факты даследаванняў паверхні Месяца і Сонца, атрыманыя пры рабоце касмічных навуковых станцый.

Нарэшце, пісьменнік можа пазнаёміць нас з насельнікамі іншых планет не толькі накіроўваючы сыноў Зямлі ў вялікія падарожжы, але і прывёўшы да нас астранаўтаў з космасу. Для навуковай фантастыкі гэта зусім не навіна. Некалі Герберт Уэлс у сваім рамане паказаў жорсткіх і крыважэрных марсіян, якія з'явіліся на Зямлю, каб заняволіць яе. Такі напрамак думак быў натуральны для мастака, які жыў у эпоху панавання капіталізма з яго воўчымі законамі. Пры цяперашнім развіцці навукі і тэхнікі народам, а паступова і ўрадам капіталістычных краін становіцца ўсё больш зразумелай непазбежнасць і неабходнасць мірнага суіснавання і супрацоўніцтва. Таму ў нашы дні тэма ўзаемаадносін паміж светамі павінна атрымаць новае, гуманістычнае гучанне. Хочацца ўбачыць, пакуль хоць бы ў кнігах, невядомых яшчэ сяброў, асабліва тых, якія, магчыма, ужо жывуць у светлым будынку, які ўзводзіцца намі, — у камунізме. А што такія ёсць, мы не пярэчым, бо не лічым сябе «вянцом тварэння», якімі б вялікімі ні былі нашы дасягненні. Мы ж, матэрыялісты-дыялектыкі, не прызнаём ніякіх «вянцоў».

З засмучэннем аглядаем мы бібліятэчную паліцу, дзе стаіць пакуль зусім маленькая сям'я навукова-фантастычных раманаў і аповесцей. З нецярпеннем чакаем новых, больш мастацка дасканалых і цікавейшых, смелых па ідэі навукова-фантастычных твораў, якія хацелася б прачытаць, не адрываючыся, а потым горача паспрачацца аб прачытаным і соладка памарыць.



**П. І. Чайкоўскі.** Скульптура З. Віленскага (мармур).

# 1840 — 1960

*Сёмага мая споўнілася 120 год з дня нараджэння буйнейшага рускага кампазітара Пятра Ільіча Чайкоўскага. Як і другі геній рускай культуры — Леў Талстой, Чайкоўскі з неператўзыйдзенай рэалістычнай сілай здолеў у сваёй выдатнай творчасці паказаць «дыялектыку душы» — усё багацце і шматбаковасць пачуццяў і псіхалагічных станаў чалавека.*

*Пратэстуючы супраць прыгнятаючай атмасферы сучаснай яму рэчаіснасці, вялікі гуманіст Чайкоўскі цэнтральнай тэмай сваёй ярка нацыянальнай творчасці выбраў парыў, палымянае імкненне чалавека да шчасця, радасці, да ўсепаглынаючага кахання, цудоўнага жыцця. І ў гэтым крыецца адна з галоўных прычын усеагульнай любві, сусветнага прызнання музыкі Чайкоўскага — кампазітара, чые творы гучаць і будуць гучаць, як адна з буйнейшых праяў генія чалавецтва.*

# СЛУХАЮЧЫ ЧАЙКОЎСКАГА

Фота А. Дзітлава.

«...вялікі лірык Чайкоўскі...»
**М. Горкі.**



«Побач з незвычайным уменнем выказваць самыя тонкія моманты чалавечага смутку ва ўсёй яго разнастайнасці, ад агульна-філасофскай да этычнай, Чайкоўскі ўзнімаецца... на вышыню сапраўднага палёту да шчасця, і ў ім чутна славутая фраза Караленкі: «Чалавек народжаны для шчасця, як птушка для палёту»... У сваёй своеасаблівасці Чайкоўскі застаецца жыць у нашай сучаснай музыцы».
**А. Луначарскі.**



«Я зусім не згодны з вамі, што музыка не можа перадаць усеабдымных пачуццяў любві. Я думаю зусім наадварот, што толькі адна музыка і можа гэта зрабіць. Вы гаворыце, што тут патрэбны словы. О, не! Тут іменна слоў дык і не патрэбна, і там, дзе яны бездапаможныя, з'яўляецца ва ўсёй сіле больш красамоўная мова, гэта значыць музыка».
**П. Чайкоўскі.**





«Я літаральна не магу жыць, калі не працую... Чалавек, які палымяна любіць жыццё, гэтак жа палымяна ненавідзіць смерць».
**П. Чайкоўскі.**



«Я жадаў бы ўсімі сіламі душы, каб музыка мая распаўсюджвалася, каб павялічвалася колькасць людзей, што любяць яе, знаходзяць у ёй суцяшэнне і падтрымку».
**П. Чайкоўскі.**

«Чайкоўскі даўно стаў агульнанародным кампазітарам... імя Чайкоўскага стала эпохай у сусветным развіцці музыкі, найкаштоўнейшым рускім укладам у яе, адной з праяў невычэрпнай мастацкай таленавітасці вялікага народа і яго чалавечнейшай культуры».
**Б. Асаф'еў.**



# *Наша пошта*

## ШАНУЙЦЕ ЗЯЛЁНАГА ДРУГА

«Я гляджу на яе бескарыслівае служэнне людзям, і ў мяне, нібы духмяная ліпавая кветка, распускаецца надзея...»

**М. Прышвін. «Старая ліпа».**

Лес — цудоўны дар прыроды, яе жывы летапіс. Шматлікія назвы нашых вёсак — Дуброва, Дуброўна, Ясень, Залессе, Лясная і многія іншыя гавораць пра тое магутнае царства лесу, якім была некалі Беларусь. Яшчэ ў недалёкім мінулым большая палова яе плошчы была занята лясамі. Уздоўж дарог, палёў і рэк магутнай зялёнай сцяной стаялі каржакаватыя дубы, стройныя сосны, развесістыя белыя бярозы, панурыя елкі і серабрыстыя асіны. Аднак большая частка лясных багаццяў належала купцам, памешчыкам, фабрыкантам. А яны — гэтыя прыватныя ўладальнікі — драпежна эксплуатавалі лясы, найкаштоўнейшы і лёгка даступны дар прыроды. Разам з імі заўзята бясчынствавалі і іншаземныя канцэсіянеры. Лясоў станавілася ўсё менш. Расло насельніцтва, расшыраліся плошчы палёў, сенакосаў і пашаў, выраcталі гарады і пасёлкі, а лес адступаў. Мудрая народная прымаўка гаворыць: «Хто сячэ лес — сушыць месцы, гоніць ад палёў хмары і рыхтуе сабе адно толькі гора».

Многа шкоды нашым лясам прычынілі таксама жорсткія войны. Пасля

**Палессе. Лясное возера.**
Фота А. Дзітлава.



таго спусташэння, якое прынесла Вялікая Айчынная вайна, беларускія лесаводы, прасякнутыя любоўю да роднага краю, пачалі ўзмоцнена залечваць раны, нанесеныя зялёнаму другу. За пасляваенны перыяд быў пасеян і пасаджан лес на плошчы больш 600 тысяч гектараў. У лясніцтвах — зялёных цэхах нашай рэспублікі — вырошчваецца драўніна, ад якасці і колькасці якой залежыць збудаванне новых фабрык і заводаў, калгасных пасёлкаў і гарадоў. Штогод у рэспубліцы нарыхтоўваецца больш 10 мільёнаў кубаметраў драўніны. А з адной тысячы кубаметраў лесу можна пабудаваць 20—30 кватэр, 2—3 баржы, упакаваць 3 тысячы тон харчовай прадукцыі, зрабіць 2 500 дыскавых сеялак, 150—200 малатарань. У сувязі з магутным развіццём нашай народнай гаспадаркі ўсё больш патрабуецца лесу і для хімічнай прамысловасці. Усё гэта агульнавядомыя факты. Таму, здавалася б, ці варта ўзнімаць пытанне аб ахове прыроды ва ўмовах сацыялістычнай гаспадаркі, калі вырубка лесу плануецца ў адпаведнасці з магчымасцямі штогадовага прыросту спелай драўніны?

Але справа ў тым, што сустракаюцца ў нас яшчэ людзі з адсталай свядомасцю. Прыватныя, вузкаведамасныя інтарэсы яны ставяць вышэй за дзяржаўныя. У выніку прыродныя рэсурсы краіны выкарыстоўваюцца часам нерацыянальна, негаспадарча, з непапраўнай шкодай для Радзімы.

Тыя, хто знішчае лясы без разбору, не задумваюцца над тым, што гэта выклікае пагаршэнне атмасферных і кліматычных умоў. Неразумная вырубка лесу на пясчаных плошчах вядзе да «аслабанення» пяскоў, якія засыпаюць затым палі і сенажаці. Знішчаючы зялёную ахову па берагах рэк, мы выклікаем іх абмяленне і засмечванне, у выніку пагаршаецца ці зусім спыняецца суднаходства.

Дрэнна пакуль што арганізавана гаспадарка ў калгасных лясах. Яшчэ здараецца і так, што старшыні калгасаў дазваляюць высякаць цэлыя лясныя масівы. Пры гэтым атрыманая драўніна не выкарыстоўваецца ў гаспадарцы, а, у асноўным, ідзе на продаж, на абмен. Такія «гаспадары» жывуць толькі сённяшнім днём, не заглядваючы ў будучыню.

Асабліва многа лесу знішчана ў калгасах «Праўда», «Малады ленінец», імя Войкава Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці, імя Куйбышава Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці, «8-е Сакавіка» Лагойскага раёна, «Шлях Сталіна» Крупскага раёна Мінскай вобласці, «Савет міру» Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці.



**Узлессе бору.**

Як правіла, месцы, дзе высякаецца лес, ад парубачных рэштак не ачышчаюцца, у выніку лясныя плошчы вельмі засмечваюцца. Ад гэтага не толькі расце небяспека ўзнікнення пажараў, але ствараюцца спрыяльныя ўмовы і для рассялення шкоднікаў лесу.

Вядома, ёсць асобныя калгасы, дзе да лесу — усенароднага багацця адносяцца беражліва і разумна. Так, калгаснікі сельгасарцелі «Бальшавік» Гомельскага раёна пасадзілі лясныя культуры на плошчы 35 гектараў і дабіліся таго, што звыш 95 працэнтаў саджанцаў прыняліся. У калгасе «Рассвет» Кіраўскага раёна калгаснікі засадзілі і засеялі лесам больш 200 гектараў вырубак і прагалін.

За адзін год у калгасе «Савецкая Беларусь» Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці аблесена 34 гектары адкрытай плошчы. У гэтым жа калгасе закладзены асноўны гадавальнік плошчаю 0,12 гектара.

Па-гаспадарску адносяцца да лясоў у сельгасарцелях імя Маякоўскага Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, «Новы свет» Капыльскага раёна той жа вобласці, «40 год Кастрычніка» Жалудоцкага раёна Гродзенскай вобласці.

І ўсё ж мы не можам заплюшчваць вочы на той факт, што ў цэлым планы лесааднаўленчых работ у калгасах рэспублікі сістэматычна не выконваюцца. Трэба сказаць, што самавольныя парубкі назіраюцца і ў лясах дзяржаўнага ляснога фонда.

У дакладзе таварыша М. С. Хрушчова на XXI з'ездзе КПСС зберажэнню і памнажэнню прыродных багаццяў нашай краіны ўдзелена вялікая ўвага. За сямігодку мяркуецца правесці вялікія лесааднаўленчыя мерапрыемствы. Так, напрыклад, пасеў і пасадка лесу ў дзяржаўным лесафондзе БССР намячаюцца на плошчы 171,1 тысяч гектараў, садзеянне натуральнаму аднаўленню на плошчы 45 тысяч гектараў і пасадка лесу на землях, якія не выкарыстоўваюцца калгасамі для сельскагаспадарчых патрэб, праектуецца на плошчы 74,9 тысяч гектараў. Прадугледжваюцца таксама вялікія работы па павышэнню прадуктыўнасці беларускіх лясоў (асушальная меліярацыя, увядзенне ў склад лясных культур тэхнічна каштоўных парод і г. д.). Вядуцца вялікія работы па акліматызацыі і развядзенню каштоўных лясных жывёл.

Арганізаваны летась Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік, бясспрэчна, будзе спрыяць захаванню каштоўных відаў жывёл і раслін. Захаванне і памнажэнне зялёных багаццяў нашай Радзімы — усенародная справа. Яна датычыць не толькі лесаводаў-спецыялістаў, але і ўсёй грамадскасці.

З мэтай аховы прыродных рэсурсаў Беларусі, нам здаецца, варта было б стварыць «Таварыства сяброў прыроды». У яго ўліліся б шматлікія атрады моладзі — рабочыя, калгаснікі, настаўнікі, урачы, інжынеры, аграномы, студэнты, школьнікі. Члены гэтага таварыства не толькі непасрэдна ахоўвалі б жывую прыроду, але і тлумачылі б шырокім масам сутнасць мерапрыемстваў па ахове прыроды, значэнне зялёнага друга ў нашым жыцці.

... Прыгожая наша беларуская зямля, непаўторныя яе краявіды! Яны чаруюць наша вока ў любую пару: у зімні марозны дзень, калі сосны і елкі зацярушаны снегам, вясной, калі прарэзваюцца першыя лісцікі, летам, калі ўвесь лес у зеляніне, ціхі, спакойны, таямніча задумлівы...

Цудоўная прырода Беларусі! Любіце і шануйце яе!

**Г. МАРГАЙЛІК,**
**інжынер-лесавод.**

---

# ЗНАХОДКА, ЯКОЙ 2000 ГОД

Узімку 1956 г. калгаснікі вёсак Чаплін і Старадубкі (цяпер саўгас «Дняпровец») Лоеўскага раёна на Гомельшчыне ў полі на глыбіні 1,5 м знайшлі бронзавы кацёл. Зверху кацёл быў накрыты трыма побач пакладзенымі бярвеннямі, дыяметр якіх даходзіў да 20 см. Кацёл стаяў гарызантальна. Калгаснікі былі амаль упэўнены, што ў ім—золата. Але іх меркаванні не пацвердзіліся. Пад уздзеяннем цяжару тарфяной масы, якая знаходзілася ў катле, ён разваліўся. На малюнку 1 паказана прыкладная яго форма.

Увосень 1956 года мне ўдалося знайсці два фрагменты аднаго з вушкаў катла (гл. малюнак 2). Само вушка, на жаль, было паламана.

Што ж цікавага адкрывае нам гэтая знаходка?

Кацёл знойдзены ў тарфяніку, які ўтварыўся ў пойме ракі Дняпра ў 60—100 метрах ад яго карэннага берага. У 200 метрах ад месца знаходкі размешчана шырока вядомае гарадзішча — селішча і бескурганны могільнік ранняй усходнеславянскай культуры (сярэдзіна III ст. да н. э.— сярэдзіна II ст. н. э.). На гэтым месцы яшчэ раней да адзначаных помнікаў было селішча мілаградскай культуры (IV—III ст. ст. да н. э.)



**Бронзавы кацёл** (рэстаўрацыя).





**Кавалкі ручкі бронзавага катла.**

Савецкія вучоныя, даследуючы працэс утварэння торфу, прыйшлі да вываду, што за адно тысячагоддзе яго пласт нарастае ў сярэднім на паўметра. Карыстаючыся гэтымі назіраннямі, можна сказаць, што чаплінская знаходка належыць да першага тысячагоддзя да нашай эры, гэта значыць, ёй не менш 2 000 год. Гэта пацвярджаецца і іншымі параўнаннямі. Вядома, што ў VII—III ст. ст. да н. э. у стэпавай частцы Прычарнамор'я, каля Падоння і ў Паволжжы, а таксама на Алтаі жылі скіфскія і блізкія да іх вандроўныя плямёны. Ежу яны гатавалі для вялікай колькасці людзей, таму і карысталіся вялікімі бронзавымі катламі. Такія катлы неаднаразова знаходзілі даследчыкі на тэрыторыях, пра якія мы гаварылі.

У час археалагічных даследаванняў помнікаў замежнай культуры ў Чапліне знойдзены і рэчы скіфскага тыпу—наканечнікі жалезных коп'яў, стрэлы, гліняныя пасудзіны і іншае. Усё гэта дае падставы лічыць, што бронзавы кацёл належыць да познескіфскай культуры.

Параўнанне гэтага катла са скіфскімі дае магчымасць бачыць і розніцу паміж імі. Скіфскія катлы маюць дзве ручкі, прыпаяныя да сценак. Ручкі катла, знойдзенага ў Чапліне, былі не прыпаяны, а свабодна прымацаваны да спецыяльнага хамутка. Апрача таго, скіфскія катлы некалькі выцягнутыя, а каля днішча мелі колцавыя ножкі. Кацёл з Чапліна больш плоскі і без ножак. Усё гэта дае падставу меркаваць, што кацёл быў зроблены тут жа, у Чапліне.

Чаплінскі кацёл пакуль што—адзіная рэч гэтага тыпу, знойдзеная на тэрыторыі Беларусі. Знаходка паказвае, што плямёны, якія жылі некалі на тэрыторыі нашай рэспублікі, мелі эканамічныя сувязі з плямёнамі, што насялялі тэрыторыю Украіны. У такой параўнальна вялікай пасудзіне хутчэй за ўсё гатавалі ежу для ўсяго роду, які ў апошняй трэці першага тысячагоддзя да нашай эры быў раннім усходнеславянскім і вёў аседлы спосаб жыцця.

Далейшае даследаванне гэтай знаходкі дапаможа вучоным высветліць шмат цікавага пра далёкае мінулае Беларусі.

**Л. ПОБАЛЬ,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі АН БССР.**

---

# ТУРБОТЫ СЕЛЬСКАГА ВЫНАХОДНІКА

**Па слядах выступлення часопіса**

У студзеньскім нумары нашага часопіса была змешчана карэспандэнцыя Б. Стральцова «Турботы сельскага вынаходніка», у якой прыводзіліся факты абыякавых адносін Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР і яго органаў на месцах да шчырых праяў творчай ініцыятывы сельскіх рацыяналізатараў і вынаходнікаў, скіраваных да ўдасканалення сельскагаспадарчай вытворчасці, павышэння прадукцыйнасці працы людзей.

У карэспандэнцыі гаварылася аб тым, як аказаліся замарожанымі добрыя рацыяналізатарскія прапановы брыгадзіра Бабруйскай РТММС П. Лойкі, які сканструяваў універсальны раскідвальнік угнаенняў, токара В. Кайдунова, слесара М. Акаванцава, механізатара І. Борбута і іншых. У карэспандэнцыі выказана шмат слушных думак наконт паляпшэння рацыяналізатарскай работы на вёсцы ў сувязі з насычэннем калгасаў, саўгасаў і РТС новай тэхнікай.

Спатрэбілася аж два месяцы і паўторны напамін рэдакцыі, каб атрымаць, нарэшце, з Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР адказ наступнага, дарэчы вельмі агульнага, зместу:

«Разгледзеўшы артыкул, змешчаны ў часопісе «Маладосць» — «Турботы сельскага вынаходніка», Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларускай ССР лічыць, што пытанні, паднятыя ў карэспандэнцыі тав. Стральцова, у асноўным правільныя. Міністэрствам распрацоўваюцца мерапрыемствы па далейшаму палепшанню работы па вынаходніцтву і рацыяналізацыі. У гэтых мерапрыемствах будуць улічаны заўвагі, зробленыя ў артыкуле. Мяркуецца зрабіць чоткую структуру па кіраўніцтву рацыяналізацыяй і вынаходніцтвам. Для аказання практычнай дапамогі сельскім рацыяналізатарам у кожным раёне пры РТМС будуць створаны кабінеты або куткі рацыяналізатараў.

Намеснік Міністра сельскай гаспадаркі Беларускай ССР
І. Малочка.»

Рэдакцыя спадзяецца, што ўзнятыя ў карэспандэнцыі Б. Стральцова пытанні, якія Міністэрства прызнае ў асноўным правільнымі, будуць нарэшце вырашаны ў самы бліжэйшы час і тэхнічная творчасць на вёсцы атрымае крылы для новага ўзлёту.

Спорт

В. СМІРНОЎ,
сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі

# НА СТАДЫЁНЫ, СЕЛЬСКІЯ СПАРТСМЕНЫ!

Уладзімір Ільіч Ленін гаварыў: «Моладзі асабліва патрэбны жыццерадаснасць і бадзёрасць, здаровы спорт, гімнастыка, плаванне, экскурсіі, фізічныя практыкаванні рознага роду, рознабаковасць духоўных інтарэсаў, вучэнне, разбор, даследаванне і ўсё гэта па магчымасці сумесна».

Камуністычная партыя і савецкі ўрад разглядаюць фізкультуру і спорт як важны сродак камуністычнага выхавання савецкай моладзі. У нашай краіне створаны ўсе ўмовы для таго, каб фізічная культура і спорт сталі сапраўды масавым і агульнанародным рухам.

Нягледзячы на вялікія цяжкасці, выкліканыя вайной, у нашай рэспубліцы ў пасляваенныя гады фізкультура і спорт дасягнулі шырокага развіцця.

У Беларусі створана сельскае спартыўнае таварыства «Ураджай», якое налічвае ў сваіх шэрагах больш 380 тысяч фізкультурнікаў. Калектывы фізкультуры цяпер ёсць ва ўсіх калгасах, саўгасах, РТС і навучальных установах. На вёсцы вырасла шматлікая армія спартсменаў-разраднікаў і майстроў спорту. Сярод іх такія таленавітыя спартсмены, як Гары Варона, Вячаслаў Русаловіч, Міхаіл Ксяневіч, Анатоль Марачкін, Віктар Кавалёў і многія іншыя.

Пераломным момантам у развіцці фізкультуры і спорту на вёсцы з'явілася пастанова ЦК КПСС «Аб кіраўніцтве фізічнай культурай і спортам у краіне».

У саветы саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый прыйшло шмат энергічных камсамольскіх важакоў, якія любяць спорт і больш канкрэтна, у цеснай сувязі з камсамолам, займаюцца пытаннямі фізкультурнага руху.

Многія камсамольскія работнікі і актывісты не толькі любяць спорт, але і самі займаюцца ім, удзельнічаюць у спаборніцтвах. Вялікімі энтузіястамі спартыўнай работы сярод моладзі з'яўляюцца першы сакратар Мінскага абкома камсамола Валянцін Сазановіч, сакратар Лунінецкага райкома камсамола Генадзі Касцючэнка, сакратар Давыд-Гарадоцкага райкома камсамола Эдуард Палубіс і многія іншыя.

XXI з'езд камсамола Беларусі абавязаў камітэты камсамола, камсамольскія арганізацыі ўцягнуць у фізкультуру і спорт усю моладзь, дабіцца таго, каб яна актыўна ўдзельнічала ва ўсіх масавых спартыўных спаборніцтвах.

«Кожнаму камсамольцу — спартыўны разрад», — такая наша задача. Выканаць яе можна пры ўмове, калі добра будзе працаваць кожны калектыў фізкультуры. А вядома, што моцным бывае той фізкультурны калектыў, дзе камсамольская арганізацыя не забывае, што фізкультура і спорт — кроўная справа камсамола.

Можна спаслацца на прыклад Клімавіцкага райкома камсамола Магілёўскай вобласці, дзе большасць членаў бюро і амаль кожны член райкома камсамола летам і зімой зай-

маюцца спортам. Райком камсамола і райсавет ДССТ «Ураджай» Клімавіцкага раёна дабіліся таго, што амаль ва ўсіх калгасах, саўгасах і на прадпрыемствах створаны і працуюць калектывы фізкультуры. У раёне — больш дзевяці тысяч фізкультурнікаў. Большасць калгасаў, саўгасаў мае футбольныя палі з бегавымі дарожкамі, баскетбольныя і цэментаваныя гарадочныя пляцоўкі, а валейбольныя пляцоўкі ёсць амаль у кожнай калгаснай брыгадзе, аддзяленні саўгасаў. Спартыўныя збудаванні зроблены сіламі камсамольцаў і моладзі ў вольны ад працы час.

Калектывы фізічнай культуры праводзяць спаборніцтвы паміж брыгадамі, цэхамі, таварыскія сустрэчы паміж калгасамі, школамі — гэта дае магчымасць увесь час паляпшаць спартыўныя вынікі, выяўляць мацнейшых спартсменаў, уцягваць у спорт шырокія масы працоўных.

За 1959 год у раёне выканалі спартыўныя нарматывы ўсесаюзнай класіфікацыі 315 чалавек. Праведзена раённая спартакіяда моладзі дапрызыўнага ўзросту, у праграму якой былі ўключаны спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, плаванню, стральбе, падцягванню на перакладзіне і вольных практыкаваннях. Удзельнічала больш 500 чалавек. Ужо сёлета падрыхтавана 200 разраднікаў, з іх 20 спартсменаў першага разраду.

Добра пастаўлена спартыўная работа ў калгасе імя Карла Маркса гэтага раёна, дзе старшынёй савета выбраны выкладчык фізічнага выхавання мясцовай школы тав. Раманенка. Тут ёсць стадыён з бегавымі дарожкамі, дзве валейбольныя, баскетбольныя і гарадочныя пляцоўкі, стралковы цір. Вось чаму тут рэгулярна працуюць секцыі веласпорту, спартыўных гульняў, цяжкай атлетыкі.



**Майстар спорту Г. Галунова** (злева) **гутарыць з работніцамі саўгаса «Рассвет» Мінскага раёна спартсменкамі Раісай Кітаевай і Яўгеняй Пазняк.**

Фота Д. Церахава.

Сярод калгаснай моладзі праводзіцца вялікая работа па прапагандзе фізічнай культуры і спорту. Выпускаецца спартыўная газета, абсталяваны стэнд спартыўнай літаратуры, чытаюцца лекцыі, гутаркі і даклады на спартыўныя тэмы, аформлена вітрына дыпломаў і грамат, атрыманых калектывам фізкультуры.

Фізкультурнікі калгаса ў 1959 годзе прынялі ўдзел у васьмі раённых спаборніцтвах і занялі па веласіпеднаму спорту першае, па футболу і баскетболу—трэцяе, па лёгкай атлетыцы і валейболу—чацвёртае месцы.

Такіх калектываў у раёне многа.

У чым сакрэт поспехаў сельскіх фізкультурнікаў Клімавіцкага раёна?

Безумоўна, калектывам аказваюць практычную дапамогу партыйныя арганізацыі, праўленні калгасаў і дырэктары саўгасаў. Камітэты камсамола і саветы калектываў фізкультуры дабіліся поспехаў яшчэ і таму, што ў сваёй рабоце яны пастаянна абапіраюцца на шырокі актыў. Усе спартыўныя мерапрыемствы ў раёне праводзяцца сіламі грамадскасці.

Клімавіцкі райсавет саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый сумесна з райкомамі камсамола ўстанавілі пераходны Чырвоны сцяг за лепшую пастаноўку фізкультурна-масавай і спартыўнай работы. Гэты сцяг будзе кожны квартал уручацца лепшаму калектыву фізкультуры.

Абкомы, райкомы камсамола і пярвічныя камсамольскія арганізацыі сумесна з саветамі ДССТ «Ураджай» па прыкладу лепшых камсамольскіх арганізацый могуць і павінны дабіцца масавага развіцця фізкультуры і спорту на вёсцы, стварыць у кожным калгасе, саўгасе, РТС, брыгадзе ці на ферме жыццедзейныя калектывы.

Да 1965 года колькасць сельскіх фізкультурнікаў павінна вырасці да 700 тысяч чалавек, а колькасць спартсменаў, якія займаюцца ў спартыўных секцыях—да аднаго мільёна чалавек.

За апошні час у нас зроблена нямала спартыўных збудаванняў. Сіламі сельскай моладзі і фізкультурнікаў толькі за 1959 год зроблена больш 10 тысяч прасцейшых спартыўных збудаванняў. Радасна, што цяпер добрыя стадыёны і пляцоўкі ёсць не толькі ў райцэнтрах, але і ў калгасах і саўгасах.

Аднак гэтага мала. Цяпер у нас адна комплексная спартыўная пляцоўка прыпадае на 14 калектываў, адно футбольнае поле—на 5 калектываў і адна баскетбольная пляцоўка—на 4 калектывы фізкультуры. Многія спартыўныя збудаванні знаходзяцца ў нездавальняючым стане.

Задача цяпер у тым, каб у бліжэйшыя два гады комплексныя пляцоўкі былі пабудаваны ў кожным калектыве, а ва ўсіх населеных пунктах з'явіліся прасцейшыя спартыўныя збудаванні: футбольныя палі, валейбольныя, баскетбольныя, гарадочныя пляцоўкі і г. д.

Гэтая работа павінна быць праведзена самой моладдзю. Зрабіць спартыўны інвентар, пабудаваць спартыўныя пляцоўкі можна і трэба сваімі рукамі.

Усведамляючы вялікую ролю сельскіх камсамольскіх арганізацый і спартыўных калектываў у развіцці масавага фізкультурнага руху, ЦК ЛКСМ Беларусі сумесна з Цэнтральным Саветам ДССТ «Ураджай» штогод праводзяць агляд-конкурс на лепшую пастаноўку фізкультурна-масавай работы. Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца ганаровымі граматамі ЦК камсамола Беларусі, прэміямі і граматамі Цэнтральнага Савета ДССТ «Ураджай».

У аглядзе-конкурсе 1959 года вызначыліся Мінскі і Гродзенскі абласныя саветы, Быхаўскі, Лідскі, Мінскі раённыя саветы фізкультуры, а таксама калектывы фізкультуры калгаса «Вялікі Кастрычнік», імя Жданава Гродзенскай вобласці, імя Калініна Мінскай вобласці, імя Сталіна Магілёўскай вобласці і многія іншыя.

Агляд-конкурс сельскіх калектываў фізкультуры з'яўляецца важнейшым арганізацыйным мерапрыемствам таварыства «Ураджай» і камсамола рэспублікі. Трэба толькі, каб яго ўмовы ведалі ўсе фізкультурнікі і ў аглядзе ўдзельнічала як мага больш калектываў, каб конкурс садзейнічаў уздыму спартыўнай работы на вёсцы.

Для сельскіх калектываў яшчэ не хапае кваліфікаваных трэнераў, суддзяў па розных відах спорту і г. д. Але ў сучасны момант у сельскім спартыўным таварыстве «Ураджай» працуе 20 майстроў спорту, 211 спартсменаў першага, каля 1800—другога і звыш 13.000 трэцяга разрадаў. Калі гэтую армію разраднікаў накіраваць для кіраўніцтва секцыямі ў калектывы фізкультуры, дык яны разам з грамадскімі інструктарамі па пачыну іркуцян, дзе кожны спартсмен-разраднік абавязаўся падрыхтаваць двух разраднікаў, памножаць рады спартсменаў высокага класа.

Майстрам спорту, спартсменам-разраднікам трэба самім праяўляць больш ініцыятывы, станавіцца на чале секцый, каманд, рыхтаваць сабе дастойную змену. Вялікую дапамогу



**Сельская спартсменка Караліна Пятровіч — мацнейшая кідальніца дыска сярод дзяўчат рэспублікі.**

сельскім калектывам павінны аказаць гарадскія камсамольскія і фізкультурныя арганізацыі.

Спорт рыхтуе моладзь да грамадска-карыснай працы. Камсамольскія арганізацыі павінны выхоўваць маладых спартсменаў у духу высокай камуністычнай маралі, актыўна выкарыстоўваць фізкультуру і спорт, як магутны сродак барацьбы за здаровы быт. Усе камсамольцы, юнакі і дзяўчаты, павінны рашуча змагацца з праявамі п'янства, хуліганства, з фактамі амаральных учынкаў сярод асобнай часткі спартсменаў, забяспечваць правядзенне спартыўных спаборніцтваў на высокім тэхнічным і прынцыповым узроўні.

Снежаньскі Пленум ЦК КПСС, які намеціў шляхі далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі, росту эканомікі і дабрабыту савецкіх людзей, адкрыў новыя перспектывы і магчымасці развіцця фізкультуры і спорту ў вёсцы, павышэння майстэрства спартсменаў, выхавання юнакоў і дзяўчат фізічна загартаванымі, гатовымі да самаадданай працы на карысць савецкай Радзімы.



У. Бацвінік у баі з Амаравым на II спартакіядзе народаў СССР.

Фота Д. Церахава.

# ЗАЛАТАЯ «МУХА»

**Нарыс**

Бой быў садзіты.

Баксёры востра атакавалі адзін другога, спрытна абараняліся.

Вось адзін з іх, улучыўшы момант, імкліва кідаецца наперад, другі, злёгку нахіліўшы галаву, смела прымае блізкі бой. У прыціхлай зале чуюцца глухія ўдары скураных пальчатак. Шумна, часта дыхаюць баксёры... Перакідваюцца позіркамі секунданты... Б'е гонг!

— Брэк! — камандуе рэферы (суддзя), і бой спыняецца.

Хвілінны перапынак.

Суддзя-інфарматар спяшаецца пазнаёміць гледачоў са спартсменамі. У мікрафоне чуецца гучны, урачысты голас:

— У сінім куце рынга — прызёр спартакіяды дружаскіх армій у Лейпцыгу, чэмпіён Войска Польскага Станіслаў Дзеніс. Яму дваццаць чатыры гады. Боксам займаецца дзевяць год. Правёў 112 баёў і атрымаў 95 перамог!..

Гучаць воплескі. Палякі горача вітаюць свайго любімца.

А хто ж другі? Хто гэты стройны юнак, дастойны сапернік моцнага і спрактыкаванага барца?

... Гэта быў некалі самы звычайны хлапчук, які ні спрытам, ні сілай не вылучаўся сярод школьных сяброў. Невысокі, хударлявы, ён выглядаў нават маладзей за сваіх аднагодкаў.

«Валодзька-Кудраш» — жартам называлі яго таварышы за кучаравыя жорсткія валасы. Хлопец рана застаўся без бацькі, які загінуў на вайне. Гадаваўся пры маці Зосі Вікенцьеўне ў калгасе імя Фрунзе, пад Мінскам. Як і ўсе вясковыя хлапчукі, Валодзя пасвіў улетку жывёлу, працаваў на полі.

Зося Вікенцьеўна заўважала, што сын яе любіць жывёлу, і ў душы жадала, каб ён пасля школы вучыўся на заатэхніка. Хто ведае, можа б і збылася яе мара, каб у Валодзі не праявіліся зусім нечаканыя іншыя здольнасці.

Неяк пасля ўрокаў, калі вучні шумна высыпалі на школьны двор, даўгалыгі дзесяцікласнік выхапіў у адной з дзяўчынак партфель.

— Аддай, ну, аддай жа! — упрошвала тая.

— А з кім учора была ў кіно?

— Дурань!

— Ах, ты так! — выкрыкнуў задзіра, і партфелік паляцеў на страху школьнага склада.

Дзяўчынка заплакала. На ганку паявіўся Валодзя.

— Што з табой? — спытаў ён, падбегшы да дзяўчынкі.

— Партфель, — прагаварыла дзяўчынка, паказваючы на страху.

Валодзя хутка ўзлез на страху і дастаў партфель.

— А ты, выходзіць, рыцар! — насмешліва кінуў даўгалыгі і пстрыкнуў Валодзю па носе. Адказ быў дадзены адразу. Ды яшчэ які! Крыўдзіцель, задраўшы ногі, ляжаў у снезе.

— Вось гэта ўдар!

— Чысты накдаун!

За спіной у Валодзі, задаволена ўсміхаючыся, стаялі аднакласнікі Алег і Валянцін.

Па дарозе сябры, якія займаліся боксам, прапанавалі Валодзю:

— Разумееш, нам трэба «муха».

— Якая муха? — нахмурыўся Валодзя.

— У боксе найлягчэйшую катэгорыю так называюць. Ты якраз падыдзеш...

— Гм... — прыжмурыў вочы «Кудраш» і пажартаваў: — Хлопцы, скажыце, а як называюць найцяжэйшую катэгорыю? Напэўна, «сланом»?

Усе засмяяліся.

— Не, найцяжэйшай катэгорыі не існуе, — сур'ёзна сказаў Алег. — Ёсць проста цяжкая катэгорыя. Яна так і называецца. Праўда, ёсць яшчэ «пяро», «певень»... Ды што табе расказваць... Запісвайся ў секцыю бокса. Там усё будзеш ведаць!..

І хлопцы разышліся па хатах. Валодзя задумаўся. Назаўтра ён разам з сябрамі паехаў у Мінск.

Вядучы трэнер таварыства «Спартак» Леанід Віктаравіч Раманенка належаў да той катэгорыі беларускіх баксёраў, якія, і пакінуўшы рынг, застаюцца ў страі, як раўнапраўныя змагары. У свой час ён уваходзіў у зборную рэспублікі, быў чэмпіёнам. Потым змяніў баявыя пальчаткі на трэнерскія «лапы» і пачаў рыхтаваць моладзь. Уважліва ставіўся ён да пачынаючых. «Сёння навічок, а заўтра чэмпіён» — быў яго дэвіз.

... У той снежаньскі вечар Леанід Віктаравіч, як заўсёды, праглядаў літаратуру, рыхтуючыся да заняткаў. У дзверы пастукалі.

— Зайдзіце, — пачулася з пакоя.

На парозе стаялі Валянцін і Валодзя.

— Вось, знайшлі «муху». Далібог, залатая, — штурхаючы наперад Валодзю, прагаварыў Валянцін.

Трэнер агледзеў навічка. Потым кінуў злосны позірк:

— Напэўна, «муха» мае імя і прозвішча...

— Прабачце... Валодзя Бацвінік!..

— Цяпер ясна. Медагляд прайшоў?

— Вось, — і Валодзя працягнуў трэнеру даведку ад урача.

— Добра. Можна сёння прыступаць!..

Хлопцы накіраваліся ў раздзявалку. Праз некалькі мінут Валодзя быў у страі.

Уладзімір Бацвінік шчыра захапіўся боксам. Хоць не блізкі свет было дабірацца на заняткі і даводзілася часта насіць «ліхтары», ён не падаў духам.

Ішлі дні, тыдні. Уладзімір ужо ведаў, што бокс — не вулічныя бойкі, а спорт смелых і мужных. Яго ўжо не адрозніш ад другіх спартсменаў-баксёраў.

«Расце мухач, — гледзячы на Валодзю, неяк падумаў трэнер. — Час праверыць...»

Першы бой.

У спартыўнай зале, дзе праходзілі кваліфікацыйныя спаборніцтвы, цесна і душна. Валодзя ўзняўся на высокі памост рынга і прайшоў у свой кут. Трэнер схіляецца над ім і нешта шэпча, але яго слоў амаль не чуваць. Непрыемны халадок прабягае па спіне... Шчыміць сэрца.

«Што гэта? Страх? — думае Валодзя. — Не, здаецца, не баязна!..»

Каб крыху супакоіцца, хлопец пачынае хутка падскокваць на месцы.

Гучыць гонг. Валодзя, забыўшыся на ўсе правілы, заўзята кідаецца на праціўніка, але яго мітуслівыя атакі не дасягаюць мэты. Сапернік спрытна ўхіляецца, трапна контратакуе. Так праходзіць раунд.

У перапынку, абмахваючы вучня ручніком, трэнер настойліва шэпча на вуха:

— Валодзька, не кідайся! Трымай дыстанцыю!..

Але баксёр ужо не мог перайначыць сябе. Як і раней, ён упарта ідзе на адкрыты абмен ударамі.

Праціўнік, не жадаючы сілавой барацьбы, разлічана адступае. Вось ён прыціснут да каната, здавалася, яшчэ ўдар і... Валодзя сам трапляе на прыём. Пацямнела ў ваччу, белы квадрат рынга пахіснуўся і паплыў з-пад ног...

«Чаму так ціха стала?» — мільганула думка.

А з залы неслася:

— Яшчэ! Так! Справа, Барыс... Бі правай!..

— Трымайся, Валодзя! Рукі вышэй, вы-шэээй!..

Гонг! Выратавальны гонг! Ён папярэдзіў развязку.

Дэбют скончыўся няўдачай. Уладзімір моцна перажываў паражэнне.

Падбадзёрваючы яго, таварышы жартавалі:

— Нічога, за аднаго бітага двух нябітых даюць!..

— Праўда, — усміхнуўся трэнер і сур'ёзна сказаў: — Запамятайце, хлопцы, бокс — гэта мужнасць і разлік. Першая якасць выхоўваецца характарам, а другая — прыходзіць з практыкай. — Потым, па-сяброўску абняўшы Валодзю за плечы, дадаў: — Я спадзяюся на цябе!..

Уладзімір паверыў трэнеру і яшчэ з большай упартасцю ўзяўся за працу. Штодзённа пасля інтэнсіўнай ранішняй зарадкі рабіў кросы, гадзінамі займаўся ў зале, на спецыяльных снарадах. На «лапах» з трэнерам развучваў новыя тэхнічныя прыёмы і баявыя камбінацыі. Потым пачынаў замацоўваць атрыманыя навыкі ў трэніровачных баях (спарынгу), пры гэтым імкнуўся абыграць партнёра за кошт спрыту, дыстанцыі, нечаканых ныркоў і адыходаў. Баксёру здавалася, што ўменне парыраваць сустрэчныя ўдары важней, чым наносіць іх самому, але неўзабаве вопыт падказаў іншае.

Летам 1957 года дзевятнаццацігадовы юнак Уладзімір Бацвінік атрымаў званне чэмпіёна горада Мінска і ўвосень паспяхова здаў экзамены ў інстытут фізкультуры. Неўзабаве ён удзельнічаў у спартакіядзе прыбалтыйскіх рэспублік і Беларусі. Малады баксёр правёў бгі без паражэння і заняў першае месца.

Зноў трэніроўкі, новыя спаборніцтвы, перамогі і няўдачы...

У Баку на маладзёжным першынстве СССР Уладзімір Бацвінік пацярпеў паражэнне ад калінінградскага майстра спорту Рвачова і выбыў з чвэрці фіналу.

«Чаму, здавалася, у роўным баі суддзі аддалі перавагу Рвачову?» — ставіў сабе пытанне трэнер Леанід Віктаравіч і пачынаў ужо каторы раз аналізаваць тактыку свайго вучня. Прычына высветлілася: Уладзімір усе свае паядынкі камбінуе ў асноўным на эфектыўных контратаках і зусім рэдка пераходзіць у наступленне.

Па прапанове трэнера Уладзіміру давялося перагледзець свой погляд на баксёрскае майстэрства. «Але што ж выбраць? — непакоіла думка, — калі мой стыль заганны...»

— Тактыка актыўнай абароны ў спалучэнні з нечаканымі атакамі, — падказаў трэнер.

І зноў старанная праца, упартыя пошукі.

1958 год. Зборная каманда беларускіх баксёраў выязджае ў Польшчу. У яе складзе сярод вядомых майстроў малады чэмпіён рэспублікі Уладзімір Бацвінік.

...І вось Варшаўскі палац спорту. Трэці, рашаючы, раунд. Атакуе Дзеніс. Б'е — пальчатка. Зноў б'е — плячо. Бацвінік цудоўна абараняецца. Паляк напружвае сілы і рашуча кідаецца наперад. Рассякаючы паветра, перад тварам мільгануў скураны кулак — Уладзімір ледзь паспеў затуліцца і тут жа ў адказ паслаў некалькі ўдараў. Праціўнік адкінуты! Ініцыятыва пераходзіць у рукі беларускага баксёра.

Знізу, справа, па галаве — градам сыплюцца трапныя ўдары. Дзеніс губляецца. Ад бурнага націску ён шукае паратунак у захватах.

— Брэк! — спыняе бой рэферы.

Дзеніс абвіс на руках Уладзіміра, абхапіўшы яго за шыю. Кароткая заўвага арбітра, і зноў чуваць адрывістае:

— Бокс!

Гучыць гонг... Успыхваюць чырвоныя лямпачкі. Суддзі адначасова прысуджаюць перамогу беларусу. Нядаўнія праціўнікі, моцна абняўшыся, нібы старыя сябры, пад дружныя воплескі пакідаюць рынг.

А праз дзень — другая міжнародная сустрэча. І яшчэ аднаму польскаму баксёру не ўдаецца ўстаяць супраць чэмпіёна Беларусі. Два — з двух! Выдатны вынік маладога беларускага спартсмена за рубяжом.

Неўзабаве Уладзімір зноў удзельнічае ў вялікіх спаборніцтвах на Усесаюзнай спартакіядзе студэнтаў у Кіеве. Выйграўшы званне чэмпіёна, ён заваяваў у фінале пятнаццатую перамогу і выканаў норму майстра спорту СССР.

Правільна гаварыў трэнер: поспех прыйшоў у працы.

Не паспелі закончыцца апошнія баі на рынгах, як усюды распачалася падрыхтоўка да новых гарачых схватак — набліжалася другая Спартакіяда народаў СССР.

...Гудуць гумавыя скакалкі, трашчаць скураныя «грушы», бухае цяжкі мяшок — ідзе трэніроўка баксёраў. Беларускія баксёры рыхтуюцца да адказнай сустрэчы: у Мінск мелася прыбыць другая зборная краіны.

Зімовы адвячорак. Ля асветленага пад'езда Тэатра юнага гледача — натоўп. Ён расце на вачах. Білетаў няма — даўно распрадены, але людзі чакаюць у надзеі на шчаслівы выпадак.

— Увага! — чуецца ў марозным паветры голас дыктара: — На рынгу баксёры найлягчэйшай катэгорыі. У першай пары сустракаюцца...

Людзі прыціхлі. Усе насцярожана ловяць кожнае слова. Спаборніцтвы пачаліся.

У бліскучым стылі Уладзімір перамагае майстра спорту Віктара Касцюкова і заваёўвае свайму калектыву ачко. З поспехам праводзяць баі беларускія спартсмены Аляксей Засухін, Барыс Прупас, Анатоль Хаценчык. Разгараецца напружаная барацьба. Паядынкі ідуць з пераменным поспехам. У выніку — баявая нічыя: 5 : 5.

Газета «Советский спорт» пісала тады, што нічыя ў Мінску сведчыць аб узросшым майстэрстве беларускіх баксёраў. І гэта сапраўды так, бо ў хуткім часе яны выходзяць пераможцамі ў сустрэчах з камандамі Варшавы і Венгрыі. Уладзімір Бацвінік зноў перамагае Станіслава Дзеніса і наносіць паражэнне двухразоваму чэмпіёну Венгрыі Янашу Іежэрыцкаму.

Потым сустрэча з чатырохразовым чэмпіёнам СССР Уладзімірам Стольнікавым...

У трэніроўках непрыкметна праляцеў ліпень. Настаў жнівень. І вось Масква... Над стадыёнам у Лужніках узняты сцяг другой Спартакіяды народаў СССР. На стадыёнах, у водных басейнах, на тэнісных кортах — усюды разгарнуліся гарачыя спартыўныя спаборніцтвы.

У Сакольніках змагаліся баксёры. Ішлі чвэрцьфінальныя баі. І вось ужо большая частка ўдзельнікаў перайшла на трыбуны. Сярод гледачоў месца займаюць пяць з шасці мінулагодніх чэмпіёнаў Саюза. Моладзь адцясняе ветэранаў. Уладзімір перамагае чэмпіёна РСФСР Віктара Быстрова, потым масквіча Сіўко і выходзіць у фінал. Спаборніцтвы пераносяцца ў Лужнікі, у вялікую залу Палаца спорту.

...Марудна рухаюцца стрэлкі гадзінніка. Доўга цягнуцца апошнія хвіліны. Нарэшце паяўляецца суддзя. Успыхваюць магутныя пражэктары, заліваючы яркім святлом на высокім памосце рынг.

Выклікаецца першая двойка.

Уладзімір лёгкім рухам скуранай пальчаткі націрае твар, паспешліва накідвае на плечы халат і ідзе к выхаду. Яго праціўнік казахскі чэмпіён Максут Амараў ужо на рынгу. Энергічна расціраючы падэшвамі баксёрак ліпкі каніфоль, ён стараецца не глядзець у бок беларуса.

Уладзімір знешне спакойны, і толькі бледнасць твару выдае яго хваляванне. Сігнал гонга. Уладзімір пачынае свой 71-й бой. Яго перавага над казахам была такая відавочная, што яшчэ да пачатку трэцяга раунда ўсім стала ясна, хто будзе чэмпіён. У Бацвініка выпрацавана тэхніка, ён атакуе імкліва, добра абараняецца, лёгка манеўруе па рынгу...

Гонг! Схватка закончана. Зала апладыруе пераможцу. Уладзімір Бацвінік — першая пальчатка краіны. Залаты медаль і званне чэмпіёна Саюза ў найлягчэйшай вазе аддаецца беларускаму баксёру. Сябры горача віншуюць свайго таварыша і яго трэнера.

У гэтыя дні маладога чэмпіёна можна зноў убачыць у спартыўнай зале. Уладзімір Бацвінік старанна рыхтуецца да XVII Алімпійскіх гульняў у Рыме.

Удачы табе, сябар!

**Л. ВОБЛІКАЎ,**
**майстар спорту СССР.**

# Гумар і сатыра

Сляды няўдалага спаткання.



Мал. А. Кійранена.

## ПЕРШЫ І... АПОШНІ ГАНАРАР

Мал. Г. Скамарохава.




Паэт тварыў каторы год,
Штодня ён спісваў стус паперы.
Не прызнае яго народ
І ў здольнасці яго не верыць.
Ды вось занёс паэтаў сын
(Відаць, цаніў літаратуру)
Тварэнні бацькі ў магазін
І здаў іх на макулатуру.
Прынёс ён бацькаў «ганарар»
І так сказаў паэту дома:
«Каштуе колькі твой тавар,—
Цяпер і нам ужо вядома».

**Анатоль СІНЧУКОЎСКІ.**




Без слоў



Мал. Г. Скамарохава.

## РАЗМОВА БАЛЕЛЬШЧЫКАЎ

— Воўка, чаму наша футбольная каманда амаль заўсёды прайграе?

— Дзівак... — паціснуў плячыма хлопчык. — Хіба гасцей можна крыўдзіць?

— Калі так, дык чаму ж яны прайграюць і на чужым полі?

— У гасцях трэба быць ветлівымі... — сур'ёзна адказаў Воўка сябру.



«Разбяр» па дрэву.
Мал. А. Кійранена.

На лобе ні ў кога не напісана, які ён.
Мал. А. Бурачэўскага.





## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**

Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Генадзі ЖАБІЦКІ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Янка СКРЫГАН, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).



Слесара Мінскага завода запасных частак Анатоля Болдырава (справа) часта можна сустрэць у сярэдняй школе № 68. Тут ён выконвае камсамольскае даручэнне — з'яўляецца важатым піянерскага атрада.

Фота А. Дзітлава.